# Крыніца

6(66)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

# Крыніца

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

**№ 6** (66)
**2001**

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнік:**
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года





Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца



**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 09.06.2001. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 11,16. Тыраж 845 экз. Зак. 1444.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.



# Анатоль Сыс

*Ёсць агідныя словы.*
*Агідных паэтаў няма.*
*І таму, як памру – закапайце*
*ў палескую гліну,*
*жыць хачу, землякі, і легенду*
*аддам задарма,*
*а за тое, што жыў –*
*пасадзіце ў нагох арабіну.*

# З Анатолем СЫСАМ *гутарыць* Ганна КІСЛІЦЫНА

**Ганна КІСЛІЦЫНА**: – *Гавораць – усё, Сыса няма, спіўся дарэшты. І раптам навіна: выходзіць кніга. Калі ласка, раскажы пра яе.*

**Анатоль СЫС**: – Гэта будзе збор твораў. Усё, што напісаў, – пад адной вокладкай. “Агмень”, “Пан Лес”, “Ягамосць” – тая кніжка, што Глобус абяцаў выдаць. Называцца будзе “Лён”. Мне падабаецца слова, услухайся, як гучыць. Да таго ж, лён цяжка браць, цяжка расціць. Цяжкая мазалёвая праца. Я ведаю, бо, калі быў малы, нашай сям’і давалі сорак сотак у калгасе.

Вершы мне зараз даюцца трудна. Як стаў піць гарэлку – кінуў пісаць. У год сама болей пяць вершаў, гэта максімум. Затое верш напішу – радуюся, як дзіцятка нарадзілася. Не разумею, калі даюць устаноўку: “Я паэт, я павінен пісаць”. Калі ў Алешы было “ні дня без радка”, дык сёння ў нашых некаторых паэтаў – ні дня без пяці вершаў. Глядзіш на даты над творамі і дзівішся, як у адзін дзень столькі можна было нарабіць. Ёсць паэты, якія пап’юць, паядуць – і садзяцца за стол вершы пісаць, адпрацоўваць.

Табе здаецца, што назва занадта простая? А я не ўмею філасофстваваць – я не Глобус, не Галубовіч, не Разанаў. Магу напісаць верш, але не прааналізаваць. Я ў паэзіі нескладаны – у мяне “выпендрыванне” няма. Хіба што ў паэме “Алаіза” – я яе пад уплывам Разанава пісаў.

**Г.К.**: – *А як ты лічыш, у паэзіі складанасць патрэбная?*

 





**А.С.:** – Некалі я пісаў дыпломную працу пра вершаскладанне... А зараз мяркую, як ні выпендрывайся, усё адно прыйдзеш да самага простага – чатырох вершаваных радкоў, якія толькі і ёсць у паэзіі. Калі пішу сам, дык вымяраю рытм, але хутчэй на ўзроўні адчування. Мне здаецца, што галоўнае не форма, а змест. Хаця, напэўна, як ёсць гармонія душы і цела, так ёсць гармонія зместу і формы.

Мне здаецца, што калі паэту дадзена, дык ён і ў рыфму напіша, і вольным вершам.

Увогуле я не люблю пра сваю паэзію гаварыць. Заўсёды кажу, што ў маёй хаце забароненыя тэмы – літаратура і палітыка. Хаця сам ад тэлевізара не адыходжу, гляджу ўсе інфармацыйныя праграмы.

**Г.К.:** – *У цябе ў кватэры шмат карцін, прыгожых рэчаў. Ведаю, што яны па большасці падараваныя табе сябрамі. А як ты ставішся да іх творчасці, каго чытаеш?*

**А.С.:** – Ведаеш, нягледзячы на ўзрост, я з класікамі на "ты". У мяне зайздрасці няма. Я радуюся чужым добрым вершам, бо мы ўсе належым Беларусі. Але апошнім часам я мала чытаю.

Вось графін стаіць, мне яго Чаропка падарыў на дзень нараджэння. Прыйдзе – пытаецца: "Яшчэ не разбіў?" Я Чаропку прывёў у літаратуру, ён за гэта мяне паважае. Тое, чым ён займаецца ў гісторыі, – гэта патрыятычныя казачкі для дзяцей. Апошніх яго рэчаў я не чытаў. Ведаеш, у мяне ёсць вялікі густ на літаратуру. Да таго ж, у яго на два сказы па пяць граматычных ды стылістычных намылак. У мяне пачынаецца раздражненне. Я люблю, каб усё было на вышэйшым узроўні. Як у мяне, калі слова на вагу золата.

Густ – ён ад Бога... І да літаратуры, і да прыроды, і да людзей. Я люблю прыгожых людзей.

Сябрую з Федарэнкам. Ён вельмі крыўдлівы. Называе мяне бацькам і крытыку можа чуць толькі з маіх вуснаў. У яго шмат комплексаў. Ён іх хавае, спрабуе нешта даказаць... Але пісьменнік без комплексаў, без шызы – не пісьменнік.

**Г.К.:** – *Твае "шызы" прывялі да таго, што многія адводзяць табе толькі адну-адзіную ролю – блазна. Што ты думаеш пра гэта?*



 

**А.С.:** – Шэрасць робіць блазна... Мне галоўнае, каб вершы пісаліся. Усе гаворкі вакол мяне – ад жадання дакрануцца да беларускай вечнасці. Хоць за с... ушчыкнуць, але пабыць каля Паэта... Тыя, хто гаворыць, – ведаюць: "**Ён ужо застаўся!**" Нават дзве мае маленькія кніжкі-брашуркі для іх – класіка. Да таго ж – каб былі тыя легенды праўдзівыя. А то адныя гіпербалы.

Пра многае я зараз шкадую. Мае "выпяндрожы" адбіраюць шмат энергіі, якую б варта было пусціць на вершы. Але я такі – не магу змоўчаць, нават калі цвярозы. Зноў-такі – і гарэлка вінаватая...

**Г.К.:** – *Не ад аднаго чалавека чула, што не сам ты пачаў піць, а сябры дапамаглі – ад зайздрасці да таленту, да славы...*

**А.С.:** – Ніхто мяне не зводзіў.

Я пачаў паліць цыгарэты ў дваццаць тры гады ў войску. Восемдзесят другі, восемдзесят трэці. Кайзераўскія казематы, халодна. Там, дарэчы, "Агмень" напісаў. На месяц выдавалі па васемнаццаць пачкаў цыгарэтаў. Усе запаляць, а я – не, сумна. Так і ўцягнуўся.

А піць пачаў у дваццаць шэсць. Ніхто мяне не спойваў. Бацька мяне такім зрабіў. У маім раду ўсе пілі, п'юць і будуць піць. Добра памятаю: я на каленах маленькі, бацька возьме яечні, нажуе, дасць мне. А на стале – самагонка, пілі яе тады малянкоўскімі шклянкамі...

Грошы мне за першыя кнігі заплацілі вялікія. На той час я кватэру ў цэнтры мог бы купіць. Пачалася зоркавая хвароба – малады, прыгожы, ды яшчэ пры грашах. Мы з Міколам Сцепаненкам неяк узялі каньяку, налілі яго поўненькае вядро. Сталі ў каньяк грошы кідаць, а пасля імі – пяцідзесяткамі і соткамі – нішы ў бары абклейваць. Зараз шкадую. Я ў інтэрв'ю, якое даваў для "Чырвонай змены", напісаў, што ніколі ні пра што не шкадую. Шкадую, гарэлка мяне падкасіла. Я б зараз зусім паіншаму распарадзіўся сваім жыццём... А тады "закайфаваў" – ад славы, ад пахвальбы. Дудараў, Някляеў вадзілі мяне па ўсіх багемных месцах. Яны ж давалі мне рэкамендацыі ў СП, паўсюль са мной хадзілі. А да гэтага я амаль не піў, мне з трох чарак магло блага зрабіцца.

Але гэта ўсё легенды, што я п'яніца. Мне выходзіць з

гэтага стану не трэба... Што гарэлка, што цыгарэты – калі няма, дык прасіць не буду. А магу і папрасіць.

Гарэлку звычайна прыносяць. Вось маладыя часта ходзяць, "першацветаўцы". Прынясуць і гарэлку, і варэнне. Ідуць, як да гуру.

**Г.К.:** – *А як ты ставішся да маладых, ці вылучаеш каго?*

**А.С.:** – Я іх зусім не ведаю. Не магу назваць нікога, хто быў бы роўны мне. Я раней сказаў, што памыю ногі таму, хто прыйдзе пасля мяне, будзе пісаць так, як я, ці лепш, і ваду з тазіка вып'ю.

Можа хто народзіцца, а можа ўжо і ёсць хто, ды я не ведаю... Яны ўсе да мяне ходзяць: "Толік, я правільна пішу ці не?" Адказваю, як некалі Міхась Лынькоў: "Дзярзай, уюнаша!"

**Г.К.:** – *А можа, пісьменнікі проста непатрэбныя? Асабліва паэты...*

**А.С.:** – Паэты заўсёды былі непатрэбныя. Але з'яўляліся, нават у тыя часы. Пра гэта не варта думаць. Выдаў кнігу, паставіў сваю вешку і ідзі далей. Пішы так, каб не было сорамна. Я пад кожнай сваёй літарай магу падпісацца.

*2 лютага 2000 г.*

*P.S.* **Ад рэдакцыі:** Як нам стала вядома, кніга, што мелася выйсці пад назвай "Лён", цяпер будзе называцца яшчэ прасцей: "Сыс". Вокладку і мастацкае афармленне зрабіў вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін. Засталося, нарэшце, кнігу выдаць.

***

Я думаў,
вершы мае відушчыя –
аж пакуль не аслепнуў сам
ад маланкі, самім жа пушчанай,
я гарэў, як бязбожны храм,
сам сабе я ў ім здаўся богам,
адпускаў сам сабе грахі –
грызла ганак, вяла дарога
зноў на д'яблавыя кругі,
ад яго я вяртаўся ў поўсці,
і калі цалаваў свой крыж,
ён адбіткам жахлівым помсціў,
бы люстэрка ці д'яблаў віж,
і тагды я складаў малітву,
можа ў соты свой самасуд,
той малітвай, нібыта брытвай,
сашкрабаў у адчаі бруд,
і ў адчаі я рэзаў вочы,
і жахаўся крыві сваёй,
і жагнаўся – набожна, тройчы, –
і агідны, жывёльны лой
з гострай брытвы маёй малітвы,
быццам гной, патыхаў маной.

Я пакінуў свой храм смярдзючы,
азірнуўся на купалы,
а святыя ў маіх анучах
неслі кроў маю на сталы,
а я,
голы, як здань, бяскроўны,
у чыесьці ступаў сляды,
перад Богам жывёле роўны,

нёс грахі свае на клады,
і глыбела за мной сцяжына,
і ступала ў мае сляды
маці грэшных усіх – Жанчына –
з поўнай чарай жывой вады.

## Самотны

Маё шчасце недзе заблукала...
Цяжка ўспомніць – ноч была ці дзень –
як мяне самота адшукала,
падыйшла, ў чало пацалавала.
Бы жанчыну,
я абняў свой цень.
Цяжка ўспомніць – ноч была ці дзень –
я адчуў самоты асалоду,
хоць за рэчкай – шчасце,
я – ля броду...
Не пайшоў. Спалохаўся за цень.
А самота ў вочы цалавала,
быццам парушынкі з воч вымала,
ды глядзець за рэчку не давала.

Так спазнаў яшчэ адну жанчыну.

Цяжка ўспомніць – дзень быў
альбо ноч –
цяжка,
бо пазбавіўся я воч.
А сябры, прыгожыя каханкі,
позіркі – пякучыя маланкі,
хто з вінам, хто з вершамі
ішлі,

ды мяне ранейшым не знайшлі...
Я хаваў ад іх сляпыя вочы,
налівалі, і я піў віно,
сам жа, як злачынца,
ўсё адно
я чакаў сваёй самотнай ночы.
Я змярцвеў,
хоць чуў вакол прамовы
пра каханне, Адраджэнне, мову,
тосты за Радзіму...
ўсё адно
за самоту піў сваё віно.

Так спазнаў яшчэ адну Радзіму.

Цяжка ўспомніць – ноч была ці дзень –
бо здушыла горла, як камень,
мне віно,
і верш мой занямеў.
Прыгажуні падстаўлялі вусны,
я ж у лоб нябожчыц цалаваў,
мне яны шапталі: "Парню грустно?.."
"Хлопцу сумна..." – я перакладаў.
А сябры, нібыта на пахмелле,
пакідалі вершыкі свае,
і, напэўна, кожны думаў:
зелле
ад мае самоты мне дае.
I тагды
я ўзняў сляпыя вочы,
каб яны жахнуліся бяльма,
беглі ад яго
　　　　у свет,
　　　　　　　　упрочкі,

бо ў вярыгах ісціны няма.
І тагды
адбіткі сваіх бельмаў
я убачыў і на іх вачох.
“Парням грустно?..”
“Хлопцам сумна вельмі...” –
я хацеў сказаць, але не змог,
бо чакала за спіной самота,
і гарлянку раздзіраў камень,
бы жанчыну,
я абняў свой цень
і прыпаў да зваблівага роту,
і здушыў сваёй крывёй самоту...

Знікла ноч.
Ізноў вярнуўся дзень!

***

У нябёсах маіх дагараюць вагні,
Непрытомныя гаснуць ад холада.
Што сабраў я сабе на апошнія дні...
Срэбра веры ці мудрасці золата?

Ці любіў я? Любіў!
Сяброў, маці, віно...
Кляўся Бацькаўшчыне да магілы,
Ды ў сузор’я майго,
Бы ў калосся ў жніво,
Ад пакуты надтрэснулі жылы.

І куды б я ні йшоў –
Яно ходзіць за мной,

Можа, хмару наклікаць якую?
Каб не бачыць яго над сваёй галавой
Хоць тагды, калі з любай балюю.

І таму не пытай, чаму сумны такі,
І любі мяне толькі шчаслівым,
За віном, за сяброўскім сталом гаваркім,
За лістом да матулі – маўклівым,

Бо ў нябёсах маіх дагараюць вагні,
Непрытомныя гаснуць ад холада,
Бо сабраў я сабе на астатнія дні
Прагу жыць, а не срэбра й не золата.

***

А я помню, як мяне хрысцілі,
як па снезе санкі галасілі,
як папа у госці запрасілі,
пілі-елі, потым елі-пілі,
пра мяне прыгожа гаманілі,
хроснага і хросную спаілі,
адхадную бацюшку налілі,
пад дубовай лавай крыж згубілі,
ні мяне, ні крыжа не знайшлі
і шукаць у белы свет пайшлі.

Бацюшка ў царкве,
а маці ў полі,
тата на Дняпры голас сарваў,
а я ў роднай хаце ціха долі
з крыжам, быццам з цацкаю, гуляў.

***

Загубіла мне паэзія жыццё –
палюбіла!
За распусту ды за хмель
моцна біла.

Калі б іншага жана
катавала,
дык, зладзейка, сваю б смерць
прычакала.

Я ж яе, маю жану дарагую,
так люблю,
што па жыцці
ўсё дарую.

Бо не толькі батагом...
мая Міла,
а й за вернасць – мне чалом
яна біла.

Толькі што гэта кажу
ўсё ў мінулым?
Як жыццё люблю цябе,
як загулы,

што аж брыдка ад любові
гэтай,
і табою, і віном
сагрэтай.

## Беларусі

Хто з пяром, хто з паходняй,
хто з посахам
свет знайшоў,
а я – з гострым нажом,

о сівая мая, о боская,
згвалтаваная, мая босая,
мая голая пад дажджом.

А ты думала, а ты й думай так,
што твой родны сын не зладзей,
таму й носіць нож, бо рабіць мастак
скрыпкі знатныя для людзей.

О сівая мая, о боская,
хаця сэрца сніць гостры нож,
ад цябе адной не адрокся я:
у нагох тваіх – медны грош,

але прыйдзе ноч дужа зорная,
тваёй спраўджанай слязой,
а мая душа будзе чорная,
небяспечная, як лязо.

Яе ўгледзіш ты,
я цябе прашу,
я па-воўчаму буду выць:
не ідзі ў начы на маю душу,
бо тагды і мне больш не жыць.

## Паэт

Паэт – боская птушка,
яго нельга чапаць,
трэба Хрыста чакаць,
трэба Хрысту ногі цалаваць,
вачыма неба араць,
з любай, як з маці, спаць,

калі слёзы ёсць –
                    жабраку даць, –
вось якая паэт боская птушка,
як пад галавой нябожчыка падушка,
вось якая паэт птушка боская,
як свечка, як з воска я,
Я? я, я, я! –
боская птушка,
мяне нельга чапаць,
мне трэба Хрыста чакаць,
Хрысту ногі цалаваць,
вачыма неба араць,
з маці, як з любай, спаць,
калі слёзы ёсць – жабраку даць,
вось якая паэт боская птушка,
як пад галавой нябожчыка падушка,
вось якая паэт птушка боская,
як свечка, як з воска я,
Я? я, я, я!

## Ластаўка

Ластаўка,
так даўно ты не лётала,
павуціну крылом не ткала,
правым ля Неглюбкі, левым ля Моталя,
з любым, ластаўка, не балявала

так даўно, так даўно, так даўно,
што аж неба з-за слёз не відно,

ластаўка,
ты ніколі не бачыла,

дык пабачыш, якая смерць...
снег з Расейшчыны, дождж з Паляччыны –
будзе целу й душы балець,

ластаўка.

## Песня пра каханне

Не баюся я смерці,
бо хачу вельмі жыць,
няма сілы памерці,
няма моцы зграшыць.

Ёсць любоў – маё цела,
ёсць каханне – душа,
яна ў рай паляцела,
я яе не змушаў.

Мілы Божа, каханы,
як пражыць без пакут?
Не хачу смерці мамы,
з кім тады буду тут?

З тваім, Божа, каханнем?
Без жанчыны? З табой?
З беларускім паданнем?
З хлебам? З соллю? З вадой?

Бачыш сам: пусты ложак.
Надакучыла мне
спаць з табой, любы Божа.
У мане, у віне.

Цалаваць твае раны,

цалаваць тваю плоць,
быць паэтам абраным,
жвір у вершах малоць.

Быць мужчынам абраным,
скажы, суджана мне?
Ці на ложку каляным
жыццё марна міне?

Даруй, любы мой Божа,
што вярэджу душу,
што абраў бездарожжа,
як грашу, так пішу.

А папраўдзе: як дзеці,
мае вершы растуць,
няма сілы памерці,
бо яны не даюць,

таму нам не каляны
ложак шлюбны – Як пух!
Мой Мужчына каханы,
Айцец, Сын, Святы Дух!

## Гліна

*Дзякуй, Алесь, што ты ёсць*

Як іду, дык вянец мае скроні
балюча шкрабе,
а душа ўся ў балячках,
бы вопратка сейбіта ў зернях.
Я памру, землякі, а легенду
пакіньце сабе,

а дакучлівых вошай шукайце
у пакінутых цернях.

Ёсць прыгожыя словы.
Прыгожых паэтаў няма,
ды вы іх беражыце, як маці
апошняга сына,
але, зрэшты, што зробіш,
я ведаю – будзе вайна,
як адзін з вас сказаў пра жыццё:
усё гліна!

Па ёй птушка прайшла і закрэсліла
руны крылом,
пэўна, нехта шчаслівы з пацехі
параніў анёлка.
Ёсць паэтка у вас,
яе рукі зрасліся з кайлом,
о, як праўду яна вышывала
танюткаю голкай!
Ёсць агідныя словы.
Агідных паэтаў няма.
І таму, як памру – закапайце
ў палескую гліну,
жыць хачу, землякі, і легенду
аддам задарма,
а за тое, што жыў –
пасадзіце ў нагох арабіну.

## ПАЦІР

Знайшлі пацір слязамі поўны,
ніхто не ведае чыймі.
Сярэбранае ў срэбным –

поўню
пакутнік нейкі расчыніў.

Ад зла, спакус, грахоў замову
гугнявіў голас за сцяной...
Знайшлі на дне паціра слова,
з малітвы выпала яно:
КАХАЮ –
вочы прачыталі,
КАХАЮ –
вусны прашапталі,
КАХАЮ –
душы прастагналі,
КАХАЮ –
людзі закрычалі.

Каго?

Паэт сказаў: Айчыну!
Жаўнер: дзяўчыну!
Хтось: сябе!
І сталі дружна,
шчыра, шчыльна,
як на касьбе ці на сяўбе.

А ён канчаўся у знямозе –
ніхто яго не пакахаў,
з паціра выплюхнулі слёзы,
і налілі праз край віна,
і сталі дружна, шчыра, шчыльна,
як на касьбе ці па сяўбе,
паэт сказаў: п'ем за Айчыну!
І кожны выпіў: за сябе...

***

Памрэш сыты ці галодны –
а якая розніца.
Попел цёплы. Прах халодны –
што з яго народзіцца?

Але я вось нарадзіўся,
маці кажа: з прысаку.
Быццам Бог перахрысціўся
за зямную іскарку.

Дзякуй маці!
Дзякуй Богу!
Дзякуй, свет дзівосны!
Дзякуй, хросная – дарога!
Дзякуй, посах – хросны!

## Песня пра сына

Жыццё – камень на баране,
цягну і нешта сею,
а лёс папругай б'е мяне,
я ў полі і згібею.

Мой сын загінуў на вайне,
цягну і скруху сею,
ён згінуў па маёй віне.

Я ж ваяваць не ўмею –
адправіў сына за сябе
апошнім шляхам зрэбным,
а сам застаўся на сяўбе.
Каму мой хлеб патрэбны?

Яго ні людзі не ядуць,
ні коням на патраву,
за сына ўсё мяне клянуць,
што на вайну адправіў.

Жана ёсць. Музаю завуць,
з вайны нямая ходзіць,
і толькі тыя са мной п'юць,
хто сына не народзіць,

бо, кажуць, будзе зноў вайна,
таму сыны навошта,
маўляў, у Стыксе сатана
даўно сцягі палошча.

А Муза змрочная маўчыць,
а салаўі галосяць,
а пад паэта закасіць –
лягчэй чым сена косяць.
...................

Мой сын не згінуў на вайне,
шчаслівы той – хто шчыры:
хай Беларусь вайна міне.
За вас!
За сына!
З мірам!

Анатоль Сыс

# Пан Лёс

*Чый гэта анёл,*
*Голас такі гарачы?*
*Чыё гэта птушанё*
*Па-беларуску плача?*

**(З паэмы "Алаіза")**

Ніхто так не адчувае ўласнага выраку, як Паэт. І не толькі свайго. (Я нават не стаўлю тут сваё заўсёднае шматкроп'е.)

Таму кожная нацыя жыве чаканнем свайго Паэта. Бо ў Ім і праз Яго яна бачыць самую сябе. Ды як толькі Ён з'яўляецца – нацыя жахаецца, бо тое, што яна бачыць у Ім і чуе ад Яго, страшыць. Яна не хоча даваць веры свайму адлюстраванню, і вось тут нарэшце кожны з нас можа паставіць сваё шматкроп'е...

Яшчэ зусім нядаўна многія не ведалі, як з ім размінуцца, як абысці яго на шырокім Скарынінскім праспекце альбо ў вузкім лабірынце калідораў Дома літаратара... Найчасцей з ім вадзіліся няўдачнікі і графаманы, грэючыся ў халодных промнях яго вар'яцкай славы ("А ўчора мы з Ціханавічам класна пасядзелі..."). Зайздроснікі пазбягалі, а калегі ўвільвалі...

З ім было цяжка – як з самім сабой...

Апошнім часам ён прапаў з людскіх вачэй, і яго адсутнасць стала адчувацца ва ўсіх праявах літаратурнага жыцця. Гады два таму, памятаю, прыйшоўшы на працу, прачытаў на сваім чыноўным стале пакінутую ім шчымліва-вясёлую цыдулку на нейкім зацёрханым абрыўку паперы: "Лявон, ну калі ты ўжо напішаш пармалёвага верша?" О, як я разумеў гэтае яго і да самога сябе нізрынутае з душэўнай бездані пытанне!

Анатоль Сыс – паэт, выкінуты з лона айчыннай Прыроды чарговай хваляй беларускага Адраджэння напрыканцы 80-х. Апроч сваёй маці, ён – дзіця нацыянальнай беларускай ідэі.

*Быць паэтам – і фарс, і драма,*
*жыць з ілюзіяй аб бяссмерці.*
*Зазірні ў мае вочы, мама,*
*бачыш,*
*там два маленькія сэрцы.*

Пачатак, як для паэта, быў проста феерычны. Не тоячы ў сабе прыроднага акцёрскага таленту, ён шчыра, а ўрэшце, і па-сапраўднаму разыгрываў на грамадскай сцэне душэўную драму свайго жыцця...

Шматлікія слухачы і гледачы "перабудовы" савецкага ладу сустракалі яго эмацыянальныя выступы гарачымі апладысментамі і глыбаканочнымі застоллямі... Ён выкрасаў непадробныя слёзы з вачэй новага пакалення, заангажаванага беларушчынай...

Аднак наступова, не разбіраючы публікі, ён апусціўся з артыстычных падмосткаў высокага мастацтва да скамароства і клаунады дзеля пацехі выпадковых людзей...

Дзе ён цяпер і чым займаецца? – сёння ўжо мала каго цікавіць.

Але ёсць за душой у Паэта дзве невялічкія кніжачкі, напоўненыя высокім духоўным жыццём і гарачай крывёю грахоўнага бытавання. Магчыма, у неймаверна цяжкіх пакутах працяглай унутранай барацьбы народзіцца трэцяя... Ды наўрад ці зойме яна ў чытацкіх душах тое пачэснае месца, якое належыць дзвюм першым...

Не будзем асабліва засмучацца з гэтай прычыны. Бо ведаем, Паэт, які падобную "кніжку мае", — усё ж АДБЫВАЕЦЦА, хоць і застаецца САМОТНЫМ...

Што ж канкрэтна да чалавека, то – Бог яму бацька...

Ды ўсё ж Адраджэнне ў рэшце рэшт, відаць, стала яму мачыхай, бо ўволю пацешыўся "выпадкова ўсыноўленым" шчасцем, на часе адрынула яго як лішні рот, на пракорм якога трэба было празмерна высільвацца. Апынуцца лішнім у сваім родзе – трагічная доля чалавека, які ўсвядоміў малалікасць гэтага роду...

*Я ведаю. Я ў карты прагуляны*
*зайздроснымі паэтамі.*
*Малю,*
*калі заб'еце – не смакчыце з раны*
*барвовую паэзію маю.*

# Ты

Апошняя на часе і ўжо даўняя яго нізка вершаў у “ЛіМе” нагадвае вясковы пагост з надмагільнымі эпітафіямі...

І, пэўна, шчаслівейшы за самога пакуль яшчэ жывога аўтара эпітафіі яго сябрук-пябожчык Валодзя Цыбульскі, што спачывае бліз берага Дняпра па Бацькаўшчыне Паэта ў Гарошкаве, трымаючы над сабой спрадвечны камень чалавечага бяссмерця:

*Я чую з неба сум ваш на зямлі,*
*Вы не судзіце свайго сына строга,*
*Мяне анёлы за руку ўзялі*
*І, як дзіцё, вядуць да Пана Бога.*

*Таму па мне не плачце, мама, многа,*
*Бо да Хрыста – нібы дамоў дарога.*

Што яшчэ можа дадаць да біяграфіі Паэта яго чытач і сучаснік?

Хіба толькі вярнуцца назад, да пачатку – у той першародны “Пан Лес”, як у Чысцец, бо

*Лес – гэта храм.*
*У ім – акрыяе Хам.*
*Лес – гэта святарнае мейсца,*
*Для душаў аблудных меса.*

Ці гэта ўжо немагчыма? Адбылося татальнае падзенне, пасля якога чалавек не падымаецца?

*Жыццё і, тым болей, смерць*
*Загубяць свой сэнс цялесны –*
*Пан Лес не дазволіць мець*
*Пачуццяў, што шкодзяць Лесу,*
*Бо нельга паганіць храм,*
*Бо нельга святое нішчыць,*
*Куды ж тагды прыйдзе Хам*
*Ад хамства душу ачысціць?*

І паэт – таксама. Ці гэта розныя іпастасі? Час пакажа...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# "Светлы мой, бялюткі ты мой хлопчык..."

Кожны творца свядома або несвядома, але тым не менш уласнаручна выбірае для пасеву слоў-зярнятаў тую або іншую дзялянку, ляда, ніву. Для Анатоля Сыса прастора мастакоўскай здзейсненасці атаясамліваецца з полем бою, на якім "не адзін паэт сканаў". Пэўна, ужо гэта першапачатковае разуменне творчага прызначэння як неашчаднага і самаахвярнага гарэння з заканамерна вынікаючым трагічным фіналам жыццёвага шляху мастака шмат у чым абумовіла далейшую крывізну асабістага лёсу паэта, сумна напрарочыла долю блуднага сына. Дакладна: "Можа здарыцца так, я заблудну ў жыцці..."

З нейкага моманту А.Сыс пачынае ўсяму і ўсім кідаць выклік, а супярэчнасці, анамалію, надлом, ненармальнасць прымаць за норму, устойлівы побытавы стыль, такім дзіўным чынам падмацоўваючы слушнасць раней зробленых уласных, ды і трывала замацаваных літаратурнай практыкай, высноў аб горкай нядолі творцы, што мае звычай знаходзіцца сама ("З чаго пачаць?.."). Зразумела, з боку было адразу бачна, наколькі пагрозліва-разбуральнай і самазабойчай сілай валодае такое супрацьстаянне. Знешне: сябе – усім. Унутрана: упэўненага ў сабе на хвалі эйфарыі, хуткаімгненнага прызнання вядомымі мэтрамі слова маладога аўтара і ў той жа час па-дзіцячы безабароннага, светлага дзікаватага вясковага хлапчука.

Гэты хлопчык пазней так і не змог зрасціся з тлумам вялікага горада, як і забыцца на свае ранейшыя

драўляныя цацкі з гарышча бацькавай хаты (нізка "Вочы маленства", "Сон" і інш.). Або на тое, як "дзіцём шчыпаў лучыну, каб хворую матулю адагрэць...". Зрэшты, няспыннае змаганне дрымуча-выбуховага і найлепшага ў заўжды непрадказальным характары А.Сыса, што вонкава займела выражэнне перманентнага чаргавання скандальных учынкаў і сцэн прылюднага пакаяння, з гадамі толькі абвастрылася. Калі перафразіраваць самога паэта, то можна сказаць, што ён жорстка намыліўся, захапіўшыся не жывым, а падманным агнём. І гэта тым больш трагічна перажываецца чалавекам, карані якога трывушча звязаны з вёскай і яе ўкладам, з берагамі Дняпра і палескай прыродай. "Мой радавод вёў летапіс свой плугам..." – піша творца.

Трэба сказаць, што вясковасць А.Сыса надзвычай своеасабліва адбілася на яго светабачанні. Прыхільнік усяго натуральнага, ён і талент успрымае як з'яву прыродную, аднойчы і назаўжды дадзеную, што не патрабуе ў далейшым ад яго носьбіта ніякага росту і ўдасканалення. Таму, мабыць, паэт ніколі дужа не клапаціўся пра яго захаванне і развіццё, усур'ёз глыбока не захапляўся адукацыяй ці нейкімі пэўнымі навукамі. Для яго універсітэт – "універмаг", не больш. І ў гэтай саркастычнай аўтарскай ацэнцы роднай навучальнай установы не столькі ад аб'ектыўнай характарыстыкі, колькі ад яго суб'ектыўнага і ў нечым сапраўды правінцыйнага стаўлення да ведаў, якія хтосьці разумны і клапатлівы павінен здабываць і настойліва прапаноўваць маладзейшым. Дакладна, што наведванне універмага не вымагае ад пакупніка асаблівых разумовых высілкаў, настройвае хіба толькі на лёгкую і неабавязковую спажыву чужых наробкаў.

Прынамсі, так усё выглядала знешне. Але каму і калі даводзілася (і ўдалося) да канца спасцігнуць душэўную і духоўную таямніцу таленавітай асобы, наблізіцца да разгадкі яе першасутнаснай, вызваленай ад асабістых сімпатый і антыпатый, незалежнай ад непрыемных уражанняў і хамства непрасыпна п'янага чалавека асновы? Хто мог прадбачыць далейшыя перыпетыі лёсу асабліва прыгожага ў святле сцэны і тады ўжо непрадказальнага юнака, што натхнёна чытаў студэнцкай аўдыторыі свае, пераважна вострасатырычныя, вершы і эпіграмы? Недзе згубіліся тыя зусім неблагія творы. Ужо няма таго светлага хлопчыка з адухоўленым

абліччам, які ўсім сваім выглядам сцвярджаў: "І ўсё ж шчасце – парадзіцца..." А ва ўласнай памяці невядомымі імпульсамі ажыліўзнавіліся некалі пачутыя радкі пачаткоўца, якія зараз і паспрабуем перадаць ва ўласным пунктуацыйным афармленні:

*Я папрасіўся нанач, незнаёмы,*
*Цяпер студэнт, калісь касец, пастух.*
*І хоць адзеў у джынсы мяне Гомель,*
*Пазнаюць – свой, сялянскі – за вярсту.*

Аднак вернемся да гаворкі пра паэзію А.Сыса, да вызначэння яе адметнага вобразна-мастацкага свету, пастараўшыся не паўтарыць асноўную думку і высновы ранейшага артыкула "Родных гоняў расткі". Ва ўспрыманні аўтара бясспрэчнай аксіёмай выглядае непарыўнасць паняццяў "маці – мова – вечнасць". Мова прашчураў параўноўваецца ім з жывой вадой, а сам ён арэ, сее, збірае "словы // мовы любай, мовы роднай". Пры гэтым сімвалам жыццядайнасці, багацця разам з адухоўленасцю Агнём для паэта з'яўляецца зямля. Родная і гаротная, крынічная і пустэльная, птушыная і "колеру// поля чорнага, радна белага", яна аднолькава дарагая А.Сысу. Таму ўвагу творцы найперш прыцягваюць вобразы сейбіта, пастушка, чалавека, які падтрымлівае святы агмень, а яшчэ постаці продкаў з іх глінянай мовай, славутых суайчыннікаў. Таму вывяральнаю мераю спраў і слоў для паэта выступае "не цнатлівасць кветак, // а важкасць спелых каласоў" .

Як вядома, адным з традыцыйна-ўстойлівых і пашыраных значэнняў гэтага шматсэнсавага вобраза-сімвала з'яўляецца атаясамліванне яго зярнятаў з заўсёдным жыццёвым адраджэннем, неўміручасцю. У А.Сыса чытаем: "Прарастае ў дрымучых стрэхах // прадзедавае калоссе". Ці яшчэ адзін прыклад з таго ж твора: "На няскошаным пагорку // жыта ацалела". Але для паэта колас, зерне – гэта найперш слова. Асепенае бусламі, якіх творца параўноўвае з крылатымі кветкамі, і "Вянком" Багдановіча, яно ніколі не загіне. Па перакананні аўтара, "жыло – жыве – выжыве Слова".



Як лес і агонь, слова для мастака – больш за слова. У паэме "Алаіза" непарыўнасць вобразаў каласоў і слова як перадумовы ўсякага развіцця, чыя няспыннасць патрабуе абавязковага вяртання да першавытокаў, вусця, перадаецца паэтам праз разгорнуты малюнак-апісанне:

*Поле спеліць вянец жытнёвы,*
*акрыяюць нямыя вусны,*
*нібы людзі, збяруцца*
*словы,*
*нібы рэкі,*
*успомняць вусце.*

У зборніку "Пан Лес" збліжанасць паняццяў зерня і слова завяршаецца іх поўным узаемапераходам, пераўвасабленнем аднаго ў другое, што адпаведна падкрэсліваецца лексічнымі і сінтаксічнымі моўнымі сродкамі:

*І словы мае – вярыгі мае,*
*І семем было мне Слова.*

Наогул Слова, якое заўжды хавае ў сабе сэнсу больш, чым можа спасцігнуць чалавек, – не проста адна з незвычайных дзеючых асоб вобразнага свету А.Сыса. Праз тое, наколькі ўдалося мастаку наблізіцца да адкрыцця таемнасці слова, запаліцца яго агнём, вывяраецца паэтам сапраўдная вартасць кожнага з творцаў, вызначаецца каштоўнасць пакінутага імі на зямлі следу ("Гэты свет – для размену манет...", "Словы"). Адсюль вынікае дваістае стаўленне А.Сыса да мастацтва. Гэтай пазіцыяй тлумачыцца яго разуменне паэзіі як вечнай пакутніцы, што адначасова нараджаецца слязою радасці і гора ("Часта пытаюцца"...). Але, пры ўсім тым, для самога пісьменніка няма нічога больш прыцягальнага за яе. І ён асабліва баіцца таго моманту, калі "не будзе каму даручыць // плуг // і нялёгкае бярэмя верлібра".

Толькі не варта насля прыведзенай цытаты думаць, што менавіта свабоднаму вершу як улюбёнай паэтычнай форме аддае перавагу А.Сыс. У версіфікацыйных адносінах яго паэзія

надзвычай гнуткая, разняволеная. Па нашым перакананні, якраз гэтая яе якасць разам з глыбокім нацыянальна-адраджэнскім зместам з'явілася адной з асноўных прычын ашаламляльнага, калі так дазваляецца гаварыць пра паэзію, поспеху аўтара напрыканцы 80-х гг. Возьмем для ілюстрацыі хоць бы адзін верш з "Трыпціха ўтульнага вогнішча":

*І вы клалі думы*
*секлі вогнішчы грэлі*
*вінаграднікі, сярод поля, безаглядныя.*

Тут уяўляецца мэтазгодным узнавіць невялікі ўрывак з дыялогу двух галоўных герояў рамана У.Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім":

"– Як думаеш, які шлях нашага верша? Сілабіка польская або тоніка? Або гекзаметр, які можа быць і тым і іншым?

– Нешта асобнае".

Думаецца, што гэта асобнае – праз адметную вобразную сістэму, зварот да архетыпаў, здольнасць задумвацца "не бесклапотным ямбам, // а сівым верлібрам", рытмічную разнастайнасць, узаемаспалучанасць некалькіх вершаваных формаў, інтанацыйную раскаванасць, абумоўленую адпаведным душэўным станам тую ж надломленасць радка – найбольш таленавіта выявілася ў мастацкіх тэкстах зборнікаў А.Сыса "Агмень" і "Пан Лес", менш – у наступных нешматлікіх паэтычных нізках. Прычым выявілася так ярка, што адразу дазволіла крытыкам гаварыць пра індывідуальны стылёвы кірунак творчасці аўтара, а яму самому пачуваць сябе не інакш, як сынам Купалы і братам Багдановіча, адзіна вартым Караткевіча наступнікам. Такую гіпертрафію творчых амбіцый А.Сыса, крыху відазмяніўшы яго ўласныя вобразныя выразы з вершаў другой паэтычнай кнігі, можна было б растлумачыць станам прыхаванай разгубленасці сейбіта, што шукаў, але так і не здолеў адшукаць "баразнаў новыя кругі". Або скрушным адчаем валацугі, які канчаткова страціў розум і ў кожнай з'яве прыроднага і астральнага свету ўгадвае пражылкі крыві ("Радзіма", "Апакаліпсіс").

 





Заяўленае магло таксама ўспрымацца цалкам даравальнаю бравадаю перапоўненага яркімі задумамі і вялікімі магчымасцямі самаўпэўненага і ўсё ж несумненна таленавітага аўтара, калі б высока ўзнятая сабою і іншымі планка патрабаванняў не абавязвала і надалей не апускаццца ніжэй за раней узятую вышыню. Толькі наўрад ці магчыма адвольна рэгуляваць і скіроўваць у патрэбным сабе ці некаму рэчышчы стыхійны творчы працэс, а тым больш забяспечваць і гарантаваць роўнакаштоўнасць яго штодзённай ці расцягнутай у часе вершаванай "нарцыённасці". У выпадку з А.Сысам і імкнуцца да гэтага не варта. Усё роўна яго зборнікі ўжо трывала ўвайшлі, угрунтаваліся ў змест гісторыі беларускай літаратуры канца XX ст. Усё роўна "рунь пра сейбіта раскажа". Галоўнае, як герою "Парога" А.Дударава, – успомніць. І не толькі пачатак казкі, але і самога сябе, светлага, бялявага хлопчыка.

"...І я ўспомніў, што ў мяне яшчэ ёсць родная хата, а ў ёй адна, як зязюля, маці. І я ўспомніў, што калі з прасёлкавай дарогі павярнуць на брукаваны шлях – стаяць могілкі, а насярод іх, як свечкай, белай бярозай свеціцца бацькава магіла".

Адтуль шляхам Дняпра, крыжоў і рассцеленых ручнікоў-сцяжын лягчэй выйсці дадому і да Айчыны. Што хадзіць, блукаць... Трэба спяшацца. Зямля чакае. І не варта баяцца няўроду. У жыцці так цесна зпітаваны высокія парыванні і зямное, нябесны эфір і жывая кроў, а значыць – узлёты і падзенні. А пакуль:

*Беспрытульная птушка*
*прыстанку ў аблоках шукае,*
*на ўбогай зямлі ёй нябесных вятроў не стае...*

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**



 

Анатоль СЫС

# У чаканні другога прышэсця

Анатоль Сыс на сёняшні дзень з'яўляецца для мяне таямніцай. Дзе ў ім шчырасць? Дзе гульня? Дзе блюзнерства? Ці ведае ён сам?

Усё было ўчора. Усё было на нашых вачах. А мы разважаем і мяркуем пра той час як пра нейкую смугу-мінуўшчыну – няўцямнымі дэфініцыямі заўчасна састарэлых крытыкаў і пустамельствам кандыдацкіх манаграфій. А часцей увогуле не звяртаем на набыткі і страты 90-х якой-кольвечы ўвагі. Можа, сапраўды, вялікае бачыцца на адлегласці? Вось толькі хто будзе разглядаць тое вялікае? І хто будзе шанаваць нашу спадчыну, калі мы яе самі не шанавалі?

Беларускай літаратурай усё яшчэ верхаводзяць атавістычна-савецкія "міжганарарныя" дачыненні. Іерархі айчыннага краснага пісьменства не здолелі выйсці за кола, намаляванае чырвонай крэйдай, і ператварыць літаратуру, якая была і дасюль застаецца для іх выключна прафесійным заняткам, у жыццё. Калі ў сваіх артыкулах я пісаў, што прыйшоў час рабіць літаратуру не за грошы, я меў на ўвазе менавіта гэтую праблему. Праблему ўяўнага кола, якога рэальна даўно няма, але які дзіўным чынам упарта захоўваецца ў нашых галовах. Рэзервацыю пакінула толькі частка пісьменнікаў з пакалення "тутэйшых". Разбалансаваны механізм беллітаратуры пачало трэсці і "рваць" на шматкі. Спачатку знікла агульная культурніцкая прастора. Мудроў і Федарэнка, Сідарук і Казлоў, Бабкоў і Дранько-Майсюк апынуліся на розных выспах, у розных кантэкстах, нібыта адны з'ехалі ў эміграцыю, а другія засталіся над сваімі саламянымі стрэхамі. Валянцін Акудовіч слушна назваў гэтую сітуацыю "архіпелагам Беларусь". Затым знікла якая-кольвечы іерархічнасць...

У найгоршую сітуацыю сёння патрапілі тыя, хто не прыбіўся ні да якога берага. Сярод апошніх ці не галоўнай ахвяраю стаўся Анатоль Сыс.

Ніхто з беларускіх паэтаў напрыканцы 80-х не меў такой славы, як трыццацігадовы Толя Сыс. Я й сёння выразна згадваю тое пачуццё, якое выклікаў у мяне Анатоль чытаннем верша "Маналог "Тутэйшага" на мітынгу ў Верхнім горадзе. Як бегалі мурашкі па спіне, перасыхала ў горле, здавалася, усім целам адчуваеш энергетыку пранікнёнага вершаванага слова.

Чытаю вершы "Пацір", "*У гэтай краіне не маю я дому...*", "*Ляцелі ў вырай ветракі...*", "*Спаўзаючы з церня...*", "*Злачынцы брыдуць на споведзь...*", "Дух", "Пан Лес" і выразна чую голас аўтара. Інтанацыю, вібрацыю голасу, характэрны нервовы надрыў, рытм. Нібыта слухаеш гуказапіс. Творчае гарэнне гэткага напалу патрабавала ад паэта асаблівых духоўных сілаў. Адчуваючы да сябе штодзённую хваласпеўную ўвагу, у стане "зорнай" эйфарыі Анатоль безразважна кінуўся ў вір паэзіі, расцярушваючы свае сілы і талент у багемным блудніцтве. Сыс у Мінску нагадваў падсечаную хвою, якая сцякала смалою-паэзіяй. У такім наркатычным стане не думаецца пра заўтрашні дзень...

А гэты дзень прыйшоў. І высветлілася, што за славу не купіш нават бохан хлеба; што слава – уяўная капрызлівая, распусная дзеўка; што сёння паэзія – хутчэй справа святарская, чым карчмарская. (Нездарма Алег Бембель, якога Сыс называў сваім настаўнікам, у свой судны дзень сышоў у манастыр). Паэзіі, як і Богу, трэба слугаваць, змірыўшы сваю плоць і пажаду.

Сысу не было на што абаперціся. Хлопец з Гарошкава ў горадзе мог толькі бавіць час. Бавіць як паэт. Зусім іншага чалавечага і грамадзянскага чыну ад яго патрабаваў найноўшы дзень. Крэйдавы круг прафесійнай літаратуры не дазваляў паэту вырвацца ў жыццё. А жыць пры літаратуры стала немагчыма. У свеце няма такой прафесіі – "паэт". Ёсць Боскае наканаванне, душэўная патрэба, графаманская хвароба, грамадзянскі абавязак. Прафесіі – няма. Гэта бальшавікі па-езуіцку куплялі душы (дакладней, целы) паэтаў і прымушалі майстроў слова, як нявольнікаў на галерах, веславаць у "светлае заўтра", у нікуды,

у беспрасветнасць. Цяжка ўявіць амерыканскага паэта, які б уступіў няхай сабе ў самы аўтарытэтны амерыканскі "Саюз пісьменнікаў" і гэткае "дасягненне" палічыў бы дастатковым, каб жыць і існаваць далей. Калі за мяжою, прадстаўляючыся, я казаў, што маўляў паэт я, вершы пішу, дык мяне абавязкова перапытвалі: "А кім Вы працуеце?" Бо ніхто ў свеце не можа ўявіць, як можна жыць з вершаў.

Вось і "Тутэйшыя" ў свой час паўсталі нібыта супраць "прыкарытнікаў". Аднак, сёння гэта выразна бачна, тэарэтыкамі "паўстання" не былі дакладна расстаўленыя кропкі над "і". "Тутэйшаўцаў" хутчэй не задавальняла якасць савецкай беларускай літаратуры. Гэта была барацьба за месца пад сонцам. Маўляў, мы прыйдзем і навядзём парадак. А парадак не залежаў ад таго, хто прыйдзе. Парадак магла ўсталяваць толькі карэнная рэформа літаратурнага цэха. Светаглядная і арганізацыйная.

Анатоль Сыс, былы лідэр "Тутэйшых", уступіўшы ў СП, патрапіў як муха ў смалу. Ён стаў вязнем містычнага страшнага крэйдавага кола. Як Бажавоўк.

Анатоль Сыс мог толькі пісаць вершы. Геніяльныя вершы. Але нікому яны ўжо не былі патрэбныя. Абсалютна нікому! Толя і з сяброўскім білетам СП заставаўся звычайным вяскоўцам, якога лёс закінуў у чужы няўтульны горад, адарваўшы ад Поля, ад Лугу, ад Лесу, "прыгнечанага каменным горадам, //Разбітага няўдачамі і паўсядзённай мітуснёй, // Раздражнёнага бюракратамі і крывадушнікамі". У горад ён прыйшоў шукаць сваю долю.

Калі сад не даглядаць, ён дзічэе. Калі Святому не слугаваць, Святое перастае быць святым. Талент і паэзія Сыса пачалі прафаніравацца і прапівацца. З дапамогаю шматлікіх прыхільнікаў і сябрукоў, якія віліся вакол Прарока камарэчай, словы і справы паэта пачалі імкліва разыходзіцца. Мір абрынуўся. Слава выпарылася.

*Мне на плячо, калі пануе змрок,*
*сядае сокал з вечнаю высновай –*
*што з Белраусі* (з такой сімвалічнай памылкай надрукавана ў кнізе "Пан Лес". – **А.А.**)

*не сыйшоў Прарок*
*і што з Прарокам ацалела Слова.*

Прарокам на Беларусі заўсёды не шанцавала. Сыс, відавочна, прымерваў да сябе Купалаву славу. Напрыканцы 80-х лёс Купалы яшчэ не выглядаў такім трагічным і безнадзейным. Сыс самахоць выбраў шлях да сваёй Галгофы: "Я сам, я сам прыдбаў яго – гайворана віновай масці."

Летась Анатоль Сыс прыязджаў у Полацак на прэзентацыю чарговага нумара часопіса "Калосьсе". Было балюча на яго глядзець. У Сысавым голасе бясследна зніклі·былыя магнетызм, жарсць, сіла. На другім вершы ён заплакаў. Публіка не ўцяміла, што да чаго, нехта глядзеў на сталічнага госця з агідай. Маё сэрца сціснуў роспачны боль.

Увечары, выпіўшы, ён называў мяне сваім вучнем.
Так, я вучыўся ў Сыса і лічу яго сваім настаўнікам.
Але Паэт даў урок і ўсім нам. Сваім лёсам, сваёй трагедыяй.
А наконт ягонай паэзіі... Памятаеце:

*Але нябесныя вятры*
*Ягоны прах па свеце*
*збяруць, як семя ў макатры,*
*жывой вадой асвецяць.*

*І ўратаваны, з неба Дух*
*зноў сыйдзе чалавекам,*
*зноў будзе жыць сярод падлюг*
*ды іх марыянетак.*

Прыйдзе час, і Дух паэзіі Анатоля Сыса светлым птахам вернецца на Беларусь: "На смерць не трэба апранах – яны сіло для крыл маіх".

А можа, той Дух і не адлятаў? Доўгіх гадоў табе, Анатоль. Дзякуй за вершы і вучобу!

**Алесь АРКУШ**

# Дваццаць гадоў з Анатолем СЫСАМ

## ШТО БЫЛО...

У гэтым снежні будзе дваццаць гадоў, як Анатоль Сыс, прыехаўшы ў Каралішчавічы на семінар маладых літаратараў, трапіў у жыццё, да якога імкнуўся, як імкнецца трава праз асфальт да сонца. Але, як вядома, прабіўшы асфальт, трава трапляе пад ногі Сабак і Грažданоў і ад травы мала што застаецца. Так адбылося і з Сысам. А тады...

Мы ўсе былі маладыя і "чушь прекрасную несли..." Уладзімір Арлоў, Алег Мінкін, Леанід Галубовіч, Мікола Мятліцкі, Павел Шруб, Уладзімір Саламаха, Алесь Наварыч, Ала Канапелька, Міхась Барэйша, Алесь Жыгуноў, Уладзімір Ягоўдзік, Анатоль Шушко, Васіль Сахарчук, Людміла Паўлікава, Сяргей Вераціла... На той час сярод усіх гэтых імёнаў Анатоль Сыс амаль нічым не вылучаўся – яго ў Мінску не ведалі. Пара вершаў у "Чырвонай змене" і, здаецца, больш нічога надрукаванага. На семінары ў Сыса, акрамя вершаў, з сабой быў нейкі дзесятак пародый, якія вялікага ўражання ні на кога не зрабілі. Тады быў час Леаніда Галубовіча. І Анатоль часцей за ўсё сядзеў у сваім пакойчыку, у які неяк зазірнуў і я. Пазнаёміліся. Сыс чытаў вершы і ўсё ўспамінаў, як гомельскія хлопцы задурылі яму галаву, што, каб друкавацца, трэба пісаць як Шніп. У той жа вечар мы абмяняліся адрасамі. У Анатоля быў фотаапарат, і мы сфатаграфаваліся на памяць.

Пасля семінара я кінуўся ў ліставанне з новымі сябрамі. Найбольш лістоў ад Галубовіча, напалавіну меней – ад Сыса. Асабліва перапісваўся з Анатолем,

калі ён служыў у войску ў Польшчы. Сыс дасылаў мне свае вершы і пароды, а я іх разносіў па рэдакцыях. Тое-сёе было надрукавана, але большасць, як кажа Сыс, "праляцела". Даслаў быў з Польшчы Анатоль і сваю паэму "Алаіза" з просьбай паказаць Алесю Разанаву. Аднёс. Але безвынікова – нідзе не ўладкавалі. Да ўсяго, так ужо атрымалася, пазней я знаёміў Сыса з Разанавым, з Глобусам, з Мінкіным... Пра ўсё гэта ў мяне запісана ў дзённіку, таму тое-сёе працытую.

*"10.1.1985.* Зайшоўся да Глобуса ў майстэрню над "Кнігарняй пісьменніка". Ад Валодзі даведаўся, што ў Мінск прыехаў Сыс і шукае мяне. Цяпер найшоў у Палац мастацтваў паглядзець выставу. Я ўслед. На выставе людзей было няшмат. І Толя адразу мяне пазнаў, а я яго з цяжкасцю, бо апошні раз бачыліся яшчэ да Толевай службы. Сыс прыехаў шукаць працу. Я пазваніў на тэлебачанне, дзе даведаўся, што ёсць месца. Сыс дамовіўся наконт працы, і мы пайшлі ў выдавецтва. Па дарозе чыталі вершы, а пасля – і ў выдавецтве. Нікуды не заходзілі, а гаварылі пра паэзію. Шмат што Толю ўва мне не спадабалася. Выйшаўшы з выдавецтва, на вуліцы я заўважыў Бембеля, дагналі, і я пазнаёміў яго з Сысам. Разам пайшлі ў Цэнтральную кнігарню, а пасля ў сталоўку, перакусілі. Пяшком прайшлі да плошчы Перамогі. Сыс пачытаў нам вершы. Алегу найбольш спадабаўся верш пра Хрыста..."

*"23.1.1985.* Дома чакала запіска ад Станіслава Валодзькі. Сустрэліся ў дзве гадзіны. Зазірнулі на філфак, дзе Мазго пазнаёміў нас са Скоблам... У сталоўцы са Стасем сустрэлі Сыса. Тое-сёе купілі, і я навёз Анатоля знаёміць з Тамарай Чабан і Яўгенам Гарадніцкім... Сыс дабравата павучаў Стася, што я нават баяўся, каб не пабіліся..."

За́пісаў у маім дзённіку шмат. Але нават па гэтых бачна, як мы на той час цягнуліся адзін да аднаго. Не магу не ўспомніць, як Сыс падрыхтаваў рукапіс кнігі і захацеў, каб хто яго пачытаў. Вырашылі, што наглядзіць Глобус. Аддалі. Праз тыдзень зайшлі да Валодзі ў майстэрню. І Глобус сказаў: "Давайце выйдзем з-пад зямлі, бо будзе сур'ёзная размова... Шніпу можна прысутнічаць?" Сыс дазволіў. І мы, выйшаўшы на вуліцу, селі на лаўку. Глобус доўга "разбіраў" Сыса. З усяго рукапісу (будучага "Агменя")

Глобус пахваліў нейкую пару вершаў. Сыс заплакаў... Пазней мне Глобус казаў, што рукапіс вельмі сыры і слабы, а да ўсяго – з Сыса нічога асаблівага не будзе (выдасць пару кніжак, і ўсё) і закончыць ён вельмі дрэнна...

**ШТО ЁСЦЬ...**

Ёсць паэт Анатоль Сыс. Ёсць дзве кніжкі Анатоля Сыса, якія даўно многімі не перачытваліся, таму мы жывём той першай сустрэчай з яго паэзіяй. На жаль, Сыс застаўся там, у канцы 80-х і ў пачатку 90-х гадоў. Ён герой таго часу. Сёння іншыя героі і іншыя чытачы, якія не ведаюць Сыса. А Сысу ўсё здаецца, што яго ўсе ведаюць. А ведаем яго толькі мы, яго сябры і знаёмыя, і ведаем яго ўжо дваццаць гадоў... І ўсё ж у Анатоля яшчэ ёсць талент, каб не толькі сказаць, што нехта пралятае, а нехта застаецца, але і напісаць тое, што можа напісаць толькі ён. А Сыс можа!

**ШТО БУДЗЕ...**

Будзе Анатоль Сыс...

**Віктар ШНІП**

# Слёзы, слёзы, слёзы...

Упершыню я пабачыў яго на адной з домлітаратараўскіх вечарын.

“Не хадзіце за мной, не хадзіце”... – гучала са сцэны. А потым былі воплескі, быў ліст з вершам, кінуты аўтарам у залу...

Усё гэта – уражанні ад вечарыны, павага, з

 





якой да творчасці Сыса ставіліся сябры па літаратуры, – стварала для мяне вобраз паэта-прарока, паэта-перайма́льніка "першародства". І, відаць, ён (гэты вобраз) не надта адрозніваўся ад таго, якім бачылі Сыса многія і многія, якім Сыс хацеў быць убачаны сам: "Ніхто ад Купалы не пісаў гэтак, як я".

Помню, як я здзівіўся, калі адкрыў для сябе, што тую ж сысаўскую інтанацыю, энергетычны запал можна запоўніць іранічным зместам:

*Не хадзі на завод!*
*Там рагоча*
*страшэнны рабочы.*
*Не хадзі на завод!* –

і сарваць апладысментаў не менш за самога Сыса ў росквіце ягонай славы. Але гэта ніколькі не азначала, што да яго творчасці я пачаў ставіцца з нейкай іроніяй ці зайздроснай насмешкай. Наадварот, ніколькі не зайздросцячы Анатолю, я цягнуўся да свету яго паэзіі. Асабліва сугучным у творчым плане Сыс для мяне стаў недзе зімой 95-га. У хуткім часе адбылося і асабістае знаёмства. Спачатку, ужо не памятаю з якой нагоды, была сумесная п'янка ў домлітаратараўскім бары: Сыс, Наталка Кучмель, Віця Сліпко і я. Не магу згадаць, пасля якой чаркі я "расклеіўся", помню толькі: Наталка і Віця (ён піў толькі лімапад) вядуць мяне пад рукі, а я – плачу. Уголас, не зважаючы на людзей.

Потым пілі ўжо па кватэры ў Анатоля. Чамусьці яму запомнілася тое, што адбылося ў бары. Сыс распытваў мяне аб працы, бацьках. А потым папрасіў пачытаць вершы. Я прачытаў два, на той час апошнія. Як мяне ўразіла, што Сыс заплакаў! "А я ўжо думаў, што пасля мяне на Беларусі не застанецца ніводнага паэта!" На развітанне ён папрасіў у мяне нататнік і пакінуў такі запіс: "Гарачка, будзе *дрэнна* (я вымушаны замяніць слова, але сэнс захоўваю) – прыходзь. Мая хата – твая хата!" І роспіс, што займаў па плошчы ці не палову напісанага.

Былі п'янкі і пасля (пераважна на кватэры ў Анатоля), але нічога цікавага, новага там не адбывалася. Адзінае, што запомнілася, – сысаўскі эпатаж, у якім ён пачынаў рабіцца ўжо смешнаватым.



 

Яго творчасць перастала засланяць усю брыдоту яго паводзін. Але я яшчэ не мог пагадзіцца з Галубовічам, што вось пройдзе пяць-дзесяць гадоў, і Сыса забудуць.

Потым, так здарылася, некалькі гадоў мы бачыліся толькі ўрыўкамі, можна лічыць, адно віталіся. Сыс цалкам выпаў з поля маёй увагі. Знаёмыя калі і ўзгадвалі пра яго, дык толькі ў несур'ёзным кантэксце, у сувязі з якой-небудзь "прыгодай".

Зноў мы сустрэліся ў тым жа Доме літаратара. Прывітаўшыся, ён прапанаваў сесці разам. Чамусьці ў першым радзе пасярэдзіне. Да пачатку вечарыны яшчэ заставаўся час, і мы гаварылі пра паэзію. Але Анатоль перавёў размову на іншае: "Ці ёсць у цябе грошы, каб дакласці на бутэльку?" Я адмовіў. Тады Сыс са словамі: "Ну і сядзі, глядзі свой канцэрт", – ужо падняўся, каб сысці. Але на хвіліну спыніўся: "Чытаў я і цябе, і твайго Слінко – не ўмееце вы пісаць".

...Вечарына падыходзіла да канца. Чарговы "першацветавец" прачытаў вершы, і зала, даволі стандартна выказаўшы сваю рэакцыю, ужо сціхала. У гэты момант я ўбачыў, як недзе з першых радоў падымаецца Сыс. Ён некалькі разоў ляпае далонню аб далонь, і чарговы раз гучаць даўно змярцвелыя словы: "Я пла́чу!"

Творца, у прыватнасці паэт, – сам па сабе нішто. Ён, часта таго не заўважаючы, гаворыць ад імя нейкага свету. (Мне здаецца, што ніколі нельга сказаць: той ці іншы свет створаны адно творцам і больш нікім.) Паэт – толькі "вусны" нейкага "арганізма". Але, з другога боку, і асаблівасцямі вуснаў ці галасавых звязак вызначаецца якасць прамоўленага. "Вусны" – таксама ж частка адзінага "арганізма", свету. Знікае свет (ці, калі хочаце ў іншай тэрміналогіі, памірае арганізм) – змаўкаюць "вусны". Можна, канечне, паспрабаваць яго рэанімаваць, ажывіць, але прамоўленае нежывым – ніколі не будзе паўнакроўным, ранейшым. Я сустракаў толькі адзінкавыя выпадкі, што нехта (нейкі творца) пасля смерці першага сусвету-"арганізма" змог стаць "вуснамі" іншага.

Таму тое, што Сыс маўчыць – не дзіўна. Не. Варта чакаць вяртання Сыса-паэта такім, якім ён быў. Увогуле не варта чакаць вяртання Сыса як паэта:

*"Геніі" і "Прарокі". І яшчэ – "Народ".*
*Першыя гавораць: "Я – ваш "Геній".*

*Другія – "Вы – мой "Народ".*
*Другія вядуць і выводзяць гэты самы "Народ".*
*Першых, як дзяцей, саміх трэба несці на руках.*

Так, "Генії" – як дзеці людскія. У іх і заганы, і хваробы ў многім падобныя на бацькоўскія. "Генії", як і "Народ", аддаюцца п'янству, ляноце, славалюбству. Калі б на такое спакусіўся "Прарок" – разам бы рухнула ўсё тое, што ён "трымае", "нясе", згубілася б тое, куды ён вядзе. Згубілася б і сама дарога.

Не, Сыс – не "Прарок".

"Геній" жа – упрыгожанне, аздоба.

Навошта "пеўнік" ці надваконныя "галубкі", калі няма дома?

Але я не сказаў і не скажу: "Навошта нам Сыс?"

Як і не скажу, што Сыс – "Геній".

Для мяне Сыс – той калодзеж, які на нейкім этапе мог жывіць беларускасць: многім ён дапамог выжыць менавіта беларусамі.

Але каб ісці далей – нам патрэбны іншыя людзі.

А тое, што "Прарок" прыйдзе паэтам, – гэта прыгожая беларуская казка.

**Усевалад ГАРАЧКА**

# Напаўпрыдушаная свабода

Анатоль Сыс – паэт. Астатняе, як нейкі дзіўны дадатак. У ягонай паэзіі пераняляліся традыцыйнае і сучаснае. Ён адзіны з літаратараў сярэдняга пакалення, хто можа залічыць сябе да прасторы перформанса, магчыма і не здагадваючыся пра існаванне гэткай. Але тым не менш Анатоль Сыс фактычна стаіць побач з Алесем Пушкіным, Людмілай Русавай, Ігарам Кашкурэвічам:

*Белую гадзюку*
*на чырвоны кут,*
*чорную гадзюку*
*на ганебны слуп.*

**("Чорная гадзюка, белая змяя".**
**Кніга "Пан Лес", 1989.)**

Так, сапраўды, ёсць у Анатоля Сыса нешта агульнае з вядомым расійскім паэтам Аляксандрам Брэнерам. Паэзія – на фоне буйнамаштабнага эпатажу.

Ведаю, што Сыс унутрана ніколі "не пераварваў" Бум-Бам-Літ, бо пабачыў у гэтай з'яве смерць уласнага эгацэнтрычнага радыкалізму. Так, прынамсі, падаецца многім сябрам і ворагам прасторы крызіснага постмадэрну.

А колькі плётак і міфаў стварыў вакол сябе Анатоль Сыс!.. На маю думку, гэта цалкам натуральна. Паэт заўсёды павінен быць на вастрыні надзеяў – калі не на амбразуры, дык хоць на барным століку. Паэзія – рэч самадастатковая, але ў XXI стагоддзі яна шпацыруе ў тандэме з іншымі відамі мастацтва. Відарысы радкоў паэт Сыс аздабляе сваім дэбошным існаваннем. Хто не ведае пра вечарыны народнага паэта Ніла Гілевіча, на якіх амаль заўсёды ўзнікае цень Анатоля Сыса? І марна "ахоўнікі" выносяць цела Сыса з залы, ягоны дух зноў і зноў паўстае з небыцця і заяўляе: "Мы з Нілам – народныя паэты!", альбо "Ніл, ты мой Ніл", альбо "Я – сын Янкі Купалы і брат Максіма Багдановіча".

Адзін з апошніх учынкаў Сыса на маёй памяці адбыўся падчас пасяджэння Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў... Літаратары нешта абмяркоўваюць, і раптам гучна расчыняюцца дзверы... і ў праёме ўзнікае вялікая карціна, зробленая алеем, а голас паэта Сыса паведамляе: "Андруша, я табе карціну прынёс" (маецца на ўвазе А.Федарэнка). І далей урываецца сам Сыс, якога ледзь-ледзь трывае міліцыянт пры поўным узбраенні. Але выцягваюць цела паэта, пасяджэнне Рады працягваецца. Узгадваць падобныя акцыі можна да бясконцасці. Аднак услухайцеся ў гэтыя словы:

*Ніхто не мае права біць паэта,*
*ён нават сам не вольны над сабой,*

*магчыма, ён адзіны на паўсвета,*
*а вы за ім, нібыта за гарой.*

**(“Паэт”. Кніга “Пан Лес”, 1989.)**

Анатоль Сыс – паэт. Можна яго крытыкаваць і не крытыкаваць, заўважаць і не заўважаць. Але ён ужо накінуў многа добрых паэтычных радкоў і міфы, легенды, без якіх нам было б вельмі сумна. У ягоных наводзінах часам праглядаюцца жахлівыя моманты і непрыхаваны брутал. Напэўна, яму можна дараваць шмат, абы з гэтага не прыходзіла гора ў хаты. Няхай лепш усё скончыцца двума апошнімі паэтычнымі радкамі кнігі “Пан Лес”: “Дзе прарасла трава – разбурыць брук//і вызваліць чаканага Прарока”.

**Зміцер ВІШНЁЎ**

# “Прабач, паэт, прабач, расстрыга...”

**П**асля інтэрв’ю з Анатолем Сысам амаль тыдзень не магла гаварыць... Сказаць па шчырасці, гаварыць перастала ўжо падчас размовы з ім. Падрыхтаваныя пытанні ў адначассе здаліся мне недарэчнымі, штучнымі, занадта прывязанымі да сённяшняга моманту, да літаратурнай сітуацыі. Рыхтавалася пачуць думкі пра ўсіх і ўсё, а пачула сціплае: ”Я не ведаю нічога, што магло б быць цікавым іншым...” Ён доўга адмаўляўся ад гутаркі, і тады я скарыстала апошні аргумент: “У цябе ж выходзіць кніга, гэта ж мажлівасць яе разрэкламаваць, раскруціцца..." На яго твары адбіліся здзіўленне і шкадаванне: так, напэўна, глядзяць на тых, хто спрабуе танчыць каля бацькавай труны. І мне стала сорамна за сябе і за той час, які зрабіў мяне саўдзельніцай злачынства – разбурэння сапраўдных каштоўнасцяў.

Часта чую: у трагедыі Сыса вінаваты толькі ён сам. Нікога не заклікаю каяцца, але вымушана зрабіць гэта сама... У бары Дома літаратара праходзіла паседжанне "Тутэйшых", на якім абмяркоўвалася, як гэта ні дзіўна зараз згадваць, рэстаўрацыя храмаў, што стаяць на Нямізе. Сыс, які сядзеў у кутку каля акна, быў радыкальны і прамалінейны, што чамусьці раззлавала мяне, і я выступіла супраць яго. Здалося, што ён толькі гэтага і чакаў, бо ўстаў і сказаў, што стаміўся ад "Тутэйшых" і бярэ адпачынак на год. У хуткім часе суполка распалася сама сабой і "вяртацца" ўжо не было куды. Ведаю, што не ўва мне была справа, але і да гэтай пары сорамна за свой дзіцячы ўчынак. Па-за ўласным жаданнем я пашырыла кола самоты, у атачэнні якой жыве паэт, нягледзячы на шматлікасць сваіх уяўных і сапраўдных сяброў.

Мажліва, гэтае пачуццё віны і падштурхнула мяне тады напісаць пра Сыса. Артыкул так і не быў надрукаваны – у нейкі момант здалося, што пра яго і так многа гавораць, а спяваць у агульным хоры мне ніколі не падабалася. Гэта цяпер я ўсведамляю, што існуе вялікая розніца паміж застольнымі дыфірамбамі і надрукаваным аналітычным аглядам. Тады ж здавалася, што яму хапае ўвагі і без мяне – як быццам у гэтым свеце можна атрымаць хоць чаго-небудзь дастаткова!

З таго, што пісалася тады пра Сыса, запомнілася хіба што рэцэнзія С.Кавалёва ў кнізе "Як пакахаць ружу". Перачытваючы яе, дзіўлюся нават не таму, што напісаў крытык, а шчырасці, якая была нормаю адносінаў. Сыс і Кавалёў былі паплечнікамі, сустракаліся не толькі на "Тутэйшых", але і ў жыцці, хоць сябрукамі іх не назавеш. Хутчэй добрыя знаёмыя... Але сяброўствы, знаёмствы, агульныя справы не мелі тады той улады над крытыкамі, як сёння. Рахунак быў "гамбургскі" – маркуйце самі.

"Калі нябачная прысутнасць гісторыі ў большасці вершаў А.Сыса ўзмацняе іх унутраны змест, то вершы "спецыяльна-гістарычныя" нічым, акрамя патрыятычнага пастрою, пакуль не вылучаюцца і з мастацкага боку зусім бездапаможныя. Яны нагадваюць нейкія публіцыстычныя лозунгі, зарыфмаваныя і пакладзеныя на адзін з памераў дзеля "прыгожага" гучання і дзеля магчымасці выказацца на гэтую тэму ў

друку. Празмерная патэтыка, бразганне мячамі, адсутнасць мастацкай глыбіні – характэрныя прыкметы такіх вершаў...

Большай, куды большай працы над словам патрабус гістарычная тэма!" ("Метро ля замчышча, альбо Талент на раздарожжы".)

"У першым зборніку А.Сыса нямала выпадковых вершаў (напрыклад, уся нізка "Вочы маленства"), трапляюцца сям-там павярхоўныя думкі ("Гэты свет – для размену манет..."), няўдалыя, эстэтычна брыдкія радкі (накшталт гэтых, з маналогу Зміцера Жылуновіча: "Як пазашлюбны плод, свае хаваю думы..."), шмат пралікаў у эксперыментальных "а-ля-разанаўскіх" паэмах "Алаіза" і "Агонь-птушка". ("За шыльдай поспеху".)

Гэтыя заўвагі былі зроблены тады, калі Сыс знаходзіўся на піку папулярнасці, а яго кніга "Пан Лес", як і прадказваў яшчэ да яе выхаду сам паэт, сталася "праграмнай кніжкай для кожнага беларуса". Той жа С.Кавалёў, нягледзячы на даволі жорсткія як на сённяшніх мерках патрабаванні, бачыў, як і ўсе мы, у Сысе прарока, вешчуна, у чыіх вершах выспявала ідэя новага нацыянальнага адраджэння. І сёння, вяртаючыся ў тыя часы, становіцца зразумелым не толькі тое, чаму паэт такога ўзроўню перастаў пісаць вершы, але і тое, чаму так мала цікавіцца сучаснай літаратурнай моладдзю Кавалёў – занадта высокую планку мастацтва ўзняло ўсё гэтае пакаленне.

Апошнім часам часта чытаю, што "Тутэйшыя" не зрабілі ўнёску ў літаратуру – быццам занадта мізэрная колькасць тэкстаў была тады надрукаваная. Што праўда, то праўда – было не прынята друкаваць адны і тыя ж творы па дзесяці розных выданнях, лічылася непрыстойным ганяцца за таннай папулярнасцю. Як бы ні апускаўся Сыс, але наўрад ці пагадзіўся б ён змясціць свае вершы ў часопісе для геяў і лесбіянак, як робяць гэта сённяшнія маладыя літаратурныя лідэры. Я не супраць гомасексуалістаў – я супраць засілля "палавой" паэзіі, ад якой смярдзіць кроўю і спермай:

*Хто плюе на жанчыну –*
*той нелюдзь плюе на радзіму,*
*хто гандлюе святыняй – той маці сваю прадае, –*

згадваю гэтыя радкі кожнага разу, калі чую, як малады "слуп Бум-Бам-Літа" чарговы раз абʼяўляе са сцэны: "А зараз я вам пачытаю свае жанчынаненавісніцкія вершы..." Ім бы – сённяшнім – па вершыку ўзроўню Сыса, і лічы, што пакаленне адбылося б:

*о якая гэта асалода! –*
*калі абуджаецца ўва мне*
*мова скандынаваў*
*мяккая і белая*
*як поўсць белых мядзведзіц*
*таямнічая*
*як паўночнае ззянне*
*павольная*
*як жанчына цяжарная*
*а КАЛЕВАЛА – слова якое!*
*нібы сэрца варухнулася*
*КАЛЕВАЛА*
*гэта ранкамі туманнымі*
*яблыні адтайваюць, –*

гэта радкі са "слабой" паэмы "Агонь-птушка"! Тут Сыс нетыповы, а дакладней – не такі, якім тады хацелі яго бачыць... Ён здаваўся сцяной, за якой мы маглі вырашаць свае дробныя утылітарна-мастацкія праблемы, выяўляць свой розум ці эстэтычны густ. Ён гаварыў за ўсё пакаленне, і нікому не прыходзіла ў галаву аспрэчыць яго велікадушнае "мы":

*Беспадстаўныя папрокі:*
*быццам мы не галадалі,*
*быццам нам жывецца лёгка –*
*хлеба нават не аралі...*

*Так скажу:*
*ару я мову,*
*І бывае, ў непагоду*
*стынуць вусны, мёрзнуць словы,*
*я з хатолкай – год галодны.*

# Ты

Спрэчкі ў "Тутэйшых" – якой павінна быць паэзія – сталі вынікам супрацьстаяння двух творчых лагераў. Адзін ачольваў А.Глобус, а другі... Другім лагерам быў толькі Сыс, бо калі разабрацца, не мелася сярод яго сяброў і паплечнікаў нікога, хто быў бы роўны яму па таленце, хаця б і напалову. Не было і не з'явілася дагэтуль таго, хто мог бы стварыць паэтычныя маніфесты не для сябе, а для краіны:

*Паэт не мае права быць паэтам*
*цнатлівае і чыстае красы,*
*калі ў Айчыне загніваюць рэкі*
*і засыхаюць на вачох лясы.*

Мажліва, нехта адмахнецца – "агітка"! І сапраўды так. Праўда і тое, што некаторыя, як я напрыклад, хадзілі ў свой час на мітынгі Сыса паслухаць. Хто сёння можа прымусіць слухаць сябе без мегафона?

Толькі зараз становіцца зразумелым, што тады, у сярэдзіне 80-х, адбылася паэтычная рэвалюцыя. А тое няўцям'е, хаос, у якім мы апынуліся сёння, – яе наступствы, бо ўсе рэвалюцыі разбуральныя. Некаторыя папросту здрадзілі сваім ідэалам, а цяпер матляюцца, як... кветка ў пельцы, шукаючы духоўнага апірышча. Некаторыя апраўдваюць сваю інертнасць тым, што мастацтва быццам бы не крык, а шэпт, і шэпчуць, шэпчуць нешта сабе на вушка, здзіўляючыся, чаму няма розгаласу, чаму маўчыць крытыка. Некаторыя, як Сыс, п'юць. Вось толькі чаму п'е Сыс, я магу зразумець, а чаму іншыя – не. Мажліва, Сыс адзіны, каго я ніколі не асуджала за п'янства, хоць не магу сказаць, што мне даспадобы яго п'яныя дэбошы:

*Я аддаў сябе! Хіба за гэта судзяць?*

Сваім паэтычным агнём ён спрабаваў сагрэць іншых, а згарэў сам. Ён крычаў, каб абудзіць, а дакрычаўся да нематы. Здавалася, што ён жыве і гаворыць за ўсіх, але не змог пакуль пражыць і сказаць за сябе... Мажліва, выгукаўся дарэшты. Пустата, што ўтварылася ўнутры яго, патрабуе напаўнення. Гарэлка – вогненная

 





вада – якое ўсё-ткі сімвалічнае яе з'яўленне ў аўтара вершаў "Як я прадаў сябе агню", "Агонь", "Неапаленая купіна", паэмы "Агонь-птушка", у таго, хто сваю першую кнігу назваў "Агмень"!

Калі толькі збіралася пісаць пра Сыса, хацела згадаць пра трагедыю нешматлікіх таленавітых беларускіх алкаголікаў (іх няшмат, таленавітых, хоць "закладваюць" многія)... Падзялілася думкаю з маладым, але раздзьмутым прэсай паэтам. І ў адказ пачула: " Гэта ж і я моцна выпіваю!" Ну як тут не згадаць Сысава "некаторым хоць за с... ушчыкнуць – абы далучыцца да вечнасці!" Вось толькі славы Сысавай хочацца, а аддаць сябе, як ён, людзям – кішка слабая.

Анатоля Сыса часта называлі прарокам – хоць у жыцці ён яўна не дацягваў да створанага ім паэтычнага вобраза. Астатнім, можа, і не атрымалася, а сабе дык дакладна напрарочыў:

*Ты адзін, ты адзін, ты адзін,*
*ты застаўся адзін на Славяншчыне,*
*і Радзіма твая, паглядзі, –*
*русакосая Янычаршчына.*
*А калісьці ты гаварыў,*
*а калісьці ты нават кляўся:*
*не патухне Зніч на Гары!*
*Ён патух. Ты яму пакайся...*

"Ты пакайся за свой спакой, што зубамі не грыз вяроўку..." Можа некаторыя з нас і каюцца, бо даюць паэту капейчыну на гарэлку. Вось толькі не за Сысаву выпіўку яны плацяць, а ад сумлення свайго адкупляюцца. Плацяць за тое, што не могуць узяць з рук яго агонь, за тое, што ўтульна ім жывецца. Заўважце: чым лепшы, мацнейшы пісьменнік, тым хутчэй ён вызваляецца ад Сысавага аброку.

Дзесяць гадоў таму здавалася, што вершы Сыса – даніна адраджэнскай хвалі, даніна часу. Сыйдзе хваля – і няма паэта. Выявілася, што час наш беларускі спыніўся, і вершы яго – навырост, яшчэ і пры ўнуках нашых актуальныя будуць. І хочацца спадзявацца, што спраўдзіцца і другое прароцтва Паэта:



 

*Ды, зганьбаваны сотні раз,*
*зняевечаны натоўпам,*
*Ён прыйдзе ў самы горшы час*
*сваім адвечным тропам*

*да тых, хто выплюнуў душу,*
*хто ў паднябесных храмах*
*блюзнерствам замяніў імшу,*
*а Святароў на Хамаў.*

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

# СЫС

*(Нататкі пра тутэйшага паэта)*

Ад адной згадкі пра Анатоля Сыса можна захмялець.

***

З Сысам мяне знаёміць Шніп. Завочна. Толік дасылае з войска вершыкі Шніпу. Той ходзіць і паказвае. Мне Сысава паэма пра Цётку не падабаецца. Пра гэта яму кажу пры першай сустрэчы ў скверыку, каля стадыёна “Дынама”. Сыс яшчэ не пакутуе на зорную хваробу, заўвагі ўспрымае.

***

Ёсць у чалавека такая здольнасць, як параўноўваць адно з адным, а ёсць яшчэ здольнасць блытаць аднаго чалавека з другім. Часам мяне блытаюць і параўноўваюць з Сысам. І большасць параўнанняў – не на маю карысць. Сыс — геній, пакутнік, душа-чалавек. Сыс чуе адваротнае. Глобус — заможны, жыве як хоча і піша што захоча. Здатнасць людзей падштурхоўваць іншых да сваркі і

бойкі раздражняе. Імкнуся не рэагаваць, не атрымліваецца. І ў Сыса не атрымліваецца.

***

Першы раз б'юся з Сысам каля прыёмнай першага сакратара Саюза пісьменнікаў Ніла Гілевіча. Я рыхтую дакументы Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя" і разам з паэтамі Сцяпанам і Шайбаком прыношу да Гілевіча, які, між іншым, за вочы называе Толіка не Сыс, а Шыз. Перад прыёмнай немаведама адкуль узнікае Сыс. "Куды гэта вы сабраліся?" "Дакументы нясём". "Дай я гляну", — Сыс спрабуе выхапіць у мяне тэчку з паперамі. Не даю. Мы счэпліваемся і валімся на падлогу. Сыс пасля войска здаровы, як мядзведзь. Сцяпан з Шайбаком нас раздзіраюць. Да Гілевіча ідзём разам. Таварыства "Тутэйшыя" набывае больш-менш легальны статус.

***

Бард Сокалаў-Воюш на паседжанні "Тутэйшых" абвяшчае: хто з Толікам вып'е, таму ён не падасць рукі. Заяўляе такое, маўляў спойваюць тут Сыса, і з'язджае ў Амерыку. Сыс як піў, так і п'е. А каму патрэбен той заакіянскі поціск? І ўсе ў ахвотку п'юць з Сысам. Ён п'е з усімі, але застаецца самотны...

*Я змярцвеў,*
*хоць чуў вакол прамовы*
*пра каханне, адраджэнне, мову,*
*тосты за Радзіму...*
*ўсё адно*
*за самоту піў сваё віно,* –

прызнаецца Анатоль у сваім вершы "Самотны".

***

У вершах Сыса цячэ алкаголь. Дакладна. Але ў голасе Толіка той алкаголь утрая мацнейшы. Сыс чытае вершы дзіўным шаманскім, лацінаамерыканскім голасам. У выкананні Анатоля вершы Алеся Аркуша слухаюцца, як геніяльныя. А заўважаю

я прыродную якасць падчас чытання вершаў Таццяны Сапач. Дзякуючы артыстызму і голасу Толік можа газетнаму тэксту надаць значнасць эпічнай паэмы.

***

Літфонд выдзяляе грошы на падрыхтоўку зборніка "Тутэйшыя". Грошы атрымлівае Сыс. Рыхтуе-рэдагуе зборнік Сяргей Дубавец. У фае Дома літаратара здараецца сварка. Сыс мусіць перадаць грошы Дубаўцу. Але Сыс ёсць Сыс, грошы аддае, але пачынае ставіць умовы. Тое трэба так рабіць, а гэтае – гэтак. Усе кажуць, ды супакойся ты, Сысяра, Дубчык зробіць добра. Не супакойваецца, распаляецца, абразы вярзе на Дубаўца. Той выцягвае з кішэні пачак грошай, шпурляе іх у чырвоны сысаўскі твар і ціха так гаворыць: "Ды задавіся ты гэтымі грашыма. Мы зборнік, калі на тое пойдзе, у Лондане выдадзім, і без цябе". Рублі я збіраю і ўсоўваю Дубаўцу. Зборнік выходзіць у Мінску. Пачынаецца ён вершам Сыса, але не Анатоля, а Сержука...

*Ноч. Павуцінне сноў.*
*Дзень. Павуцінне спраў.*
*Скажаш, нібыта ўкраў*
*Некалькі нечых слоў...*

***

Сыс дастае з кішэні пачак аматарскіх фотакартак. На бляклашэрых паперках можна, калі захацець, пабачыць голых цыцкастых дзевак і плячыстых хлопцаў, якія забаўляюцца каля грузавіка на беразе шырокай рэчкі. Здымкі рабіліся на Сысавай радзіме, у Гарошкаве, на беразе Дняпра. "Добра вы ў сваім Гарошкаве час бавіце. Хацеў бы і я далучыцца", — жартую. А Сыс на поўным сур'ёзе: "У мяне правіла: я да дзевак з жапатымі не хаджу". Ходзіць ці не ходзіць, не ведаю. А я з ім, дакладна, не хаджу.

***

Называць Сыса **Анатоль Ціханавіч** прыдумвае Барадулін. Ён нібыта падкрэслівае Сысаву адметнасць, а з іншага боку,

ведаючы недарэчнасць у беларускай культуры гэтых рыгоравічаў, іванавічаў, васілевічаў, прыкалваецца з Анатоля ў сваім непараўнальным барадулінскім сарказме. Так ён прыдумвае называць улюбёнага Сысава паэта Разанава **самабытным паэтам**.

***

З Богам, з Царквою, з Вераю Сыс вызначыцца не можа, як і ўсе мы — тутэйшыя...

*Я стаю на крыжы беларускіх дарог*
*І·не бачу дзвярэй, за якімі ёсць Бог,* –

кажу я.

*У гэтай краіне не маю я Бога,*
*Ушчэнт разапселі яго святары:*
*дзе церні павінны насіць — носяць рогі,*
*які ж тады Бог, калі служкі — звяры...* –

адказвае Сыс.

***

У бары "Мутнае вока" з жонкай і рэжысёрам Панамаровым адзначаем пачатак экранізацыі п'есы Купалы "Тутэйшыя". Па законах бараў да нас за стол надсаджваюцца нязваныя госці: знаёмы Панамарова і Сыс. Сябрук рэжысёра напіваецца так, што нічога не застаецца, як завесці яго дамоў. Дзякуй Богу, жыве ён побач, на вуліцы Янкі Купалы. Вяртаемся і бачым тузаніну ў кустах. "Гэта ж мая жонка з Сысам б'ецца!" — крычу Панамарову і кідаюся разнімаць. Сысава кашуля падраная на лахманы. "Я табе яшчэ вочы павыдзіраю!" — крычыць мая жонка на развітанне. "А чаго біліся?" "Ён пачаў казаць на цябе розную брыду, што ты з б... гуляеш. Я сказала яму заткнуцца — не затыкаўся".

***

Выпадковая сустрэча з Сысам у пыльным двары. Мінск з тыдзень пакутуе ад спёкі. "Ведаеш, пра што думаю?" — пытаецца

Сыс. “Ну?” “Добра было б мець вядро сухога белага віна. Сядзець у цяньку, каля рэчкі, і ціхенька цадзіць-цадзіць... Як прапанова?” “Не хачу. Віно, а тым больш белае, не люблю. Ды й зараз гадзіна дня. Якое віно?!”

***

На дзень нараджэння Сыса спазняюся настолькі, што гасцей не заспяваю. Закуска, выпіўка і п'яны Сыс на ложку. Выпіваю, закусваю, гавару з імяніннікам. Раптам у Сыса пачынаецца прыпадак агрэсіі. Ён выхоплівае з-пад падушкі пісталет і пачынае раўсці, што застрэліць мяне. Страху не чую. Кідаюся на Толіка і выдзіраю зброю. Ён пачынае выпрошваць цацку назад. Дулю з макам. Сыходжу з пісталетам у кішэні. Пазней зброю даводзіцца вяртаць, бо пісталет не Сысаў, а нейкай рускамоўнай паэткі. Той паэтцы і аддаю цэлафанавы пакет з пісталетам. Вяртаю ў бары Дома літаратара, а выпіць з ёй і Сысам адмаўляюся. Хопіць, навыпіваўся.

***

Іду па пероне. Раптам крык: “Глобус! Глобус! Гэта я — Сыс!” Аглядаюся, на суседнім пероне махае рукамі Толік. “Я да маці на дзень нараджэння еду. У падарунак карціну вязу. Дай пяць мільёнаў на гарэлку!” Сыс саскоквае на рэйкі і бяжыць па шпалах да мяне. Грошы даю, са шкадаваннем ахвярую мільёны.

***

Сядзім, выпіваем — Федарэнка, я і Наварыч. У прайгравальніку круціцца кампакт-дыск “Вольныя танцы. Слухай сваё”. Камоцкая выводзіць песню пра белую лебедзь на словы Сыса. Вочы Наварыча вільгатнеюць, ён змахвае слязу. Вось яны, разбураныя спадзяванні. Кампакт з сумнай лебеддзю дару Наварычу. На мяне песні так не ўздзейнічаюць, а тым больш на словы Сыса. Падман. Кранаюць.

**Адам ГЛОБУС**

# Рэйтынгавы Сыс

Самы масавы і ўдзячны спажывец сучаснай беларускай паэзіі – не яе маргінальны “аматар”, не “профі”-крытык, не апантаны нацыяналіст, не дзівак-правінцыял і нават не настаўнік беларускай мовы і літаратуры, а студэнт, школьнік. Бо ён абавязаны прачытаць, сёе-тое вывучыць на памяць і здаць.

У школьных праграмах ёсць спісы твораў для завучвання на памяць. Я, вораг спісаў, прапаную студэнтам запомніць вершы, якія кладуцца на сэрца. Яны іх самі вышукваюць у зборніках, часопісах, газетах. На іспыце атрымліваю асалоду, слухаючы паэзію, засвоеную, веру ў гэта, з пэўнай доляй шчырасці, і вяду сваю статыстыку. Яна абарочваецца рэйтынгамі сучаснай (за апошнія дваццаць гадоў) беларускай паэзіі, яе аўтараў і твораў.

У адпаведнасці з імі паэтычны цэх можна ўявіць цырульняй, дзе шчыруюць дамскія ды мужчынскія майстры. Да першых без агаворак можна аднесці Я.Янішчыц ды Л.Дранько-Майсюка, да другіх – А.Разанава ды А.Глобуса.

Рэйтынгавы Сыс карыстаецца попытам як студэнтак, так і студэнтаў. Першыя аж млеюць ад верша “Чорная гадзюка, белая змяя”. Мяркую, яны прымяраюць да сябе іпастасі загадкавых Сысавых гераіняў. Мужчыны сувора абіраюць “Маналог Апанаса Філіповіча”, і ніхто не верыць, што ён – пра мінуўшчыну.

Пасля іх самыя рэйтынгавыя вершы А.Сыса – “Паэт”, “Дух”, “Крыжавалі крумкача”, “Маналог “Тутэйшага”.

“Лес” вучыўся б студэнтамі на памяць, каб не быў такі доўгі, затое ён актыўна абмяркоўваецца на

семінарах. Як і "Пацір", апошнія радкі якога выклікаюць ва аўдыторыі лёгкую істэрыю. "Змяінага цара" слухаюць у маўчанні, па якім здагадваюся, што ніхто нічога не разумее, але захапляюцца. Пра верш "Дзікі мёд" студэнты паведамляюць змоўніцкім шэптам.

Асобныя студэнткі, чырванеючы, распавядаюць пра асабістае знаёмства, гутарку або сустрэчу з Анатолем. Большасць такіх бачыла яго ў Доме літаратара падчас вечарынаў. Часам пасля такіх паведамленняў мне даводзіцца тлумачыць прапісную ісціну пра дыстанцыю паміж асобай паэта і ягоным неўміручым тэкстам...

На пачатку маёй педагагічнай практыкі А.Сыс займаў месца ўверсе першай дзесяткі, але штогод сыходзіў на прыступку ніжэй. Сёння ён – яшчэ ў ліку першых дзесяці. Студэнтам не хапае ягоных новых твораў... Што ж, рэйтынг – рэч бязлітасная.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

# Далучэнне да свайго роду

Анатоль Сыс ніколі не быў пачаткоўцам. Апублікаваўшы ў студэнцкай пасценгазеце некалькі эпіграм на "сямідзесятнікаў", сваіх літаратурных папярэднікаў, у якіх дасціпна высмеяў іхні сверб бытаапісальніцтва, ён на дзіва рана вызначыў свой шлях і, як бачна, ніколі з яго не збочваў. Прайшоў яго хутка, упэўнена, бадзёра.

Літаратурная крытыка проста не паспела збіць яго з панталыку, бо ён толькі пачаў сваю паэтычную творчасць, як амаль адразу і закончыў. Выдаўшы адну за адной дзве кнігі "Агмень" і "Пан Лес", змоўк. Надоўга. Назаўсёды. Як Арцюр Рэмбо ў свой час.

Спробы пераключыцца на другі рэгістр, якіяназіраліся ў рэдкіх газетных публікацыях, на час абудзілі надзею і чаканне ў прыхільнікаў ягонага таленту, і толькі. Жыў бы ён у афрыканскай калоніі,

мусіць, займаўся б бізнесам. Але ён жыве ў Беларусі. Незадаволены. Сабой, вядома. Сваёй няздольнасцю прымірыць быт і быццё, існаванне і існасць. Але на гэта не здольная і сама паэзія. Усе яе спробы церпяць фіяска. Не запатрабаваны. А хто з нас, гуманітарыяў, запатрабаваны?

Сваіх літаратурных настаўнікаў А.Сыс таксама выбраў адразу. Хутчэй за ўсё не настаўнікаў, а папярэднікаў, аднадумцаў, калег па пяру. І па векавечнай працы спасцігнуць лёс свайго народа. Гэта, несумненна, Паўлюк Багрым, пра якога паэт напісаў цудоўнае эсэ. Як пра сябе самога ці пра кагосьці духоўна вельмі блізкага. Гэта і багрымаўскае народна-міфалагічнае, глыбінна-трансцэндэнтальнае ў творах Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Уладзіміра Караткевіча, якое трэба разумець як вызначанасць мінулым сутнасці мімалётнага сённяшняга. Катэгорыя будучыні ў яго кнігах адсутнічае. Якая можа быць будучыня, калі паэт апісвае аб'екты, на якіх цямнеюць знакі Апакаліпсіса?

*Плыў белы прывід даўнімі кладамі,*
*і выглядаў прарокаў скрозь дзірван,*
*і вёў іх за сабой над гарадамі,*
*над чорнымі ільдамі ў Белы Храм.*

*І Белы Храм з'явіўся над ільдамі,*
*яго не ашчаслівіў боскі перст,*
*ён не свяціў здалёку купаламі,*
*а Белы Храм – быў чорны хвойны лес.*

Узнавіўшы ў сваіх вершах дысгармонію зямнога свету, А.Сыс самазахоплена шукае і даследуе знакі апошніх часоў, якія іманентна звязваюць яго з самой Вечнасцю. Глыбока асабістае, адчутае ў тым, што некалі перажыў "хлопча малы" ў Паўлюка Багрыма, вопкава прымітыўнае, якраз і выяўляе яго саўдзел у "агульнай справе", калі разумець яе ў значэнні, якое меў на ўвазе рускі філосаф М.Фёдараў. Але абраны паэтам шлях вядзе не ў будучыню, што здаецца натуральным, а ў ягонае мінулае, у памяць пра дзяцінства. Згадваючы радок за радком найбольш уражвальныя эпізоды былога ("Калі я быў малы, дык часта думаў, чаму ў

мяне маці такая старая і непрыгожая, а аднойчы адважыўся запытацца пра яе шнары на твары, якія глыбока ў душы любіў, якія тысячы разоў цалаваў"), ён блізкі да нечаканай высновы, якую, аднак, не пабаяўся ўголас вымавіць П.Багрым: "Будзь здарова, маці міла! //Каб ты мяне не радзіла, //Каб ты мяне не карміла, //Шчасліўшая ты бы была!" Тое, што не дадзена звычайнаму чалавеку, дазволена паэту.

Згадак мінулага (смерць дзеда, бацькі; сумеснага з братам адкрыцця, як "расце сонца"; крыгаходу, "калі зайцы, нібы паяцы, каля рэчкі збіралі народ"; драўляных пацерак, якія, паводле слоў бабулі, згубіла перапёлка, "калі нагнулася расы напіць") надзвычай багата ў вершах А.Сыса, і лёгка ўявіць яго вясковае дзяцінства, падобнае на дзяцінства тысяч і тысяч беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак, пачынаючы ад Апанаса Філіповіча і Паўлюка Багрыма, Язэпа Драздовіча і Алеся Гаруна, Сяргея Палуяна і Рамуальда Жакоўскага. У гэтым свеце беларускай мінуўшчыны рэальнае і віртуальнае, відавочнае і міфалагічнае былі ўзаемазамяняльныя, і цяжка было ўцяміць, што важней. Сам А.Сыс, падобна, так і застаўся блукаць у тым свеце, дзе жывуць крумкачы і ваўкалакі, дзе "поле поле ў німбах сланечнікаў сланечнікаў жоўты жоўты вецер пчолаў лашчыць лашчыць страшна страшна страшна вее вее вее жоўтым жоўтым жоўтым ветрам ветрам ветрам", дзе "самыя вясёлыя і галасістыя салаўі – на вясковых могілках", дзе над усім – Князь-Сонца і Поўня-Князёўна. Дзе, нарэшце, "маці песню мышам спявае пра дарослых сваіх дзяцей".

Аднак мінулае, як і будучыня, не вызначае сэнс існага, хоць вядома, што "наперад вядзе толькі памяць" (М.Бахцін). Сэнс усяму, што было ў жыцці паэта і яго пакалення, надае прымат сучаснасці. "Шкадаванне, якое не хлусіць, – пісаў Жорж Батай, – не паэтычнае шкадаванне; робячыся паэтычным, яно страчвае сапраўднасць, бо тады ў аплаканым аб'екце цікавае ўжо не так мінулае, як само выяўленне шкадавання". Сэнс усяму надае асоба паэта, яго суб'ектыўнасць, ці, кажучы мовай традыцыйнага літаратуразнаўства, творчая індывідуальнасць. А.Сыс пра гэта і ведае, і памятае: "Блудны сын, блудны сын, – разам з сэрцам маім лямантуюць на рэйках колы".

Вось ён вяртаецца дамоў: "Павесіў на шыю нізку абаранкаў,

бацьку купіў катанкі і пешкам, цераз усю Беларусь, іду да Айчыны". Але... як роспачна пытаў яго вялікі папярэднік: "Дзе Айчызна мая?.." Яна там, дзе яго продкі, ягонае дзяцінства: "Бацька, нёс я табе цераз плячо катанкі – не данёс. Сколькі было верставых крыжоў на шляху, столькі сустрэў пакутнікаў. А вы ж самыя ўсё жыццё мяне вучылі: не абміні гаротніка". Сабака Язэпа Пушчы, такога ж вечнага пілігрыма, які шукаў Бацькаўшчыну і заклікаў свайго Жэка сцерагчы родны ганак, адпісваў адрасату аптымістычныя лісты, бо, нягледзячы на роспач, заставалася іскра надзеі на Адраджэнне. Самому ж А.Сысу бліжэй іншы паэт: "І ўночы жудасна хтось выў – Алесь Гарун сабакам быў". Тут ужо – аніякай надзеі, адно адчай і безнадзейнасць.

Паратунак – у мінулым, куды і вяртаецца памяццю Анатоль Сыс, а вярнуўшыся туды аднойчы, ён ужо не здатны вярнуцца назад, у "сёння", ад якога вее распадам і энтрапіяй. Паэт застаецца назаўсёды там, у сваім вясковым дзяцінстве, ад якога так блізка да "залатога веку" беларусаў. Застаецца ў сваіх вершах:

*Ты спявай, ты спявай,*
*ты свяці, ты свяці,*
*рассцялі ручнікі, як сцяжыны,*
*можа здарыцца так, я заблудну ў жыцці,*
*тагды выйду па іх да Айчыны.*

**Міхась ТЫЧЫНА**

 







# Вячаслаў Стома

*Ён узняўся з дна і рашуча паплыў да паверхні. Апушчаныя ў ваду прынады і кручкі-жывадзёры ўдала абышоў. І адразу ўбачыў на вадзе дзве выразныя цёмныя плямы – лодкі. Не разважаючы доўга, рачны велікан падплыў пад адну з іх і ўсім сваім вялізным целам піхнуў угору. Ад магутнага штуршка лодка перакулілася. Людзі, што сядзелі ў ёй, моцна закрычалі і бездапаможна плюхнуліся ў ваду.*



 

Вячаслаў СТОМА

# УЛАДАР ГЛЫБІНЯЎ

*Аповесць*

**Раздзел першы**
*(замест уступу)*

*Небыліца пра сома. – Сёе-тое з біялогіі. Волат у сербскім возеры. – Клопаты аб патомстве. – Чым харчуюцца самы. – Ці варта баяцца вадзянога монстра?*

Якой толькі лухты не пачуеш пра самоў! Многія з пенай на губах будуць сцвярджаць, што на свае вочы бачылі, як сом хапіў з паверхні вады неасцярожнага гусака, вырваў у гаспадыні ў час паласкання бялізну, а то і пацягнуў з берага ў вір вялікага барана...

Вядома, гэта самыя што ні ёсць небыліцы, але нельга сказаць, быццам у іх няма долі праўды. Грозную рэпутацыю таямнічай рыбіне стварылі ў першую чаргу яе незвычайныя памеры і своеасаблівасць будовы цела.

Вонкавым выглядам сом моцна адрозніваецца ад сваіх суродзічаў. Цела яго, вялікае, круглае, крыху прыплясканае знізу, паступова пераходзіць у пляскаты з бакоў хвост, да якога, акрамя хваставога, ушчыльную падыходзіць доўгі анальны плаўнік і цягнецца амаль да сярэдзіны жывата.

Агульная афарбоўка цёмная, ледзь не чорная, з бурым адлівам на спіне, на баках трошкі святлейшая, з дамешкам зеленаватых тапоў і плям, а ў брушной

частцы, якая пастаянна трэцца аб дно вадаёма, скура жаўтаватая ці нават белая, пакрытая блакітнымі і ружовымі крапінкамі. Усё гэта ў спалучэнні з неймаверна вялікай галавой (ледзь не трэцяя частка ўсяго цела), шырачэнным папярэчным ротам, доўгімі бакавымі чэрвепадобнымі адросткамі – вусамі на верхняй сківіцы і дзвюма нарамі карацейшых на ніжняй, – а таксама маленькімі, як бы затоенымі, вочкамі надае сому вобраз нейкага жахлівага страшыдла.

Памеры самоў сапраўды ўражваюць. Ці не самы вялікі экземпляр быў вылаўлены ў мінулым стагоддзі на Одэры. Важыў ён амаль 25 пудоў, гэта каля чатырохсот кілаграмаў.

Яшчэ адзін сом-волат жыў у возеры каля сербскага гарадка Бела-Царква. Возера гэтае ўваходзіць у сістэму з сямі вадаёмаў для развядзення рыбы. Толькі вось усе азёры як азёры, а сюды колькі ні запускалі малявак, яны ніяк не выраcraлі. Абураныя рыбакі і мясцовыя сяляне запэўнівалі, што ў возеры пасялілася пачвара, якая паядае рыбу. Паклікалі іхтыёлагаў, і тыя высветлілі, што ў возеры сапраўды жыве вялізная рыбіна вагой прыкладна 120—200 кілаграмаў. Вырашылі рыбіну злавіць, нават выклікалі спецыяльную брыгаду рыбакоў з Дуная. Пра азёрную пачвару "раззванілі" ў газетах, да возера з'ехалася на машынах больш за дзесяць тысяч цікаўных.

І вось невад закінуты.

Далейшыя падзеі нагадвалі хутчэй спаборніцтва па перацягванні каната, чым рыбную лоўлю. Раптам у адным месцы вада забурліла, і на паверхні паказаўся вялізны сом. Ён на некалькі секундаў замёр, потым зрабіў рэзкі рывок, і на хвалях засталіся толькі шматкі рыбацкай сеткі. Сом выйшаў пераможцам. Гора-рыбаловы засталіся з носам, а турысты святкавалі – іх сімпатыі былі на баку сома.

Такія веліканы, трэба сказаць, трапляюцца вельмі рэдка, а вось двухметровыя самы вагой да сарака кілаграмаў нярэдкія і ў нас, асабліва на Дняпры і ў Нёмане. Праўда, рачныя волаты не дужа ўловістыя – вельмі ўжо хітрыя. У наш час самы вялікі сом, які заважыў трыццаць шэсць кілаграмаў, быў злоўлены ў 1951 годзе на рацэ Нёман непадалёку ад горада Масты. Самоў меншых

намераў можна спаткаць у многіх вадаёмах краіны, у тым ліку і ў азёрах.

Сом вядзе аселы лад жыцця, аддаючы перавагу мясцінам з глыбокімі вірамі і ціхімі ямамі. Тут ён раскашуецца амаль цэлы год, а наогул можа ўсё жыццё трымацца аднаго месца. Толькі на перыяд нерасту самы накідаюць упадабаныя яміны і выходзяць на плытчэйшыя затокі і плёсы.

Нерасцяцца самы, калі вада ўжо добра прагрэецца, – у маі і чэрвені. Самка ладзіць "гняздо", куды і адкладвае ад 10 да 450 тысяч ліпкіх ікрынак. Самец апладняе ікру і ахоўвае яе на працягу трох-чатырох-сутак. За гэты час з ікрынак вылупліваецца жвавая моладзь, якая адразу начынае паляваць, ганяцца за дробнымі вадзянымі насякомымі.

Дарослыя самы кормяцца і чарвякамі, і вадзянымі казюркамі, і малюскамі, але перавага ўсё ж аддаецца рыбам і жабам. Сом выкарыстоўвае як прынаду ўласныя вусы, якімі ўмее варушыць. Закапаўшыся ў пясок, ён ляжыць на дне, цярпліва чакае здабычу. Варта толькі ахвяры падплысці бліжэй, як разбойнік уцягвае ў пашчу ваду разам з дзесяткам дробных рыбінак. Самы таксама ахвотна падбіраюць рэшткі загінуўшай жывёлы. Найбольш вялікія асобіны часам вядуць і актыўнае паляванне: здабываюць з паверхні вады жаб, паядаюць маладняк качак і іншых вадаплаўных птушак, а іншы раз нават могуць напасці на сабаку, які плыве па вадзе.

З сомам жартаваць не варта. Надта вялікія рыбіны могуць быць небяспечнымі нават для чалавека. Так, карыфей паляўнічай справы і рыбалоўства Л.П.Сабанееў у сваім сусветна вядомым "Календары рыбалова" прыгадвае выпадкі, калі асабліва вялікія самы тапілі ў вадзе дзяцей, якія купаліся, але гэта здаралася даволі рэдка і толькі тады, калі вадзянога монстра дужа злавалі.

Ці ж не праўда, цікавая гэта рыба – сом? А хочаце даведацца аб яе жыцці больш дэталёва? Ну хоць бы, напрыклад, пра таго сома, што ўсё жыццё правёў у глыбокім рачным крутаяры і з маленькай нявопытнай маляўкі вырас у магутнага мудрага ўладара рачной стыхіі – паважанага ўсімі воднымі насельнікамі вялізнага плямістага сома? Хочаце? Ну што ж, калі ласка!

## Раздзел другі

*Сомік разгуляўся. – Як палюе стары сом. – Лічынка страказы абараняецца. – Першая здабыча. – Без бацькавай дапамогі. – Калі гуляць няма з кім*

Маленькі сомік так разгуляўся са сваімі сябрукамі-равеснікамі, што ў імклівым віражы выскачыў з вады і плюхнуўся на жоўты разагрэты пясок плёса. Ён спалохана затрапятаўся, выгінаючы цела і пляскаты хвосцік то ў адзін, то ў другі бок, некалькі разоў роспачна падскочыў у паветры, пакуль зноў не скаціўся да выратавальнага ўрэзу вады, і як мага хутчэй даў нырца ў самую глыбіню. Незнаёмы пясчаны бераг яго моцна напалохаў, і бядак цяпер стараўся чым далей ад яго ўцячы.

Калі страх трохі прайшоў, сомік зноў падняўся на паверхню, але набліжацца да плёса ўсё ж асцерагаўся. Пабольвалі пацёртыя гарачым шурпатым пяском бакі, і рухацца было нават цяжкавата. Тады сомік зноў нырнуў на глыбіню, дзе ля вялізнага слізкага карча адпачываў важны бацька, і прытуліўся да яго гладкага цела. Той марудна павёў мяккім шырокім плаўніком і зверху прыкрыў ім зморанае дзіцяня. Сомік заснуў да раніцы, нават не заўважыў, калі вярнуліся "дахаты" яго шматлікія браты і сястрычкі.

Раніцою ад стомы і болю не засталося і знаку, і сомік разам з такімі ж, як сам, шустрымі родзічамі пачаў шукаць, што б ухапіць на сняданак. Малыя непаседы настырна закружыліся вакол строгага сома, патрабуючы ад яго бацькоўскай увагі і клопату. Закапаўшыся на спіну ў пясок, той раз-пораз расчэпліваў вялізную пашчу, так што цэлы паток вады імкліва ўцягваўся ў яе, захопліваючы з дна мноства вадзяных насякомых, усялякай дробнай жыўнасці. Вусаты круцель павольна адцэджваў улоў, шчыльна сціскаючы шырокія мясістыя губы, пасля зноў раскрываў рот, але цяпер ужо паволі, нават асцярожна, пастунова адрываючы верхнюю губу ад ніжняй. І тады ўся сомава дзятва паспешліва мітусілася каля бацькі, скубучы і таропка глытаючы злоўленую здабычу. Некалькі імгненняў – і ад смачнага наедку ані каліва. І

ўсё пачыналася спачатку. Вёрткія жэўжыкі, як па камандзе, кідаліся ўбакі, а стары сом па пейкі момант затойваўся ў пяску і зноў захопліваў у пашчу як мага больш вады.

Толькі гадзіны праз дзве маладыя сомікі наядаліся ўдосталь і адплывалі далей, каб пагуляць ці проста пагрэцца на водмелі. Тады мацёры сом і сам ужо мог заплысці па гальку, дзе вадзілася куды важнейшая здабыча, якая малым была яшчэ не па зубах. Пакуль карміў сваю плойму, у вусатага веліката разгарэўся апетыт. Але бацькавы клопаты дзятву зусім не цікавілі, гэтак жа як праблемы старэйшых не цікавяць часам і пашых дзетак, і сомікі, бадзёрыя і пад'етыя, займаліся сваімі вясёлымі і бестурботнымі гульнямі.

Між тым час ішоў. Разам з братамі і сёстрамі наш сомік хутка падрастаў, іншым разам і сам спрабаваў ухапіць вадзяного цыклопіка альбо павука, але спачатку ў яго нічога не атрымлівалася. Рудзенькі жучок, што падарыўся яму па шляху, хоць і быў маленькі, упарта працівіўся, моцна зачапіўшыся пярэднімі лапкамі за сцяблінку; да таго ж, заглынуць здабычу перашкаджаў слізкі жорсткі панцыр крыльцаў. А калі ад доўгай барацьбы са сваёй ахвяраю пявопытны драпежнік сам прыкметна стаміўся, жучок у дадатак яшчэ балюча казытнуў заднімі лапкамі каля губы, так што сомік вымушаны быў адступіць, і жучок, адчуўшы волю, імгненна знік пад вялікім каменем.

Няўдала скончылася і яго першая спроба памерацца сілай з лічынкай страказы-каромысла. Лічынка не тое што пазбегнула нападу, а нават сама рашуча перайшла ў атаку, пагрозліва растапырыўшы ўбакі вострыя ротавыя пласцінкі. Што гэта небяспечна, сомік ужо ведаў, бо паспеў неяк пабачыць, як такія ж прадаўгаватыя лічынкі, праўда значна большага памеру, смела нападалі на маленечкіх рыбак, лавілі іх і тут жа праглыналі.

На першым самастойным паляванні соміку яўна не пашанцавала. Праблынтаўшыся некалькі гадзін, ён нічым не пажывіўся і вымушаны быў вярнуцца да бацькі, каб той яго пакарміў. Ежы соміку патрабавалася шмат, бо пачынаў ён асабліва інтэнсіўна расці, набірацца моцы. Упрошваць соміка есці не было

патрэбы, ён сам кідаўся да ежы. Так і падрастаў на прысмаках, якія здабываў яму бацька, і адначасова рабіў новыя спробы самастойнага палявання.

Нарэшце пашанцавала! Сярод буйназярністай намытай вадою галькі ён заўважыў вельмі апетытнага чырвонага чарвячка – лічынку камара-званца, якую рыбакі называюць матылём. Сомік спрытна слізгануў паміж каменьчыкаў і знянацку схапіў заспанага чарвяка за таўшчэзны канец. Чарвяк пачаў круціцца і выгінацца ў розныя бакі, але сомік ужо надзейна трымаў яго. Яшчэ некалькі ўдалых рухаў роцікам – і ахвяра заглынута. Сомік святкаваў перамогу. Здабыча аказалася смачнаю, спажыўнаю – аднаго матыля хапіла на полудзень.

Калі есці захацелася зноў, сомік не пасляшаў у звыклае кола сваёй сям'і дзяліць агульны "пірог", які з дня ў дзень нястомна здабываў клапатлівы бацька. Сомік адплыў наводдаль і затаіўся. Здабываць ежу самому было куды цікавей.

Доўга чакаць не давялося. Цяпер ён заўважыў у згустку ціны жвавых хіранамід, якімі часам падкормліваюць рыбак у акварыумах. Малы драпежнік ціхенька падплыў бліжэй, зноў затаіўся, а потым зрабіў рэзкі штуршок наперад. Гэтыя водныя жывёліны слабейшыя за матыля, і сомік без цяжкасці заглынуў адну, а потым яшчэ і другую, якая, уцякаючы, заблыталася ў тонкіх нітачках зялёнай ціны. Ад радасці сомік разгуляўся, абмінуў груду падводных каменьчыкаў, нырнуў пад затоплены выварацень і хацеў ужо ісці ў атаку на большую здабычу, але тут успомніў сутычку з лічынкай страказы і, прыгадаўшы нядобрае, не рызыкнуў.

Есці не надта хацелася, і сомік вырашыў проста пагуляць. У вадзе, прагрэтай сонцам, сяброў не відаць, і гуляць не было з кім. З вядомых прычын сомік яшчэ асцерагаўся падплываць блізка да берага, дзе больш шанцаў сустрэць якіх-небудзь ворагаў, і ён, не асабліва доўга разважаючы, пакінуў месца ўдалага палявання ды нырнуў глыбей у вір, да сваіх суродзічаў.

Дні беглі за днямі, і жыццё соміка рабілася больш разнастайнае і цікавае. Паступова разгадваліся таямніцы, адкрываліся новыя з'явы, прыходзіла разуменне іх, пазнаваўся навакольны свет.

## Раздзел трэці

*Калі пячэ сонца. – Начны гармідар. – Сомік не марнуе часу. – Адпачынак пасля сняданку. – Вячэрні жор. – Дзень за днём*

Сомік, як і іншыя яго суродзічы, вёў пераважна начны лад жыцця. А чаму менавіта так – хто яго ведае? Проста сомік назіраў за паводзінамі старэйшых сваякоў і браў з іх прыклад. Да таго ж, у дзённы час вада ўздоўж берагоў і ля паверхні моцна прагравалася сонцам, а гарачыня многім рыбам, у тым ліку і самам, была не даспадобы. Затое з надыходам прыцемкаў знаёмы і глыбокі вір, у якім асталявалася сомікава сям'я, здавалася, пераўтвараўся. Старыя самы ўсплывалі з панылай глыбіні да самай паверхні і, перакульваючыся дагары вялізнымі целамі і пабліскваючы ў зіхценні месяца бела-жоўтымі люмінесцыруючымі жыватамі, утваралі сапраўдны вадзяны гармідар. Асабліва гарачыя гульбішчы гіганцкіх рыб разгортваліся перад начнымі навальніцамі. Самы розных ўзростаў дурэлі, аж як не шалелі ў вадзе, быццам дождж і грымоты былі іх стыхіяй і неслі ім жаданую асалоду і палёгку. Вялізныя, яны марудна выплывалі з глыбіні, плёхаліся на паверхні, час ад часу робячы рэзкія развароты і так моцна ляпаючы па вадзе шырачэннымі хвастамі, што гукі тыя чуліся на многія вёрсты, а ў чалавека, які выпадкова затрымаўся паблізу лясной ракі, міжволі мурашкі прабягалі па целе ды прыходзілі на ўспамін страшныя аповеды пра ведзьмаў і вадзяніка.

Гульбішча на вадзе доўжылася амаль усю ноч. Нават калі раз'юшана бушавала навальніца, яно не спынялася, а працягвалася з большай сілай. У паветры гучна і раскаціста грымеў гром, неба раз-пораз рассякалі ламаныя агністыя стрэлы маланак, з гучным хлёпаннем рассыпаўся па воднай паверхні цёплы густы дождж, і ўся гэтая какафонія гукаў дапаўнялася моцнымі ўсплёскамі ў начной цемры, быццам для таго і створанай, каб наводзіць жах.

Гэтыя дураслівыя гульні доўжыліся ўсю кароткую летнюю ноч аж да раніцы і паступова, з першымі праблі́скамі світальнай зары, пераходзілі ў актыўнае паляванне самоў. Успененая за ноч вада і ўзняты з дна пастаяннымі віражамі рыб густы мул збівалі

з панталыку мноства верхаводак, плотак, акунькоў, іншай рыбнай драбязы і розных водных насельнікаў, якія безабаронна завісалі ў каламуці і рабіліся з надыходам дзёшага святла лёгкай здабычай пражорлівага сямейства самоў. Можа, для таго і ладзілі яны гэты дзіўны начны гвалт і гармідар, каб на раніцу мець багаты і смачны наедак.

Сомік таксама імкліва шнырыў, спрытна віхляючы хвосцікам, сярод вялікіх рыбін, вышукваў здабычу меншых памераў, чым тая, якою задавальняліся яго старэйшыя суродзічы. У каламуці плавала мноства ўзнятых з дна чарвячкоў, дробных рыбак і зусім маленькіх жабак, учарашніх апалонікаў. І сомік з ахвотай паляваў на іх. Праўда, жабкі былі яму яшчэ не пад сілу, але адну, самую нягеглую, ён усё-такі праглынуў. Што і казаць: сняданак на гэты раз атрымаўся адмысловы, і цяпер з задавальненнем можна было адпачыць.

Пад гнілым карчом на глыбіні ён праляжаў амаль да паўдня. А калі ляжаць без занятку падакучыла, узняўся са свайго часовага прытулку, каб перабрацца ўверх ды заняцца якой-небудзь карыснаю ці проста цікаваю справай. Але паўдзённае сонца так разагрэла верхнія слаі вады, што плаваць там было проста немагчыма: скуру сціскалі спякота і духата, не хапала кіслароду, ад ракі патыхала прыкрай густой гарачынёю. Соміку давялося вярнуцца назад і да вечара трымацца на глыбіні. Занятак, вядома, знайшоўся і там. Корпаючыся сярод згусткаў аселай на дно ціны ды намытых каменьчыкаў, ён упарта шукаў чарвячкоў і насякомых, бо з цягам часу ежы яму патрабавалася ўсё больш і больш. Ён не грэбаваў нічым, што трапляласся на шляху. У справу ішлі дробныя жучкі, розныя лічынкі, рэшткі і нават кавалачкі загнілай падліны.

У надзённых клопатах час праходзіў хутка. Нават не ўгледзеў, як спала задушлівая гарачыня і пад подыхам лагоднага вячэрняга ветру вада на паверхні злёгку задрыжэла россыпам драбнюткіх хваляў, што разбягаліся ў розныя бакі, і ўжо сама вада неўзабаве дыхнула прахалодаю і свежасцю, а рыбы, якія, хаваючыся ад спякоты, вылежваліся на дне ці марудна сноўдаліся на глыбіні, пачыналі падымацца ў верхнія ўрэзы і весялей рухацца ды паляваць.

Вячэрні жор выдаўся асабліва ўдалы і паспяховы. Гэтаму

наспрыяў свежы вецер, які на той момант то слабеў, то станавіўся парывістым. У імклівых сваіх парывах ён страсаў з прыбярэжных раслінак мноства насякомых, што ўладкаваліся тут на начлег. Насякомыя бездапаможна падалі на ваду і рабіліся лёгкай здабычай пражорлівых рыбных чародак. Самыя вялікія рыбіны палявалі на фарватэры ракі, гучна ўзнімаючы агрузлыя целы з вады, чароды меншых рыбінаў шукалі ўдачу на сярэдніх глыбінях, а ўся астатняя драбяза плёскалася на плыткіх мясцінах. Жор працягваўся і ў начной цемры, праўда, слабеў, а пад раніцу сціхаў зусім: большасць рыб зноў накіроўвалася на дзённы адпачынак.

Назаўтра ўсё паўтаралася. Толькі надвор'е іншы раз уносіла ў звыклы выпрацаваны рытм нейкія змены – у начной навальніцы актыўнасць рыб рэзка ўзрастала, а ў ціхія цёплыя ночы рыбы не нагадвалі пра сябе лішнімі рухамі і гукамі накшталт булькацення ці ўсплёскаў. Насельнікі ракі нічым не заяўлялі аб сваёй прысутнасці – далей ад бяды. Іншая справа, калі навальніца шуміць ды ляскае гром. Тут і пагуляць не боязна, бо якая ж небяспека, калі самі рыбакі дзесьці ў хатах пахаваліся? А раніцою – зноў прыемны адпачынак. І гэтак дзень за днём, ноч за ноччу.

## Раздзел чацвёрты

*Сомік падрос. – Малы, а з вусікамі! – Свавольнік пачынае хітраваць. – Цела мяняе форму. – Вучоба ў бацькі. – Паляванне на жаб*

У турботах прайшоў цэлы тыдзень. Сомік і не заўважыў, як падрос, стаў велічынёю з сярэдняга печкура. Каб ён мог разважаць, дык сам, напэўна, здзівіўся б, што так хутка расце. Але дзіва тут няма, дзякуй за ўсё маці-прыродзе. За тыдзень лічынкі самоў, што вылупіліся з ікры, вырастаюць у малькоў вагою дзесяць-пятнаццаць грамаў.

І толькі калі наш сомік заўважыў, што ад яго чарговы раз кінулася наўцёкі вялікая лічынка стракозы-каромысла, якой раней сам асцерагаўся і сустрэч з якою пазбягаў, ён нешта ўцяміў і адчуў прыліў сілы і ўпэўненасць. Ён ужо не маленькі і быў роўняй

мноству гаркушак, плотак, сялявак, мапькоў. Калі да гэтага часу шаляпіца, бадай, нічым не адрозніваўся ад іншых малявак, то цяпер яго цела пачало афармляцца ў належны сому вобраз і паступова набывала выгляд дарослай рыбіны.

Галава соміка павялічылася ў памерах значна больш, чым усе астатнія часткі цела, па краях шырокага рота пачалі прарэзвацца густыя і вострыя зубкі. Яны раслі, як часам кажуць, суцэльнай шчоткай, якая з поспехам ужо магла служыць падросламу соміку для захопу, утрымання і нават пераціраиня здабытай ежы. У куточках рота на верхняй сківіцы адскочылі пакуль яшчэ кароткія, але прыгожыя чырванаватыя адросткі-вусікі, што нагадвалі завушніцы якой-небудзь фанабэрыстай дзяўчыны. Іншай рыбнай драбязе такія вусікі нават і не сніліся.

Сомік стаў плаваць намнога хутчэй, чым усяго тыдзень назад. Гэтаму як нельга лепш спрыяў мяккі, але моцны анальны плаўнік, які адрастаў знізу амаль з сярэдзіны цела. Закруціць сомік свой прыгожы хвосцік кручком, падрыхтуецца да штуршка ды як выпрастае рэзка – кідок атрымліваецца выключны. Цяпер ён ужо не зборшчык чарвякоў ці пажыральнік бацькавай здабычы! Не, цяпер сомік сапраўдны паляўнічы, пагроза ўсіх малявак, апалонікаў і нават самых вялікіх насякомых. А якія ж яны смачныя і апетытныя, куды там тыя тонкія чарвякі ці худыя хіранаміды! І сомік часу не марнаваў. Толькі ў самыя спякотныя дні адлежваўся на дне, дый тады, калі дазвалялі абставіны, здабычу, што падвернецца выпадкова, не выпускаў – цяпер яму ўсё ішло на карысць. А пра вячэрнія часы і гаварыць няма чаго – сомік пастаянна быў у руху і як толькі мог сілкаваўся.

У соміка з'яўляліся новыя звычкі і ўчынкі. Цяпер ён ужо не проста без разбору плаваў і нападаў на сустрэтую здабычу. Сваволынік разлічваў свае рухі і нават ішоў на хітрыкі. Часам ён затойваўся дзе-небудзь паблізу берага побач з аслізлым карчом ці сярэдніх памераў каменем і хвілінамі, а то і паўгадзіны падсцерагаў ахвяру. Хоць здабыча пры гэтым трапяталася радзей, затое была яна больш каштоўная і куды больш важкая. Зноў-такі, не трэба было высільвацца на пошукі.

Поспеху спрыяла і змяненне формы цела, якое ўсё меней

нагадвала рыбу і ўсё болей набывала выгляд нейкай пачвары. Тулава цяпер разрасталася ўпоперак, рабілася шырокім і сплюснутым зверху ўніз, і варта толькі соміку проста залегчы на дно, як ён робіцца амаль нябачны для супернікаў і ахвяр – нібыта пясчаны грудок вытыркае. Паспрабуй разгледзець, адрозніць ад мноства намыін, раскіданых па дне каменняў – пустая справа! Тым болей, што і колер верхняй часткі цела станавіўся падобным да грунту – скура пацямнела, абслізгла, так што ў спалучэнні з бурым адлівам яно хутчэй нагадвала затопленае паленца, чым застылую ў чаканні здабычы рыбіну. Калі таго патрабавалі абставіны, сомік злёгку яшчэ закопваўся ў пясок альбо донны мул. Зрабіць гэта было проста – улёгшыся на дне, дастаткова крышку паварушыць целам, і яно само патанала ў мяккім грунце. А калі трохі боўтнуць доўгім хвастом, можна прысыпаць сябе яшчэ і зверху, толькі галаву падымі ўверх – і назірай за ўсім, што адбываецца навокал.

Неяк сомік сачыў за паводзінамі свайго старога бацькі-сома. Той, здрадзіўшы штодзённым звычкам, хітра здабываў жаб. Звычайна ён паляваў толькі ноччу ці надвячоркам, а гэта выбраўся з глыбокага сховішча амаль у самую спякоту. І не пралічыўся. Хутчэй наадварот.

Дзённая гарачыня гнала ўсё жывое да вады. Розныя дробныя каляводныя жывёліны, мноства дзікіх птушак пакідалі сушу і плёхаліся на прыбярэжжы ракі, дзе хоць неяк можна было ўратавацца ад няшчаднага гарачага сонца. Горш за іншых цярпелі спякоту жабы. І хоць прыстасаваны яны да жыцця ў абедзвюх стыхіях – і ў вадзе, і на сушы, – тым не менш апалены гарачынёю бераг да сябе не вабіў. Пяшчотная скура, нават калі жаба сядзела ў густых зарасніках асакі і чароту, імгненна траціла вільгаць і, падсыхаючы, непрыемна свярбела і ўводзіла ў задуху. Таму большасць жаб толькі час ад часу выбіралася на сухое, а ўвесь спякотны дзень шукала паратунку ў вадзе.

Праўда, і там не было выратавальнай прахалоды: вада моцна прагравалася, асабліва верхнія яе пласты. Ад гэтага жабы рабіліся млоснымі і дрымотнымі, ленаваліся рухацца, а толькі вяла перамяшчаліся калі-нікалі з месца на месца, пасля зноў застывалі нерухома, абдаючы прылеглае наваколле даволі гучным

крумканнем, а на паверхні вады заставаліся бачнымі толькі шырокія ноздры і вырачаныя бліскучыя вочы.

Стары вопытны сом якраз і выкарыстаў спрыяльныя абставіны. Ён ціха, асцярожна, не робячы лішніх рухаў і не паганяючы хваляў, надплываў да такой зялёнай пяюхі і раптам знізу, адкуль разморапая жаба ніяк не чакала небяспекі, хапаў пяшчасную артыстку. Пасля гэтага сом апетытна і задаволена чмякаў, адплываў убок, дзе прыстроіліся іншыя, яшчэ не спуджаныя жабы, і дзея паўтаралася.

Плённы метад свайго бацькі сомік не прамарудзіў пераняць. І хоць вялікія азёрныя і зялёныя жабы былі яму пакуль што не па зубах, але маленькімі жабкамі і апалонікамі ён мог паласавацца ўдосталь.

Ён надплываў да абрывістага берага, з якога раз-пораз скачуць у ваду маленькія лугавыя жабкі, затойваўся, і варта было якой небарацы кінуцца ў хвалі, як яна адразу ж рабілася лёгкаю здабычай соміка. Чародка жаб, ратуючыся ад спёкі, нават не паспявала адрозніць у агульным плёскаце нейкія асаблівыя, старонні гукі і рухі. І пакуль да неразумных галовак даходзіла ў чым тут справа, чародка ўжо прыкметна радзела.

Удалыя паляванні надавалі соміку новыя сілы. Ён яшчэ хутчэй пайшоў у рост. Пад халоднай слізкай скурай паступова адкладваўся слой тлушчу, запас якога так спатрэбіцца ў час доўгай зімоўкі. Але пра будучую халодную зіму сомік яшчэ нічога не ведаў і таму бесклапотна гуляў, наладжваў цікавыя ловы і смакаваў рачныя ласункі.

## Раздзел пяты

*Зіма на носе. – Пакатныя самы. – На зімовае лежбішча. – У цеснаце, ды не ў крыўдзе. – Прыгоды пад лёдам. – Спаць дык спаць*

Час ляцеў хутка. Летняя гарачыня пачала саступаць месца прыемнай жнівеньскай прахалодзе, калі дні і ночы сталі аднолькава лагодныя і пяшчотныя. А яшчэ праз нейкі тыдзень ночы ўжо

дыхнулі сапраўдным холадам, і хоць удзень яшчэ ўсталёўвалася па-летняму цёплае надвор'е, змены адчуваліся ва ўсім наваколлі.

Празмерная спякота рыбам была не пад густ, але яна ўсё ж прыемней, чым пастылая сцюдзёная вада. Самы палічылі за лепшае, як і ў папярэднія гады, перасядзець халодную пару года ў вірах на самым дне ракі. Зіма сама дыктавала ім такія паводзіны. І з нізоўяў ракі, што мела недзе далёка зносіны з морам, пачалі вяртацца ў родныя мясціны чароды блізкіх да аселых самоў родзічаў, якія вядуць вандроўны лад жыцця, – гэтак званых пакатных самоў. Адразу пасля нерасту ўвесну гэтыя рыбы, як дарослыя, так і моладзь, скаціліся па плыні ў мора. Там яны нагульвалі тлушч і жылі ў неабсяжных марскіх прасторах, а калі надыходзіў час зімоўкі, нібы тыя пералётныя птушкі, зноў вярталіся да родных мясцін. З той толькі розніцай, што птушкі вяртаюцца з надыходам цяпла, а самы – тады, калі дае знаць аб сабе холад. Пакатных самоў у гэтым годзе выгулялася многа, так што не толькі раннія халады, але і гэтая акалічнасць змушала мясцовых аселых самоў наспешліва адыходзіць на зімовы адпачынак, бо праматруджванне пагражала тым, што госці зоймуць лепшыя зімовыя стаянкі, а гаспадары застануцца "з носам".

Першыя пайшлі да зімовых лежбішчаў найбольш буйныя асобіны. Ды гэта й зразумела: маленькаму заўсёды жытло знойдзецца – любая норачка, глыбокая вымоіна пад карчом ці каменем да яго паслуг. Вялікаму ж патрабуецца і месца шмат, і прытулак асабліва зацішны і патаемны. Самы хаваліся ў самых глыбокіх ямах пад гліністымі крутаярамі, у вірах, дзе можна было менш асцерагацца розных зімовых візіцёраў накшталт рыбакоў і браканьераў. Залягалі на дно і доўга, упарта выкопвалі ў ім глыбокія яміны, з галавою зарываючыся ў пясок. Некаторыя асобіны баразнілі ў дне суцэльныя траншэі больш чым на метр глыбінёю і пасля ўжо, выбраўшы аблюбаваны ўчастак, залягалі і пагружаліся ў маркотны зімовы сон. З дапамогай хваста самы прысыпалі сябе пяском, а потым яшчэ і плыўкая вада рабіла сваю справу, намываючы зверху суцэльны слой глею, пяску і галькі. Побач капалі ямкі меншыя самы і таксама залягалі ў пяску. Іншыя рыбы, пэўна, напалохаліся б такой "брацкай магілы", а самам хоць бы што – у цеснаце, ды не ў крыўдзе. Яны паснулі

глыбокім бестурботным сном аж да вясны – і дарослыя, і малыя, якія налаўчыліся спаць паміж вялікіх рыбін, а то і асобна, знайшоўшы для гэтага зручную схованку.

Пазней, калі стала яшчэ халадней, у іле, што пакрываў самоў, знайшлі сабе прытулак і іншыя рыбіны – карасі, печкуры, ліны. Густа, адзін ля аднаго, усцілалі ў некаторых мясцінах пясчанае дно сазаны – гэтыя вечныя спадарожнікі самоў. Яны і летам трымаліся паблізу, бо спрыт і хуткасць плавання рабілі іх недасягальнымі для самоў, а абарона ад іншых драпежнікаў забяспечвалася сама сабою. Цяпер жа самоў і наогул баяцца не было чаго. Акрамя таго, побач з імі хоць неяк можна было разлічваць на паратунак ад вострых зубоў шчупака.

Маладыя самы-сяголеткі, а выраслі яны да восені ўжо на добрых паўкілаграма (зайздросны рост, ці не праўда?), спалі не вельмі моцна, час ад часу прачыналіся, але вылазіць з лежбішча ды пераходзіць да актыўных ловаў асцерагаліся. А вось старыя спалі глыбока і моцна. У гэтым сомік упэўніўся, калі аднойчы сярэдніх памераў сома, які залёг каля самага берага, выпадкова падчапілі бусаком сяляне, што ставілі пад лёд бочкі з агуркамі. Сомік і сам у гэтую хвіліну драмаў, але ў момант прачнуўся, разбуджаны нечакана моцным усплёскам. Стары сом знаходзіўся ў такім глыбокім зімовым здранцвенні, што нават не чуў, як узрадаваныя людзі без цяжкасці цягнулі яго ўверх, мяркуючы выкінуць праз выдзеўбаную палонку на бераг.

Сомік у роспачы мітусіўся вакол старэйшага суродзіча. А нейкі спрытнюга ўжо прапіхнуў у проламку ражковыя вілы, збіраючыся накалоць бездапаможную рыбіну, каб лягчэй было вывалакчы яе на лёд. Тут соміка праняла нечаканая здагадка. Ён набраў як мага большую хуткасць і з разгону ўдарыў губамі вялікаму сому прама ў вока. Іншым разам, відаць, здорава дасталася б яму за такое штукарства. А тут, і сапраўды, гэта было выйсце з бяды. Стары сом ад вострага болю імгненна прачнуўся і ці то свядома, ці то проста знянацку рэзка страпянуўся ўсім целам, без асаблівай цяжкасці сарваўся з бусака і нырнуў далей на глыбіню. Праўда, засталася папярочная рваная рана на баку, але яна неўзабаве зацягнулася падскурным слоем тлушчу і хутка пачала загойвацца.

Астатні перыяд зімоўкі, на шчасце, абышоўся без якіх бы там ні было прыгод. Холад зверху ашалела ціснуў зямлю, а на дне ракі было цёпла, зацішна, і сомік бестурботна драмаў. Расплюшчыць адно вока – ці не змянілася што навокал? Не, усё як і раней. І зноўку дрэмле сабе ў мяккім прыдонным глеі. Усяму свой час – і адляжацца, і адпачыць як след.

## Раздзел шосты

*Абуджэнне прыроды. – Рыба прачынаецца. – Барацьба за існаванне. – Самы з нерастам не спяшаюцца. – Паляванне з засады. – Адпачынак*

Вясна дала знаць аб сабе нечакана. Нязвыкла рана хлынула на палеткі сакавіцкае цяпло, шчодра свяціла сонца, і глыбокі, зляжалы за зіму снег пачаў раставаць літаральна на вачах, пасылаючы ў рэчкі паўнаводныя імклівыя ручайкі, што весела віталі сваім гучным булькаценнем чарговае абуджэнне прыроды ад зімовага сну, бо не толькі самы, але і ўся прырода да гэтага часу ў поўным сэнсе спала: спалі схаваныя пад снегавой коўдрай лугі і палі, спалі ўкрытыя дзівоснымі белымі шапкамі дрэвы і кусты.

Прыток талай вады ў раку адбіўся і на жыцці воднага царства. Рыбы ў момант ачуліся і ажыўлена пачалі рухацца на глыбіні.

Лёд на рацэ ўздуўся, згорбіўся на самай яе сярэдзіне, стрымліваючы магутную паводку, але ўрэшце не вытрымаў яе ўпартага націску, трэснуў у адным і другім месцах, быццам незадаволена, трацячы сілы, закрактаў і марудна пачаў расколвацца на асобныя вялікія крыгі.

Актыўнасць рыб цяпер рэзка ўзрасла. І калі шчупакі, акуні ды стронга ўжо задоўга да гэтага ажывіліся, то цяпер схамянуліся і іншыя прадстаўнікі воднай супольнасці. Пакінулі свае месцы пад карчамі і сярод каменняў печкуры, зрушыліся з зімовага стойбішча спрытныя сазаны, выбраліся з доннага глею ліны і карасі. Але пакуль што ўся рыбіная брація трымалася ў прыдоннай

частцы ракі, не рызыкуючы падымацца наверх, дзе па ўсю моц разгуляўся крыгаход.

Разам з вясновым разлівам пачалі ажываць і самы. Адчуўшы свежасць і цеплыню талай вады, яны прачыналіся ад глыбокага зімовага сну і стрымана варушыліся ў слізкай ціне. Прырода клікала іх да актыўнага жыцця. І покліч той быў магутны і патрабавальны, ахоплены магутным інстынктам прыроды – клопатам аб прадаўжэнні свайго роду.

Рака тым часам паступова ачысцілася ад лёду і смецця, крыгаход быў амаль што на зыходзе, толькі марудна рухаліся ўспененыя згусткі шарошу ды адзінока праплывала, запознена адкалоўшыся ад берага, падталая з'едзеная сонцам ільдзіна.

Рака выйшла з берагоў і разлілася на многія дзесяткі, а то й сотні метраў. І цяпер большасць рыб падняліся з ціхіх глыбіняў і падалася блукаць па неабсяжным разводдзі. Заварушыліся плоткі ды сяляўкі, пачаўся інтэнсіўны жор у шчупака, пайшлі да месцаў нерасту карасі – залатыя і срэбныя.

На імклівых неглыбокіх перакатах пачалі адкладаць ікру галаўні. Тут у кожнага свае хітрыкі. Напрыклад, галавень адкладвае ікру порцыямі. І пакуль выклюнуцца лічынкі са свежай ікры, можна ўсе клопаты сканцэнтраваць на маленькіх істотах, якія ўжо вылупіліся, – і ад ворагаў ўратаваць, і паляваць навучыць, а наогул хопіць клопату, пакуль хоць крыху асвояць маляўкі азы самастойнага жыцця. З'явілася патомства і ў харыуса. Самка яго нерасціцца ранняй вясной, часам нават у канцы зімы, адкладаючы вялікую колькасць ікры. Але ікра ў вадзе нічым не замацавана, багата яе выносіцца хвалямі на край разліву; пасля перасыхання яна гіне, многа ікры паядаюць таксама водныя драпежнікі, асабліва акуні, яршы ды лічынкі стракоз. У выніку, нягледзячы на вялікую колькасць ікры, да лета моладзі выжывае мала. Таму і прыходзіцца рыбам адкладаць ікру з запасам, каб забяспечыць узнаўленне патомства. Пры большай колькасці больш шанцаў на тое, што хоць нейкая частка моладзі выжыве – кожны прыстасоўваецца як можа ў суровай барацьбе за існаванне.

Самы ж пакуль што з нерастам, як відаць, не спяшаліся. У зімовую спячку яны залеглі намнога раней за іншых рыб і за час доўгага посту пахудзелі і аслабелі. Таму цяпер перш-наперш

патрабавалася набрацца сіл, нагуляць тлушчу, бо інакш на поспех наўрад ці трэба разлічваць. Тут сам ледзьве плаўнікамі пагойдваеш, а калі яшчэ дзеткі з'явяцца – што тады? І самы пачалі ўзмоцнена карміцца. Спачатку жывіліся ўсім запар, у асноўным аслабелымі і мёртвымі рыбкамі, прынесенай у паводку падлінай, а калі трохі памацнелі і адчулі сябе больш упэўнена, пачалі падымацца ўверх па плыні, заходзіць у неглыбокія яміны і затоны.

Разліў вады, як ніколі, выдаўся вялікі, а гэта адбівалася і на паводзінах самоў. Чым шырэй і магутней разліваецца рака, тым вышэй падымаюцца ад месцаў свайго стойбішча самы, і наадварот, чым разліў меншы, тым неахвотней рухаюцца яны ў вярхоўі і часам нерасцяцца прама ў рэчышчы. Але нейкая, хоць не асабліва далёкая вандроўка сому патрэбна абавязкова.

Сёлета разліў лепш спрыяў вясновым вандроўкам, і самы з задавальненнем скарысталі дадзеную ім прыродаю магчымасць. Паміж абуджэннем і пачаткам нерасту павінна было прайсці яшчэ даволі многа часу, амаль што месяц. І самы плавалі ў пацяплелых хвалях і ўзмоцнена карміліся пераважна рыбаю, што пачала нераст.

Часцей за ўсё дарослыя самы не ўвярэджваюць сябе доўгімі пераследамі ахвяраў. Яны аддаюць перавагу паляванню з засады. Прымайстраваўшыся дзе-небудзь пад абрывістым берагам, сом заміраў на месцы і чакаў, пакуль неасцярожныя рыбкі самі не падплывуць бліжэй да яго. А тыя, занятыя нераставымі турботамі, не маглі не апынуцца побач. Тады сом стрымгалоў урываўся ў чародку, што праплывала міма яго, і з хуткасцю маланкі хапаў рыбіну, на якую нацэліўся наўперад. У гэткіх выпадках добра служыў сому яго магутны і гнуткі плёск, гэта значыць задняя палова тулава, узброеная суцэльным доўгім плаўніком. А калі ахвяра аказвалася дастаткова дужаю, сом, рэзка развярнуўшыся, наносіў моцны ўдар па ёй сваім плёскам і тым самым аглушаў рыбіну, пасля чаго яна ўжо станавілася для яго зусім лёгкай здабычай.

Добра пад'еўшы, старыя самы адпачывалі, выплывалі на паверхню вады і перакульваліся дагары. Толькі час ад часу паблісквалі пад сонечнымі промнямі іх бледна-ружовыя ці белыя жываты – самы, як кажуць рыбаловы, "распарвалі цёшку". Ды іншы раз яшчэ нагадвалі аб сваёй прысутнасці гучным квахтаннем.

Маладыя самы пакуль што таксама трымаліся тых самых мясцін паблізу ад дарослых, пераймаючы ад іх усе прамудрасці складанага самастойнага жыцця.

**Раздзел сёмы**

*Соміку дастаецца на “арэхі”. – У бацькі новая сям’я. – Свой дом. – Ахова ікры. – Бацька падабрэў. – Зноў пакатныя самы*

Гледзячы на дарослых, маладняк выпрабоўваў розныя варыянты ловаў, падглядзеўшы і ўпадабаўшы найбольш цікавыя і зручныя для іх, а галоўнае – больш выніковыя. Але калі надышоў час нерасту, дарослыя самы адразу сталі агрэсіўныя і ўжо не падпускалі падрослы маладняк да сябе, балюча б’ючы яго хвастамі. А калі аднагадовым ці двухгадовым нахабнікам удавалася наблізіцца спераду, то ў ход ішлі нават вострыя сомавы зубы.

Нашаму соміку таксама не на жарт перапала ад бацькі. Сомік нават моцна пакрыўдзіўся і, не разумеючы, у чым тут справа, усё ж палічыў за лепшае трымацца ад вялікага сома далей. Ён плаваў з гэтага часу ўжо на дапушчальнай адлегласці, самастойна карміўся і назіраў за паводзінамі свайго бацькі, спрабуючы зразумець прычыну яго няветлівасці.

І чым далей, тым больш небяспечнымі рабіліся дарослыя самы. Яны былі настолькі злыя і раз’юшаныя, што, здаецца, не бачылі, хто перад імі – ці то зусім чужая рыбіна, ці то свой блізкі родзіч.

...Сомік здалёк бачыў, што ў ягонага бацькі з’явілася новая сяброўка. А маці і наогул не бачыў і не ведаў, куды яна падзелася. Цяпер уся ўвага старога сома належала чужой для соміка асобіне. Шлях да бацькі быў канчаткова адрэзаны. Сомік балюча перажываў нечаканую страту і сумна яму станавілася, але што ж тут зробіш – відаць, так трэба. І ўсё ж падрослае дзіцяня не траціла надзею і палічыла патрэбным пакуль што лішне далёка не адплываць: ці мала што можа перамяніцца ў гэтым складаным, напоўненым

незразумелымі з'явамі і нечаканасцямі свеце?

Па ўсім было бачна, што наноў створаная бацькава сям'я жыла ў згодзе, нават у вялікай дружбе. Стары сом, праўда, вёў нейкую дагэтуль не ўласцівую яму дваістую гульню, а правільней – дваістае жыццё: то станавіўся да немагчымага страшэнным і раз'юшаным, маленькія вочкі варожа бліскалі злосцю, калі хто-небудзь дазваляў сабе наблізіцца да месца іх знаходжання, без літасці пускаў у ход вострыя зубы, раўніва ахоўваючы абраны ім участак, то раптоўна расплываўся ў клопаце і пяшчоце, выпісваючы перад новай сяброўкай павольныя віражы, дэманструючы давер і павагу.

Сяброўка адказвала яму згодай і паразуменнем. Яны ціха плавалі ў аблюбаваным месцы, час ад часу павялічваючы хуткасць, велічна праплываючы адно перад адным, тым самым дэманструючы сваю, зразумелую толькі ім прыгажосць. Так працягвалася дні тры і скончылася тым, што сом, ахоплены сямейнымі клопатамі, пачаў будаваць часовы дом. Бо якая ж гэта сям'я без дома? Праўда, дом той атрымаўся надта прымітыўны, і адразу можна было меркаваць, што разлічаны ён не на доўгае карыстанне. Але ж у іншых рыб і такога няма. Для яго сом выбраў ціхую прамыіну, акружаную вакол таплякамі-карчамі, і адразу пачаў капаць у пяску шырокую ямку. Выбраная прамыіна знаходзілася ў прыбярэжнай зоне, таму мяккі грунт дазваляў без цяжкасці выкапаць глыбокі равок. Да працы падключылася саміха. Яна абвяла выкапаную ямку-пляцоўку невысокімі грудкамі, якія, злучыўшыся адзін з адным, утварылі сапраўдны суцэльны вал з пяску і глею, змацаваны ўплеценай туды расліннасцю, ракавінкамі, кавалачкамі карэння і сцяблін.

Вада да гэтага часу добра прагрэлася, яе тэмпература цяпер спрыяла нерасту. Самка апусцілася на дно выкапанай ямкі, яшчэ раз ачысціла донную пляцоўку ад нанесенага плынню смецця і прама па ўсёй пясчана-галечнай разроўненай паверхні выклала мноства досыць вялікіх ікрынак. На гэтым яе мацярынскія клопаты пакуль што былі скончаны, а ўвесь цяжар аховы будучага патомства ўзяў на сябе сом-бацька. Доўгія тры дні і тры ночы не зрушыўся ён з таго месца, ахоўваючы ікру ад ласых на яе драпежнікаў – акунёў, яршоў, стронгаў. Зноў жа, апладненую ікру магло вымыць

вадою, вынесці на пойму, дзе яна лёгка загінула б. Тады безліч маленькіх лічынак-рыбак не вылупіліся б зусім.

Бацькавы клопаты былі не дарэмныя. Хутка вялікія ікрынкі самі па сабе пачалі рухацца, пераварочвацца. А пасля гэтак жа, як кураня з яечка, з іх адна за адной вылупіліся маладыя істоты.

Паводзіны дарослых самоў пасля гэтага сталі прыкметна мяняцца. Паступова знікла ў іх тая незразумелая агрэсіўнасць, асабліва да сваіх суродзічаў. Хутка і сомік змог беспакарана наблізіцца да чародкі, якую суправаджаў дарослы сом, і нават уступаць у кантакт з бацькам. Гэта яго шчыра ўзрадавала. Хоць ён ужо без асаблівых цяжкасцей мог жыць асобна, ён быў зусім яшчэ малады, і яго вабіла да бацькі.

Стары сом між тым, выканаўшы свае вясновыя абавязкі, распачаў зваротную вандроўку да свайго ранейшага месца жыхарства. Услед за ім рухалася ўся чародка маладзенькіх драбнюткіх сомікаў. Да яе паступова далучаліся пярэзімкі і большыя самы – уся шматлікая сям'я зноў аб'ядноўвалася ў агульны дружны кагал, пераходзіла пад надзейную бацькаву апеку. Зноў можна было плёскацца, адпачываць, паляваць разам ці паасобку. У кампаніі было ўсё ж весялей.

Праз колькі дзён пайшлі ўніз па рацэ шматлікія касякі пакатных самоў. Аднераставаўшы ў вярхоўі ракі і вывеўшы тут патомства, яны разам з маляўкамі імкнуліся цяпер да доўгачаканага мора – сваёй сапраўднай стыхіі.

На шляху да мора пакатным самам патрабавалася багата ежы. Таму карэнным жыхарам вадаёмаў прыходзілася злёгку надцягнуць жываты. Яны суправаджалі няпрошаных бадзяг незадаволенымі позіркамі і часам "агрызаліся", чакалі, калі скончыцца іх масавы пераход з вярхоўя ракі. Часовыя прышэльцы паводзілі сябе больш стрымана. Што зробіш – з гаспадарамі спрачацца нельга. У моры пачуваешся больш упэўнена, амаль як у сябе дома, а тут цябе ўжо і за сваяка не лічаць.

Перыяд гэты, праўда, заняў не асабліва многа часу. Пакатныя самы зніклі гэтак жа рэзка і адразу, як і з'явіліся, і тутэйшыя займелі зноў прастор і волю. Зноў уся мясцовая стыхія належала ім і ўвесь далейшы клопат зводзіўся да асабістых патрэб.

Драбнюткая малеча трымалася паблізу бацькоў, пад іх апекай. Пярэзімкі і двухгадовыя самы ў большасці часткай вялі самастойнае жыццё, толькі час ад часу наведваючыся да родзічаў. Самы ж больш сталага ўзросту назаўсёды пакінулі былыя сем'і, а многія ўжо паважваліся абзавесціся сваімі.

## Раздзел восьмы

*Вусікі падраслі. – Небяспечны карась. – Дзікуны на прыродзе. – Нечаканае выратаванне. – Загойванне ран. – Страх пакрысе праходзіць*

Час ішоў, і нічога незвычайнага пакуль што не адбывалася. У штодзённых гульнях, клопатах аб здабыванні корму і іншых звыклых турботах праходзілі дзень за днём. Вясна, як заўсёды, змянілася сонечным гарачым летам. Лета таксама прайшло само сабою, багата падкарміўшы тых, хто не быў лянівы. І калі восень зноў дыхнула непрыязным холадам і вымусіла рыб і іншую водную жыўнасць адправіцца на "зімовыя кватэры", нашага соміка было ўжо не пазнаць. Важыў ён каля кілаграма і вонкава ўжо нічым не адрозніваўся ад дарослых самоў. Цела яго яшчэ болей сплюснулася, пабольшалі анальны і хваставы плаўнікі, выразней стала афарбоўка верхняй і ніжняй частак цела; верх спіны яшчэ болей пацямнеў, набыў буры адліў з лёгкім чаргаваннем цёмных і нават зусім чорных участкаў з больш светлымі палосамі і плямамі. Толькі бакі заставаліся бялейшыя, з дамешкам зялёных і нават блакітных фарбаў. Бакавыя чырванаватыя вусікі на верхняй скроні прыкметна падоўжыліся і ператварыліся ў доўгія чэрвепадобныя адросткі. Цяпер дзівосную незвычайнасць выгляду соміка надавалі яшчэ і дзве пары больш кароткіх, таксама чэрвепадобных адросткаў на ніжняй губе. А вось ніжняя частка цела стала зусім белаю, быццам выпацкаўся сомік у ваўне. Хоць памерамі сомік яшчэ моцна саступаў вялікім самам, тым не менш ён ужо меў выгляд дарослых сваіх родзічаў і ганарыўся гэтым.

Сфарміраваўшыся ў статнага соміка, выправіўся ён на другую ў сваім жыцці зімоўку. Гэтак жа, як і мінулы раз, без

асаблівых прыгод перачакаў, закапаўшыся на дне, зімовы час і гэтак жа, як і мінулай вясною, прачнуўся, калі адчуў багаты прыліў свежай талай і дажджавой вады, і зноў перайшоў да актыўнага жыцця.

На гэты раз сомік ужо не спрабаваў шукаць месца ў бацькавай кампаніі, бо ведаў, што ў таго цяпер зусім іншыя клопаты, і падаўся гуляць адзін. Вакол яго даверліва праплывалі іншыя самы блізкіх яму памераў, чынна давалі яму дарогу касякі плотак, карасёў і нават галаўнёў. Па ўсім адчувалася, што соміка пабойваліся, а калі і не пабойваліся, дык ставіліся да яго з павагай.

Корму навокал хапала, і не трэба было абцяжарваць сябе выседжваннем у сховах ды паляваннем з засады. Вясновы разліў прынёс з поймы мноства загінуўшай у паводку рыбы, жабаў і нават наземных жывёлін – мышэй і пацукоў. Сомік зусім не грэбаваў гэткай ежай. Неяк сомік, залішне ўпэўнены ў сваіх сілах і асабістай бяспецы, з прагнасцю накінуўся быў на цэлую прыгаршчу нежывых карасёў, што невядома чаму збіліся ў адным месцы. Шчоўкнуўшы па чарзе першага і другога, ён маланкава хапіў і трэцяга, зусім не звярнуўшы ўвагі на ледзь прыкметную нітачку, што цягнулася ад карася некуды наверх. Трэці карасік быў дастаткова вялікі, і сомік не змог адразу яго праглынуць. Таму ён толькі напалову захапіў яго ротам і спрабаваў расцерці, каб пасля без цяжкасці праглынуць часткамі. На ўнутраных баках яго сківіц ужо адраслі невялікія, але вастранькія зубкі, утварыўшы там суцэльную шчотку, якой можна было пераціраць корм. Сомік цярнуў карася раз – з таго толькі луска пааблушчвалася, цярнуў другі, але слізкая скура была моцнаю на разрыў. Тады ён заглынуў карасіка крыху глыбей і мацней сціснуў сківіцы. У гэты час сомік нечакана адчуў востры боль і спалохана паспяшаўся выплюнуць рыбіну. Тая не выплёўвалася. Адчувалася, што ў верхняй губе з'явіўся нейкі іншародны прадмет, які востра і балюча калоўся. Сомік рашуча страпянуўся, каб пазбавіцца гэтай брыды, але ў губе кальнула яшчэ мацней, і прама перад вокам праз скуру вылезла наверх вострае, з шырокаю пяткаю джала. Сомік, яшчэ больш напалоханы, трапятаўся, кідаўся ў розныя бакі, спрабуючы знайсці ратунак ад незразумелага небяспечнага прадмета.

Пазбыцца такое бяды было немагчыма. Моцны кручок,

прапароўшы навылёт верхнюю губу, не разгінаўся, а сарвацца з яго перашкаджала вострае, як іголка, джала.

У наступны момант нехта наверсе тузануў кручок за нітачку, падцягваючы соміка ўверх. Сомік упёрся, не зважаючы на боль і кроў з раны, ірвануўся назад, спрабуючы абарваць тонкую нітку. Нітка не ірвалася, яна нацягвалася мацней і мацней. Соміка, які трапятаўся і супраціўляўся з усяе сілы, настойліва цягнулі па донным пяску, усё бліжэй і бліжэй да берага.

Вакол сябра, што трапіў у бяду, замітусіліся яго знаёмыя, але дапамагчы яму не маглі. Пагібель набліжалася з кожнай хвілінай.

Звычайна старыя самы вучаць маладняк, як зберагчыся, як не папасціся на падманку рыбакоў, а ўжо калі папаўся, то якім чынам выратавацца з бяды. Але гэтая рачная затока знаходзілася ў такім глухім пушчанскім лесе, што жыхары аддаленых навакольных вёсак, здавалася, забыліся пра яе, і ніхто з рыбакоў ужо даўно сюды не наведваўся. У бліжэйшых жа паселішчах засталіся адны бабулі, якія рыбалкай наогул ніколі не займаліся, ды састарэлы дзед Яўхім, які хоць і разбіраўся ў рыбе, але даўно закінуў вуды на вышкі.

Самоў у гэтых мясцінах даўнавата ніхто не турбаваў. Не чакаючы бяды ад рыбаловаў, старыя самы забыліся навучыць сваіх нашчадкаў асцярожнасці. А небяспека быццам таго і чакала.

Маладыя валацугі-турысты, невялікі гурт юнакоў і дзяўчат, вырваліся з горада далей ад людскога вока, каб пацешыцца на раздоллі. Адзін з іхняй кампаніі, узяўшы перад тым чарку, вырашыў паспрабаваць шчасця ў рыбнай лоўлі. Яго не хвалявала, што сом занесены ў “Чырвоную Кнігу” і што быў перыяд нерасту. Яму захацелася паласавацца дармавою юшкай. І хоць быў той хлопец рыбак так сабе, ды соміка, відаць, падвяла празмерная прага да здабычы і, само сабой, нявопытнасць.

Лёска яшчэ мацней напружылася, здаецца, нават зазвінела ў гучнай вясновай вадзе. Пагібель у гэткую пару, калі ўсё навокал поўнілася радасцю і весялосцю, выглядала сапраўдным глупствам.

Пры чарговым рыўку бездапаможнага соміка падцягнулі да берага яшчэ бліжэй. Усё цела пранізваў моцны боль. Гаслі апошнія надзеі. Ні ўчапіцца няма за што, ні дачакацца паратунку

з боку. Сомік яшчэ раз паспрабаваў працівіцца, у кальцо сагнуў свой шырокі плёск, што дазволіла яму так уперціся, быццам ён урос у пясчанае дно, і любому каштавала б вялікага намагання зрушыць яго з месца. Але чалавек пераўзыходзіў яго сілаю. І, не збіраючыся болей гуляць з рыбінай у хованкі, рашуча і парывіста ён нацягнуў лёску да сябе, каб закончыць непатрэбнае спаборніцтва. Цяпер лёска зазвінела ўжо літаральна, з паўметра працягнула знямоўжанага соміка па грунце, але ў апошні момант маладая і яшчэ пяшчотная губа яго не вытрымала. Уеўшыся ў мяса, тонкі кручок прарэзаў губу і, ірвануты нацягнутай лёскай, са свістам апісаў дугу ў паветры і ўпаў проста да ног разгубленага рыбалова.

Сомік як мог хутчэй адскочыў ад берага, дасягнуў выратавальнай глыбіні і, даўшы нырца, апынуўся на дне знаёмай затокі. Перапалоханы да паўсмерці, ён забіўся пад вялікі корч. Балюча пякла глыбока парваная губа. Моцна падрапаная ў час валтузні аб вымытую гальку і шурпаты прыбярэжны жвір, балела і скура на ўсёй ніжняй палове цела. З раны вадою вымывалася кроў. Страх не праходзіў, усё цела сціскала непрыемная дрыготка, што, нібы хваля, міжволі прабягала па целе. Але страх гэты быў усё ж іншы, не параўнальны з тым, што прыйшлося перажыць соміку.

Перапуду хапіла надоўга. Быццам і небяспека даўно мінула, і плавалі побач спакойна суродзічы і іншыя нікім не палоханыя рыбы, ды і сам сомік разумеў, што цяпер яму нічога не пагражае, а ўсё ж нейкая ўнутраная сіла стрымлівала яго і не давала рашучасці выплысці са сховішча.

Больш як суткі праседзеў сомік пад карчом. І толькі калі прайшоў яшчэ і другі дзень і надышоў вечар, ахінаючы вадзяную бездань густым змрокам, сомік асцярожна рызыкнуў выплысці на шырокую ваду.

Губа даўно перастала крываточыць, рана пастуова заплыла густым падскурным тлушчам, які не дапускаў пападання ў яе інфекцыі і паскараў гаенне. І болю быццам ужо асабліва не адчувалася. Да таго ж, неймаверна хацелася есці.

Сомік плаваў стрымана і насцярожана, як мага пільней углядаючыся ў наваколле і ўважліва прыслухоўваючыся да ўсіх гукаў. На краі яміны яму пашчасціла знайсці некалькі ракаў. Потым

ён абсмактаў адрослыя ад самага дна парасткі зялёных водарасцяў. З іх ён сашкрабаў розную драбязу – голых апетытных слімакоў і пакрытых тонкім панцырам малюскаў.

У клопатах аб здабычы корму страх праходзіў хутчэй, міжволі, сам сабою, а хутка ён і наогул забыўся, толькі час ад часу аб мінулых непрыемных прыгодах нагадвала рана, што зарубцавалася на губе.

**Раздзел дзевяты**

*Яшчэ адна вясна. – Пошукі сяброўкі. – Бойка з супернікам. – Перамога блізкая. – Рашучы адпор. – Ганебныя ўцёкі*

Затока жыла ў сваім звычайным рытме. Да гэтага часу ў большасці самоў вылупіліся з ікры маленькія лічынкі, і бацькі былі заняты клопатамі аб выхаванні моладзі. Вучылі іх самастойна знаходзіць ежу, маскіравацца і затойвацца, ратавацца ад ворагаў. Неўзаметку прабеглі апошнія веснавыя дні, тыдзень за тыднем праімчалася лета, а потым зноў – дажджлівая халодная восень, зноў пераход ад гульняў і весялосці да поўнага сумоты доўгага зімовага сну.

З надыходам новай вясны нашаму соміку споўнілася тры гады. Цяпер гэта быў ужо сапраўдны велікан, ростам без малога аршын і вагой мо два з паловай кілаграмы. Малады сом лічыў сябе зусім дарослым і паўнапраўным членам сомавай грамады.

Ды самаўпэўненасць знікла гэтак жа раптоўна, як і прыйшла.

Калі вада ў рэчцы як след прагрэлася і наблізіўся нераст, разам з іншымі самцамі да месцаў будучых нерасцілішчаў падышоў і наш – малады, упэўнены ў сваёй паўнацэннасці і сіле – сом. Яму таксама захацелася знайсці сабе сяброўку, каб разам з ёю ў радасці правесці вясновы час. Ён тут жа накіраваўся да прыгожай самкі. Саміха, здаецца, таксама была не супраць сяброўства. Даверліва і лагодна паглядала на яго маленькімі вадзяністымі вочкамі. І малады сом рушыў да яе, але толькі ён падплыў бліжэй, як яму перарэзаў шлях старэйшы і значна большы сом.

Вячаслаў СТОМА

Малады сом быў не з баязлівага дзесятку. Ён адчуваў, што можа пастаяць за сябе. Адступаць не выпадала – як будзеш выглядаць пасля гэтага ў вачах маладое саміхі? І сомік накіраваўся наперад. Надаў сабе як мага больш сур'ёзны выгляд, растапырыў вусы і, разганяючы ваду, некалькі разоў пакруціў шырокаю пляскатаю галавою. У чарговым штуршку ён рэзка наблізіўся да праціўніка, але толькі параўняўся з ім, як нечакана для сябе атрымаў моцны ўдар па спіне шырачэнным хвастом суперніка. Давялося крыху адступіць, але яшчэ была надзея на перамогу. Малады сом зноў накіраваўся да сваёй мэты. Цяпер ужо рэзка, проста з развароту, спрабуючы адцясніць з дарогі настырнага праціўніка. Спачатку гэта як быццам удалося. Але варта было тулаву маладога сома болей чым напалову высунуцца з-за суперніка, як той незадаволена засіпеў, сам рэзка развярнуўся, абагнаў маладога і стаў на яго шляху. Распачынаўся паядынак, у якім нехта ў любым выпадку павінен быў выйсці пераможцам, а нехта – адступіць.

Яны стаялі адзін насупраць аднаго – суродзічы і ворагі.

Старэйшы пачуваўся больш упэўнена. Ён яшчэ раней нагледзеў зеленаватую самачку і ў пэўнай меры лічыў сябе гаспадаром становішча. І зручны ўчастак ракі быў абраны ім самім. Ён нават ямінку для будучага гнязда капаць пачаў, а тут нейкі нахабны чужынец асмеліўся ўварвацца ў яго ўладанні...

Малады сом адчуваў свае дужасць і здатнасць. Маладая самка павінна быць з ім. А тут гэтае жылістае "старое бервяно"...

Адно перад адным пагойдваліся ў тоўшчы вады іх магутныя шэрыя целы. Вочы люта ўглядаліся ў вочы, узрушана ўздрыгвала і павольна апускалася пры кожным уздыху белаватая скура на мускулістых шыях. З трохі растуленых шырачэнных пашчаў то выпускалася, то ўцягвалася з новай сілай успененая вада. Яны нечага чакалі, мабыць ацэньвалі сілы суперніка перад атакай. Кожны з іх рыхтаваўся да выверанага і пераможнага нападу. Яны стаялі адзін перад адным, але ні старэйшы, ні маладзейшы самы пайсці ў наступ не рызыкавалі. Лепей было перачакаць, праверыць суперніка на вытрымку. У каго ў рэшце рэшт не вытрымаюць, здадуць нервы?

Першы ў атаку пайшоў малады. Ён пырнуў і, набраўшы хуткасць, з сілай ударыў праціўніка знізу ў жывот, націснуў на

яго ўсім сваім моцным тулавам, спрабуючы нечаканым манеўрам вывесці таго з раўнавагі, спудзіць і адпіхнуць як мага далей ад месца, дзе намячалася гняздо.

Праціўнік момант нападу, здаецца, прапусціў і тым самым многае прайграў. Ён нязграбна перакуліўся дагары жыватом, вывернуўся на паверхню і разгублена заплёскаў плаўнікамі на верхаводдзі. Акрылены ж удалым пачаткам, малады сом без прамаруджвання пайшоў у новую атаку. Ён узбуджана сцябаў старэйшага па галаве, ні на момант не спыняючы ўдары, укладваючы ў іх усю здольнасць і спрыт.

Самка, адплыўшы ўбок, з цікавасцю назірала за паядынкам. А кожны з самоў не хацеў здавацца, і гэта надавала ім дадатковае сілы.

Самцы было ўсё роўна, хто з іх выйграе: у любым выпадку ёй дастанецца мацнейшы і больш спрытны, а значыць – і больш прывабны, прыстасаваны, здольны пастаяць за сябе і сяброўку, а пасля і за будучых дзяцей. А што ж яшчэ трэба для сумеснага жыцця! І хоць яна сачыла за лупцоўкаю больш чым уважліва, але не схілялася ні да аднаго з супернікаў – проста прыкмячала ў іх паводзінах спрыт, сілу і кемлівасць.

Тым часам паядынак зацягваўся, выведзены з раўнавагі старэйшы сом ніяк не мог апамятацца і бездапаможна боўтаўся на адным месцы. Малодшы ж, акрылены поспехам і прадчуваннем блізкай перамогі, не спыняў націску, але хутка і ён прыкметна стаміўся. Трэба быў апошні ўдар, каб адным махам і не марудзячы давесці да канца празмерна зацягнутую бойку. Малады сом на момант спыніўся, нацэліўся і другі раз нырнуў пад суперніка. Ён тры разы запар балюча піхнуў яго ў жывот і дужымі настойлівымі штуршкамі пачаў адпіхваць далей і далей ад свайго будучага ўчастка. Старэйшы сом страпянуўся і перайшоў у контратаку. Ён быццам ачомаўся і, сабраўшы ў адзіны мускул сваё трывалае, выпрабаванае ў ранейшых крывавых паядынках цела, вырашыў усё ж такі як след пастаяць за сябе. Высока ўзвіўся ў паветры доўгі і шырокі плёск, і ашаламляльны ўдар хваста прыйшоўся якраз на вывернутым баку маладога сома ў месцы праходжання бакавой лініі – галоўнага органа сістэмы арыентацыі рыб. Малады забіяка раптоўна адчуў, як ён увесь здранцвеў. Ніколі яшчэ не

даводзілася яму зведаць такое пачуццё. Незразумелая млосць расцякалася па ўсім целе, сярэдняя і задняя часткі рыбіны сталі непаслухмяныя, быццам чужыя. У дадатак да ўсяго, перад вачыма паплылі неверагодна яркія кругі, увесь ён нібы праваліўся ў сон, які лагоднай дымкаю імгненна захінуў яго свядомасць.

У гэткім паўпрытомным стане задзіра быў не толькі выпхнуты старэйшым супернікам з выбранай над нераст пляцоўкі, на якой праходзіла жорсткая сутычка, але і знесены плынню далёка ўніз па рацэ. На шчасце, абышлося без укусаў – старэйшы сом не палічыў патрэбным пускаць у ход зубы, гледзячы на бездапаможнага нядаўняга ворага, а проста адапхнуў яго далей ад свайго ўчастка ды заняўся любоўнымі справамі. Маладому сому, калі ён апрытомнеў, было балюча і крыўдна.

### Раздзел дзесяты

*Супраць плыні. – Нечаканая сустрэча. – Жаніцьба без пасагу. – Жылплошча знойдзена. – Пабудова дома. – Клапатлівы бацька*

Трохі ачуняўшы, наш малады сом часу марнаваць не стаў і зноўку падаўся на пошукі свайго шчасця. Ён паплыў уверх па рацэ, абмінуўшы на шляху адно за адным ужо абжытыя паселішчы іншых самоў. З асаблівай асцярожнасцю ціхенька прашмыгнуў паўз месца нядаўняга паядынку. І не тое каб са страху. Не, ён зусім не баяўся і мог нават яшчэ раз памерыцца сілай з пераможцам, але паўторныя шлюбныя паядынкі ў самоў не заведзены – прайграў, значыць прайграў. Галоўнае, надта няёмка было сустрэцца з нядаўняй прэтэндэнткай на сумеснае вясновае жыццё – як-ніяк, не спраўдзіў ні сваіх намераў, ні яе спадзяванняў.

Вышэй па рацэ занятых бацькоўскім клопатам сомавых парачак станавілася ўсё меней. Самым дужым і спрытным дасталіся лепшыя мясціны ў ніжнім рэчышчы, а няўдачлівыя вымушаны былі перабірацца па рацэ ўверх, дзе і ўмовы менш спрыяльныя для адкладання ікры, і вялікая рызыка самому стаць ахвярай. На шляху нярэдка трапляліся адзінокія самы-халасцякі, якія хоць і

былі надта злосныя, але без самак не мела сэнсу высвятляць адносіны, не было за каго весці барацьбу, перад кім рысавацца.

Разгублены перад такімі акалічнасцямі, сомік тым не менш паплыў далей – ану ж усё-ткі надарыцца поспех там, дзе супернікаў будзе зусім мала? Праплыў яшчэ добрых паўкіламетра. Рэчка, віхляючы вузкаю стужкай сярод дрэў і пагоркаў, у некаторых мясцінах станавілася зусім плыткаю – нават каменьчыкі на дне не закрываліся вадою. Толькі з аднаго боку, дзе бераг быў даволі высокі, абрывісты і круты, вытрымлівалася дастатковая глыбіня, па якой, як па фарватэры, рухаўся малады няўдачлівы сом. Яму захацелася забыць пра ўсе свае любоўныя клопаты і бестурботна пустэльнічаць, знаходзячы ў гэтым адзіны сэнс далейшага існавання, але то была непрацяглая слабасць. Ён паплыў да водмелі і, каб нечым суцешыцца, паплёхаўся на падагрэтым сонцам жвіры добрую чвэрць гадзіны. Ледзь толькі наш сомік абтросся ад наліплага пяску і наважыўся рушыць наперад, як зусім нечакана ўбачыў прама перад сабою маладую саміху.

Узрадаваны нечаканай сустрэчай, сом імгненна перамяніўся. Вочы адразу загарэліся, наліліся цеплынёй, усё цела страпянулася, нават ярчэй бліснула зелянінай спіна і барвовымі дробнымі плямамі засвяціўся белаваты жывот. Узрушаны прыемнымі пачуццямі, сом пакуль яшчэ нерашуча наблізіўся да саміхі і некалькі разоў павольна праплыў вакол яе, нібы запрашаючы да сумеснага танца, а калі згодзіцца – то і да сумеснага жыцця. Саміха прапанову прыняла.

Праўда, хутка з'явіўся побач прываблены гучным булькаценнем нейкі сом-чужак. Але быў ён маладзейшы, і яго без цяжкасці ўдалося прагнаць з цяпер ужо сваіх "апартаментаў".

Малады сом, перапоўнены задаволенасцю і пачуццём сапраўднай сталасці, разам з сяброўкай накіраваўся шукаць месца для пабудовы гнязда. Трэба было знайсці прасторную пляцоўку на мяккім грунце, каб выкапаць там належную ямінку, і каб месца тое добра праглядвалася і дазваляла своечасова заўважыць ворагаў. Адшукаць "пляц" было не проста. Да гэтага часу большая частка самоў ужо разбілася на пары і заняла найбольш прыдатныя мясціны. Падпускаць чужых да сваіх уладанняў ніхто не хацеў. І варта было маладой парачцы ўсяго трохі адплыць па рацэ ўніз, як іх заўважылі. З усіх бакоў чуліся грозныя ўсплёскі моцных

пляскатых хвастоў, незадаволена і злосна наблісквалі ашалелыя вочкі. І хоць маладому соміку не хацелася паказваць перад сваёй сяброўкай, што ён значна саступае іншым, ды з абставінамі даводзілася лічыцца. Малады сом манеўраваў. Заўважыўшы занятых працаю грозных супернікаў, ён загадзя абыходзіў іх, нават не пaглядаў у той бок, быццам ён наогул іх не бачыў.

Зноў давялося плысці ўверх па рацэ, і дастаткова далёка. А прыдатнага месца ўсё не надаралася. Праўдзівей, месцаў тых было шмат, але ўсе яны былі занятыя. А прысуседзіцца дзесьці побач з ужо аселай парачкай было небяспечна. Самы наогул раўніва ахоўваюць не толькі сваё гняздо, але і даволі вялікі ўчастак навокал яго. Уся агульная тэрыторыя на пэўны час як бы падзяляецца паміж сем'ямі на зоны іх жыццёвых інтарэсаў.

Толькі на найбольш абмялелым участку ракі новай парачцы ўдалося знайсці неабжытую тэрыторыю. Праўда, было тут не асабліва ўтульна. Грунт аказаўся камяністы і цвёрды, і выкапаць ямінку ў ім было цяжка. Галоўнае ж тое, што было залішне плытка і чалавек лёгка мог заўважыць у вадзе вялікіх рыбін.

Малады сом спрабаваў не паказваць выгляду, што месца ім дасталося так сабе. Наадварот, ён і фанабэрыстасць сваю дэманстраваў, і сілу. Што, маўляў, яму цвёрдае дно і дробнае каменне? Ён сам лёгка справіцца з імі, пазбавіць паважаную сяброўку неабходнасці корпацца ў дне, а ворагаў ён увогуле не баіцца – хай толькі сунуцца сюды ці то хвастатыя, ці то двуногія! Ды саміха ўсё сама добра разумела, не выдавала сваёй трывогі. Асабліва доўга аглядвацца не прыходзілася: у іншых самоў ікра даўно ў гнёздах, а ў некаторых нават маляўкі з ікрынак вылупіліся – час ішоў нястрымна і хутка, і ім трэба было таксама спяшацца.

Яны настойліва ўзяліся за працу. Малады сом лагодна адхінуў сваю сяброўку, што ўжо была спрабавала капаць пасярэдзіне выбранага закутка цвёрды рачны грунт. Ён сам заняў гэтае месца, упэўнена і рашуча пачаў дзерці губамі донны жвір і расціхваць яго ўбакі плаўнікамі і хвастом. Першыя спробы даваліся з найбольшай цяжкасцю. Зляжалы пясок з умураванымі ў яго каменнямі трымаўся моцна і не асабліва паддаваўся, але варта было зрушыць з месца першыя кавалкі цвёрдага грунту, як

далейшая работа пайшла хутчэй. На дне ямкі, якая ўсё паглыблялася, пад заіленай верхняй скарынкай быў мяккі рачны пясок, і ён лёгка выграбаўся на паверхню хвастом і плаўнікамі.

Хутка атрымалася зручная прадаўгаватая ямінка. У ёй самы і вывелі сваё патомства. Заклапочаныя бацькі некалькі сутак не адлучаліся ад гнязда. Асабліва дбайна паводзіў сябе бацька. Нават пра ежу забыўся. Не жарты, калі навокал гэтулькі небяспекі: і драпежныя рыбы паблізу плаваюць, і плынь спрабуе знесці малявак уніз – глядзі тут на ўсе вочы.

А маляўкі яшчэ такія дурненькія, зусім не разумеюць жыцця. Нават самі спрабуюць уцячы. Нібыта бацькі ім чагосьці кепскага жадаюць. Не ведаюць мітусліўцы, колькі клопату і цяжкасцей будзе ў іх наперадзе. А пакуль пад бацькоўскім наглядам, дык жыццё куды спакайней і бесклапотней, але толькі потым, калі падрастуць, маляўкі зразумеюць гэта.

Праз колькі дзён маленькія рыбкі пачалі актыўна харчавацца. І падрасталі хутка, нібы на дражджах. А яшчэ праз тыдзень іх было ўжо не пазнаць. З ледзь прыкметных лічынак сфарміраваліся сапраўдныя невялічкія сомікі. Яны з кожным днём выяўлялі ўсё больш і больш самастойнасці. Многія, найбольш рашучыя з іх, адбіліся ад сваёй сям'і і пайшлі вандраваць па шырокай вадзе. Большасць жа трымалася бацькоў, а калі яны і рабілі часам самастойныя аддаленыя вылазкі, то пасля ўсё ж зноў вярталіся пад бацькоўскую апеку.

### Раздзел адзінаццаты

*Корм ідзе на карысць. – Жыццёвы цыкл паўтараецца. – Вопыт і кемлівасць. – Раны зарубцаваліся. – Лагодны нораў. – Старасць не радасць*

У штодзённых клопатах і нягодах непрыкметна праімчалася лета. Зноў, як у папярэднія гады, дыхнула холадам восень, а за ёй ішоў час панылага зімовага здранцвення.

Вясною сям'я разбілася. Наш сом зноў падаўся шукаць сабе сяброўку. На гэты раз усё абышлося без прыгод. Можа выпадкова,

а можа таму, што ён яшчэ больш пасталеў і іншыя самы яго пабойваліся.

Першая ж сустрэтая ім саміха спадабалася, і яны адразу пасябравалі. А наколькі часу да адкладкі ікры яшчэ хапала, яны проста разам гулялі і карміліся, каб направіцца пасля зімы і каб больш было сілы і ўпэўненасці ў перыяд нерасту. Збіралі загінулых рыб, якіх багата валялася ля ўзбярэжжа. Праўда, дастаць іх не заўсёды было лёгка. Калі рака разлівалася шырока і выходзіла з берагоў, паводка выносіла паснулых рыб на бераг, а калі вада спадала, дык яны і заставаліся там.

Шчаслівая парачка спрабавала дастаць тых рыбак, што ляжалі не вельмі далёка ад берага. Яны абое, узяўшы разгон з самай сярэдзіны ракі, адначасова і з максімальнай хуткасцю рухаліся да водмелі, спрабуючы трымацца наверхні вады. І калі праплывалі зададзены адрэзак, то, абганяючы іх, на пясок накочвалася ўтвораная рухам вялікіх целаў даволі моцная хваля. Вада з сілай выплёсквалася на пакаты бераг і, сцякаючы назад, захоплівала і несла з сабою змытую з зямлі рыбу. Самы тут жа збіралі яе, з'ядалі без астатку і зноў прымаліся за той жа занятак. Рыба гэта была ім да смаку, і пакуль яе хапала, ніякім іншым кормам яны не цікавіліся, але калі трапляліся часам на зубы пяўклюдная жаба ці вадзяны смоўжык, то і імі не грэбавалі. Таўступам, што моцна выгаладаліся за зіму, патрабавалася многа ежы, каб аднавіць страчаныя сілы.

Калі здохлай рыбы стала менш, самы пачалі каштаваць іншую ежу. Выбіралі з пясчанага ілу чарвякоў, казюлек, з'ядалі і некаторыя водарасці. А калі й гэтага не хапала, то пачыналі актыўныя ловы. Адзін з іх, звычайна самка, якой асабліва быў патрэбен каларыйны корм, зарывалася ў неглыбокім месцы ў пясок і ляжала нерухома. Сом жа тым часам, адступіўшы ад гэтай мясціны дастаткова далёка і перачакаўшы некалькі хвілін, гучна пляскаў хвастом і плыў у яе бок. Ад яго спяшаліся ўцячы спуджаныя дробныя рыбы, якія станавіліся лёгкаю здабычаю саміхі: ёй заставалася толькі своечасова як мага шырэй растуліць вялікую пашчу і ўцягнуць ваду, каб разам з ёю захапіць у рот мноства невялікіх рыбінак.

Самы акрыялі, падужэлі, пацяжэлі. Якраз тое, што трэба

для паспяховага нерасту. Яны збудавалі гняздо і вывелі ў ім маленькіх сомікаў. Жыццёвы цыкл наўтараўся.

Так прайшло яшчэ некалькі гадоў. Кожную вясну ўзмужнелы сом заводзіў сабе новую сям'ю. Даўшы жыццё чарговаму пакаленню, сямейка зноў распадалася і ўсё пачыналася спачатку...

Цяпер гэты сом нікога не баяўся, стаў вялікі і дужы, без цяжкасці выйграваў любыя паядынкі, але часцей абыходзілася без іх: іншыя рыбы проста саступалі яму дарогу, згаджаючыся з яго першасным правам на ўладу ў воднай стыхіі.

Ён стаў спакайнейшы ў паводзінах і больш разважлівы. Не плаваў без патрэбы, больш адпачываў у зацішку, балазе каб пракарміцца, часу яму асабліва шмат не патрабавалася: набыты вопыт і кемлівасць дазвалялі здаволіць гэтую патрэбу за лічаныя гадзіны.

На ім даўно зарубцаваліся калісьці атрыманыя раны. Яшчэ больш пацямнела скура на верхняй частцы цела, а знізу пабольшала белых плямаў. Яго вострыя зубы маглі нагнаць страху кожнаму, а паволькасць і разважлівасць, набытыя з гадамі, надавалі самавітасці.

Нельга сказаць, каб быў ён гразою ў таямнічых вірах. Але ўладаром іх быў і на самай справе.

Ён не пераследаваў блізкіх і да сябе падобных. Карміўся рознай рыбнай драбязою накшталт недарэчных і пражэрлівых яршоў і акунёў, чым ратаваў жыццё іншым мірным рыбам сваёй ракі. Лавіў жаб, што расплодзіліся без меры. Пры паляванні асаблівай актыўнасці не выяўляў, бо лепаваўся трэсці касцямі, а ўсё больш адлежваўся на глыбіні знаёмага віру і час ад часу марудна выплываў да мясцін, дзе ўпадабаў здабываць ежу. Там ён, як звычайна, зарываўся ў іл і чакаў, пакуль наблізіцца да яго чародка пахабных акунёў. І здабываў іх паводле схемы.

Водныя насельнікі хутчэй не баяліся, а паважалі яго. А паважаць было за што. За доўгія гады складанага, нялёгкага жыцця ён стаў мудрым, выключна ведаў усе водмелі, ямы і, канечне, самы вялікі глыбачэзны вір, дзе трымаўся ён увесь час і ўладаром якога быў па праву.

Як ніхто іншы, мог ён прадчуваць наперад ход прыродных з'яў, раней за іншых заўважаў надыход пераменаў і сваімі

паводзінамі дапамагаў суродзічам своечасова зарыентавацца ў абставінах і пазбегнуць небяспекі.

Ён у многім служыў прыкладам. Калі ў нейкую восень ён раптам раней чым звычайна пачынаў рыхтавацца да зімовай спячкі, гэта было сігналам для іншых. І не бралася пад увагу, што яшчэ пануе цяпло і корму навокал хапае. Калі сам гаспадар віроў да зімы рыхтуецца, значыць ранняя і нечаканая зіма будзе сёлета. А калі так, то варта пераняць яго прыклад. Маразы могуць ударыць знянацку і з усяе моцы.

Улада над глыбінёю, бясспрэчнае панаванне над ёю прыйшлі да яго быццам самі па сабе. У апошнія гады яму не даводзілася ні з кім высвятляць адносіны ў крывавых паядынках, ён нават забыўся ўжо, калі была ў яго апошняя бойка з супернікам.

Цяпер яму не было роўных, ніхто не рашаўся з ім дужацца. Вялізны і непрыступны, дужы й разважлівы, мудры, ён не прэтэндаваў на дадатковыя перавагі. Нікога не баючыся і нікому ні ў чым не саступаючы, ён проста паволі дажываў свой век.

## Раздзел дванаццаты

*Прыходзіць стома. – Малады сябра. – Шчупак не дрэмле. – Смачны сняданак. – Атака з засады. – Сомік у бядзе*

Плямісты сом яшчэ болей пастарэў. Цяпер ён усё радзей выплываў на мель, бавячы час у глыбокім чорным віры. Ішлі дні і гады, змяніліся цэлыя пакаленні рыб ды іншай воднай жыўнасці, а ягонае жыццё працягвалася.

Паступова ўсё выразней пачала нагадваць пра сябе старасць. Не хацелі, як раней, слухацца плаўнікі, ныла ў жываце, пры кожным руху паколвала нешта ў хрыбце. Гаспадар глыбіняў слабеў, сілы паступова пакідалі яго, але ў суродзічаў ён карыстаўся ранейшай павагай – ці то за даўнія яго "заслугі", ці то проста за ўражвальны выгляд ды здзіўляючыя памеры. Яму па-ранейшаму належала першая роля ў рацэ, і ён заставаўся ўладаром таямнічага віру.

Так ён дажыў бы, мабыць, свае апошнія дні, а можа яшчэ і гады, калі б не абставіны...

У той самы вір зачасціў аднекуль вялізны шчупак. І паводзіў сябе адразу нахабна. Сом адзін раз прагнаў яго, другі, трэці, але набегі не спыняліся. Шчупак значна пераўзыходзіў сома ў хуткасці і таму, відаць, не асабліва яго баяўся. Аднаго разу шчупак павёў атаку на невялікага, другога ці трэцяга года ад нараджэння соміка, і бедаку нічога больш не заставалася рабіць, як шукаць наратунку ў старога сома.

Стары сом ласкава прыгарнуў малодшага суродзіча да сябе шырокім плаўнікам. Маладому была прыемная яго пяшчота. А гаспадару стала добра ад гэтай блізкасці, бо самотнае жыццё, якое ён вёў апошнім часам, было поўнае смутку. Яны спадабаліся адзін аднаму і пасябравалі.

Жыццё сома напоўнілася зместам, існаванне набыло сэнс.

Яны значную частку часу праводзілі разам, у асноўным на адпачынку. Калі спалі, то маладзейшы прытуляўся да старога, а таму ад гэтага станавілася весялей. Нейкія дадатковыя сілы з'яўляліся ў яго – жыццё здавалася не такім сумным.

Іншы раз малады сомік адплываў з глыбокага віру, выбіраўся на мелкаводдзе, каб паласавацца дробнымі жабкамі ды апетытнымі насякомымі. Паляваў адзін – то адкрыта, то затойваючыся ў засадзе, – але асабліва далёка не адлучаўся. І праз пэўны час зноўку вяртаўся пад апеку свайго старэйшага сябра. Той жа цяпер трымаўся роднага яму глыбокага віру. Там і карміўся доннымі істотамі і раслінамі, толькі час ад часу выбіраючыся з патаемнага сховішча, каб ухапіць бліжэй ля берага нейкую большую здабычу. Калі малады сомік накіроўваўся на самастойнае паляванне, то часам суправаджаў яго, стараючыся быць дзесьці паблізу. Назіраў, як ідуць справы ў суродзіча, хваляваўся, калі ў таго нешта не ладзілася, і наадварот: радаваўся, калі той паляваў удала. Малады таксама адчуваў сябе больш упэўнена.

Шчупак тым часам не драмаў. Нешта вабіла яго ўсё-такі падплысці бліжэй да таямнічага віру. Можа рыбы навокал мала было, а можа што іншае прыйшлося яму даспадобы.

Іншыя рыбы адчувалі прысутнасць ворага і таксама ціснуліся

ў цёмны вір, бліжэй да самога гаспадара глыбіні. Яму шчупак якніяк не роўня, і заплываць глыбока ў вір драпежнік асцерагаўся. Ён плаваў побач, рабіў паблізу засады, а заплываць на самую глыбіню не адважваўся.

Добра выспаўшыся побач са сваім дужым сябрам, малады сом адчуў лёгкасць, прыліў бадзёрасці, і ў ім прачнулася жаданне пагуляць сярод прыціхлых рачных хваляў. Штурхануўся сомік адзін раз, штурхануўся другі, мякка і ўмела рассек дрыготкія хвалі, вышукваючы найбольш прывабную мясціну, дзе і плёскацца можна было ўволю, і на зуб ухапіць што-небудзь. Ён накіраваўся да бухматых лазовых кустоў. Раздолле там! А з галін вецер проста на ваду насякомых скідае – там і салодкія конікі, і тлустыя вусені. Сомік спяшаўся туды...

Захоплены жаданнем смачна пад'есці, не заўважыў побач шчупака. А той ужо рыхтаваўся да нападу. Угледзеўшы жаданую ахвяру, спачатку крыху адступіў назад, глыбей пад куст, і замёр там нерухома. Вада, якая ў верхніх слаях зелянела ад водарасцяў, служыла яму надзейнаю схованкай. Абрысы шчупака з шэрымі папярочнымі палосамі расплываліся, зліваючыся з агульным колерам вадзяной тоўшчы. Ён стаяў і выбіраў момант для атакі.

Сомік быў ужо не такі й малы, таму на лёгкую перамогу шчупак не разлічваў. Ён дэталёва ацэньваў абставіны, каб не памыліцца.

Звычайна шчупак заглытвае рыбіну, хапаючы яе за галаву і зацягваючы далей і далей, пакуль тая не схаваецца паміж расцягнутых да неверагоднасці сківіц. А зрабіць хоць найменшы рух назад ахвяра не можа: уся вялізная пашча шчупака густа ўсеяна вострымі, загнутымі ўнутр зубамі. І калі ўжо якая рыбка трапіць у рот вадзяному разбойніку, то шлях для яе застанецца толькі адзін – у страўнік драпежніка.

Захапіць такім чынам соміка шчупак не мог. Хоць быў той і не надта вялікі, але своеасаблівая будова цела перашкаджала гэтаму. Самы непамерна галавастыя, амаль на трэціну, а ў маладых – дык ледзь не на палову тулава. Захапіць такую "галавешку",

ды яшчэ і празмерна слізкую, шчупаку наўрад ці ўдалося б. Таму ён асабліва і не спяшаўся з нападам, так і гэтак прыкідваючы, як лепей здзейсніць свой разбойніцкі план, як бы не памыліцца ў складанай сітуацыі.

Сомік, з асцярогай азіраючыся, пачаў ласавацца насякомымі. На ваду іх падала незлічонае мноства, і асаблівых намаганняў сняданак не патрабаваў. Падплыўшы пад самую паверхню, шаляніца са смакам чмякаў ротам, заглытваючы то жукоў, то розных казюрак. Апетыт разгараўся. Ежа была смачная і з усёй сілаю вабіла да сябе. Вось упаў на ваду хрушч. Сомік павярнуўся ўбок і праглынуў яго. Лёгкі ўсплёск узняў ля берага невялікую хвалю, якая гайданула лазовы куст, і з яго галінак градам пасыпаліся дробныя насякомыя. Сомік шырока растуліў рот, захапіў вялікую порцыю вады і разам з ёю ўцягнуў усіх гэтых мітуслівых казюрак. Умела адцадзіў змесіва, выпускаючы ваду паміж вузенька зведзенымі губамі, і з задавальненнем праглынуў адцэджаныя рэшткі. А тут ужо і новая порцыя насякомых плавала на паверхні. Упусціць яе таксама не хацелася. Гэткая смаката! Сомік паласаваўся і трэці раз, калі вецер дзьмухнуў трохі мацней і на ваду сыпанулася розная машкара.

Ён амаль зусім забыўся на асцярожнасць. Плёхаўся, мітусіўся з аднаго боку ў другі, прагна хапаў дармовую ежу. Ну вось, здаецца, яшчэ адну порцыю трэба ўхапіць і – досыць! Але ж не: толькі праглынеш яе, а апетыт разгараецца зноўку. Корму ж навокал – як на заказ.

Шчупак напружана чакаў, выбіраючы найбольш удалы момант для атакі. Хоць сомік быў ужо зусім блізка ад яго і дасягнуць яго можна было адным імклівым кідком, ды нешта пакуль што стрымлівала драпежніка ад нападу. Яму нельга было памыліцца, бо на паўторную атаку наўрад ці даводзілася разлічваць.

Сомік між тым заўзята плёскаўся на паверхні вады пад нахіленым кустом. Час ад часу высоўваўся з урэзу вады, уздымаў на паверхні павольныя хвалі, ад чаго бачнасць у вадзяной тоўшчы рэзка змяншалася, так што небяспеку ён наўрад ці мог заўважыць.

А шчупак стаяў у вадзе, маўкліва і нерухома, і ў той жа час кожную хвіліну быў напагатове. І толькі сомік няўдала вывернуўся па паверхню ў чарговым віражы, як драпежнік кінуўся ў атаку. Светлы жывоцік бліснуў лёгкім блакітам і як бы паслужыў яму сігналам да нападу. У імгненне шчупак пакінуў сваю схованку, магутным штуршком перамясціўся наперад і апынуўся побач з неасцярожным сомікам. Доўгія, усеяныя вострымі зубамі сківіцы шчупака расшчапіліся ўжо ў час руху і цяпер злосна сашчапіліся, праця́ўшы мяккую скуру ахвяры за некалькі пядзяў ад галавы.

Усё цела соміка пранізаў пякучы боль. Ён інстынктыўна кінуўся назад. Але безвынікова. Шчупаковы зубы надзейна трымалі яго, і ён не здолеў нават зрушыцца з месца. Шчупак, у сваю чаргу, зрабіў рух усім целам, спрабуючы адцягнуць соміка далей ад глыбокага віру, каб на мелкаводдзі лёгка расправіцца з ім. Пры першым намаганні драпежнік, які прыкметна пераўзыходзіў ахвяру вагою і сілай, зрушыў соміка з месца і паволі, але настойліва пацягнуў на мель. У безнадзейнай роспачы сомік засіпеў, потым заклекатаў, як у час заманьвання жаб, толькі гучней, часцей і з перапудам у голасе.

Гэты покліч разбудзіў гаспадара глыбіняў, які драмаў на самым дне віру. Ён адчуў нешта нядобрае і паспяшаўся на голас.

Шчупак заўважыў волата, ды пакінуць ахвяру не спяшаўся. А сом імкліва набліжаўся. Шчупак з большаю сілай пацягнуў соміка, ды рухацца хутка не ўдавалася. Разбойнік замітусіўся. Ужо і дапамога ахвяры была зусім блізка, але ж прагнасць не дазваляла пакінуць здабычу. І люты драпежнік, выгнуўшы дугою цела, з сілай ірвануўся ўперад. Справіцца з важкім целам соміка яму не ўдалося. Захопленая зубамі частка жывата не вытрымала, і цэлы кавалак акрываўленага мяса застаўся ў шчупаковай пашчы. Ён адскочыў убок, імкліва знік у халодных хвалях.

Вада навокал расфарбавалася ў чырвоны колер. Густое туманна-ружовае воблака з размытымі абрысамі завісла ў вадзяной тоўшчы. Сомік знемагаў ад болю, губляў арыентацыю. Калматыя невыразныя цені наплылі ў яго перад вачыма, ён не разумеў, куды рухаецца.

### Раздзел трынаццаты

*Лячэнне сябра. – Пошукі ежы. – Далікатэс для хворага. – "Сядзелка". – Развітальны позірк. – Смутак старога велікана*

Стары сом прыхінуў свайго знямоглага сябра і, дапамагаючы плаўнікамі і губамі, спрабаваў адвесці яго глыбей, у больш зацішнае месца. Пераследаваць разбойніка ён не стаў. Гэта ўсё роўна закончылася б безвынікова: шчупак усё-такі шпарчэйшы. А гаспадар глыбіняў як мог спрабаваў уратаваць параненага сябра.

Рана была вялікая і глыбокая. Вада вымывала з яе кроў, якой малады сомік губляў усё больш і больш. Стары сом адапхнуў яго на самае патайное месца вялікага віру і паклаў на скрутак глыбакаводных лекавых водарасцяў. Рэчывы, што ўтрымліваліся ў іх, дапамагалі спыняць кроў і загойваць раны.

Гаспадар глыбіняў ні на хвіліну не адплываў ад соміка. Ён клапатліва наглядаў за ім. Той быў жывы, але зусім пануры і знямоглы. Ён толькі млява расплюшчваў вочы і пазіраў імі гэтак, быццам яны зусім нічога не бачылі. Рухацца яму наогул было нельга. Рана соміка была заціснута водарасцямі, як жгутом, і гэта ратавала. Таму стары сом баяўся нават часова пакінуць сябра: а раптам той пачне ў непрытомнасці варушыцца ды хоць крыху пасунецца з месца? Тады апошнія шанцы на выратаванне прападуць. Плямісты велікан абклаў небараку спачатку цяжкімі каменьчыкамі, потым абсыпаў і з бакоў, і спераду, і ззаду жвірам. Такая "коўдра" не дазволіла б соміку без патрэбы варушыцца, а разбурыць яе сіл не хапіла б. Галоўнае ж – не было пагрозы, што хворага аднясе ў бок вала, бо ў віры білася пеністая бруя.

Велікан адплыў на мелкаводдзе, падабраў там некалькі дажджавых чарвякоў, прамыў іх ад наліплага глею і прынёс параненаму сябру. Той якраз заснуў, таму што боль у ране, мабыць, трохі суцішыўся. Будзіць яго не хацелася. Старэйшы сябра толькі спачувальна пазіраў збоку. Дыханне соміка было запаволенае, кожны ўздых суправаджаўся зацяжным хрыплым посвістам. Велікан зноў пакінуў параненага сябра, зноў накіраваўся на пошукі ежы. Яму хацелася знайсці нешта незвычайнае, асабліва смачнае.

Але што тут знойдзеш такога? Рэшткі ракаў ды вялізныя зялёныя жабы, што гучна квакалі на ўсе лады каля берага, наўрад ці маглі б наталіць голад соміка. Касцістыя шурпатыя акуні ды калючыя яршы – таксама недарэчы. Сом пераплыў цераз плёс у другі, менш глыбокі вір. Паглядзеў, чым можна пажывіцца тут. Але нічога асаблівага на вочы не траплялася. Паплаваў на мелкаводдзі, пакорпаўся ў прыбярэжнай гальцы. З-пад раскіданых ім каменьчыкаў разбягаліся вадзяныя жучкі, клопікі, распаўзаліся рыжыя п'яўкі, пудліва пырхалі ўбакі чародкі дробнай рыбы. Тады ён паплыў уверх па рацэ, да больш плыткіх, але балоцістых заліваў і намыпаў глею. Тут яго надзеі апраўдаліся. З намытай роўнядзі прыбярэжнага ўрэзу, напалову высунуўшыся з яго, тырчэлі двухстворкавыя малюскі-перлаўкі. Знаходка была вельмі дарэчы: мяса перлавак пяшчотнае і мяккае. Велікан падчапіў аднаго за адным некалькі малюскаў, уцягнуў іх у рот і колькі разоў запар набраў і выпусціў між зубоў ваду. Перлаўкі адмыліся ад гразі. Тады волат злёгку расцёр іх у магутнай пашчы. Прадаўгаватыя тонкія ракавіны раскрышыліся на дробныя кавалкі, а пругкія цельцы засталіся цэлыя. Тады сом яшчэ раз прамыў здабытую ежу, выплюнуў рэшткі вапняковых панцыраў, беражліва заціснуў між губ апетытныя мяккія "паўфабрыкаты" і хуценька рушыў назад.

Небараку-соміка ён застаў у тым жа становішчы, у якім пакінуў. Той ляжаў не варушачыся, амаль не падаючы прыкмет жыцця. Толькі па тым, як павольна ўздымалася скура каля яго пярэдніх бакавых плаўнікоў, можна было зразумець, што сомік яшчэ дыхае, а значыць пакуль што жыве. Гаспадар падводнай стыхіі падплыў да яго галавы. Ён акуратна расклаў на пяску прынесены корм і асцярожна паштурхаў знямоглага сябра. Сомік адплюшчыў вочы і невыразна паглядзеў перад сабой. Мяса перлавак ён убачыў, але ніякай цікавасці не выявіў, быццам там ляжалі звычайныя голыя каменьчыкі. Ежа не лезла яму ў рот і нават выклікала агіду. Ён паглядзеў яшчэ раз, пазнаў перад сабою старэйшага сябра, і яму стала крышачку лепш. Вялікі сом падплыў ушчыльную і падапхнуў мяккую ружовую перлаўку проста да яго губ. Калі зможа парапены

сомік харчавацца, то можа як і выкараскаецца з бяды, выжыве. А без ежы куды ж? Тут ужо ніякія клопаты і лекі не данамогуць. Малады сомік таксама разумеў гэта. Тым болей не мог не адрэагаваць на ўвагу старэйшага сябра. Хоць да ежы ў яго ніякай цягі не было, ён не мог пакрыўдзіць добрага веліканa. Праз сілу адкрыў рот і ўзяў губамі паднесены яму кавалачак. На большае патугаў не хапіла. Перлаўка, якую ён з цяжкасцю захапіў у рот, так і засталася там, бо заглынуць ежу ў яго ўжо не было сілы. І стары сом зразумеў, што апошнія надзеі на выратаванне згаслі. Ён не спрабаваў болей пхаць ежу соміку ў рот, бо гэта ўсё марна. Пабачыўшы за свой век усяго-ўсякага, ён добра разумеў, што выратаваць сябра нельга.

Гаспадар віроў перастаў турбаваць блізкага сябра, каб даць яму магчымасць спакойна правесці апошнія часіны жыцця. Гаспадар бездані ні на хвіліну не адлучаўся ад непрытомнага, амаль нежывога соміка. Плямісты волат ужо й сам надта захацеў есці, бо трое сутак без малога не кранаўся ён з месца.

Параненаму соміку жыць заставалася зусім нядоўга. Яго хвіліны былі злічаны. І калі пачаў насоўвацца халодную цемраю чарговы вечар, ён яшчэ раз расплюшчыў вочы, уважлівей, чым раней, паглядзеў на свайго магутнага сябра, быццам уклаў у гэты позірк усе свае апошнія сілы і, павольна заплюшчыўшы вочы, зрабіў сіплы працяглы выдых і навекі заціх.

## Раздзел чатырнаццаты

*Бяда адна не прыходзіць. – Нашэсце браканьераў. – Патопленыя лодкі. – Крывавая рана. – Сустрэча са шчупаком. – Смяротная сутычка*

Бяда адна не прыходзіць. Відаць, не наканавана было гаспадару таямнічых віроў спакойна дажыць свой век

Глыбокі вір агледзелі браканьеры. З аднаго і другога бакоў абцягнулі яны глыбачэзную яму моцнымі шырокімі сеткамі, а самі на дзвюх лодках затаіліся пасярэдзіне гэтае пасткі. Разлік просты: калі надарыцца ў яміне вялікая рыбіна,

а хутчэй за ўсё менавіта так і павінна быць, то сеткі не дазволяць ёй выйсці на плынь. А закідваючы раз-пораз насаджаную на вострыкручок прынаду, можна различваць, што ўрэшце рыбіна ўсё-такі схопіць яе – ці то ад прагнасці, ці то са злосці. На моцны плецены шнурок браканьеры падвязалі вялікі трохражковы кручок, на кожны з ражкоў насадзілі па пары смажаных вераб'ёў. На гэтай справе яны зналіся добра. Такая прынада вельмі прывабная для самоў. Яна прыцягвае да сябе і выглядам, і апетытным пахам. Бывалы сом на прынаду не адрэагаваў. Жыццёвы вопыт засцерагаў. Ён нават не стаў абнюхваць смажаных вераб'ёў ці аглядаць іх.

З паўдня рыбаловы праплёскаліся на вадзе. Набліжалася ноч. Трэба было збірацца дадому, ды прагнасць не пакідала браканьераў. Яны дакладна ўпэўніліся, што здабыча ў віры ёсць, і немалая. Нанач прышэльцы ўсё ж з'ехалі з вадаёма, але хітрамудрую пастку пакінулі. Моцны плецены шнурок, да якога быў падвязаны кручок, яны падоўжылі вяроўкай, замацавалі за пустую, з забітымі днішчамі бочачку і пусцілі ў свабоднае плаванне. Калі схопіць рыбіна прынаду, то так і будзе цягаць за сабою пасудзіну, не могучы ўцячы на глыбіню. Бочка, што будзе плаваць па вадзе, беспамылкова падкажа месцазнаходжанне здабычы.

Плямісты велікан на хітрыкі не паддаўся. Ноччу ён узняўся з глыбіні, агледзеў пакінутыя прычындалы і ў тоўшчы вады, і на яе паверхні. Яны не былі для яго вялікаю навіной. На гэтым сома правесці было цяжка. Яго занепакоіла сетка. Ірваць яе было рызыкоўна. Кранеш, пацягнеш, а там, безумоўна, нейкая пастка. Ад чалавека ўсяго чакаць можна. А паколькі асаблівай патрэбы выбірацца з яміны ў сома не было, то не было і падставаў рызыкаваць. Таму ён агледзеў сеткі, што перакрывалі яму шлях зверху і знізу, і, нічога слушнага не надумаўшы, пакуль што зноў залёг на дно.

Раніцою ля віру зноўку з'явіліся людзі. Праверылі пакінутыя снасці і засталіся расчараваныя. Ад сваіх намераў яны не адмовіліся, а пакуль што вярнуліся ў вёску.

Праз колькі гадзін прыйшлі. Прылад у іх цяпер было намнога болей. Яны прынеслі кручкі, кавалкі акрываўленага мяса, вострыя жалезныя бусакі, насаджаныя на доўгія драўляныя чаранкі.

Спусцілі на ваду дзве лодкі, што стаялі ля берага, і зноў узяліся за справу. Усеўшыся ў лодках, яны пачалі апускаць у ваду вострыя кручкі з кавалкамі мяса на іх. Тым самым спрабавалі зноў прынадзіць ці раззлаваць рыбіну. У тым ці іншым выпадку яна магла не вытрымаць і ўхапіць спажыву. А ім толькі гэта і трэба было, хоць нават самы моцны шнурок наўрад ці вытрымаў бы вялізную рыбіну. Але ж было дастаткова ўсяго толькі крыху падцягнуць здабычу да лодкі, а пасля ўжо пойдуць у ход вострыя бусакі.

Паклёвак не было. Настырныя рыбаловы закідвалі і закідвалі прынаду. Мянялі адмытыя ад крыві кавалкі мяса, падаўжалі плеценыя шнуркі на большую глыбіню і зноў закідвалі. Часам кавалкі мяса падалі ў сома перад носам. Ён жа абачліва не кранаў іх, адплываў убок. Падплываў да самай сеткі, але, не рызыкуючы чапаць яе, зноў вяртаўся да сярэдзіны віру на глыбіню.

Пастаяннае плясканне прынады па дне, як і далёкія, але гучныя ўсплёскі на паверхні вады сому не проста надакучылі, а нават абрыдлі. Цярпенне яго канчалася. Не вытрымаўшы, ён некалькі разоў ухапіў збоку за прынаду. Вопыт дазваляў, няглядзячы на агульную нязграбнасць, зрабіць гэта амаль ювелірна, не дакрануўшыся да кручка. Так удалося сарваць два кавалкі мяса, і рыбаловам засталіся толькі голыя прылады. І ўсё ж яны насаджвалі новыя кавалкі і цяпер. Упэўненыя, што вялікая рыбіна менавіта тут, з падвоенай энергіяй працягвалі практыкаваць розныя варыянты і спосабы лоўлі, якія маглі б забяспечыць поспех. У ход пайшлі жывадзёры, на паверхні моцна стукалі печым па вадзе, вымушаючы рыбіну рухацца. Сом не мог болей заставацца на месцы. Ён узняўся з дна і рашуча паплыў да паверхні. Апушчаныя ў ваду прынады і кручкі-жывадзёры ўдала абышоў. І адразу ўбачыў на вадзе дзве выразныя цёмныя плямы – лодкі. Не разважаючы доўга, рачны велікан падплыў пад адну з іх і ўсім сваім вялізным целам піхнуў угору. Ад магутнага штуршка лодка перакулілася. Людзі, што сядзелі ў ёй, моцна закрычалі і бездапаможна плюхнуліся ў ваду. Але й сом быў ужо не той. Стары і неразваротлівы, ён не справіўся як след са сваім целам, і ўся яго махіна вывернулася на паверхню побач з другою лодкай.

Дужы браканьер, што знаходзіўся ля бліжэйшага борта, здолеў скарыстаць шанц, які сам сабою падвярнуўся яму. Нацэлены жорсткай рукою, бусак выпісаў у паветры дугу і з сілай упіўся ў жывот рыбіне. Металічны наканечнік пранік у тулава так глыбока, што над скурай аказаўся не толькі прамы, але і загнуты яго ражок.

Сом рэзка павярнуўся, утварыўшы вялікую хвалю, якая перавярнула дагары дном і другую лодку. У гэтым рыўку ён адначасова сарваўся з бусака.

Рана была смяротная. Сілы ў сома яшчэ заставаліся. Ён некалькі разоў усплыў, дэманструючы браканьерам веліч і моц, а тыя, забыўшыся на здабычу, спяшаліся да берага. Сом яшчэ раз павольна развярнуўся на паверхні, нанёс аглушальны ўдар сваім магутным хвастом. Адна лодка разламалася, і па рацэ паплылі адарваныя ад яе дошкі. Другая лодка, набраўшы па самыя барты вады, патанула.

Сом адышоў на глыбіню і, зарыўшыся ў пясок, заціх там. Людзі яшчэ з паўгадзіны прабадзяліся на беразе. Выкручвалі мокрае адзенне, збіралі пажыткі, узбуджана і гучна абмяркоўвалі здарэнне ды чухалі патыліцы, шкадуючы лодак. Неўзабаве галасы на беразе сціхлі. Людзі, відаць, накіраваліся ў вёску. Вечарэла.

Сом ляжаў глыбока на дне і цяжка дыхаў. Магутны загнуты ражок браканьерскага бусака не толькі разадраў яму жывот, утварыўшы глыбокую рану. У некаторых месцах былі пашкоджаны кішкі, асобныя з іх нават перарэзаны. На тое, што ўдасца выжыць, разлічваць не даводзілася. Набліжаліся апошнія гадзіны плямістага волата.

Наступіла ноч. Боль у жываце паступова чамусьці знік... Цела станавілася непаваротлівым і цяжкім, млявасць і знямога расцякаліся па ім. З кожнаю хвілінай сом слабеў, не заўважаў нічога, жыццёвыя сілы пакідалі некалі моцны арганізм.

Калі наступіла раніца, былы ўладар віроў быў ужо зусім слабы і сустракаў, мабыць, апошні ў сваім жыцці світанак.

Сабраўшы сілы, ён узняўся з дна, спрабуючы апошні раз выплысці на паверхню, быццам хацеў развітацца з сонцам і небам,

з усім тым светам, на якім пражыў ён гэткае даўгое жыццё. Ён азірнуўся на месца, дзе толькі што ляжаў, і яму стала яшчэ горай ад убачанага. Донны пясок зрабіўся чорным ад крыві.

Усплыць удалося з вялікімі намаганнямі. Сом апошні раз агледзеў наваколле, вяла наварушыў губамі і збіраўся быў зрабіць апошні нырок назад, каб залегчы ў бездані пад карчамі, але тут сом заўважыў старога знаёмага – разбойніка-шчупака, які прытаіўся збоку. Заднім плаўніком ён зачапіўся за пакінутую рыбакамі сетку і цяпер замёр нерухома, стараўся быць незаўважаным. Перад драпежнікам у яго невядома скуль узяліся сілы. Не разважаючы, стары сом кінуўся на шчупака. Той, спалоханы немінучай сустрэчай з плямістым волатам, ірвануўся ўбок, затым уперад, і нечакана для самога сябе вырваўся з пасткі, але ў адзін момант амаль траціна пярэдняй паловы яго цела разам з галавою патанула ў шырачэзнай пашчы.

Сківіцы сома самкнуліся ў бязлітаснай жалезнай хватцы і імгненна пачалі застываць у смяротнай нерухомасці. Ужо нельга было, не хапала сілы расціснуць іх. Масіўнае тулава бервяном апусцілася на дно.

Спробы шчупака вызваліцца былі дарэмныя. У лічаныя хвіліны жыцця ўладар глыбіняў здолеў-такі звесці рахункі з разбойнікам.



# Іван Лагвіновіч

***I***
***дуб***
*стары,*
*замшэлы*
*ганарыцца,*
*фанабэрыцца,*
*як да пачатку*
*чэрвеня апер'іцца:*
*Я*
*дам*
*адпор*
*дажджам,*
*маланкам і вятрам!*

Іван ЛАГВІНОВІЧ

# ВЕЧАР ПАМЯЦІ

Сёння ўвечары я
да суседкі-ўдавы не пайду,
рук сваіх ёй на плечы
даверліва не пакладу,
пра надзённыя справы
размовы з ёй не павяду —
сёння ўвечары.

Сёння ўвечары я
і сваю, і чужую бяду
ад дзвярэй і ад вокан,
ад лёсаў далей адвяду,
закапаю ў бары,
над балотам развею нуду —
сёння ўвечары.

Сёння ўвечары я
спажываць буду толькі ваду,
сорак сёмага года
згадаю ратуй-лебяду,
і гарбатага старца,
і ў пальцах ягоных дуду —
сёння ўвечары.

Сёння ўвечары я
помнік даўнім гадам узвяду,
мноства кветак прыгожых,
пятленных да ўзножжа ўскладу,
запалю памінальны агонь
у дарог на віду —
сёння ўвечары.

* * *

Дзе дажджынкі нага не ступала
з учарашняга хмарнага дня,

назбіраю я лісцяў апалых
на далоні шырокага пня.

Прынясу далікатна дадому,
раскладу на пісьмовым стале.
Мне — самотнаму, немаладому —
будзе з імі цяплей і святлей.

А як люты над выстылым полем
зашморгне завірухі пятлю,
адпушчу іх праз фортку на волю,
дням вясны запрашэнні пашлю.

## МРОЯ

Ноч уздыхне
аўдавелай сялянкаю
ў траў прахалодзе.
Бліснe
сярэбранаю завушніцай
ветах у росах.
З брамы ўспамінаў
выйдзе дзяўчына
з русай касою
даўнім спатканнем,
цёплым каханнем,
вабным змярканнем.
Я пасігналю
промнем надзеі,
сумам аклікну.
Не азірнецца,
не азавецца...
Пойдзе на хутар.

 



Іван Лагвіновіч

# ЖУРАЎЛІ НАД КРЫМСКІМІ ГАРАМІ

На світанку туман
аднаўзе па кручы скалы
да зялёных яшчэ,
да ўраселых пагоркаў малых.
Не ўзлятайце пакуль што,
пабаўцеся ў гнёздах, арлы!
— Курлы-ы...

Спеў тужлівы з Палесся
па хвалях высокіх прыплыў.
За сустрэчу п'ю водар
сасновайігліцы й смалы.
Майце гонар і годнасць —
замрыце, знямейце, арлы!
— Курлы.

Золкі ранак пахмурны,
а ў сэрцы — лагоды святлынь!
Надыходзячы дзень
вершаванае варты хвалы.
Што ж, раўнуйце мяне
да сясцёр выраёвых, арлы!
— Курлы!
— Курлы!
— Курлы-ы...

*Стары Крым, 1982*

# ЭЛЕГІЯ

Была ідылія,
цяпер — элегія:
зямля настылая,



 

трава палеглая,
раз-пораз шамкае
грудок бляшанкамі;
вятры халодныя,
заўжды галодныя
з бяроз бязлітасна
згрызаюць лісцейка;
на чорным ворыве
балююць вораны.
Канец кастрычніка —
і верш без клічнікаў.

* * *

Даруйце за шурпатыя радкі...
Нічога не дадам і не адкіну.
Пісаў — як звыш было наканавана.
На даўкім хлебе з мукавай мукі,
з дамешкам жорсткім скрухавай мякіны,
душа ў згрызотах здзеку ўзгадавана.



# Умбэрта Эка

*Паводле некаторых меркаванняў, мы трызнім сярэднявеччам. Але фактычна ўсе мы — і амерыканцы, і еўрапейцы — спадкаемцы заходняе традыцыі, а ўсе праблемы Захаду паўсталі ў сярэднявеччы...*

*Наша вяртанне да сярэднявечча — гэта пошук уласных каранёў, і паколькі мы хочам вярнуцца да "сапраўдных" каранёў, то шукаем "праўдзівае сярэднявечча", а не рыцарскія раманы ды фантастыку.*

Умбэрта ЭКА

# ДА НОВАГА СЯРЭДНЯВЕЧЧА

## 3. Крызіс Pax Americana

Тое, што сёння мы перажываем крызіс *Pax*[1] *Americana*, ёсць агульнае месца ў цяперашняй гістарыяграфіі. Але было б наіўным за некім канкрэтна замацоўваць вобраз “новых варвараў” хаця б таму, што тэрмін “варвары” (заўсёды ў нас на слыху) мае негатыўную нагрузку і ўжо адно гэтым збівае са следу. Хто яны, новыя варвары: кітайцы або народы “трэцяга свету”, пераходнае пакаленне ці паўднёвыя імігранты, што ствараюць у Турыне новы П’емонт, які ніколі раней не існаваў, тыя, што напіраюць на межы (на якіх ужо стаяць) або тыя, што ўжо працуюць унутры нашага сацыяльнага арганізма? З другога боку, хто былі варварамі пары заняпаду Імперыі: гуны, готы або азіяцкія і афрыканскія народы, якія ўцягвалі цэнтр Імперыі ў свае гандлёвыя справы і ў свае рэлігіі? Адзінае, што дакладна можа быць вызначана, – гэта ўзнікненне Рымляніна, так жа сама як сёння навідавоку знікненне Ліберальнага Чалавека, прадпрымальніка англасаксонскай мовы, які меў у "Рабінзоне Круза" сваю першую прымітыўную паэму, а ў Максе Вэберы – свайго Вергілія.

На вулічках прадмесцяў сярэдні клерк з валасамі “бобрыкам” яшчэ ўвасабляе рымляніна старых добрых якасцяў, але ягоны сын ужо стрыжэцца пад індзейца, апранаецца ў мексіканскае пончa, іграе на азіяцкім сітары, чытае буддыйскія тэксты або ленінскія

*Заканчэнне. Пачатак у № 5(65).*

брашуры і імкнецца (як здаралася на схіле Імперыі) узгодніць Гесэ, задыяк, алхімію, думку Мао, марыхуану і метады партызанскай вайны ў горадзе; дастаткова прачытаць *"Do it"*[2] Джэры Рубіна або задумацца над праграмамі *Alternate University,* якія два гады таму ў Нью-Йорку арганізоўваў курсы па Марксу, кубінскай эканоміцы і астралогіі. Але нават і бацька згаданага сына, гэты забабонны рымлянін, у святы ўжо гуляе ў абмен жонкамі і тым пагружае ў крызіс мадэль пурытанскай сям'і.

Уведзены ў *corporation* (вялікая сістэма ў стане дэградацыі), гэты рымлянін з валасамі "бобрыкам" на самай справе ўжо жыве сярод абсалютнай дэцэнтралізацыі і крызісу цэнтральнай улады (або ўладаў), зведзенай да фікцыі (якой была некалі Імперыя) і да ўсё больш абстрактных прынцыпаў. Успамінаецца яркі эцюд Фурыя Каломба ("Улада групы і канфлікт у неафеадальным грамадстве"), у якім паўстае сучасны характар тыпова неасярэднявечнай сітуацыі. Мы ўсе ведаем без патрэбы сацыялагічных практыкаванняў, наколькі ўжо сёння рашэнні ўрада часта маюць фармальны характар у параўнанні са знешне перыферыйнымі рашэннямі вялікіх эканамічных цэнтраў, якія невыпадкова пачынаюць ствараць сваю прыватную сістэму інфармацыі, выкарыстоўваючы патэнцыял грамадства, свае універсітэты, якія відавочна выйграюць у параўнанні з развалам Цэнтральнага Размеркавальніка Адукацыі. Да якой ступені палітыка Пентагона або ЦРУ можа весціся абсалютна незалежна ад палітыкі Белага дома – гэта вядома кожнаму.

"Тэхналагічная ўлада спустошыла дзяржаўныя інстытуцыі і пакінула цэнтр сацыяльнай структуры", – заўважае Каломба; улада "адкрыта арганізуецца па-за цэнтральным і сярэднім полем сацыяльнага арганізма ў напрамку зоны, вольнай ад агульных абавязкаў і адказнасці, нечакана дэманструючы дадатны характар сваіх інстытуцый".

Улада ацэньваецца ўжо не паводле іерархіі або прадпісанай функцыі, а паводле прэстыжу і эфектыўнага ўздзеяння; Каломба згадвае справу з бунтам у турмах Нью-Йорка ў кастрычніку 1970 г., калі афіцыйная ўлада – мэр Ліндсэй – магла дзейнічаць толькі з дапамогай заклікаў да ўраўнаважанасці, а перамовы вяліся спачатку паміж вязнямі і намеснікамі мэра, потым – паміж



журналістамі й турэмнай адміністрацыяй з эфектыўным пасрэдніцтвам тэлебачання.

### 4. В'етнамізацыя тэрыторыі

У гульні прыватных інтарэсаў, што самакіруюцца і падтрымліваюць адзін аднаго праз узаемныя кампрамісы і раўнавагі, маюць на службе прыватныя паліцэйскія сілы, абнесеныя мурамі з вежамі цэнтры збору і абароны, няцяжка заўважыць тое, што Каломба называе настуновай в'етнамізацыяй прасторы, якую з боем захопліваюць новыя аддзелы наймітаў (хто такія *minutemen* і *black panters?)*. Паспрабуйце прызямліцца ў Нью-Йорку на самалёце кампаніі *TWA*: вы патрапіце ў абсалютна прыватны свет, у самакіруемы храм, які не мае нічога агульнага з тэрміналамі *Panamerican*. Цэнтральная ўлада, якая адчувае з боку прыватнага бізнесу асабліва інтэнсіўны ціск, абслугоўвае гэтую кампанію візамі і мытнымі паслугамі хутчэй, чым іншых. Калі вы прыляцелі на самалёце *TWA*, то прамінеце мытню за пяць мінут чыстага часу, а з іншымі кампаніямі змарнуеце гадзіну. Вось якая моц у "крылатага феадала", з якім вы ўступіце ў сувязь; яго "свяшчэнныя місіі" (ім нават даверана ўлада ідэалагічнага абвінавачвання і адпушчэння грахоў) пазбавяць вас ад шматлікіх праблемаў, якія для іншых будуць непазбежнымі паводле найбольш дагматычных канонаў.

Не трэба ехаць у Амерыку, каб адкрыць для сябе, як змяніўся знешні выгляд цэнтральнай залы банка ў Мілане або ў Турыне, і каб ацаніць пры ўваходзе ў палац *RAI*[3] на алеі Мадзіні ў Рыме, які комплекс праверак, што праводзяць унутраныя ахоўнікі, давядзецца пераадолець, перш чым вы патрапіце ў замак больш умацаваны, чым феадальны. Прыклады фартыфікацыі і пераводу фабрык на ваенныя рэйкі ў нас праяўляюцца на ўзроўні штодзённага досведу. Служачы паліцыі тут нават непатрэбны, ён хутчэй адно дэманструе сімвалічную прысутнасць улады, якая ў лепшым выпадку можа стацца толькі дапаможнай сілай, але цяжар асноўных абарончых функцый бяруць на сябе наёмныя ахоўнікі. І толькі тады, калі ерэтычная крэпасць (маю на ўвазе Міланскі Дзяржбанк з ягонай незалежнай тэрыторыяй, забяспечанай

"сапраўднымі" прывілеямі) пачынае лішне назаляць, цэнтральная ўлада ўмешваецца, каб падтрымаць імідж Дзяржавы; у перабудаваны пад крэпасць офіс "Архітэктуры" ў Мілане цэнтральная ўлада ўмяшалася толькі тады, калі феадальныя сіньёры рознага паходжання (ад бізнесу, часопісаў, гарадской хрысціянскай дэмакратыі) прынялі рашэнне захапіць варожую цытадэль. Адно тады цэнтральная ўлада заўважыла шматгадовую нелегальнасць сітуацыі і абвінавацiла раду факультэта. Да тае пары, пакуль ціск больш буйных феадалаў не стаўся нястрымным, гэтаму малому феоду аблудных тампліераў або кляштару манахаў-расстрыгаў дазвалялася самакіраванне паводле ўласных правілаў і ўласных пастоў або ўласнай разбэшчанасці[4].

Італьянскі географ Джузэпэ Сака разгарнуў год назад тэму асярэднявечання горада. Гаворка ў Сака ідзе пра серыі меншасцяў, што адмаўляюць інтэграцыю, групуюцца ў кланы, і кожны клан надае індывідуальнасць кварталу, які часта становіцца недаступным для іншых, гэтаксама як і сярэднявечны "квартал" (Сака выкладае ў Сіене). У духу клана перафармоўваюцца таксама і заможныя класы, якія, ідучы за міфам натуры, адступаюць за межы горада, у квартал-сад з аўтаномнымі рынкамі, і тым даюць жыццё новым тыпам мікрасоцыумаў.

Сака таксама звяртаецца да тэмы в'етнамізацыі тэрыторый, сцэнаў пермапентнай напругі з прычыны распаду кансенсуса; сярод адказаў улады найбольш выразна вызначылася тэндэнцыя дэцэнтралізацыі вялікіх універсітэтаў (свайго кшталту рассейванне студэнтаў), каб пазбегнуць небяспечнай кандэнсацыі масы. У гэтай карціне перманентнай грамадзянскай вайны, дзе дамінуе сутыкненне супрацьлеглых меншасцяў і адсутнічае цэнтр, гарады ўсё больш схільныя стацца тым, што мы можам сустрэць у некаторых лацінаамерыканскіх паселішчах, прызвычаеных да партызанскай вайны, "дзе фрагментацыя сацыяльнага арганізма выразна сімвалізуецца парцье жылых дамоў, які звычайна ўзброены аўтаматам. У тых жа самых гарадах адміністрацыйныя будынкі падобныя на крэпасці, а ў некаторых выпадках, як прэзідэнцкія палацы, яны аточаны свайго кшталту земляным валам, які абараняе іх ад абстрэлу з базукі".

Зразумела, наша паралель з сярэднявеччам павінна быць сфармулявана так, каб не баяцца сіметрычна супрацьлеглых

вобразаў. Таму што калі аўтэнтычнае сярэднявечча непасрэдна звязана са змяншэннем насельніцтва, уцёкамі з гарадоў і беднасцю вёскі, цяжкасцю камунікацый, занянадам рымскіх дарог і пошты, крызісам цэнтральнага кантролю, то сёння праяўляецца (разам з абвастрэннем крызісу цэнтральных уладаў) супрацьлеглы феномен: рост насельніцтва адпаведна росту камунікацый і транспарту, што робіць гарады непрыдатнымі для жыцця не з-за разбурэння і ўцёкаў насельніцтва, а з-за татальнага параксізму з прычыны звышактыўнай дзейнасці. Плюшч, які раз'ядае вялікія змрочныя палацы, цяпер саступае месца атмасфернаму забруджванню і горам смецця; горад запаўняецца імігрантамі; але яго пакідаюць старыя жыхары, якія выкарыстоўваюць горад, каб там працаваць, а потым з'язджаюць у прадмесці (усё больш умацаваныя пасля разні на *Bel Air*). Манхэтан паступова становіцца месцам жыхарства толькі неграў, Турын – выхадцаў з поўдня, а тым часам на навакольных пагорках і раўнінах нараджаюцца родавыя замкі, звязаныя між сабой этыкетам добрага суседства, узаемнага даверу і адмысловымі цырыманіяльнымі рытуаламі пры сустрэчы.

## 5. Экалагічны занапад

Вялікі горад, нават калі яго не штурмуюць ваяўнічыя варвары і не пустошаць пажары, сёння пакутуе на недахоп вады, крызісы з забеспячэннем электраэнергіяй, транспартны паралюш. Да таго ж, часам узнікаюць спробы наўмысна падарваць асновы тэхналагічнага суіснавання; Вака нагадвае пра існаванне падпольных груповак, якія заклікаюць справакаваць замыканне на ўсіх электралініях, адначасова выкарыстоўваючы як мага больш бытавых электрапрыбораў і ахаладжаючы дом адкрытым халадзільнікам. Вака як навуковец заўважае, што, пакідаючы адкрытым халадзільнік, яны не паніжаюць, а павышаюць тэмпературу: але паганскія філосафы мелі значна больш сур'ёзныя пярэчанні што да сексуальных і эканамічных тэорый першых хрысціян, і наогул праблема была не ў тым, каб убачыць, ці спраўджваюцца тэорыі, а менавіта каб максімальна абмежаваць абстэнцыянізм і нежаданне супрацоўнічаць з уладай. Прафесараў

з Кастэльнуова судзілі за тое, што яны не адзначалі адсутных на асамблеі; гэта атаясамілі з няўдзелам у ахвярапрынашэнні багам. Улада баіцца аслаблення цырыманіялаў і браку фармальнага шанавання яе інстытуцый, у чым яна бачыць жаданне сабатаваць традыцыйны лад і памкненне да ўсталявання новых звычаяў.

"Высокае" сярэднявечча характарызуецца моцным тэхналагічным заняпадам і збядненнем вёскі. Бракуе жалеза, і селянін, у якога падае ў калодзеж садовы нож, павінен чакаць на цудоўнае ўмяшальніцтва святога, які дастае яго (як сведчаць легенды), а інакш не было б чым працаваць. Катастрафічнае змяншэнне насельніцтва спыняецца стабільнасцю толькі пасля тысячнага года, як гэта ні дзіўна, з прычыны ўвядзення культураў фасолі, сачыўкі і бобу, якія валодаюць высокай пажыўнай сілай, без чаго Еўропа вымерла б ад арганічнай знямогі (сувязь паміж культурным адраджэннем і фасоллю вырашальная). Сёння, наадварот, усеахопнае развіццё тэхналогіі правакуе татальнае забруджванне ды сістэмныя паломкі, а пашырэнне харчовай прамысловасці абяртаецца вытворчасцю атрутных і канцэрагенных харчоў.

Грамадства кансумізму высокага ўзроўню прадукуе не высакаякасныя прадметы, а лёгкаразбуральныя рэчы (калі вам патрэбен добры нож, купіце яго ў Афрыцы, у Злучаных Штатах ён зламаецца з першага ўжывання); тэхналагічная цывілізацыя паступова становіцца грамадствам выкарыстаных і нічога не вартых прадметаў; адпаведна на вёсцы мы становімся сведкамі вынішчэння лясоў, заняпаду пэўных культураў, атручвання вады, атмасферы і раслін, знікнення відаў жывёлаў і гэтак далей, у сувязі з чым калі не фасоль, дык прынамсі ін'екцыя натуральных элементаў становіцца ўсё больш неадкладнай.

## 6. Неанамадызм

Факт, што ў нас лётаюць на Месяц, перавозяць экіпажы на спадарожнікі і вынаходзяць новыя рэчывы, выдатна спалучаецца з малавядомым бокам медаля сярэднявечча як эпохі першай індустрыяльнай рэвалюцыі: на працягу трох стагоддзяў былі

вынайдзены стрэмя і хамут, што значна ўзмацніла прадукцыйныя магчымасці каня, рухомы кармавы руль, які дазволіў караблям плыць супраць ветру, вятрак...

Мала магчымасцяў мае чалавек за ўсе свае гады ўбачыць Павію, але яму проста скончыць жыццё ў Сан Джакома дзі Кампастэла або ў Іерусаліме. Сярэднявечную Еўропу натоўпамі баразнілі пілігрымы па шляхах паломніцтва (у іхніх выдатных турыстычных даведніках пазначаліся цэрквы абацтваў, гэтак сёння пазначаюцца матэлі і "Хілтаны"), як нашы нябёсы баразняць самалёты, якімі прасцей трапіць з Рыма ў Нью-Йорк, чым са Спалета – у Рым.

Нехта можа запярэчыць, што напаўкачавое сярэднявечнае грамадства было грамадствам ненадзейнага падарожніцтва; ад'язджаць – значыла пісаць спадчынны тэстамент (успомнім ад'езд старога Ан Вэрко ў "Паведамленні для Марыі" Кладэля), падарожнічаць – азначала сустракаць бандытаў, кодлы валацуг і драпежнікаў. Але ідэя сучаснага падарожжа як шэдэўра камфорту і бяспекі даўно скампраметаваная; узыход на авіялайнер праз сістэму розных электронных кантроляў іператрусаў, скіраваных супраць спробы тэракту, паволі аднаўляе былое адчуванне прыгодніцкай небяспекі, якой, відаць, наканавана ўзрастаць.

### 7. Insecuritas

"Небяспека" (*"Insicurezza"*) з'яўляецца ключавым словам у карціне страхаў тысячнага года: свет на парозе канца, фінальная катастрофа пакладзе канец тысячагоддзю. Славутыя псіхозы тысячнага года з'яўляюцца легендай, гэта ўжо даказана, але тое, што праз усё X стагоддзе чырвонай ніткай праходзіць страх перад канцом свету, гэта таксама даказана (праўда, напрыканцы тысячагоддзя псіхоз ужо мінуў). Што тычыцца нашых дзён, то неад'емныя ад іх тэмы атамнай і экалагічнай катастрофаў (з якімі сучаснасць скарылася) не саступаюць у апакаліптыцы сярэднявечным. У якасці утапічнай карэктывы некалі існавала ідэя *"renovatio imperii"*[5], а сёння яе эквівалентам выступае шматмодульная ідэя "рэвалюцыі"; абедзве гэтыя ідэі – з салднымі

рэальнымі перспектывамі і з фінальнымі адхіленнямі ад праекта (не Імперыя будзе аднаўляцца, а камунальнае адраджэнне і нацыянальныя манархіі будуць дысцыплінаваць небяспеку). Аднак небяспека ёсць не толькі "гістарычная", але і псіхалагічная, яна ўвасабляецца ў стасунках: чалавек – краявід, чалавек – грамадства. У сярэднявеччы па начах не блукалі ў лясах, населеных злавеснымі істотамі, а калі пасля заходу сонца даводзілася выходзіць за межы жылля, то выходзілі ўзброеныя; але і жыхар Нью-Йорка не пойдзе пасля пяці гадзінаў вечара ў Цэнтральны парк, уважліва будзе выбіраць цягнік метрапалітэна, каб той не завёз яго ў Гарлем, а жанчыны і ўвогуле не карыстаюцца метрапалітэнам пасля поўначы. Пакуль паліцэйскія сілы змагаюцца з рабункамі з дапамогай неразборлівага знішчэння добрых і дрэнных, усталёўваецца практыка рэвалюцыйнага рабавання. Замежнага пасла выкрадаюць так, як кардынал з ягонаю світай мог быць выкрадзены нейкім Робін Гудам і выменены на пару вясёлых лясных сябрукоў, якіх чакалі шыбеніца або кола. Апошні мазок на карціне падабенстваў калектыўнай небяспекі ў тыя і ў нашыя часы: сучасныя ліберальныя дзяржавы вайну больш не абвяшчаюць (можа толькі напрыканцы канфлікту, успомнім Індыю і Пакістан), і ніколі невядома, ці існуе стан вайны, ці не. Урэшце можна паехаць у Ліворна, Верону або на Мальту, каб пераканацца, што шматмоўныя войскі Імперыі стаяць на розных нацыянальных тэрыторыях сталым гарнізонам і іхні патэнцыял імкнуцца выкарыстаць, каб весці вайну (або рабіць палітыку) у сваіх інтарэсах.

### 8. Ваганты

Сёння па абшарах свету, апанаваных *insecuritas*, блукаюць кодлы асацыяльных элементаў у пошуках містычных або прыгодніцкіх забаваў. У рамках агульнага крызісу універсітэтаў і з прычыны дыскрэдытацыі афіцыйных вучэльняў студэнты ператвараюцца ў вагантаў і звяртаюцца да пазаштатных выкладчыкаў, адмаўляючыся ад "сапраўдных настаўнікаў"; хаўрусы хіпі – тыя ж самыя жабрацкія ордэны, якія ў пошуку містычнага шчасця жывуць за кошт грамадскай дабрачыннасці

(наркотык або Ласка Божая – мала розніцы яшчэ і таму, што розныя нехрысціянскія рэлігіі не цураюцца хімічнага шчасця). Мясцовае насельніцтва не прымае і пераследуе хіпі, і калі "брата кветак" вытураць з усіх маладзёвых прыстанкаў, ён піша, што дасягнуў ідэальнага стану жыцця. Цяпер, як і ў сярэднявеччы, мяжа паміж містыкам і нягоднікам мінімальная, і нейкі Мансон не хто іншы, як манах, які захапіўся, падобна ягоным папярэднікам, сатанічнымі абрадамі (з другога боку, калі ўладутрымаючы чалавек кідае цень на легітымнае кіраўніцтва, то таксама ўцягвае яго, як робіць Філіп Прыгожы з храмоўнікамі, у скандал шаленства). Містычная ўзбуджанасць і д'ябальскі рытуал вельмі блізкія паміж сабой. Жыль дэ Рэц, спалены жыўцом за тое, што з'еў шмат дзяцей, быў баявым паплечнікам Жанны Д'Арк, харызматычнай ваяўніцы, як Чэ. Іншыя формы, падобныя да формаў жабрацкіх ордэнаў, выяўляюцца ў іншым ключы групамі палітыканаў: маралізм Саюза марксістаў-ленінцаў мае манаскія карані ў закліках да беднасці, сціпласці строяў і "служэння народу".

Калі гэтыя паралелі здаюцца вам залішне хаатычнымі, то ўзгадайце пра тыя адрозненні пад агульным прыкрыццём рэлігійнасці, што падзялялі кантэмплятыўных і лянівых манахаў, якія ва ўмовах кляштарнай ізаляцыі давалі адзін аднаму дыхту; актыўныя папулісцкія францысканцы і цвёрдалобыя дактрынёры-дамініканцы добраахвотна выдалілі сябе з бягучага сацыяльнага кантэксту, якім яны пагарджалі як дэкадэнцкім, д'ябальскім, як крыніцай неўрозаў і "адчужэння". Гэтыя супольнасці абнаўленцаў, занятыя то шалёна напружанай практычнай дзейнасцю на карысць немаёмных, то гарачай тэалагічнай дыскусіяй, раздзіраюцца ўзаемнымі абвінавачваннямі ў ерасі і рэгулярнымі анафемамі то з аднаго, то з другога боку. Кожная група фарміруе ўласных дысідэнтаў і ўласных ерэзіярхаў; атакі, у якія кідаюцца адзін на аднаго дамініканцы і францысканцы, не адрозніваюцца ад тых, у якія кідаліся трацкісты і сталіністы. Але ўсё гэта разам не з'яўляецца паказчыкам бессэнсоўнага бязладдзя, наадварот – ёсць сведчаннем таго, што грамадства шукае новыя вобразы калектыўнага жыцця і адкрывае немагчымасць усталяваць іх інакш, як праз барацьбу супраць упарадкаваных "сістэмаў", практыкуючы свядомую і суровую нецярпімасць у тэорыі і на практыцы.

## 9. Auctoritas[6]

Ёсць адзін аспект сярэднявечнай цывілізацыі, які свецкая, асветніцкая і ліберальная оптыка ў імпэце вымушанай палемікі дэфармуе і якому дае скажонае тлумачэнне, – гэта практыка прыбягання да *auctoritas*. Сярэднявечны навуковец заўсёды робіць выгляд, што нічога не вынаходзіць, і ўпарта цытуе папярэдніх аўтарытэтаў. Гэта будуць айцы Усходняй Царквы, Аўгусцін, Арыстоцель, Свяшчэннае Пісанне ці навукоўцы, старэйшыя за яго ўсяго на стагоддзе, але ніколі ён не стане сцвярджаць нічога новага без таго, каб не паказаць гэтае новае як ужо прадказанае кім-небудзь з папярэднікаў. У наш век, калі мы наважаем сябе саміх, то ў параўнанні з эпохай Дэкарта будзем дзейнічаць зусім супрацьлеглым чынам, бо сёння філосаф або навуковец вартыя чагосьці якраз тады, калі яны прыўносяць нешта новае (тое ж самае, ад рамантызму да маньерызму і далей, тычыцца і мастака). А сярэднявечны навуковец усё робіць з дакладнасцю да наадварот. Таму сярэднявечны культурны дыялог уяўляецца, гледзячы звонку, бясконцым маналогам без супярэчнасцяў, бо ўсе тагачасныя навукоўцы занятыя падборам той жа самай фактуры, тых жа самых цытат, тых жа самых аргументаў, той жа самай лексікі, з чаго пабочнаму слухачу здаецца, што гаворка ідзе пра адно і тое ж; падобнае ўражанне склалася б у сярэднявечнага чалавека, калі б ён прыйшоў на студэнцкі сход, пачытаў прэсу пазапарламенцкіх груповак або цыдулкі культурнай рэвалюцыі.

На самай жа справе навуковец, спецыяліст па праблемах сярэднявечча, умее вызначыць у гэтай быццам аднастайнай плыні фундаментальныя адрозненні, таксама як сённяшні палітык спрытна выяўляе непаўторныя адрозненні паміж вонкава падобнымі прамовамі і з некалькіх сказаў класіфікуе свайго суразмоўцу адпаведна яго месцу ў палітычнай структуры. Сярэднявечны чалавек выдатна ведае, што з *auctoritas* можна рабіць усё, што заўгодна: “Аўтарытэт мае нос з воску, які можна дэфармаваць як захочацца”, – жартаваў Алан дэ Ліль у XII стагоддзі. Але яшчэ раней Бернард дэ Шартр казаў: “Мы як карлікі на плячах гігантаў”; гіганты ёсць бясспрэчныя аўтарытэты, нашмат больш разумныя, і бачаць далей за нас, але мы, малыя, якія мы ёсць, калі абапіраемся на іх, бачым яшчэ далей.

Такім чынам, нельга адмаўляць тагачасным навукоўцам імкненне да абнаўлення і развіцця, але гэтае абнаўленне павінна было абапірацца на ўвесь папярэдні культурны пласт, што забяспечвалася падабенствам перакананняў і агульнай лексікай. Натуральна, падобная метадалогія спрыяла дагматызму, але і ратавала сярэднявечнага чалавека ад культурнага беспарадку і разбурэнняў позняй рымскасці, ад вэрхалу ідэяў, рэлігій, абяцанняў і моваў эліністычнага свету, дзе кожны жыў сам па сабе са сваім інтэлектуальным багаццем. Першае, што сярэднявеччу давялося зрабіць, – гэта аднавіць агульныя тэматыку, рыторыку і лексіку, з якіх можна было пазнаць сябе саміх, а інакш немагчыма было больш весці размову паміж сабой, а тым болей перакінуць мост паміж інтэлектуалам і народам, – а сярэднявечны навуковец патэрналісцкім чынам рабіў гэта, у адрозненне ад грэцкага ці рымскага інтэлектуала.

У наш час пазіцыю маладзёвых палітычных груповак можна аднесці да дакладна такога ж тыпу, бо яна прадстаўляе рэакцыю на разбурэнне рамантыка-ідэалістычнай арыгінальнасці і на плюралізм ліберальных перспектыў, якія разглядаюцца як ідэалагічныя абалонкі, што хаваюць пад націнай разнастайнасці думак і метадаў рэпрэсіўную цэласнасць эканамічнага дамінавання. Пошук сакральных тэкстаў (што б гэта ні было: Маркс або Мао, Чэ Гевара або Роза Люксембург) мае перш за ўсё наступную функцыю: зноў усталяваць базу для агульнай размовы праз пласт назнавальных аўтарытэтаў, на якім можна было б разгарнуць гульню адрозніванняў і спрэчных прапановаў. Усё гэта робіцца з пакорай, зусім сярэднявечнай і цалкам супярэчлівай сучаснаму буржуазна-рэнесанснаму духу; у рахунак не ўваходзіць асоба таго, хто прапануе, прапанова павінна фармулявацца ў выглядзе не індывідуальнага адкрыцця, а як прадукт калектыўнага рашэння, заўсёды строга ананімнага. Такім чынам, агульны сход праходзіць як *"quaestio disputata"*[7], што стварае у пабочнага назіральніка сярэднявечча ўражанне манатоннай візантыйскай гульні, хаця часам там абмяркоўваліся не толькі праблемы лёсу чалавецтва, але і пытанні, што тычыліся ўласнасці, размеркавання багацця, адносінаў з князем або прыроды руху зямных целаў і статычнасці целаў нябёсных.

### 10. Формы мыслення

Давайце цяпер зменім (разглядаючы сучаснасць) сцэнар, ані на сантыметр не адхіляючыся ад сярэднявечнай паралелі. Вось мы ва універсітэцкай аўдыторыі, дзе Хомскі граматычна прэпарue нашы сцверджанні на разгалінаваныя элементы-атамы, або Якабсон зводзіць да дваістага характару фаналагічныя вылучэнні, або Леві-Строс структуруе ў выглядзе антынамічных гульняў сваяцкае жыццё і тканку міфаў, або Ралан Барт чытае Бальзака, Сада і Ігнацыя Лаёлу, як сярэднявечны чалавек чытаў Вергілія, імкнучыся да супрацьлеглых і сіметрычных ілюзій. Няма нічога больш блізкага да сярэднявечнай інтэлектуальнай гульні, чым структуралісцкая логіка, таксама як у рэшце рэшт няма ёй нічога больш блізкага, чым фармалізм логікі сучасных фізічнай ды матэматычнай навукаў. Тое, што на старажытнай тэрыторыі могуць сустрэцца паралелі з дыялектычнымі дэбатамі палітыкаў або з матэматычным апісаннем навукі, не павінна здзіўляць менавіта таму, што мы супастаўляем дзейсную рэчаіснасць з застылай мадэллю: але гаворка ў абодвух выпадках ідзе пра два спосабы ўзаемадзеяння з рэчаіснасцю, якія не маюць задавальняючых паралеляў у сучаснай буржуазнай культуры і абодва залежаць ад праекта рэканструкцыі перад тварам свету, афіцыйны вобраз якога страчаны або адкінуты.

Сучасны палітык аргументуе сваю пазіцыю, таксама абапіраючыся на аўтарытэты, каб на тэарэтычных асновах усталяваць практыку фарміруючых дзеянняў; сучасны навуковец таксама імкнецца праз класіфікацыю і каталагізацыю аднавіць форму культурнага свету, разбуранага выбухам (як быў разбураны грэка-рымскі Сусвет), справакаваным памкненнем да празмернай арыгінальнасці і канфліктным несупадзеннем надта розных пасылак: Усходу і Захаду, магіі, рэлігіі й права, паэзіі, медыцыны або фізікі. Тут я хачу паказаць, што існуюць абсцысы думкі, якія дазваляюць з'яднаць людзей сучаснай і прымітыўнай эпохаў пад знакам адной і той жа самай логікі. Фармалістычныя эксцэсы і антыгістарычныя спробы структуралізму ёсць тыя ж самыя схаластычныя дыскусіі, як і прагматычны і мадыфікацыйны імпэт рэвалюцыянераў або *tout court*[8] ерэтыкаў. Нават дыскусіі паміж Святым Бернардам, прыхільнікам мастацтва без адлюстраванняў,

чыстага і строгага, і Сугерыем, прыхільнікам сабору пышнага і апанаванага вірам фігуратыўнай камунікацыі, знаходзяць водгук на розных узроўнях і ў розных ключах: у супрацьпастаўленні савецкага канструктывізму і сацыялістычнага рэалізму, абстракцыяністаў і майстроў неабарока, суровасцю тэарэтыкаў канцэптуальнай камунікацыі і міклухіянскімі прыхільнікамі глабальнай вёскі.

## 11. Мастацтва як bricolage[9]

Калі, аднак, мы пераходзім да паралеляў у культуры і мастацтве, то панарама становіцца больш складанай. З аднаго боку, мы маем досыць выразную адпаведнасць паміж дзвюма эпохамі, якія рознымі спосабамі, але з аднолькавымі выхаваўчымі утопіямі і аднолькавым ідэалагічным прыкрыццём патэрналісцкага праекта кіравання свядомасцю імкнуцца праз візуальную камунікацыю запоўніць правал, што падзяліў вучоную культуру й культуру народную. У абедзве эпохі выбраная эліта разважае ў напісаных тэкстах паводле пісьменнай ментальнасці, але потым пераводзіць у візуальныя вобразы грунтоўныя дадзеныя ведаў і базісныя структуры пануючай ідэалогіі. Для візуальнай цывілізацыі сярэднявечны сабор быў каменнай кнігай, кінаэкранам, тэлевізарам, ён мусіў расказаць і паказаць увесь свет: розныя народы, поры года, сяўбу і жніво, мастацтва, рамёствы, містэрыі веры, анекдоты з гісторыі свяшчэннай і зямной, жыццё святых (узоры паводзінаў вялікіх, якімі сёння з'яўляюцца зоркі і спевакі, эліта без палітычнай улады, як сказаў бы Франчэска Альбэроні, але з вялікай уладай харызмы).

Побач з магутнай плынню народнай культуры разгортваецца праца па стварэнні кампазіцыі і калажа, якую вучоная культура стварае на рэштках мінулай культуры. Возьмем магічную скрыню Корнэла або Армана, калаж Эрнста, машыну Мунары або Цынглі – і мы апынемся сярод краявіду, які не мае нічога агульнага з Рафаэлем або Кановай, але надзвычай утульны аднаведна сярэднявечнаму густу. У паэзіі ёсць кампіляцыі і гульня слоў, ірландскія кенінгі, акравершы, вербальныя суплёты шматлікіх

цытат, якія нагадваюць Паўнда і Сангвінэці; этымалагічныя гульні, вынайдзеныя Вергіліем дзі Бігорэ і Ісідорам Севільскім, якімі захапляўся Джойс (Джойс умеў захапляцца надобнымі рэчамі), практыкаванні ў кампазіцыі трактатаў на паэтыцы, што здаюцца праграмай для Гадара, але перадусім надбор эстэтычнага інвентара, які ў тыя часы канкрэтызаваўся ў скарбніцах князёў або сабораў, дзе збіралі без разбору: трэску ад крыжа Хрыста, яйка, знойдзенае ўнутры другога яйка, рог адзінарога, шлюбны пярсцёнак Святога Джузэпэ, чэрап Святога Джавані ва ўзросце дванаццаці гадоў (*sic*)[10].

Між іншым, тады панавала татальная неразборлівасць паміж эстэтычным і механічным аб'ектамі (механізм у форме па-майстэрску гравіраванага неўня быў падораны Гарунам-аль-Рашыдам Карлу Вялікаму, і не было розніцы паміж аб'ектам "створаным" і аб'ектам кур'ёзным, рамесніцкім і мастацкім, серыйным і непаўторным экземплярам, паміж *trouvaille*[11] (лямпа ў выглядзе статуі Свабоды, падобная да кітовага зуба) і творам мастацтва. Над усім дамінуе адчуванне звонкага колеру і святла як фізічнага элемента асалоды, і няважна, што тады дзеля гэтага трэба было мець залатыя вазы, інкруставаныя тапазамі, якія мусілі адлюстроўваць сонечныя прамяні, а цяпер гэта выяўляе шматжанравая оргія якога-небудзь *"Electric Circus"* з паляроіднымі пераліўчатымі і вадзяністымі праекцыямі.

Хейзінга казаў, што каб зразумець сярэднявечны эстэтычны густ, трэба ўзгадаць, якога тыпу рэакцыю перажываў перад кур'ёзным і каштоўным аб'ектам уражаны буржуа. Хейзінга разважаў у катэгорыях пострамантычнай эстэтычнай пачуццёвасці, але гэта не замінае нам адзначыць гэты тып рэакцыі як тоесны таму, што перажывае сучасны юнак перад плакатам, на якім паказаны або дыназаўр, або матацыкл, або транзістарная магічная скрыня, у якой круцяцца палосы святла: напалову тэхналагічная мадэлька, а напалову – навукова-фантастычнае абяцанне з кампанентамі варварскага ювелірнага мастацтва.

Мастацтва не як сістэма, а як дадатак да сістэмы сёння, як і тады ў сярэднявеччы, ёсць суіснаваннем вытанчанага элітарнага эксперыменту і вялікага дзеяння, разлічанага на распаўсюджванне сярод народа (апазіцыя: мініяцюра – сабор, гэта тое ж самае, што

 





апазіцыя: *Museum of Modern Art* – Галівуд), са сталымі ўзаемаабменам і ўзаемаўплывамі. На першы погляд візантыйскі, дзіўны густ сярэднявечнага калекцыянавання, упарадкавання, збору разнастайных рэчаў быў выкліканы жаданнем разабраць і перааацаніць рэшткі папярэдняга свету, можа гарманічнага, але ўсё ж недарэчнага цяпер; рухацца, сказаў бы з гэтай нагоды Сангвінэці, як праз *Palus Putredinis*[12], якое прайшоў і забыўся. Пакуль Феліні і Антаніёні спрабуюць ствараць свае "Пеклы", а Пазаліні – свае "Дэкамероны" ("Арланд" Ранконі на самай справе – не рэнесанснае свята, а сярэднявечная містэрыя на плошчы для простага люду), нехта адчайна спрабуе выратаваць антычную культуру, уяўляючы сябе носьбітам інтэлектуальнага кону: ён апантана збірае энцыклапедыі, дайджэсты, інфармацыйныя электронныя часопісы, на якія спадзяваўся Вака, каб перадаць нашчадкам багацце ведаў, якое рызыкуе быць страчаным у катастрофе.

## 12. Кляштары

Нішто не падобна больш на кляштар (згублены ў правінцыі, аточаны і абкладзены варварскімі і чужынскімі ордамі, дзе жывуць манахі, якія не маюць нічога агульнага са светам і вядуць свае ўласныя даследаванні), чым амерыканскі універсітэцкі гарадок. Часам князь выклікае аднаго з манахаў і робіць яго сваім дарадцам, пасылаючы з місіяй у Кітай, і той абыякава пераходзіць з кляштарных мүроў у свецкае жыццё, становіцца чалавекам улады і імкнецца кіраваць светам з тою ж аскетычнай вытанчанасцю, з якою ён калекцыянаваў тэксты. Як бы ты ні зваўся: Герберта дзі Арыльяк або Макнамара, Бернар дзі К'яраваль або Кісінджэр – ты можаш быць чалавекам і міру і вайны (як Эйзенхаўэр, які выйграў некалькі бітваў, а потым пайшоў у кляштар, стаўшы дырэктарам каледжа, аднак пазней зноў вярнуўся на службу Імперыі, калі натоўп паклікаў яго як харызматычнага героя).

Але сумніўна, ці мае перспектыўны сэнс для сучасных кляштарных цэнтраў задача рэгістрацыі і кансервацыі фонду культуры, хай сабе з дапамогаю складаных электронных апаратаў (як прапануе Вака), якія будуць паступова аднаўляцца,



 

стымулюючы рэканструкцыю, але не адкрываючы да канца ўсіх сакрэтаў шырокім колам грамадства. Першае сярэднявечча ўрэшце выклікала Рэнесанс, які пачаў забаўляцца археалогіяй, але на самай справе сярэднявечча рабіла працу не сістэматычнай кансервацыі, а неразборлівага бурэння і хаатычнага збірання; яно страціла найважнейшыя манускрыпты і выратавала малакаштоўныя, паабдзерла цудоўныя паэмы, каб напісаць на пустых старонках розныя славаблудствы ці вядомыя малітвы, пад свае розум і густ фальсіфікавала свяшчэнныя тэксты і, такім чынам, напісала "свае" кнігі. Сярэднявечча вынайшла камунальнае грамадства, не маючы дакладных звестак пра грэцкі поліс, адкрыла Кітай, думаючы сустрэць там людзей з адною нагой і ротам на жываце, магчыма, наведала Амерыку раней за Калумба, карыстаючыся астраноміяй Пталемея і геаграфіяй Эратасфена...

### 13. Перманентны пераходны стан

Пра новае сярэднявечча кажуць, што яно станецца "перманентна пераходнай" эпохай, у дачыненні да якой будуць ужывацца новыя метады адаптацыі: праблема будзе не столькі ў тым, каб навукова захаваць мінулае, а ў тым, каб выпрацаваць гіпотэзы выкарыстання хаосу; зразумець і плённа выкарыстаць логіку канфліктнасці. Народзіцца, ужо нараджаецца культура сталай рэадаптацыі, пажыву якой дае утопія. Сярэднявечны чалавек як бы выпадкова вынайшаў універсітэт, з той жа незакамплексаванасцю сённяшнія святары-ваганты ці то разбураюць, ці то пераўтвараюць яго. Сярэднявечча па-свойму захавала спадчыну мінуўшчыны, прыстасаваўшы яе на ўласны лад і чын, то была маштабная аперацыя *bricolage*, дзе ўраўнаважваліся настальгія, надзея і адчай.

Пад статычнаю й дагматычнай абалонкай сярэднявечча, як гэта ні парадаксальна, адбывалася самая сапраўдная "культурная рэвалюцыя". І гэта нягледзячы на беспераппынныя эпідэміі, чуму і кровапраліцці, нееталерантнасць і незлічоныя смерці. Ніхто не сцвярджае, што, у адрозненне ад папярэдняга, новае сярэднявечча

ўяўляе перспектыву, цалкам радасную. Як казалі кітайцы, праклінаючы каго-небудзь: "Каб ты жыў у цікавую эпоху".

*1972 г.*

**Пераклаў з італьянскай**
**Валеры БУЙВАЛ.**

Umberto Eco. Dalla periferia dell'Impero.
Milano, 1997

---

[1] **Pax** *(лац.)* – свет.
[2] "**Do it**" *(англ.)* – "Рабі гэта".
[3] **RAI** – буйнейшая італьянская тэлекампанія.
[4] Студэнты пратэстуюць таму, што вучэбныя залы перапоўненыя, а выкладанне залішне аўтарытарнае. Прафесары хацелі б арганізаваць семінарскія заняткі з вучнямі, але ўмешваецца ўлада. У сутычцы пяцёра студэнтаў забітыя (1200-ы год). Праводзіцца рэформа, якая дае аўтаномію прафесарам і студэнтам; канцлер не можа адмовіць у ліцэнзіі на выкладчыцкую працу кандыдату, прапанаванаму шасцю прафесарамі (1215-ы год). Канцлер сабора Нотр-Дам забараняе кнігі Арыстоцеля. Студэнты пад маркаю надта высокіх цэн урываюцца ў нейкі шынок і руйнуюць яго. Акружны начальнік варты пачынае акцыю з аддзелам лучнікаў, мінакі параненыя. Групы студэнтаў прыбываюць з бліжэйшых вуліц і атакуюць прадстаўнікоў улады, разбіраючы брук і шпурляючыся камянямі. Акружны начальнік варты загадвае атакаваць; тры студэнты забітыя. Агульная забастоўка ва універсітэце, забарыкадаваны будынак, дэлегацыя да ўрада. Адток студэнтаў і прафесароў ва універсітэты на перыферыі. Пасля доўгіх перамоў кароль прымае закон, які прадастаўляе жыллё для студэнтаў па нізкіх цэнах, і стварае універсітэцкія калегіумы і сталовыя (сакавік 1229 г.). Жабрацкія ордэны займаюць тры кафедры з дванаццаці. Бунт свецкіх дацэнтаў, якія абвінавачваюць іх у стварэнні баронскай мафіі (1252 г.). Праз год успыхвае жорсткая бойка паміж студэнтамі і ўладай, свецкія дацэнты ўстрымліваюцца ад заняткаў з салідарнасці, у той час як кафедралы з манаскіх ордэнаў працягваюць весці свае курсы (1253 г.). Універсітэт увязваецца ў канфлікт з папам, які дае рады дацэнтам манаскіх ордэнаў, пакуль Аляксандра IV не вымушаюць прызнаць права на забастоўку, калі рашэнне прымаецца асамблеяй факультэта большасцю ў дзве трацiны. Некаторыя дацэнты адмаўляюцца пайсці на саступкі, і іх звальняюць: Гіём дэ Сент-Амур, Од дэ Дуэ, Крэцьен дэ Бавэ і Нікаля дэ Бар-сюр-Об ідуць пад суд. Звольненыя прафесары публікуюць Белую Кнігу пад назвай "Небяспека нашага часу", але кніга асуджаецца як "злачынная, крымінальная і блюзнерская" булай 1256 г. (паводле Gilette Ziegler. Le defi de la Sorbonne. Paris, Julliard, 1969. – *заўв. аўт.*).

[5] **"Renovatio Imperii"** – абнаўлення Імперыі *(лац.)*.
[6] **"Auctoritas"** – аўтарытэты *(лац.)*.
[7] **"Quastio disputata"** – абмеркаванне пытання *(лац.)*.
[8] **Tout court** – карацей кажучы *(фр.)*.
[9] **Bricolage** – выраб *(фр/)*.
[10] Прадметы, якія захоўваюцца ў скарбніцы Карла IV Багемскага: чэрап Св. Адальбэрта, меч Св. Стэфана, шып з вянка Хрыста, кавалкі Крыжа, абрус Тайнай Вячэры, зуб Св. Маргарыты, кавалак косці Св. Віталя, рабро Св. Сафіі, падбародная костка Св. Эабана, кітовае рабро, слановы бівень, посах Майсея, строй Дзевы Марыі. Прадметы са скарбніцы князя Берыйскага: чучала слана, васіліск, манна, знойдзеная ў пустыні, рог адзінарога, какосавы арэх, шлюбны пярсцёнак Св. Джузэпэ. Апісанне выставы поп-арта і новага рэалізму: падзёртая лялька, з якой тырчаць галовы іншых лялек, пара акуляраў з намаляванымі вачамі, крыж з натаркнутымі на яго бутэлькамі ад кока-колы і лямпай пасярэдзіне, серыя партрэтаў Мэрылін Манро, павялічаная файка Дзіка Трэйсі, электрычнае крэсла, стол для гульні ў пінг-понг з гіпсавымі шарыкамі, спрэсаваныя часткі аўтамабіля, матацыклетны шлем, размаляваны алеем, бронзавая электрабатарэя на п'едэстале, скрыня з бутэлечнымі коркамі, вертыкальны стол з блюдам, нажом, пакетам "Гітанэс" і насадка для душа, падвешаная на краявідзе, намаляваным алеем *(заўв. аўт.)*.
[11] **Trouvaille** – знаходкай *(фр.)*.
[12] **Palus Putredinis** – Гнілое Балота *(лац.)*.

# ТРЫЗНЕННЕ СЯРЭДНЯВЕЧЧАМ

Ці існуе нейкая сувязь паміж кнігамі прыгодаў і фантастыкі Фрацэты, неасатанізмам, "Эскалібурам", сагамі пра Авалон і Жакам Ле Гофам? Калі б Дарт Вэйдар, Жак Фурнье ды Парсіфаль сустрэліся на лятучай талерцы, ці здолелі б яны знайсці агульную мову? І што б гэта была за мова — сусветная трасянка ці лаціна Евангелля паводле Св. Лукі?

*Друкуецца ў скарочаным выглядзе.*

Сапраўды, як выглядае, людзі любяць сярэднявечча. За некалькі хвілінаў у любой амерыканскай кнігарні можна знайсці шмат цікавых узораў гэтай неагатычнай плыні. Я згадаю толькі некалькі назваў кніг, што трапляюцца на вочы: “Свет, што завецца Камэлот”, “Вяртанне караля”, “Меч выкаваны”, “Прыманка Васіліска”, “У пошуку цмока”, “Палёт цмока”, “Купал у лесе”, “Апошні абаронца Камэлота”, “Цмокава сховішча”, “Доктар Ху і крыжакі”, “Магічныя пошукі”, “Ерэтык Камбэр”, плюс размаітыя асобныя кнігі — ад кельцкіх сагаў, чорнай магіі, зачараваных палацаў і вязніцаў з прывідамі да мячоў у камені, адзінарогаў і выразна неагатычнай касмічнай фантастыкі.

Калі нехта не верыць літаратуры, то ён мае паверыць хаця б поп-культуры. Нядаўна ў шапіку я наўздагад выцягнуў шэраг коміксаў, і вось які атрымаўся “вінегрэт”: “Кароль Конан”, “Бязлітасны меч Конана-барбара”, “Камэлот-3000”, “Меч і атам” (два апошнія ўяўляюць складанае спалучэнне ранняга сярэднявечча і лазерных прамянёў), “Сага пра Электру”, “Крыштальны ваяр Крыстар”, “Эльрык Мэлібоўнскі”...

Я мог бы працягваць. Але няма чаго здзіўляцца, што нас накрыла хваля псеўдасярэднявечнага чытва — нешта сярэдняе паміж нацыстоўскай настальгіяй па мінуўшчыне і акультызмам. Краіна, здольная спарадзіць “Дыянэтыку”, можа далёка пайсці ў чараўніцтве і *frappe*[1] пра Святы Грааль. І было б зусім не дзіўна, калі б у чарговым порна-хіце Мэрлін Чэмбэрз знялася ў ролі *La Princess Lointain* (калі аздолеліператварыць *Chanteclair* Эдмона Растана ў фантастыку, то чаму б не ўявіць, як прынцэса Трыпалі аддае ключы ад свайго паса цнатлівасці барадатаму Барту Рэйнальдсу?). Я ўжо не кажу пра такія постмадэрнова-неагатычныя палацы ў Манхэтане, як Сіты-корп-цэнтар ды Трамп Таўэр, — цікавосткі неафеадалізму, двары якіх адкрытыя для сялянаў і гандляроў, а добра абароненыя верхнія апартаменты прызначаныя для шляхты.

Хронікі неасярэднявечча таксама распавядаюць пра тое, як тысячы чытачоў адкрылі для сябе Барбару Тачмэн. Дырэктар “Метраполітан Музэум”вырашыла наладзіць выставу “сапраўдных” падробак, якія наведвальнікі раней прымалі за арыгіналы. І натоўпы людзей, што некалькі гадоў таму выстойвалі даўжэзныя чэргі ў “Метраполітан Музэум”, каб патрапіць на

выставу сярэднявечнага ірландскага мастацтва, сталіся выразнай прыкметай новага густу.

Амерыка, зацята змагаючыся з 1776 годам, паглынае сапраўдную Мінуўшчыну. Можа, гэта і кансерваваная, але ўсё роўна філалогія. Амерыканцы патрабуюць і сапраўды цэняць дакладную, з усёю адказнасцю зробленую гістарычную рэканструкцыю (можа таму, што толькі пасля таго, як тэкст скрупулёзна рэканструяваны, яго можна з усёй безадказнасцю дэканструяваць). Як і многія еўрапейцы, большасць амерыканцаў прынялі фільм *"Excalibur"* за "сапраўднае адлюстраванне сярэднявечча", але ёсць і мноства іншых, якія шукаюць нешта больш праўдзівае.

А што адбываецца па той бок Атлантычнага акіяна? У Вялікабрытаніі і Францыі XIX стагоддзе было эпохай гістарычных раманаў Вальтэра Скота і Віктора Гюго, а гістарычны раман самім лёсам зніталаваны з сярэднявечнай тэматыкай. Гэтая тэндэнцыя захавалася і дагэтуль, і паліцы кожнай кнігарні ў Лондане ці Парыжы запоўненыя цікавымі ўзорамі сярэднявечных, ці рыцарскіх, раманаў. Адныя італьянцы ніколі не ўражвалі сваімі поспехамі на гэтай ніве. Раман з сярэднявеччам для італьянскай літаратуры заўсёды быў няўдалы. Гэткія імёны, як Гуэрацы, Канту, Гросі і Адзэлья, нічога не гавораць замежнаму чытачу, ды і справядліва. Магчыма, за адзіным выключэннем — "Этторэ Ф'ерамоска" Д'Адзэлья – усё, што было напісана ў мінулым стагоддзі пра сярэднявечча ў Італіі, мела на сабе пячатку нягегласці, нудоцця і пыхлівасці. Наш нацыянальны раман гэтага часу, "Заручаныя" Манцоні, не звяртаецца да жыцця вялікіх рыцараў і імператараў; ён звяртаецца да падзеяў XVIII стагоддзя і распавядае гісторыю прыгонных сялян у часы нацыянальнага заняпаду і ўсеагульнае роспачы. Італьянскія крытыкі былі ўражаныя і здзіўленыя тым, што за апошнія дзесяць гадоў з'явілася мноства айчынных раманаў на сярэднявечную тэматыку, некаторыя з якіх набылі нечакана вялікую папулярнасць. Я ўстрымаюся ад пераліку ўсіх "круглых сталоў" і сімпозіумаў па гэтай праблеме, што адбыліся за апошні час, калі тэма "вяртання сярэднявечча" стала сапраўдным насланнём. У іншых краінах, хаця яны і больш звыклыя да падобных "адраджэнняў", таксама абмяркоўваецца падобнае пытанне, і мы павінны паспрабаваць адказаць на яго.

Такім чынам, мы ўсе цяпер (як у Еўропе, так і ў Амерыцы)

назіраем, як да нас ізноў вяртаецца цікавасць да сярэднявечча, прычым у самых розных формах — ад фантастычнага неасярэднявечча да дакладнага філалагічнага даследавання. Не выклікае сумніваў, што сапраўды істотным будзе апошняе. Але варта задацца пытаннем, чаму амерыканцы збольшага знаходзяцца ва ўладзе таго ж самага наслання, што і еўрапейцы, і чаму ўсе яны глытаюць рэканструкцыі Дубі, Ле Руа Ладуры і Ле Гофа, як быццам гэта новая форма аповеду. Ці мог хто-небудзь прадбачыць гадоў дзесяць таму, што рэгістрацыйныя кнігі сярэднявечнае парафіі ў Пуату будуць паглынацца гэтак жа апантана, як дэтэктывы Агаты Крысці?

Паводле некаторых меркаванняў, мы трызнім сярэднявеччам. Але фактычна ўсе мы — і амерыканцы, і еўрапейцы — спадкаемцы заходняе традыцыі, а ўсе праблемы Захаду паўсталі ў сярэднявеччы. Сапраўды, сучасныя мовы, гарады як гандлёвыя цэнтры, капіталістычная эканоміка (разам з банкамі, цэхамі і сабекоштам) — гэта вынаходніцтвы сярэднявечнага грамадства. У сярэднявеччы з'явіліся армія ў яе сучаснай форме, сучасная канцэпцыя нацыянальнае дзяржавы, гэтаксама як і ідэя звышфедэрацыі (пад сцягам германскага імператара, абранага парламентам, які дзейнічаў у ролі выбарчага з'езда). Барацьба паміж беднымі і багатымі, паняцце ерасі або ідэалагічнага ўхілу і нават наша сучаснае разуменне кахання як спусташальнага шчаслівага няшчасця бяруць свой пачатак у сярэднявеччы. Яшчэ можна дадаць канфлікт паміж царквой і дзяржавай, прафсаюзы (хаця і ў цэхавай форме) і тэхнічнае ўдасканаленне вытворчасці. На пачатку нашага тысячагоддзя з'явіліся і хутка ўвайшлі ў шырокі ўжытак ветракі, падковы, конская ды валовая збруя, страмёны і сучаснага тыпу стырно, падвешанае да кармы на петлях ніжэй за ўзровень вады, без якога не была б адкрытая Амерыка. Апрача таго, пачаў выкарыстоўвацца компас і была канчаткова прынятая арабская матэматыка, ад якое бяруць пачатак сучаснае лічэнне і двайная бухгалтэрыя. Напрыканцы гэтай эры — калі пагадзіцца, што яна ўмоўна скончылася ў 1492 годзе — быў вынайдзены порах і з'явілася "галактыка" Гутэнберга.

Мы па-ранейшаму жывём пад сцягам сярэднявечных тэхналогіяў. Да прыкладу, у сярэднявеччы былі вынайдзены акуляры, што паводле значнасці можна прыраўнаць да

вынаходніцтва ткацкага станка і паравога рухавіка. У тыя часы інтэлектуал, які ў сорак гадоў пачынаў губляць зрок, разбіраючы нечытэльныя манускрыпты у цёмных пакоях пры святле паходняў, пасля пяцідзесяці ўжо не мог працаваць. Вынаходніцтва акуляраў значна пашырыла працаздольнасць інтэлектуалаў, дзякуючы чаму ў наступныя стагоддзі мы сталі больш поўна выкарыстоўваць чалавечы патэнцыял.

Усе вышэйзгаданыя ідэі й рэаліі з'явіліся не ў старажытным свеце. З антычнай Грэцыі і Рыма мы засвоілі пэўную ідэю трагедыі (але наш тэатр створаны паводле сярэднявечнага ўзору) ды ідэал прыгажосці, а таксама нашы асноўныя філасофскія канцэпцыі. Але менавіта ў сярэднявеччы мы навучыліся іх выкарыстоўваць. У сярэднявечча сягаюць карані нашых сучасных "вострых" праблемаў, і няма нічога дзіўнага ў тым, што мы заўсёды вяртаемся ў тую эпоху, калі запытваемся ў сябе аб уласным паходжанні. Усе пытанні, якія абмяркоўваюцца падчас паседжанняў Агульнага рынку, вынікаюць з рэаліяў сярэднявечнай Еўропы.

Такім чынам, узіраючыся ў сярэднявечча, мы ўзіраемся ў сваё маленства гэтак жа, як доктар запытваецца пра дзіцячыя гады, каб зразумець наш цяперашні стан здароўя, альбо гэтак жа, як псіхааналітык уважліва даследуе першасную траўму, каб зразумець наш цяперашні неўроз.

Наша вяртанне да сярэднявечча — гэта пошук уласных каранёў, і наколькі мы хочам вярнуцца да "сапраўдных" каранёў, то шукаем "праўдзівае сярэднявечча", а не рыцарскія раманы ды фантастыку. (Хаця часта гэтае жаданне няслушна вытлумачваюць, і, рухомыя цьмяным памкненнем, мы аддаёмся ўцёкам ад рэчаіснасці *a la* Толкін.)

Але ці сапраўды трызненне сярэднявеччам з'яўляецца тыповай сучаснай, або постмадэрновай, спакусай? Калі гэта праўда (а так яно і ёсць), тады такой жа праўдай ёсць і тое, што людзі трызняць сярэднявеччам ад самага пачатку сучаснай эпохі.

## БЯСКОНЦАЕ ВЯРТАННЕ

Сучаснасць вяртаецца да сярэднявечча з таго самага моманту, як яна (згодна гістарычным даведнікам) прыйшла да завяршэння.

Пачаткам сучаснай эры сталіся здзіўляльныя дасягненні чалавечага духу: адкрыццё Амерыкі, вызваленне Грэнады (разам з наступным знішчэннем здабыткаў арабскай навукі, якая магла б апярэдзіць Рэнесанс і ўздым навукі) і запачаткаванне другое Дыяспары, калі з Іспаніі выгналі габрэяў (пагромы былі вынайдзеныя раней, яшчэ крыжакамі, — у радаводзе заходняе цывілізацыі шмат чаго было).

Адразу ж пасля афіцыйнага завяршэння сярэднявечча Еўропу ахапіла спусташальная і пранізлівая настальгія па ім. У Італіі вялікія паэты Рэнесанса, ад Пульчы да Баярда і Арыёста, звярталіся да рыцарскае сагі. Тэафіла Фаленья напісаў паэму *"Baldus"* на неверагоднай *latin de cuisine*[2]; Тарквата Таса, вялікі паэт італьянскага маньерызму, апяяў веліч крыжакоў. У Іспаніі Сервантэс распавёў драматычную гісторыю чалавека, не здольнага прымірыць жорсткую рэальнасць са сваёй любоўю да сярэднявечнай літаратуры. Шэкспір багата пазычаў з сярэднявечнага аповеду і відазмяняў яго.

Падчас росквіту англійскага Рэнесанса Джон Ды і Роберт Флад наноў адкрылі сімвалы і знакі сярэднявечнага іудзейскага містыцызму. Нават у перыяд барока, калі ў тагачаснай навуцы нібыта панавалі новыя парадыгмы Галілея ды Ньютана, Контррэфармацыя моўчкі працягвала пляжыць філасофію схаластаў. Між тым у Францыі Мабілон адкрыў скарбы сярэднявечных манускрыптаў. Як семіётык, я не магу абысці ўвагай тое, што адным з найвыбітнейшых прарываў у знакавай тэорыі мы абавязаныя наступніку Тамаша Аквінскага Джону, альбо, як мы яго цяпер называем, Жану Пуансо. Падчас "Веку Розуму", калі гурток французскіх энцыклапедыстаў, здавалася, вёў апошнюю бітву з рэштками змрочнага сярэднявечча, гэтае сярэднявечча пачало зачароўваць арыстакратыю гатычнымі раманамі й раннім *Ossianic*[3] рамантызмам. Геаграфічна блізкі, хаця і псіхалагічна далёкі ад палаца Атранта, Людавіка Антоніо Мураторы сабраў у сваім "Вяртанні італьянскіх пісьменнікаў" старыя хронікі сярэднявечнае велічы. У хуткім часе Шатабрыян апяяў гатычныя саборы, што ўзносіліся над кронамі кельцкага лесу, а дзякуючы Вальтэру Скоту, Віктору Гюго і рэстаўрацыі *Viollet-le-Duc* усё XIX стагоддзе магло трызніць аб уласным сярэднявеччы і такім чынам помсціць Напалеону, які "прасветленым" манаршым жэстам зламаў тымпан Нотр-Дама, каб увесь ягоны картэж мог змясціцца ў храме.

Час уз'яднання Італіі быў багаты на *repecbage*[4] сярэднявечча, не кажучы ўжо пра італьянскую оперу з яе трубадурамі. І ў рэшце рэшт, было нямецкае галавакружэнне ад неасярэднявечча з палацам Людвіга Баварскага і "персіфалізацыяй Сусвету" Вагнера.

Што сказалі б Раскін, Морыс і перадрафаэліты, калі б даведаліся, што адкрыццём сярэднявечча ў XX стагоддзі будуць займацца СМІ?

## КЛАСІЦЫЗМ І СЯРЭДНЯВЕЧЧА

І тут мы мусім узняць прынамсі два пытанні. Па-першае: чым розняцца гэтае бясконцае адкрыццё сярэднявечча і такое ж нязменнае вяртанне да антычнай спадчыны? Па-другое: ці заўсёды ўсё мноства сярэднявеччаў (а іх сапраўды зашмат) паўставала з аднаго і таго ж правобраза?

Што да першага пытання, то яму тут можна супрацьпаставіць філалагічную рэканструкцыю утылітарных штукарстваў.

Што датычыцца антычнасці, мы аднаўляем яе, але, адбудаваўшы, мы не жывём у ёй, а толькі сузіраем антычнасць як ідэал, як узор і шэдэўр дакладнае рэстаўрацыі. І наадварот, сярэднявечча ніколі не аднаўлялася "з нуля". Мы ўвесь час папраўлялі ды рамантавалі яго як будынак, у якім жывём і дасюль. Мы адбудавалі банк, як і храм, дзяржаву, як і царкву. Мы больш не жывём у Парфеноне, але мы ўсё яшчэ ўваходзім у храм ці молімся ў яго нефах. Нават калі Арыстоцель ды Платон сталі часткаю нашага жыцця, мы ўспрымаем іх праз сістэму каардынат, змадэляваную нашымі сярэднявечнымі продкамі. І калі мы "сашкрабем" сярэднявечныя інкрустацыі і дакапаемся да яго сапраўднага сэнсу, то гэты па-новаму прачытаны Арыстоцель адно ўпрыгожыць паліцы акадэмічных бібліятэкаў, але яму ўсё ж не знойдзецца месца ў нашым штодзённым жыцці.

Паколькі з сярэднявечча заўсёды рабілі гармідар у адпаведнасці з патрэбамі розных эпохаў, не можа быць, каб вынік быў заўжды аднолькавы. І таму я паспрабую акрэсліць прынамсі 10 тыпаў сярэднявечча, каб чытач усвядоміў, што кожны раз, гаворачы пра трызненне сярэднявеччам, трэба спачатку запытацца, якое менавіта сярэднявечча яму трызніцца.

## ДЗЕСЯЦЬ АПРЫЧОНЫХ СЯРЭДНЯВЕЧЧАЎ

1. *Сярэднявечча як фон.* Гэта сярэднявечча оперы, ці Тарквата Таса. Сапраўднае цікавасці да гісторыі тут няма, сярэднявечча скарыстанае як пэўная міфалагічная сцэна, на якой дзейнічаюць сучасныя персанажы. Пад гэтую ж рубрыку падпадаюць і так званыя раманы "плашча і шпагі" (ці *les romans de cape et d'ipie*). Прычым гістарычныя раманы і раманы "плашча і шпагі" — гэта прынцыпова розныя рэчы. У першых аўтар абірае які-кольвек адметны гістарычны перыяд, каб глыбей зразумець не толькі мінуўшчыну, але і — праз яе — сучаснасць як канчатковы вынік тых далёкіх гістарычных падзеяў. Героі рамана — не абавязкова "гістарычныя асобы" (гэта значыць людзі, якія сапраўды існавалі): дастаткова каб яны, хаця б толькі ў літаратурнай форме, выяўлялі сваю эпоху. Лэдзі Равена і П'ер Бязухаў — плод фантазіі раманістаў, але яны распавядаюць нам нешта "праўдзівае" пра англійскае сярэднявечча і Расію пры Напалеоне. І наадварот: у рамане "плашча і шпагі" прыдуманыя героі, каб выглядаць больш праўдападобна, абавязкова мусяць дзейнічаць сярод рэальных гістарычных асобаў. Згадайце хаця б Дзюма і тую вызначальную для ўсяго расповеду ролю, якую адыгрываюць, да прыкладу, Рышэльё і Людовік XIII. Хоць у рамане і прысутнічаюць рэальныя персанажы, але псіхалогія д'Артаньяна ніяк не абумоўленая псіхалогіяй ягонага стагоддзя — ён мог бы гэтак жа ўтранёна ўвязвацца ў тыя ж самыя прыгоды і падчас Французскае рэвалюцыі. Такім чынам, у гістарычных раманах прыдуманыя героі дапамагаюць нам спасцігнуць мінулае (і мінулае служыць не проста фонам), між тым як у раманах "плашча і шпагі" мінулае (скарыстанае толькі як фон) спрыяе таму, каб мы з прыемнасцю чыталі пра выдуманых герояў.

2. *Сярэднявечча як месціна іранічнага наведвання наноў*, вядома, дзеля роздуму пра наша маленства, але таксама і пра нашу ўяўную лядашчасць. Арыёста і Сервантэс вярталіся ў сярэднявечча гэткім жа чынам, як Сэрджа Леонэ і іншыя італьянскія героі вестэрнаў вярталіся ў Амерыку XIX стагоддзя як у краіну прыгодаў, ужо створаную Галівудам. У такім жа

сэнсе Рабле разыграў уяўнае вяртанне ў Сарбону. Але ён ужо не верыў у той Парыж, які апісваў. Гэтаксама, як і героі Монты Пітана не вераць у гратэск, сярод якога яны існуюць.

3. *Сярэднявечча як барбарскі час*, свет простых, не абмежаваных ніякім законам памкненняў. Гэта сярэднявечча Фрацэты, але — на іншым узроўні складанасці й апантанасці — гэта таксама сярэднявечча ранняга Бергмана. Такія прымітыўныя жарсці маглі б аднолькава існаваць як на берагах Фінікіі, так і ў пустэльнях Гільгамеша. Гэта *par excellence* "змрочны час"[5], і нават "Пярсцёнак Нібелунгаў" Вагнера таксама можна аднесці да гэтага "заняпаду розуму", які не можа не прыгаломшваць. Нас амаль запрашаюць уславіць веліч маладой арыйскае расы на гэтай зямлі грубае жывёльнай моцы. Гэта дзікае сярэднявечча, і чым больш дзікія яго героі, тым больш глыбока ідэалагізаваная яго паверхневая наіўнасць.

4. *Сярэднявечча рамантызму* з ягонымі навальнічнымі замкамі й зданямі. Гэтае сярэднявечча вяртаецца да нас у форме сучаснай "касмічнай" фантастыкі, дзе, каб ператварыць вязніцу ў касмічны карабель, дастаткова паставіць у ёй камп'ютэр.

5. *Сярэднявечча philosofia perennis*[6], або неатамізму. Яно цьмяна праступае не толькі з-за Марытэна і пастарскіх павучанняў ды дагматаў Пія XII ці Яна Паўла II. Як празрыстую крыніцу натхнення, яго можна адчуць і за фармальна-лагічнымі выкладкамі самых розных свецкіх філосафаў сучаснасці. Нядаўна ў "Семіётыцы і філасофіі мовы" ("*Semiotics and Philosophy of Language*") я разгледзеў сярэднявечную тэорыю вызначэння, выкладзеную Парфірыем у "*Isagoge*". Я паказаў, наколькі на яе паўплывалі некаторыя лагічныя сафізмы. Я імкнуўся выявіць, як гэтыя сафізмы працягваюць уплываць на шмат якія тэорыі значэння (*of meaning*); часта не ўсведамляючы гэтага, яны багата запазычылі з парфірыянскай плыні мыслення. У гэтым сэнсе адвечная жыццёвая моц сярэднявечча зусім не абавязкова карэніцца ў рэлігіі, бо прыхаванага сярэднявечча шмат і ў некаторых сучасных лагічна-сістэмных тэорыях, напрыклад у структуралізме.

6.*Сярэднявечча нацыянальнага самавызначэння*, якое зноў разгарнулася ва ўсёй сваей моцы ў мінулым стагоддзі. Тут сярэднявечная мадэль узводзілася ў ранг палітычнай утопіі, услаўляла мінулую веліч — і супрацьпастаўлялася нішчымным рэаліям нацыянальнага прыгнёту і замежнага панавання.

7. *Сярэднявечча дэкадансу*. Відавочна, я маю на ўвазе братэрства перадрафаэлітаў, Раскіна, але таксама і "*A Rebours*" Х'юсма і апантанасць *Des Esseintes*. Тыпова італьянская версія гэтага дэкадэнцкага сярэднявечча прысутнічае ў неаготыцы Джосуэ Кардуччы і Габрыэле Д'Анунцыа (хоць апошні і не быў дэкадэнтам *fin-de-ciecle*). Спачатку яно было вынаходніцтвам інтэлектуалаў, але потым арганічна ўлучылася ў праект рэстаўрацыі на нацыянальны лад і ў італьянскіх гарадах дало жыццё мноству падробак, часам цікавых, а часам і вартых жалю, у архітэктуры і выяўленчым мастацтве.

8. *Сярэднявечча філалагічнае рэканструкцыі*, якое ўзыходзіла ад Мабіёна праз Мураторы да найлепшых узораў Гільсана, да адкрыцця наноў *Acta Danicorum Philosoforum* і да школы *Annales*. Падобны філалагічны падыход можа ўжывацца ў дачыненні як да вялікіх гістарычных падзеяў, так і да глыбінных грамадскіх ці тэхналагічных структураў ва ўсёй іх неспасцігальнасці, а таксама і да формаў штодзённага жыцця. На шчасце, у гэтым выпадку не даводзіцца казаць пра "сярэднявечную моду". Не зусім вольнае ад цікаўнасці СМІ, гэтае сярэднявечча, аднак, дапамагае нам крытычна паставіцца да ўсіх астатніх сярэднявеччаў, якія ў той ці іншы час выклікаюць наша захапленне. Гэтаму сярэднявеччу, дзякуй Богу, бракуе ўзвышанасці, і таму яно выглядае больш "па-чалавечы".

9. *Сярэднявечча гэтак званае традыцыі*, альбо акультнае філасофіі (ці *la pensie sapientielle*), даволі эклектычны пракаветны будан-развалюха, у якім таўкуцца тамплііеры, розенкрайцэры, алхімікі, масоны і неакабалісты. Гэтае сярэднявечча, напоенае атрутай рэакцыі, што тачылася са Святога Грааля, гатовае вітаць

кожную праяву неафашыстоўскай Волі да Магуты. За зрокавае ўвасабленне праяваў-мрояў, якія быццам былі яе адэптам, гэтае сярэднявечча з гатоўнасцю бярэ ўсе атрыбуты *сярэднявечча №3* і пры гэтым блытае Рэнэ Гэнона з Конанам Барбарам і Авалон – з каралеўствам Прэстэра Джона. Антынавуковае паводле вызначэння, гэтае сярэднявечча дзеецца пад знакам міфічнага шлюбу мікра- і макракосму і ў выніку пераконвае сваіх прыхільнікаў у тым, што кожная з'ява тоесная іншай і што свет створаны дзеля таго, каб ва ўсёй сваёй разнастайнасці даводзіць адно Пасланне. На шчасце, Пасланне згубілася, і гэта надае прыцягальнасці яго пошукам для нешматлікіх шчасліўчыкаў, якіх анічым не пахіснуць, не пераканаць аніякімі філалагічнымі доказамі.

Каб абагульніць тып мыслення, характэрны для "традыцыйнага сярэднявечча", дазвольце мне згадаць дзве базавыя кагнітыўныя мадэлі — эпістэмалагічную і лагічную — якія мысленне падобнага сярэднявечча звычайна з усёю безадказнасцю перакульвае дагары нагамі: мадэль *post hoc propter hoc* перавернутая ў *propter hoc ergo ante hoc*, а лагічная мадэль *modus ponens* перавернутая ў тое, што я звычайна называю *modus indisponens* (дзеля перакладу гэтага лаціна-італьянскага каламбура назаву яго "спосабам перакульвання"). Добрым прыкладам *propter hoc ergo ante hoc* ёсць аргумент, скарыстаны ў мностве самых вядомых тэкстаў пра *Pimander*: добра вядома, што "*Corpus Hermeticum*" быў напісаны ў першым стагоддзі нашае эры, але прыхільнікі традыцыі (нават пасля пераканаўчае дэманстрацыі *Casaubon-a*) цвёрда ўпэўненыя, што ён быў напісаны ў часы Майсея ці Піфагора, але ў любым выпадку — да Платона. Цяпер аргумент гучыць наступным чынам: паколькі "*Corpus Hermeticum*" змяшчае ў сабе ідэі, якія пазней паўтараюцца ў Платонавым асяродку, то гэта сведчыць пра тое, што ён быў напісаны да Платона. Што ж да *modus indisponens*, то яно спрацоўвае наступным чынам: пры $p - q$, але $k - w$, і можа быць прыкладам наступнага цверджання: калі $a = b$, то $b = a$. Але "*Corpus Hermeticum*" сцвярджае, што *sucit inferius sic superius*, таму Святы Грааль – не што іншае, як *Lapis Philosophorum*[7]. Я ведаю, што ўсё гэта не сапраўднае сярэднявечча і што нашы старыя дактары навук, якія абмяркоўваюць свае *quaestiones quodlibertales* на гуманітарных

факультэтах, былі больш дакладныя, чым Генры Корбін ці Жыльбер Дзюран. Але тып мыслення "традыцыйнага сярэднявечча" зазвычай разгортваецца пад сцягам вечнага вяртання да зямлі Артура.

10. Апошняе па парадку, але не па значнасці, — *чаканне Мілeніума*. Гэтае сярэднявечча апанавала кожную рэлігійную секту. Яно з намі і не пакіне нас да апоўначы 31 снежня 2000 года. Крыніца шматлікіх вар'яцтваў, яно застаецца, аднак, нязменнай перасцярогай. Бо прадчуванне, што надыходзіць канец свету і ў дзверы грукае Антыхрыст у цывільным, — не такое ўжо і сярэднявечнае.

## ЯКОЕ МЕНАВІТА?

Такім чынам, перш чым радавацца ці шкадаваць аб вяртанні сярэднявечча, мы абавязаныя (мараллю і культурай) вызначыць, пра якое менавіта сярэднявечча мы гаворым. Шчыра прызнацца, да якога з 10 тыпаў сярэднявечча мы звяртаемся тады, калі проста практыкуем больш ці менш пачэсныя формы дывертысменту, калі нас здзіўляюць нашы асноўныя праблемы або калі мы падтрымліваем (без спадзеву рэалізацыі) якуюсь рэакцыйную змову, — значыць сказаць, хто мы і пра што марым.

**Пераклала з англійскай мовы**
**Таццяна СЛІНКО.**

---

[1] **Frappe** *(італ.)* – пісаніна.

[2] **Latin de cuisine** *(фр.)* — кухневая лаціна.

[3] **Асіян** — легендарны ірландскі паэт III ст. н.э. У XVIII ст. паэт Джэймс Макферсан надрукаваў,як ён сцвярджае, пераклады Асіяна, але насамрэч гэта былі яго ўласныя творы.

[4] **Repecbage** *(фр.)* — выцягванне, выманне.

[5] У англійскай мове ранняе сярэднявечча завецца "цёмны час" — *the Dark Ages*.

[6] **Philosofia perennis** *(лац.)* – філасофія вечнасці, адвечнага.

[7] **Lapis Philosophorum** *(лац.)* – філасофскі камень.



# Юры Чарнякевіч

*У чорных пальчатках,*
*Хаваючы кіпцюры,*
*Будзе пісаць* паэта
*На даляглядзе паперы*
*Кроплямі цёплымі словы.*

***

У шклянцы
На падваконні –
Каханне.
Напоем халодным.
Гранатавай вадкасцю.
Сокам.

Выпіць!
Выпіць нагбом,
Каб у роце
Прысмакам доўгім,
Слодыччу,
Гаркатой –
Гэта зіма,
Гэты Студзень
Застаўся.

Літарай чорнай
На белым
Ён будзе стыгнуць
Пад ветрам...
Зробіцца лёдам.
Формаю мёртвай.
Шклянкаю
На падваконні.

***

Раптоўны дотык
Стыні.
Да цёплых пальцаў –
Лёд –
Твой пацалунак.
Першы.

Снежны.
Апёкі на губах,
Як гукі мовы
Дзіўнай,
Так доўга будуць
Енчыць,
Галасіць,
Прасіцца на паперу,
Што –
Паэт парэжа
Цела аркуша,
Бялюткае і маладое,
Параніць да крыві,
Да сініх словаў…

Верш народзіць.

# ЯНА

Выйдзе
На
Лесу
Ўскраек
І, вочы заплюшчыўшы,
Слова прамовіць –

Вядзьмарка.

Нітамі залатымі
Апле́ценая,
Месяцовым святлом
Народжаная,
Вып'е адвар
Дзьмухаўцовы –

Князёўна.

# У нас



У прастрані ночы,
У небасхіле самоты,
Будзе лунаць
Белым птахам –

Да рання.

А
На
Світанні
Шэранню
На траву

Ападзе.

* * *

Яна пойдзе,
Як вада рачная,
Сціскаючы рукамі
Галаву халодных
Дзён,
Напісанае на далонях
Слова,
Пойдзе,
Як Сусвет
Ці слота,
А можа –
Боль зубны...
Разлітая ў паветры
Чарнатой нябёс.
Там,
На сумежжы
З зоркай
Віфлеемскай.

***

У чорных пальчатках,
Хаваючы кіпцюры,
Будзе пісаць *паэта*
На даляглядзе паперы
Кроплямі цёплымі словы.
З кропель народзіцца
Цела,
Навобмацак – мяккае,
З пахам травы, зяляніны…
Цела Дажджу –
Празрыстае,
У агеньчыках сонечных.
Здыме пальчаткі паэт,
Назаве немаўлятка па імені.
Можа, Адамам,
Мо Франкенштэйнам,
Ці проста – Арцюрам Рэмбо.
Тое не важна, паэта!
Смеласцю й нігілізмам,
Постмадэрновым кантэкстам,
Ты можаш гвалціць
І цела – жанчыну
Ці гэты верш без рыфмоўкі.
Пі, весяліся, кахайся
З паперай – адвечнай сяброўкай,
Сюррэаліст-адраджэнец.
Займайся далей анапізмам,
Грэбаным даляглядам…

***

Груган зямлю трывожыць
Цемрай.
Гэта лёгка.
У слодычы забыцца можа

# У нас

Вецер –
Шалёны, хуткі, пругкі,
Быццам куля,
Расціснуць слова на паперы
Плямай сіняй –
І стрэліць зноў.
У восеньскім палоне
Здаецца неба
Хмарным і панурым,
Рака здаецца
Цмокам гладка-цвёрдым;
Паветра –
Холадам і зорак бляскам.
Памерла ціша.
Усё памерла:
Бог і сонца,
Асадка на стале,
І Беларусь, і вокліч.
І засталіся толькі
Памяць пра маленства
Ды буслянятка
Бел-чырвона-белае.



# Дзмітрый Магілеўцаў

*...ён прывёз нейкія брудныя тлустыя камякі і прымушаў хлопаў садзіць іх у глебу, разрэзаўшы перад тым на кавалкі. З кавалкаў вырастала дзівосная тоўстая трава, на якой спелі чорныя суніцы. Суніцы тыя Андрэй забараняў есці. А есці загадаў, зварыўшы, тлустыя камякі, якія хаваліся ў глебе, прычапіўшыся да каранёў травы. Але елі, толькі пакуль загадваў, а калі не бачыў, пляваліся гэткім брудам і мылі раты півам.*

Дзмітрый МАГІЛЕЎЦАЎ

# Жыццё і смерць Андрэя Варатынца, альбо Як упершыню з'явілася на Беларусі бульба

Даўняя тая справа і досыць загадкавая. Дый крыві там хапае і абсурду. Усяго пакрысе, а часам і без усялякае меры.

Жыў некалі ў Вялікім княстве добры рыцар і дужа адукаваны князь Міхайла Глінскі, першы і амаль што адзіны ў гісторыі крывіцкі кандацьер. Дзе яго толькі лёс ні насіў! І пры двары імператара Святой Рымскай Імперыі Максіміліяна Габсбурга, і ў Фрысляндыі з мячом у руцэ, і ў Багеміі, і ў Італійскіх краінах. Але ж, бадзяючыся там ды тут, ваюючы ды зарабляючы рыцарскую рэпутацыю, не забываў наш князь роднае Вялікае княства, кавалкам-іншым якога ахвотна павялічыў бы свае ўладанні. Бо, нягледзячы на веліч уласнай постаці, вялікага багацця не меў – безумоўна, калі не лічыць багаццем тое, што ўзбуджаў у галовах і сэрцах простай шляхты, князёў з магнатамі ды каранаваных асобаў. Вось тым і вырашыў скарыстацца, стаміўшыся ў рэшце рэшт узнімаць меч пад чужымі харугвамі.

Гэтак ужо здараецца на свеце, што ў часы, калі больш за ўсё паважаюць адданасць, шляхецтва ды цноту, часцей за ўсё і трапляюцца найбольш агідныя

здраднікі ды распуснікі. Не, не лічыце, быццам хачу запэцкаць брудам адзінага нашага кандацьера. Крый Божа! Але ж уявіце: князь старажытнага роду, зорка пры двары самога імператара, харызматычны, прыгожы, разумны, з далікатнымі дворскімі манерамі, з адукацыяй і марамі аб велічы і ўладзе – і вяртаецца да балотаў, да паўп'янай шляхты і змардаванага хлопства, да палацаў з бярвення, дзе сцены завешаныя смярдзючымі скурамі. Дзе дым з агменю выходзіць праз дзіравы дах і смурод конскага поту лічаць за гонар для мужчыны. Дзе ён далёка не першы багаццем. Дзе які-небудзь спрадвеку не мыты гаспадар кута, у якім нават і святары паганства ад веры не адрозніваюць, задаволена зрыгнуўшы, кажа яму падчас застолля па-сяброўску, каб месца сваё ведаў і наперад за лепшых не лез – ну як усё гэткае можна стрываць?

Час быў не дужа мірны. Сварыліся з маскоўцамі ды з татарамі, і патыхала вялікай вайною. Глінскі ж быў някепскі правадыр. Нельга сказаць, каб вельмі добры, але войска яго любіла і пакорліва ішло за ім – ва ўсялякім разе, да першай значнай паразы. Ён належаў да той славутай рыцарскай пароды, прадстаўнікі якое ўмеюць скакаць наперадзе войска ды ўдала працаваць мячом, на якіх вельмі прыемна зірнуць – і сэрца ў грудзях хутчэй б'ецца, і рука мацней зброю сціскае. Якія жывуць у бойках, але не ведаюць, што рабіць наміж імі. Якія выйграюць бітвы і губляюць перамогу ў войнах. Менавіта гэткі быў князь Міхайла.

Кажуць, калі не дасталася яму гетманскага пернача, ён пачаў збіраць вакол сябе гультаёў ды адарвірогаў, малодшых сыноў славутых радоў ды худое баярства. Нават і хлопаў прымаў, і з крымцамі ды дабруджынцамі нейкія меў зносіны, усім абяцаў ці па кавалку зямлі, ці луп, ці прывілеі ды пасады. А хто і проста пайшоў, не разважаючы асабліва, бо ўласнага розуму не меў, а жыў ад чаркі да бойкі. Менавіта з такіх быў Андрэй Варатынец.

Варатынцы асаблівым багаццем ці старажытнасцю не вызначаліся, але ж ніхто б і не папракнуў іх худапахольствам ці невялікім дастаткам. Багацейшыя былі за Падбіпятаў, калі вам гэта пра нешта гаворыць. Мелі зямлю і ў Аршанскім павеце, і на Літве. Андрэеў бацька лічыўся вялікакняжацкім дваранінам, умеў трымацца някепска і падчас застолля, і на паляванні. Умеў і

своечасова слова сказаць, падтрымаць каго трэба, коней ведаў добра, а дзе грашыма патыхае – яшчэ лепей ведаў. Таму патроху-патроху па зярнятку збіраў ды пільнаваў скарбніцу, і маёмасць расла хаця і паволына, аднак безупынна. І старэйшы сын уваслед пайшоў. А вось малодшы... Тут Фартуна крыху памылілася. Відавочна толькі, што захацела праліць на Варатынцаў за раз сапраўднае мора здольнасцяў, талентаў ды перспектываў. Але ж патрапіла не ўсім, а нейкім неверагодным чынам адной постаці – небараку Андрэю. І ўсе ягоныя здольнасці, працуючы адначасова адна супраць адной, ператварылі Андрэева жыццё ў жудасны хаос.

Урадзіўся ён моцны, жвавы, кемлівы, прыгожы. У чатыры гады шаблю ў руку ўзяў, а ў пяць – засек ёю да смерці лепшага бацькавага сабаку, харта, за якога дзве капы грошай давалі, але бацька не прадаў. Казалі яму, што сабакі – спрытныя жывёліны. Вось ён і зацікавіўся, ці паспее сабака адскочыць. Сабака, відаць, не паверыў, што дзіцятка з жалеззем мае ў галоўцы благое. Добрую ж карабелу толькі ўзнімі – а надае яна ўжо сама, барані Бог пад яе трапіць. Так Андрэй упершыню забіў жывую істоту, якая яму даверылася. І ўпершыню пакаштаваў бізуноў. Апасля бацька палічыў, што лупцаваць пачалі надта рана, і малодшы сын не паспеў займець звычкі да гэткага пачастунку. У адзінаццаць гадоў упершыню пацалаваў дзяўчыну – дачку старасты. Адбылося тое падчас Божага Нараджэння, і пасля тры гадзіны ён, узлезшы на пуню, на жудасным марозе ў адной кашулі адбіваўся шабляю ад ашалелых братоў дзяўчыны, пакуль тых не разагнаў бацька. Варатынцы ледзь не нажылі смяротных ворагаў, але неўзабаве Андрэй з тымі ж двума старастовымі сынамі загадкавым чынам паміраўся дый спаліў пад Вільняй карчму. Лупцавалі ўсіх разам дый соллю не шкадавалі потым пасынаць, каб памяталі даўжэй. Але дзе там! У шаснаццаць ягоных гадоў усё наваколле ажно стагнала. Казалі, ніводнай нецалаванай дзеўкі ці маладзіцы не засталося і ніводнай нераспрабаванай біклагі з мёдам. Разам з тым і вучыўся пядрэнна. Веры Варатынцы былі каталіцкай. Таму ксяндза паклікалі, і не абы-якога, а што ў Немцах вучыўся. І вось дзіва – Андрэй за два гады ўжо па лаціне пачаў балбатаць, і нават вершыкі складаць спрабаваў. Някепскія такія вершыкі, усё пра аморы, каханне па-іхняму. Ляшскую мову вывучыў, ледзь шкодзіць пачаўшы, а шкодзіць пачаў раней, чым хадзіць. Са

жмудзінамі брахаўся, як крэўны, і нават мярзотную жыдоўскую гаворку ведаў. Адкуль – невядома. Можа, бадзяючыся па корчмах ды павецях, дзе ў гарэлку (казаць брыдка) жыды ўсялякую поскудзь кладуць, накшталт бруду з-пад бычынага падхвосця, каб мацнейшаю здавалася.

Шаснаццаць гадоў па тым часе – ужо сталы чалавек, здольны і за сябе пастаяць, і за іншых, дый жаніцца ўжо можна. Бацька ж Андрэеў, чалавек добры і вялікай веры, толькі й рабіў, што маліўся за малодшага сына. Адзін дзень маліўся, каб анёлы на чале з Маці Божай дапамаглі яму, а другі – каб д'яблы хутчэй знеслі, каб не паспеў збыць сямейнага багацця і добрага імя. Шабляй махаў Андрэй, нібыта языком, а языком – нібы тым, пра што і казаць сорамна, а ўжо тым... Хм. Бяда ж небараку тая была, што думаць ён адначасова з гэтым усім ну ўвогуле не ўмеў. Калі сядзіць ціхенька, цвярозы, прыгожы, і раптам размаўляць пачне альбо распавядаць пра нешта – найразумнейшы чалавек, Саламон з Авідыем разам, ніяк не менш. Кніжкі чытае ці нешта майструе. Старых пра мясцовыя звычаі ды старажытныя падзеі распытвае – ну цуд проста, яму б ксяндзом быць. Але ж як скочыць на каня (а коней любіў не менш за жаночае цела) – робіцца вар'ятам.

Калі Андрэю споўнілася семнаццаць гадоў, бацька цвёрда вырашыў ад сябе яго прагнаць і нават забараніць сабе пра яго думаць. Але ж тут і выбухнуў мяцеж князя Міхайлы Глінскага. Якім чынам прыбіўся малады Варатынец да князя, дакладна не вядома. Магчыма, як магніт цягне да сябе металічнае смецце, так і князь цягнуў да сябе ўсіх, як татары кажуць, "людзей доўгай волі" і, ад сябе дадам, вельмі нядоўгага розуму. Сто талераў супраць аднаго пастаўлю – калі б які малады гультай з шабляю на пасе, гонарам на носе ды ветрам у галаве сеў на каня ў той час ды паехаў куды вочы глядзяць, абавязкова трапіў бы да Глінскага. Вялікі ўсё ж быў чалавек князь Міхайла.

Лепей за ўсё ў ягоным войску было падчас застолляў. Пілі няблага – зразумела, за будучыя перамогі. Наваколле рабавалі не горш за ардынцаў. Можа, менавіта таму і не падтрымала князя Міхайлу заможная шляхта, а ўласных грошай у князя не хапіла. Даволі хутка пайшлі на князя сталёвыя каралеўскія харугвы, войска ягонае пачало раставаць, нібы снег пад веснавымі промнямі. Сумная тая гісторыя. Як і заўсёды здараецца, тыя, хто больш за

ўсіх піў ды крычаў, першыя ж і зніклі. А вось Андрэй застаўся. Бо хоць і гультай быў, але ж сапраўднай шляхетнасці чалавек, і таго, з кім быў побач у час велічы і моцы, не кінуў падчас ганенняў і заняпаду. Разам з князем ён пайшоў да маскоўцаў, разам прыехаў у Маскву да вялікага маскоўскага князя Васіля, разам і хапіў выпрабаванняў лёсу.

Чаго давялося паспытаць Глінскаму ў Масковіі, наўрад ці вартае распаведу. Як кажуць, з князёў ды ў бруд. Праз паўгады князю стала відавочна, што з выбарам новай айчыны ён крыху памыліўся. Пачаў розным чынам дасылаць у Княства і да самога імператара Максіміліяна лісты з просьбамі аб дапамозе. Яшчэ прайшло колькі часу, і наш князь спрытненька і ціхенька рушыў назад, да караля Жыгімонта. Але ж далёка не ўцёк. Яго злавілі дый пасадзілі ў астрог. А ўсю служылую літву, якая з князем Міхайлам да маскоўцаў прыйшла, параспіхалі па Масковіі. Варатынца з тузінам іншых небаракаў запхнулі аж на Волгу, вартаваць ад Казанскага ханства. Жылі там, як сабакі, да таго ж і ў праваслаўную веру іх імкнуліся прымусам звесці.

Князь трываў нядоўга. Перспектываў асаблівых у Княстве ў яго не засталося, але засталіся большай часткай смяротныя ворагі. У новай айчыне ягоныя талент і веды (асабліва пра ўмацаванні, войскі ды шляхі Княства ды Кароны) маглі б быць вельмі карысныя. Маскве ў той час патрабавалася любая дапамога супраць Княства. Усе ведаюць, як гетман Астрожскі пад Оршаю ў тысяча пяцьсот чатырнаццатым годзе перамог маскоўскае войска. Але ж толькі вар'ят стане давяраць здрайцы. І таму Глінскаму суджана было існаваць на задворках жыцця аж да смерці вялікага князя Васіля.

Глінскі шмат чаго мог і здолеў-такі даць сваёй новай айчыне. Напрыклад, легенду пра тысячагадовае яе існаванне. Ці пляменніцу Алену, якая нарадзіла славутага і вельмі адметнага ў маскоўскай і навакольнай гісторыі цара Івана. Трэба сказаць, забягаючы наперад, што падзяку князь атрымаў адпаведную – памёр у рэшце рэшт у турме.

Кажуць, з вышыні людзей бачым зусім інакш. А таму немагчыма знізу, з бруду і глупства, меркаваць пра жыхароў вяршыняў. Пра іх прызначэнне, мэты і ўчынкі, прагу да ўлады і

моцы. Пра здольнасць іх і права весці за сабою людзей. І пакідаць іх.

Князь Міхайла перахрысціўся ў праваслаўную веру. Служылай літве пра тое паведамілі адразу ж. Але Андрэй, які дагэтуль пазіраў на князя, як вясковы хлапчук – на рыцара з каралеўскай світы, застаўся з агнусекам ды з Божай Маці. І раптам адчуў, што рабіць яму пасярод стэпу зусім няма чаго. І што дагэтуль бачыў ён у князю Міхайлу толькі бліскучы адбітак уласнага глупства. Гаворку мясцовую да таго часу наш герой паспеў вывучыць не горш за мясцовых жыхароў. Пераапрануўся ў падзёрты зіпун, у лапці, у лахманы дый збег разам са скамарохамі, якія мядзведзя вадзілі па вёсках. Пакінуў сабе з усяе маёмасці, што яшчэ заставалася, толькі агнусек ды бацькаву карабелу. Схаваў у лахманах. Прыгожы ўсё ж такі быў юнак – нягледзячы на хлопскую апратку, скакаў як чорт і ўсміхаўся як анёл. А якія словы кабетам казаў, якія песні спяваў! Карацей, так файна ў скамарохаў справы пайшлі, што ледзь на мядзведзя свайго паўп'янага не забыліся. На святах вясковых і елі ад пуза, і пілі, і з сабою бралі, што ў торбы лезла. І Андрэя слухаліся. І рушылі пакрысе на паўночны захад – да Масквы.

Пад Разанню Андрэй упершыню забіў чалавека, з якім спаў пад адною дзяружкай ды дзяліў кавалак хлеба. Мацейку, скамарошага правадыра. Той хоць і дужы быў, і спяваў як салавей, аднак люта зайздросціў, бо астатнія скамарохі слухаліся Андрэя, а не яго. Таму, пайшоўшы да цівуноў у бліжэйшую слабаду, наплявузгаў, што таць Андрэй і гультай, а можа нават шпіён, бо ў сне гаворыць на дзіўнай мове і, забыўшыся, крыж на сябе кладзе не як добрыя вернікі. Раніцою цівуны ўтрох чакалі скамарохаў на лясной сцежцы за слабадой. Але ж перад тым увечары, вярнуўшыся са слабады, Мацейка даў маху – быў задужа ласкавы з Андрэем, усё падліваў яму мёду ды частаваў лепшымі кавалкамі, казаў, што ніколі так добра не жыў, як з Андрэем, лавіў кожнае яго слова, рагатаў ледзь Андрэй пасміхнецца, увесь час намагаўся зазірнуць у вочы. Таму Андрэй спаў, паклаўшы далонь на цаўё карабелы. А ранкам першы ж цівун, які выехаў насустрач, не паспеў нават двойчы сказаць "стой". Другі торкнуў дзідай, і яна ўпала на зямлю разам з адсечанаю рукой, а праз хвіліну й сам

зваліўся на зямлю. Трэці павярнуў каня дый прыпусціў наўцёкі, але ж Андрэй, перахапіўшы шаблю ў левую руку, правай узняў дзіду ды кінуў наўздагон. Дзіда ўвайшла ў спіну і выйшла з грудзей, нават надрапала крыху конскую шыю. Мацейка кінуўся ў лес, бег доўга і хутка, але стаміўся і, схаваўшыся за дрэвам, напаў на Андрэя з нажом. І памёр у яго на руках, і кроў з ягоных пасечаных грудзей змяшалася з крывёю, якая лілася з параненай Андрэевай рукі. Так, пазіраючы ў вочы чалавеку, якога забіў, пан Андрэй пабратаўся з мёртвым.

Было гэта вясною тысяча пяцьсот семнаццатага года ад нараджэння Хрыстовага. Менавіта тады прыбыла ў Маскву амбасада ад імператара Максіміліяна на чале з Жыгімонтам Герберштэйнам. Акрамя ўсяго іншага, імператар прасіў адпусціць князя Глінскага, славутага рыцара й правадыра. Імператар абяцаў, што здолее выправіць схільную да здрады князеву душу. Адправіць князя ў найдалейшы кут Еўропы, у Іспанію, да двара Яго каталіцкае мосці Карла Першага, а ўжо там князя павернуць да сапраўднага шляху. Ды ўратуюць ад усялякіх спакусаў, бо жыццё там амаль як у кляштары – пад пільным вокам інквізіцыі. А Карл ужо падпільнуе як трэба, калі Максіміліян папросіць, бо ягоны ўнук і спадкаемца (амаль праз тры гады, калі Максіміліян памёр, Карл сеў на імператарскі трон і з Першага іспанскага зрабіўся Пятым нямецкім).

Андрэй загнаў аднаго за адным усіх цівуновых коней, спяшаючыся ў Маскву. Ляцеў не хаваючыся, з шабляй на пасе, апрануты ў вопратку, знятую з забітых. Разумеў, што адзіны паратунак – у хуткасці. Такога сягнуў у дзёрзкасці, што вартавым на шляху ў адказ на пытанне, адкуль і куды, распавёў, што едзе па справах князя Міхайлы Глінскага. І прапусцілі, калі ён загадаў ім, хлопам, варушыцца, бо інакш пакаштуюць шляхецкае нагайкі. А яшчэ ён піхнуў ботам у твар нешча, які крыху павольней адсоўваўся прэч. Апошні конь упаў пад самай Масквою, і ў горад Андрэй увайшоў пешшу, ізноў апрануўшыся ў хлопскае. Тут таксама пашанцавала – бо быў Вялікі тыдзень, людзі гуртам ішлі ў горад на свята, і ён праслізнуў, далучыўшыся да натоўпу багамольцаў. А неўзабаве адзін з амбасадарскіх пахолкаў, дробны шляхцюк, прыбег, страшэнна ўзбуджаны ды здзіўлены, да гаспадара і

распавёў, што нейкі хлоп, убачыўшы яго, пачаў спяваць на лацінскай мове – і не што-небудзь, а шкалярскі гімн "*Gaudeamus*". Гэткае – у барбарынскай Маскве! Барон Жыгімонт усміхнуўся і загадаў прывесці дзіўнага хлопа да сябе. Так жыццё Андрэя Варатынца, якое скацілася было ў найніжэйшую яміну, пачало пацíху караскацца ўгору.

Барон Жыгімонт меў не толькі дыпламатычны, але і літаратурны талент. Ён пакінуў гісторыкам даволі падрабязнае апісанне свайго візіту ў Масковію, а таксама тамтэйшых звычаяў, прыроды, геаграфіі ды безліч іншых дробязяў, якія прыкмеціла пільнае амбасадарскае вока. Нават настолькі падрабязнае, што часам дзіву даешся – які ж добры назіральнік з амбасадара атрымаўся! Спадабалася яму слухаць расповеды малодшага Варатынца. Можа, таму і ёсць пэўныя дэталі ў ягоным опусе, якія асцярожная нямецкая фантазія наўрад ці здолела б нарадзіць.

Жыгімонт Герберштэйн павёз Андрэя з Масквы аж да Вены. А князя Глінскага пакінуў. Бо ягоныя новыя гаспадары сказалі, што князь цяпер праваслаўны і знаходзіцца яму належыць тут, а не ў чужынскай Іспаніі. Сумняюся, што князю ўвогуле пра амбасаду распавялі. Дый навошта?

Доўга ехалі. Праз Княства і Карону, праз Вугоршчыну. Толькі за вугорскай мяжой Андрэй нарэшце ўздыхнуў з палёгкай. Дзіўна, але па родных мясцінах зусім не сумаваў. Наадварот – адчуваў, нібыта ўвесь свет ляжаў пад капытамі каня. Барон Жыгімонт жартаваў з Андрэя. Казаў, быццам у яго не ліцвінская, а іспанская, бадзяжная душа. Бо ліцвіны з палякамі, ледзь не адзіныя ў Еўропе плямёны, што з хаты амаль немагчыма выцягнуць. Вунь – маскоўцы з татарамі б'юцца, на поўнач імкнуцца і на поўдзень, немцаў увогуле ў любой краіне можна напаткаць, французы таксама паўсюль ціснуцца, а пра ангельцаў і казаць не варта. А ліцвіны з Вітаўтавых часоў сядзяць сабе, мёд з півам п'юць ды толькі на ўсіх памежжах б'юцца. Хоць бы флот які пабудавалі. Дзе там! Што, пане Варатынец, не цягне дахаты? Пан Варатынец толькі падкручваў доўгі саламянага колеру вус ды ўсміхаўся.

Неўзабаве дабраліся да імператарскай Вены. Гер Жыгімонт знік у нетрах імператарскага двара, а Андрэю засталося адно

бадзяцца па Вене ды знаёміцца з мясцоваю шляхтай. Імператар не захацеў прыняць Андрэя, бо яму казалі, што малады Варатынец вельмі нагадвае маладога Глінскага. Імператар, якому засталося жыць менш за тры гады, не любіў, калі яму ўзгадвалі беззваротна страчанае ва ўласным жыцці. А калі спыталі, што рабіць з ліцвінам, толькі махнуў рукой. Абяцалі маскоўскаму князю Васілю адправіць ліцвіна ў Іспанію – дык няхай сабе ліцвін і выпраўляецца!

І паехаў Андрэй да краю свету. Бачыў снежнагаловыя Альпы і каменныя цуды італійскіх гарадоў. Піў віно, лёгкае, нібы смех, цалаваў смуглявых жанчын, якія пагладжвалі яго саламяныя валасы і казалі, што ён нагадвае старога з целам юнака. Бачыў хвалі цёплага мора і чуў пах кіпарысаў. Ягоную скуру абпаліла сонца, і на вуснах засталася соль. Ён быў несмяротны і ўсемагутны ў той жа час. У жорсткай краіне бязлітаснага сонца й крыві, гарачэйшай за сонца, ён чуў спевы бадзяжных святароў, якія лупцавалі свае схуднелыя бакі скураной пугай. Бачыў хлопаў, якія кляліся гонарам, нібы шляхта, і паміралі за свой гонар. Бачыў палацы колеру іржы і пустэчы, засыпаныя рудым пылам. За Сарагосай на невялікі купецкі абоз, да якога далучыўся Андрэй, напалі з дзесятак прапыленых вершнікаў у падраных апратках. Іх хутка адагналі, забіўшы дваіх. Кроў забітых пралілася ў пыл і праз хвіліну сама ператварылася ў яго, рассыпалася, знікла. Пыл узнімаўся з-пад капытоў, накрываў рукі і твары. Андрэй падумаў тады, што ўся гэтая краіна, апірышча з апірышчаў каталіцкае веры, нібы палае ў пякельным полымі, і чалавечае жыццё, палыхнуўшы, робіцца рудым пылам. У гэтай краіне хутка нараджаліся і сяброўства, і нянавісць. І каханне.

Што яму было рабіць у Мадрыдзе? Немцы, якія прыехалі разам з ім, прывезлі Карлу імператарскі ліст. Андрэя паставілі на чале невялікага атрада нейкай чужынскай пяхоты, ён ахоўваў нешта і нават атрымліваў за тое грошы. Піў. Спяваў на дзіўнай для іспанцаў барбарынскай мове песенькі чарнавокім шляхетным прыгажуням. Адной з іх нават падараваў свой залаты агнусек, бо быў моцна п'яны ад віна і кахання. А калі выйшаў ад яе хістаючыся, раптам паклаў далонь на цаўё бацькавай шаблі і здрыгануўся. І набег назад, выбіў нагою дзверы, збіў дваіх нахолкаў і ўварваўся, нібы вар'ят, у пакой прыгажуні. Жанчына пакорліва аддала агнусек

і заплакала. Праз дзень адзін з яе кавалераў, высокі, хударлявы, з шалёнымі вачыма арагонскі гідальга, выклікаў Андрэя на дуэль. Андрэй, усміхнуўшыся, сказаў яму, што шмат чуў пра іспанскую адвагу. І калі шаноўны рыцар — сапраўдны іспанец, то ён, безумоўна, згодзіцца біцца так, як б'юцца ў барбарынскай Літве, – у адной кашулі, з шабляю ў руцэ і з завязанымі вачамі. Гідальга згадзіўся. Зірнуць на паядынак сабралася некалькі шляхціцаў. Рабілі стаўкі. Ставілі болей на Андрэя, бо ўжо крыху пра яго ведалі. Гідальга баяўся, і таму папрасіў завязаць яму вочы маўрытанскім карункавым шалікам, на першы погляд амаль чорным, а на самай справе — даволі празрыстым. Гэта яго і загубіла. Бо ён верыў, што Андрэй не бачыць яго, і проста крочыў насустрач па пыле, узняўшы меч. Андрэй сапраўды не бачыў яго, але добра чуў крокі. Гідальга не памёр адразу, хоць вастрыё карабелы прайшло яму па твары й шыі, высекшы адно вока і зняўшы шалік з другога. Ён трымаўся за жыццё яшчэ тыдзень, пакуль руды пыл ягонай краіны, змяшаўшыся з крывёю, не запаліў у ягоным целе полымя атруты.

Пасля таго іспанская зямля пачала пячы ногі малодшаму Варатынцу. Таму ніхто не перашкаджаў, калі ён захацеў далучыцца да чарговай экспедыцыі ў Новую Індыю, і адплыў на Іспаньёлу, а адтуль — на Кубу, да Дыега Веласкеса і славутага Эрнана Картэса. Цянер Андрэй без ваганняў адправіўся б і да д'ябла ў пашчу: у пекле ён ужо пабываў. Кампаньёны празвалі Андрэя "Вара" – бо, па-першае, іспанцам цяжка было вымаўляць "Варатынец", а па-другое, "варай" завуць дзіду з кароткаю стальной дзюбай, якой дзідар злуе быка падчас карыды. Андрэй быў вельмі злосны на словы, а ягоная шабля хутка вылятала з похваў і зрэдку вярталася да іх без крыві.

Картэс, небагаты нашчадак знакамітага старажытнага роду, нагадаў Андрэю князя Міхайлу. Амаль гэткі ж харызматычны: прыгожы, шляхетны, ганарысты, самаўпэўнены. Сапраўдны ўладар – паводзінамі, абыходжаннем, гаворкай. Кожную хвіліну шчаслівы толькі ўласнымі сілай і гонарам. Можа, таму Андрэй без сумневаў прыняў ягоны бок у спрэчцы з губернатарам Веласкесам. І далучыўся да Картэсавай авантуры. У сакавіку дзевятнаццатага года ён разам з ім высадзіўся на беразе Мексікі. І пайшоў праз

джунглі на захад. Пра гэта шмат чаго напісана: як перад кучкай авантурыстаў звалілася дзяржава ацтэкаў, як сталёвыя мячы секлі ваяроў, звыклых толькі да "кветкавых войнаў", да паўрытуальных боек, дзе галоўнае – не забіць ворага, а захапіць у палон, каб потым ахвяраваць крыважэрнаму богу на вяршыні піраміды. Іспанцы дзівіліся жорсткасці ацтэкаў і іх багоў, Андрэй – не: ён бачыў, як татары раздзіраюць ворагам грудзі і паказваюць яшчэ жывому чалавеку ягонае пульсуючае сэрца. Сам ён аднойчы пасля злой ночы, калі яго катавалі ліхаманка і прывідныя позіркі людзей, якіх забіў за жыццё, засек траіх палонных ацтэкскіх правадыроў. Астатнія палонныя – галодныя, амаль голыя, знямоглыя людзі, не лямантавалі і нават не сышлі са сваіх месцаў. Бо звыкліся да таго, што палонных забіваюць і гэткі ж лёс чакае і іх. Аднак не – для тых, хто застаўся жыць, Андрэй стаў не самым горшым гаспадаром. Ён хутка вывучыў мясцовую мову науатль і, узначаліўшы дзесятак іспанцаў і некалькі соцень індзейцаў, зажыў як заможны барон. Кажуць, спачатку ён нават загадаў пабудаваць з бярвення ліцвінскую хату на ўскрайку Тэначцітлана. Праўда, хатаў будаваць не ўмелі ані індзейцы з іспанцамі, ані ён, таму прастаяла хата не шмат часу. Давялося перабрацца ў каменны палац. Андрэй не любіў каменю. Камень нагадваў яму пра смерць. Ён не баяўся смерці, але не любіў яе, бо яна ўвесь час жыла пад ягонаю левай рукой. Пакорліва з'яўлялася, калі клікаў. І здзекавалася, пагражала, рагатала з яго крывавымі ратамі, якія лязо карабелы пакідала на целах. Таму Андрэй імкнуўся сабраць вакол сябе як мага больш жыцця – лесу, жывёлаў, пахолкаў, кветак, жонак. Па ягоным двары бегала шмат белагаловых хлапчукоў і дзяўчынак. Кажуць, яшчэ і цяпер нечакана нараджаюцца ў індзейскіх сем'ях белагаловыя дзеці з блакітнымі вачыма.

Андрэй пражыў у Амерыцы больш за дзесяць гадоў. Гаспадарыў, ваяваў – нават з іспанцамі, дамаўляўся, кахаў сваіх жонак, збіраў падаткі й рабаваў тое, што хацеў. І адчуваў, як з кожным годам жыццё цячэ нібы пясок паміж пальцаў. Усё, што адмераў яму лёс, паціху змяншаецца, мярцвее, знікае, а кожны забіты нібы скраў і скрадае кавалак жывой душы, а замест пакідае кавалак сваёй, змярцвелай. Калі аднойчы Андрэй адчуў, што ў

ягонай душы не засталося жывога кавалка, што ён больш не вывучыць ніводнай мовы і не пакахае ніводную жанчыну, ён накінуў Мексіку і паплыў назад у Стары Свет, узяўшы з сабою крыху грошай, карабелу ды агнусек.

У Вялікае княства ён вярнуўся ў тысяча трыццаць чацвёртым годзе ад нараджэння Хрыстовага. Якраз тады ў маскоўскай турме памёр князь Міхайла Глінскі, на кароткі час узняўшыся да вяршыняў улады і ўпаўшы адтуль апошні раз.

Бацька Андрэеў да таго часу памёр, а старэйшы брат зусім не ўзрадаваўся вяртанню малодшага. Грошы, якія ён прывёз з Мексікі, зрабілі ўражанне на аднаго панка з Аршанскага павета, і той аддаў за яго сваю адзіную дачку-прыгажуню. Дзяцей Андрэй з ёю не меў. Маючы некалькі вёсак, жыў, да самага канца свайго жыцця ніколі нікога не пакрыўдзіўшы і не забіўшы. Стаў зусім маўклівы, нібы словы, якія заўсёды жылі ў ім і імкнуліся вонкі, памерлі разам з душою. Як і некалі князь Міхайла, ён прыняў праваслаўе, здрадзіўшы веры бацькоў у спробе пачаць новае жыццё. Кажуць таксама, што ён прывёз нейкія брудныя тлустыя камякі і прымушаў хлопаў садзіць іх у глебу, разрэзаўшы перад тым на кавалкі. З кавалкаў вырастала дзівосная тоўстая трава, на якой спелі чорныя суніцы. Суніцы тыя Андрэй забараняў есці. А есці загадаў, зварыўшы, тлустыя камякі, якія хаваліся ў глебе, прычапіўшыся да каранёў травы. Але елі, толькі пакуль загадваў, а калі не бачыў, пляваліся гэткім брудам і мылі раты півам. Што заставалася ад травы, мерзла ўзімку, а камякі ішлі цвіллю, і хутка пра ўсё гэта памяталі адно як пра глупства добрага пана: шмат вандраваў чалавек, дык звар'яцеў. Дый ад мясцовага папа пайшла чутка, што на споведзі пан распавёў пра сваю мёртвую душу, плакаў і казаў, што ўсе мовы памерлі разам з душой і ён не адчувае сэнсу нават у тым, што кажа цяпер. І што сам хутка памрэ.

Памёр Андрэй, трымаючы ў правай руцэ агнусек, а ў левай – цаўё бацькавай карабелы.

Карабелу потым старэйшы брат прадаў за некалькі талераў – бо пацёрлася і паабдзіралася за гады, дый чамусьці пасля Андрэевай смерці адразу пачала іржавець.



# Ніна Маеўская

***

...Мая прыгожая краіна:
Пагляд валошкі, пах язміну,
То аксаміт балацявіны,
То бэзу ладная курціна,
То залатая сенажаць...
Ўсё выглядае, як карціна,
Вачэй не можна адарваць.
Дубок, як волат, пры
дарозе...
О, мо даволі ліць ялей.
Яшчэ б тут людзям
жыць у Бозе,
То не было б зямлі мілей!



# Сяргей Сцяпан

***

Колькі год самазванцы-прарокі
Нас вялі праз нянавісць і страх,
І ад дымных пажарышч аблокі
Засцілалі пакутны наш шлях.

Трэба сэрцам быць вельмі відушчым,
Каб пазбегнуць тых страшных дарог,
Дзе кладуцца нявінныя душы
На крывавы алтар перамог.

Захавай нас, Гасподзь, і памілуй
У трывожны і горкі наш час,
Дай цярпення нам, мудрасць і сілу
Успрымаць непазбежнасць параз.

Уратуй нас, Гасподзь, ад няволі,
Прасвятлі душы цёмных і злых.
І не быць Тваёй праўдзе ніколі
На баку пераможцаў ліхіх.



# Джэймс ДЖОЙС

*— Джым, каханы! —*

*Мяккія вусны ўсмоктваюцца пацалункам пад маім левым плячом: пацалунак ахінае мірыяды венаў. Я гару! Я палаю, скурчаны, быццам ліст! З-пад маёй правай рукі вырываецца ікла полымя. Зорная змяя пацалавала мяне: халодная начная змяя. Я страчаны!*

*— Нора! —*

# GIACOMO JOYCE

Хто? Бледны твар аблямаваны цяжкім пахкім мехавым каўняром. Яе рухі сарамлівыя і нервовыя. Яна носіць здзеклівыя акуляры.

*Так*: кароткі склад. Кароткі смех. Кароткі ўзмах павекаў.

Павуціністы почырк, расцягнута й тонка выкрэсленыя з бачнай агідай і пакорай: маладая асоба з норавам.

Абед мкне на лёгкай хвалі маёй нетаропкай прамовы: Сведэнборг, псеўда-арэапагіты, Мігель дэ Малінас, абат Ёахім[1]. Хваля захлынулася. Яе каляжанка, разагнуўшы сваё ўгнутае цела, буркоча на бяскосткавай італьянскай мове венскага гатунку: *Che coltura!*[2] Даўгія павекі пырхаюць і ўздымаюцца: распаленая калючая іголка джаліць і дрыжыць у вясёлкавым аксаміце.

Пусты скок гонкіх абцасаў па гуклівай каменнай лесвіцы. У паветры замка — бы ўзімку, дастаныя з валізаў шыбенікі-паліто, грубыя жалезныя ліхтары на выгінах выдзьмутай ветрам лесвіцы ў вежачцы. Абцасаў колкі скок, пусты высокі гук. Там нехта ўнізе хацеў бы пагутарыць з вамі, спадарыня.

Яна ніколі не шморгаецца. Стыль размовы: лепей меней, чым лепей.

Загнаная і саспелая: загнаная ў аблогу шлюбу

з чужынцам і саспелая ў хатнім зняволенні, невыносным для ейнай нацыі[3].

Рысавае поле наблізу Верчэллі ў сметанковай летняй смузе. Крылы яе скошанага капелюша хаваюць у ценю ўдаваную ўсмешку. Цень рыскамі накрывае яе нібыта ўсмешны твар, засмучаны гарачым сметанковым святлом, ружавата-сметанковыя цені пад сківіцамі, жоўтыя, што яечны жаўток, рыскі на крыху ўзмакрэлым ілбе, загусцелая жоўтая вадкасць цікуе ўсярэдзіне памякчэлай мязгі ейных вачэй.

Кветка, якую яна дала маёй дачцэ. Кволы дарунак, кволая дарыцелька, кволае дзіця з блакітнымі вейкамі[4].

Падуа ўдалечыні, на тым баку мора. Маўклівае сярэднявечча, ноч, змрок гісторыі спяць увобдымкі пад месяцам на П'яцца дэллэ Эрбе. Горад спіць. Пад аркамі на цёмных вуліцах каля ракі вочы прашмондаў высочваюць жадаючых спарыцца. *Cinque servizi per cinque franchi*[5]. Чорная хваля жарсці, зноўку й зноўку й зноўку.

*Мае вочы ў цемры кепска бачаць, мае вочы*
*Ў цемры памыляюцца, каханка.*

Ізноў. Даволі. Чорная жарсць, чорная туга. Даволі. Чарнощче.

Паўзмрок. Крочу праз *piazza*. Шэры пярэдадзень апускаецца на шырокую рунь палеткаў, моўчкі выпраменьваючы ноч і расу. Яна йдзе за сваёй маткай з нязграбнай грацыяй, старая каняка вядзе за сабой сваё голенькае жарабятка. Шэры паўзмрок мякка адценьвае тонкія формы ног, пакорную слухмяную жылістую шыю, прыгожую форму чэрапа. Глыбокая ноч, ціш, чароўны змрок... Гайло-о! Осцлер! Гайло-гоў!

Тата з дзяўчаткамі слізгаюць уніз па схіле, прывязаныя да санак: турэцкі паша са сваім гарэмам. Герметычна захутаная й захутаная, боцікі зацягнутыя зграбнымі крыжыкамі павыш тлустага ўцяплялынага язычка, кароткая спадніца выцягнулася да круглявых выгінаў на каленях. Белы сполах: клопці, снегаклопці:

*І як яна зноў з'едзе ўбок,*
*Ёсць рацыя зірнуць!*

Выбягаю з тытунёвае крамы й клічу яе ейным імем. Яна вяртаецца назад і стаіць, слухаючы мае нераблытаныя словы наконт заняткаў, гадзінаў, заняткаў, гадзінаў: і пакрысе на яе бледных шчоках праступае чырвань хваравітага апалавага святла. Не-не, што ты, не палохайся!

*Mio padre*: найпрасцейшыя рэчы яна робіць шляхетна. *Unde derivatur? Mia figlia ha una grandissima ammirazione per il suo maestro inglese*. Твар старога мужчыны, гожы, румяны, з выразна гэбрайскімі рысамі й даўгімі белымі бакенбардамі, наварочваецца да мяне—мы крочым разам уніз па схіле ўзгорка. О! Цудоўна сказана: ветлівасць, спагада, цікаўнасць, спадзеў, падазронасць, нязмушанасць, старэчая бездапаможнасць, даверлівасць, шчырасць, пачцівасць, адкрытасць, засцерагальнасць, пафас, спачуванне: беззаганны падбор. Ігнацы Лаёла, спяшайся мне на дапамогу!

Вось сэрца, уболенае смуткам. Укрыжаванае каханнем?

Даўгія вусны пажадна крывяцца: цёмнай крыві малюскі.

Рухавыя туманы на ўзгорку бачныя мне ад узножжа, дзе ноч і бруд. Імгла павісла па-над вільготнымі дрэвамі. Святло ў пакоі наверсе. Яна апранаецца ў тэатр. Люстэркі населеныя прывідамі... Свечкі сюды! Свечкі!

*Мілае стварэнне*. Апоўначы, пасля музыкі, усю дарогу ўгару па Вія Сан Мішэль[6] з маіх вуснаў ціхутка злятаці гэтыя словы. Ды годзе, Джэймсічак! Ці ты ніколі не хадзіў вуліцамі начнога Дубліна, стогнучы якое іншае імя?

Трупы гэбраяў ляжаць перада мной і гніюць у жвіры іхнай Святой зямлі. Тут пахаваныя ейныя сваякі, чорны камень, цішыня без надзеі... Прышчавы Майсель прывёў мяне сюды[7]. Ён па-за тымі дрэвамі, стаіць з накрытай галавой каля магілы сваёй жонкі,

што скончыла жыццё самагубствам, і здзіўляецца, як жанчына, якая спала ў ягоным ложку, дайшла да такога канца... Магіла ейных сваякоў ёсць і яе магілай: чорны камень, цішыня без надзеі: усё ўжо прыгатаванае. Не памірай!

Яна ўздымае рукі ў высілку зашпіліць кручочкамі на спіне сваю чорную жалобную сукенку. У яе не атрымліваецца: не, не атрымліваецца. Яна моўчкі рухаецца спінай да мяне ў мой бок. Я ўздымаю рукі, каб намагчы ёй: яе рукі падаюць. Трымаючы два мяккія, як павуціннe, крысы ейнай сукенкі й, адцягваючы іх каб сашпіліць, я бачу ў росхіне чорнага вэлюму яе ударлявае цела, агорнутае аранжавай сарочкай. Вузельчыкі матузкоў на яе плячах паслабляюцца, і сарочка паволі спаўзае: гнуткае гладкае голае цела паблісквае срэбрынкамі лускі. Сарочка марудна ападае, слізгаючы па невялічкіх, адлітых з гладкага паліраванага срэбра клубах, па расшчыліне паміж імі, зганьбаваны срэбны цень... Пальцы, халодныя, спакойныя й рухавыя... Дотык, адзін толькі дотык...

Кароткае глупскае бездапаможнае й тонкае дыханне. Адылі павярніся й прыслухайся: галасок. Верабейка пад коламі Крышнавага рыдвана[8], што скаланаюць калатушку зямлі. Злітуйцеся, Містэр Бог, Біг Містэр Бог! Бывай, вялікі свет!.. *Aber das ist eine Schweinerei!*[9]

Велічэзныя страмёны яе даўгіх бронзавых ботаў: астрогі з тлустага пеўніка.

*Спадарыня імчыць, імчыць, імчыць*... Чыстае паветра на горнай дарозе. Трыэстэ прачынаецца ў сырасці: сырое сонечнае святло на ягоных згрувашчаных у гурбы й пакрытых чымсьці рудым чарапахападобных дахах; жучыны натоўп у стане прастрацыі чакае нацыянальнага вызвалення. Прыгажун-мужчынка ўздымаецца з ложка жонкі каханка сваёй жонкі: клапатлівая гаспадыня — няўрымсная, з дзіка-слівовымі вачыма, рондалем ацэтылена ў руках...[10] Чыстае паветра й ціша на горнай дарозе: ды гук капытоў. Дзяўчына на кані. Эда! Эда Габлер![11]

Гандляры прапануюць са сваіх аналояў першую садавіну: зялёна-плямістыя лімоны, кляйнотападобныя вішні, сарамлівыя сліўкі з абадраным лісцем. Вазок праязджае завулкам баваўняных шапікаў, спіцы ягоных колаў варочаюцца ў мігценні. Разыдзіцеся! Яе бацька з братам сядзяць на вазку. У іх пугачыныя вочы й пугачыная мудрасць. З іхных вачэй вылупілася пукатая пугацкая мудрасць іхнай *Summa contra Gentiles*[12].

Яна лічыць, італьянскія джэнтльмены зрабілі слушна, што выцягнулі Этторэ Альбіні, крытыка *Secolo*, з фатэля, то ж бо ён не ўзняўся, калі аркестр зайграў Каралеўскі марш[13]. Яна пачула аб гэтым за вячэрай. Ат! Яны любяць сваю краіну толькі тады, калі ўпэўненыя, што гэта насамрэч іхняя краіна.

Яна слухае: цнатлівіца ды разумніца.

Спадніца адцягнулася нечаканым рухам ейнага калена; стужка белай каёмкі падспаднічніка нечакана задралася; абцягнутая сеткай панчохі нага. *Si pol?*[14]

Найграваю, напаўголас спяваючы, панадную песеньку Джона Доўлэнда[15]. *Я не хачу з'язджаць*: я таксама не хачу сыходзіць. Той час надышоў, ён тут і цяпер. Тут з цемрадзі палкага жадання расплюшчваюцца вочы, перад якімі блякне зменлівы Усход, іхнае мігценне ёсць уздрыгваннем пены, што абыймае дрыгву памыяў слінтавага караля Джэймса. Тут — спрэс духмяныя гатункі віна, павольны згас салодкіх пахаў, ганарыстая павана, годныя *gentlewomen*[16] тужліва выглядаюць са сваіх балконаў, смокчучы вуснамі, спярэшчаныя воспай дзеўкі й маладзенькія жонкі, што, весела пакрыкваючы на сваіх няўклюдных залётнікаў, лепяцца й лепяцца на іх ізноў.

У сырой смузе вясенняга золку задушлівыя выпарэнні лунаюць па-над ранішнім Парыжам — аніс, вільготная стружка, гарачае хлебнае цеста — і ідучы праз мост Сен-Мішэль, я адчуваю, як сталёвы блакіт абуджанай вады астужае маё сэрца. Яны абцякаюць і аблізваюць выспу, на якой людзі жылі ад каменных

вякоў... Цёмна-жоўтая імгла ва ўпрыгожанай гаргульямі агромністай царкве. Тут холадна гэтаксама, як цяперашняй раніцай: *quia frigus erat*[17]. На прыступках высокага аналоя наводдаль, голага, як цела Гасподняе, ксяндзы ляжаць ніцма ў пячутнай малітве. Мацнее голас нябачнага чытача, што дэкламуе прыпавесць ад Ёсіі. *Haec dicit Dominus: in tribulatione sua mane consurgent ad me. Venite ed reventamur ad Dominum*...[18] Яна стаіць за мной, бледная й настыглая, апрапутая ў цені змрочнага, як грэх, нефа, яе тонкі локаць ля маёй рукі. Яе цела нагадвае аб дрыготкім напружанні гэтага сырога ранку пад вэлюмам туману, мітусні паходняў, няўмольным позірку. Яе жалобная душа трасецца, нібы зараз заплача. Не плач на мне, дачка Ерусаліма!

Выкладаю Шэкспіра ў слухмяным Трыэстэ: чаму Гамлет, пытаюся я, які вельмі абыходлівы як з шляхтай, так і з простымі людзьмі, гэткі зняважлівы з Палоніем? Магчыма, як расчараваны ідэаліст, ён бачыць у бацьках сваёй каханай толькі гратэскную спробу з боку прыроды стварыць ейнае хараство?[19] Вы гэта заўважылі?

Яна крочыць наперадзе мяне па калідоры, і падчас яе хады цёмная коска яе валасоў расплятаецца і ападае. Валасы, што памалу расплятаюцца і падаюць. Яна не заўважае гэтага і крочыць перада мной, проста ды з годнасцю. Менавіта гэтак, паводле Дантэ, з простым гонарам, незачэпная для крыві й гвалту, крочыла дачка Чэнчы Беатрычэ кірункам да сваёй смерці:

*...................Тым*
*пасам апярэж мяне, а валасы збяры*
*ў які вузельчык просты*[20].

Пакаёўка гаворыць, што яны мусілі неадкладна адвезці яе ў шпіталь, *poveretta*[21], што яна так пакутавала, *poveretta*, што гэта штосьці вельмі сур'ёзнае... Я сыходжу з ейнага вылюднелага дома. У мяне адчуванне, што я зараз заплачу. О, не! Гэта не можа так здарыцца, у момант, каб ані слоўца, ані погляду... Не, не! Д'яблаў шацунак не можа мяне пакінуць!

Па аперацыі. Хірургаў скальпель пакаштаваў ейных вантробаў і быў выпуты, пакінуўшы на сабе свежы шурпаты разрэз на яе жывоціку. Я бачу яе вялікія чорныя вочы пакутніцы, прыгожыя, як вочы антылопы. О, цяжкая рана! Пажадны Божа![22]

Зноўку ў сваім крэсле ля вакна, словы шчасця ў яе на языку, шчаслівы смех. Птушачка цвыркае пасля навальніцы, шчаслівая ад таго, што яе маленькае глупскае жыццё ўпырхнула з дасягу ўжо сцінаных пальцаў эпілептычнага пана й даравальніка жыцця, шчасна цвыркае, шчасна цвыркае й сакоча.

Яна сказала, што калі толькі *Партрэт творцы* сапраўды такі крышталёва шчыры, ёй было б тады вельмі цікава, з якой мэтай я даў ёй яго пачытаць. А няўжо ж, няўжо было б цікава? Адукаваная лэдзі.

У чорным строі, яна стаіць каля тэлефона. Кароценькі баязлівы подсмех, кароценькія ўсхліпы, знянацку абарваныя кароценькія моўныя канструкцыі... *Parlery colla mamma*...[23] Кінь слухаўку, хадзі да мяне, кінь, хадзі сюды! Чорнае куранятка напалоханае: кароценькія пошугі словаў сціхлі, кароценькія баязлівыя ўсхліпы: яно плача па сваёй маме, самавітай курыцы.

Галёрка. Набрынялыя вільгаццю муры сцякаюць дымістай вадкасцю. Сімфонія водараў расплываецца па-над масай нагрувашчаных чалавечых формаў: кіслая пара з-пад пахаў, порыстыя аранжыкі, расталыя ўмашчанні для грудзей, прасякнутая чэрняй вада, подых вячэры з серным часныком, тупыя фосфарэсцэнтныя бздзюлі, парфумны бальзам, кідкі пот ад *marriageable and married womankind*[24], смярдзючыя ад мыла мужчыны... Усю ноч я пазіраў за ёй, усю ноч я буду бачыць яе: высока сабраныя й падколатыя шпількай валасы, алівавы авальны твар і спакойны мяккі позірк. Зялёная стужка ў валасах, цела аблягае вышываная зялёным сукенка: адценне, што нападабняе раслінную празрыстасць прыроды й свежасць травы, могілкі ў валасах.

Мае словы ў яе свядомасці: халодныя адпаліраваныя камяні апускаюцца на дно прорвы.

Гэтыя спакойныя сцюдзёныя пальцы датыкнуліся старонак, на якіх заўжды палацьме мой сорам. Спакойныя, сцюдзёныя й чыстыя пальцы. Ці памыляліся яны калі-небудзь паогул?

Яе цела не мае паху: кветка без водару.

На лесвіцы. Халодная крохкая рука: сарамлівасць, ціша: цёмныя затопленыя млявасцю вочы: знямога.

Завіткі шэрай пары кучаравяцца па-над логам. Яе аблічча такое шэрае й пацяжэлае! Узмакрэлыя, нямытыя і нечасаныя валасы. Лёгкі націск вуснаў, дыханне са стогнам зрываецца з іх. Я нацалаваны.

Мой голас, паміраючы з рэхам маіх словаў, знікае, нібы стомлены мудрасцю голас Вечнасці, які кліча Абрагама, па-над разгалоссем узгоркаў. Яна абапіраецца на сцяну, падклаўшы пад спіну падушку: падобная да адаліскі ў раскошнай цямрэчы. Яе вочы ап'янілі мае думкі: мая душа растала, памкнула і вылілася ў вільготную цёплую падатлівую гасцінную чэрань ейнай жаноцкасці, неашчадна затапляючы яе вадкім семем... Цяпер бяры яе, хто хоча!..

Я выходжу з дома Ралліяў[25] і адразу ж натыкаюся на яе, як што мы абодва звычайна падаем міласціну аднаму й таму ж сляпому жабраку. У адказ на маё нечаканае прывітанне яна павяртаецца й адварочвае ад мяне свае чорныя вочы васіліска. *E col suo vedere attosca l'uomo quando lo vede*[26]. Дзякуй вам за слова, спадар Брунэтта[27].

Яны разгортваюць над маімі нагамі дываны для сына чалавечага. Яны чакаюць, калі я буду на іх праходзіць. Яна стаіць у жоўтым цені перадпакоя, плед захінае ніцыя плечы, баронячы іх ад холаду: і калі я спыняюся і ў здзіўленні азіраюся навокал,

яна зімна вітаецца са мной і ідзе нагору па лесвіцы, на імгненне ўтыркаючы ў мяне з-над павекаў сваіх павольных убокі падоўжаных вачэй струмень салодкай, быццам лікёр, атруты.

Канапа абцягнутая мяккім пакамечаным покрывам колеру зялёнага гарошку. Вузкі парыжскі пакой. На такім адпачываюць цырульнікі, аднак зараз... Я пацалаваў яе панчохі і аблямоўку яе іржава-чорнай пыльнай спадніцы. У яе іх дзве, гэта другая. Яна. Учора прыехаў Гогарці[28], каб я яе з ім пазнаёміў. Падстава— *Ulysses*. Сымбаль інтэлектуальнага светапогляду... Дык што Ірландыя? А як-з мужам? Сам між тым шпацыруе па калідоры ў шытых са шмацця ботах альбо дужаецца ў шахматы з самім сабой. Чаго мы тут седзімо? На такім адпачываюць цырульнікі, аднак зараз з галавой, заціснутай між яе цвёрдых, як гузакі, каленяў... Інтэлектуальны сымбаль маёй нацыі. Слухайце! Раптоўна насунуўся ўсеабдымны змрок. Слухайце!

— Я не перакананая ў тым, што такога кшталту разумовую і фізічную дзейнасць ільга назваць нездаровай —

Яна гаворыць. Кволы голас з-за халодных зор. Голас мудрасці. Кажы! О, зноў кажы, даючы мне веды! Такога голасу я ніколі не чуў.

Яна горнецца да мяне, выцягнутая ўдоўж згомтанай канапы. Я не здольны нешта сказаць альбо зварухнуцца. Мяне агортвае набліжэнне народжанай зоркамі плоці. Сужэнская здрада мудрасці. Не. Мне трэба ісці. Трэба.

— Джым, каханы! —

Мяккія вусны ўсмоктваюцца пацалункам пад маім левым плячом: пацалунак ахінае мірыяды венаў. Я гару! Я палаю, скурчаны, быццам ліст! З-пад маёй правай рукі вырываецца ікла полымя. Зорная змяя пацалавала мяне: халодная начная змяя. Я страчаны!

— Нора! —

Ян Пітэрс Суілінк[30]. Дзіўнае імя старога галандскага музыкі робіць усялякую прыгажосць дзіўнай і далёкай. Я слухаю ягоныя варыяцыі на адну старую арыю: *Маладосць мусіць скончыцца*. У няпэўнай смузе старых гукаў з'яўляецца слабая кропка святла:

мова душы будзе вось-вось учутая. *Маладосць мусіць скончыцца*: ейны канец ужо надышоў. Яна болей не вернецца. Табе гэта добра вядома. Дык што тады? Запісвай, ліха цябе бяры, запісвай! На што ты яшчэ здатны?

"Чаму?"

"Таму што іначай я не змагла б цябе ўбачыць"[31].

Слізгат — прастора — часы — зорнае лісце — і нябёсы згасаюць — неруш — яшчэ глыбейшая неруш — знішчальная неруш — і ейны голас.

*Non hunc sed Barrabam!*[32]

Непадрыхтаванасць. Голая кватэра. Магільнае святло дня. Доўгае чорнае піяніна: дамавіна музыкі. На ягоным краі балансуюць жаночы капялюш з чырвонай кветкай і складзены парасон. Яе зброя: прылба, чырвань, і тупая дзіда ў полі шчыта, чэрань.

*Envoy*[33]: Кахай мяне, кахай, мой парасон.

**Пераклаў з англійскай мовы**
**Максім ШЧУР.**

# Прыгоды ірландца ў краіне Казановы

У 1968 годзе Рычард Элман падрыхтаваў да публікацыі тэкст нататніка Джэймса Джойса, які наводле сваёй структуры адпавядаў накіду апавядання і меў аўтарскі назоў "Джакама Джойс". Такім чынам, шаснаццаць старонак знойдзенага ў Джойсавым архіве рукапісу занялі сваё трывалае месца ў спісе ягоных твораў, стаўшыся апошняй публікацыяй дагэтуль невядомага аўтографа Джойса. Атрымалася, як з Бібліяй: пытанне

кананічных і некананічных тэкстаў было лёсавызначальным для хрысціянства на пачатку ягонага існавання. Ці ўсялякае Слова ёсць ад Бога? Сам Джойс, выхаванец езуітаў, неблагі тэолаг, дэміург фантасмагарычнага свету "Уліса" і аўтар "новай Торы", рамана "*Finnegann's Wake*", мае шмат агульнага з хрысціянствам: кожны наваэнойдзены тэкст здольны перакуліць традыцыйныя ўяўленні аб тым, што ёсць артадоксія, а што – ерась. У рэшце рэшт было вырашана лічыць "Джакама Джойса" самастойным і закончаным (ці існуюць закончаныя творы?) творам, напісаным Джойсам дзесьці паміж 1911 і 1914 гадамі падчас ягонага знаходжання ў Трыэстэ.

Чаму "*Джакама* Джойс"? У 1909 годзе Джойс дорыць сваёй жонцы Норы рукапіс сваіх вершаў з кнігі "*Chamber Music*", упершыню падпісваючы іх гэтым псеўданімам. Даследчыкі мяркуюць, што імя Джакама, якое ёсць італьянская форма імя Джэймс, асацыявалася ў Джойса менавіта з каханнем праз Джавані Джакама Казанову, вядомага італьянскага каханка і прайдзісвета. Хто тут наважыцца сцвярджаць, што Джойс не быў сексуальна апантаным? Ну, нават калі й не быў, дык хацеў быць. Прынамсі, гэтая тэматыка яго вельмі цікавіла. І хаця ягонае жыццё з Норай было даволі шчасным ва ўсіх сэнсах, ён увесь час трапляў у амурныя пасткі, шчодра расстаўленыя на ягоным жыццёвым шляху... ягоным уяўленнем. Што зробіш: Ірландыя, каталіцкае выхаванне. Адной з такіх пастак сталася Амалія Поппэр, ягоная італьянская вучаніца ангельскай мовы гэбрайскага паходжання. Акрамя ейнага хараства і недасяжнасці, Джойса вабіла ў ёй менавіта паходжанне: з гэбрайскім народам і ягонымі жанчынамі ў яго былі вельмі своеасаблівыя адносіны. Як нам зараз вядома, Джойс шырока карыстаўся методай "пісьмовага спакушэння" ўпадабаных ім кабетаў, даючы ім чытаць творы ўласнага сачынення, альбо шляхам ліставання з імі на працягу доўгага часу. Што ж, Казанова таксама з гэтага пачынаў. Адылі як толькі Джойс даведваўся, што ягоная чарговая абранніца не гэбрайка, ягоная цікавасць да яе катастрафічна менела і неўзабаве наогул згасала (як гэта адбылося, прыкладам, з ягонай цюрыхскай карэспандэнткай Мартай Фляйшман, якая сталася правобразам Герты Мак-Даўэл ва "Улісе"). Жарты жартамі, аднак нельга выключыць містычнага характару Джойсавых захапленняў: занадта ж ён цікавіўся тэалогіяй...

Аднак найбольшая цікавасць "Джакама Джойса" палягае не ў біяграфічных дадзеных: наогул у Джойсавым жыцці рэальных прыгодаў, у тым ліку й амурных, было небагата. Сапраўдная каштоўнасць гэтага твора (ці, можа, усё-ткі неўпарадкаваных запатовак у нататніку, які быў ім пакінуты ў Трыэстэ і потым выпадкова знойдзены ягоным братам?) у тым, што ён знаёміць нас з творчым метадам Джойса, які ў наступнасці стаецца творчым метадам постмадэрнізму, чыя сутнасць — у запазычанні! Толькі што, у адрозненне ад постмадэрністаў, Джойс пазычае ў большасці выпадкаў у самога сябе (фактычна "Джакама" быў "дэкампапаваны" Джэймсам, то бок раскіданы па розных творах у якасці аўтарскага *alter ego*, ад "Партрэта творцы" да "Выгнаннікаў"), а калі пазычае ў кагосьці іншага, дык адразу ж вяртае, ды яшчэ і з падзякай (гл. зацемку № 31). Карацей, не жабруе. Пашанцавала яму: ён жыў на пачатку стагоддзя, калі "ўсё ўжо было сказана", але ніхто яшчэ пра гэта не ведаў.

Яшчэ адно пытанне: чаму Джойс пісаў гэтыя шаснаццаць старонак так доўга? І чаму шаснаццаць, калі ў беларускім перакладзе выходзіць ледзьве сем? Справа ў тым, што паміж урыўкамі рукапіснага тэксту ў настаўніцкім сшытку Джойса — вялізныя пярэрвы рознай велічыні, белыя плямы пустой паперы, якія ў кніжнай публікацыі (у адрозненне ад часопіснай, якая такой магчымасці не дае) захаваныя. У чым іхны сэнс? Ці Джойс пакідаў пустое месца на старонцы наўмысна, каб вярнуцца да яе потым? Ці гэтыя інтэрвалы ёсць адлюстраваннем расцягласці прамежкаў часу ад сустрэчы да сустрэчы з Амаліяй? Ці яны ёсць, у рэшце рэшт, спробай увасаблення цішыні пры дапамозе "пустога месца" ў духу Малармэ альбо знакамі чыстай Адсутнасці Думкі? Даведацца пра гэта нельга, ільга выказваць хіба што меней-болей верагодныя меркаванні...

Акрамя магчымасці залезці вялікаму пісьменніку ў душу, наяўны пераклад "Джакама Джойса" дае беларускаму чытачу магчымасць урэшце пазнаёміцца прынамсі з *адным* з ягоных празаічных твораў ЦАЛКАМ — няхай і з самым маленькім (як што перакладу другой часткі "Уліса" нам ужо не дачакацца). Магчыма, Джойс не ёсць найлепшым пісьменнікам усіх часоў, адылі, без сумневу, ёсць найбольш складаным. Перакласці колькі

старонак Джойса на сваю мову: гэта ж столькі каментароў зрабіць патрэбна! Не, лепей па-расейску ў перакладзе Харунжага пачытаць. Альбо, халера ўжо з ім, у арыгінале...

**Максім ШЧУР**

---

[1] **Эмануэль Сведэнборг** (1688 – 1772) – шведскі хрысціянскі містык. Псеўда-арэапагіты – філасофскія творы, прыпісаныя сямі старажытным мудрацам Грэцыі. **Мігель дэ Малінас** (1628 – 1595) – іспанскі святар, заснавальнік ерасі квіетызму. **Абат Ёахім, Ёахім з Флоры** (1145 – 1202) – італьянскі містык, аўтар тэорыі аб "Трох Гаспадарствах", ці то эпохах чалавечай гісторыі: Бацькі, Сына й Духа Святога.

[2] Якая культура! *(іт.)*.

[3] Паралель з "Партрэтам творцы", дзе Стывен сцвярджае, быццам ягоная ірландская дзяўчына "ўвасабляе таямнічасць сваёй нацыі".

[4] У 1913 г. у Трыэстэ Джойс піша верш *"A Flower Given To My Daughter"*, прысвечаны гэтаму самаму эпізоду.

[5] Пяць паслугаў за пяць франкаў *(іт.)*.

[6] Пляц *(іт.)*.

[7] Падчас працы над "Улісам" у Цюрыху ў 1919 г. Джойс выкарыстаў гэты ўрывак у эпізодзе, вядомым пад назовам *"Oxen of the Sun"*.

[8] Мой бацька *(іт.)*. Адкуль кіруецеся? *(лац.)*. Мая дачка ў вялікім захапленні ад свайго ангельскага настаўніка *(іт.)*.

[9] **Ігнацы Лаёла** (1491 – 1556), заснавальнік ордэна езуітаў. Коледж у замку Клонгаўз, дзе вучыўся Джойс, быў заснаваны езуітамі. Ва "Улісе" Стывен гэтаксама кліча Лаёлу ў помач, разважаючы аб Шэкспіры.

[10] Вуліца ў Трыэстэ, дзе жыла **Амалія Поппэр**, гераіня гэтага твора.

[11] **Філіп Майсель**, знаёмы Джойса з Трыэстэ; ягоная жонка, **Ада Гірш Майсель**, скончыла жыццё самагубствам у 1911 г.

[12] У арыгінале *Juggernaut* – індыйскі баявы рыдван, таксама ангельская назва для святарных выяваў Крышны, які лічыцца ў Індыі богам вайны; пераносна – цяжар гаротнага лёсу.

[13] Але ж гэта свінства! *(ням.)*.

[14] Ва "Улісе" таксама ёсць гэты ўрывак, адно што там Трыэстэ зменены Джойсам на Парыж.

[15] **Эда Габлер** – гераіня аднайменнай п'есы **Генрыка Ібсэна** (1828 – 1906).

[16] "Сума супраць людзей" (па аналогіі з "Сумай супраць ерэтыкоў"); сума – кшталт схаластычнага навуковага твора.

[17] **Этторэ Альбіні** (1869 – 1954), музычны крытык, не быў супрацоўнікам газеты *Secolo* ("Стагоддзе"), адылі сацыялістычнай газеты *Avanti!* ("Наперад!"). 17 снежня 1911 г. у тэатры Ла Скала ў Мілане адбываўся

дабрачынны канцэрт у фонд Чырвонага Крыжа для сем'яў ахвяраў італа-турэцкага канфлікту ў Лівіі, падчас якога быў зайграны *"Marcia Reale"*, гімн Італьянскага каралеўства. Гэтая згадка дае магчымасць вызначыць дату ўзнікнення твора.

[18] Дазволіце? (*у ірландскай мове*). З гэтых словаў пачынаецца опера Леанкавала "Паяцы".

[19] **Джон Доўлэнд** (1563–1626) — ангельскі музыка, лютніст.

[20] Гульня словаў *women* (жанчыны) і *gentlemen* (спадары), да якой Джойс неаднаразова вяртаецца ў сваіх творах: гл. *"Ulysses"*, *"Finnegan's Wake"*, далей у *"Giacomo Joyce"*.

[21] Як што там было зімна *(лац.)* — Евангелле ад Яна. 18:18.

[22] Гэтак гаворыць Гасподзь: у пакутах Ён працягвае мне сваю руку. Прыйдзіце й спазнайма Госпада... *(лац.)*, словы, з якіх пачынаецца імша на Пакутную Пятніцу — кніга Ёсіі, 6:1-6.

[23] Тое самае гаворыць Стывен ва "Улісе" падчас сваёй прамовы наконт Шэкспіра.

[24] Словы Беатрычэ перад смерцю ў вершы Шэлі *"The Cenci"*.

[25] Небарака *(іт.)*.

[26] У арыгінале: *Libidinous God!*

[27] Я буду гаварыць з мамай *(іт.)*.

[28] *Marriageable* — Джойсаў наватвор, літаральна "прыдатная да замужжа", *married* — замужняя, *womankind* — гульня словаў *woman*, кабета, і *mankind*, чалавецтва; можна перакласці як "жаноцкі род", "усе людзі — сёстры" і г.д.

[29] Барон **Амброджыю Раллі** (1878–1938) меў дом на П'яцца Скаркола ў Трыэстэ.

[30] І як зірне, дык сваім позіркам атручвае чалавека *(іт.)*.

[31] Вышэйпрыведзеная фраза ёсць цытатай з кнігі сярэднявечнага фларэнційскага пісьменніка **Брунэтта Лаціні** (1210–1295) *"Il tesoro"* ("Скарбонка"); васіліск — міфічная жывая істота, чый позірк лічыўся смяротным для чалавека.

[32] **Гогарш, Олівер** (1878–1957) — дублінскі сябра і антыпод Джэймса Джойса, прататып Малахіі Малігана ва "Улісе".

[33] Апісаная эратычная сцэна ёсць толькі мрояй, таму месца яе дзеяння — Парыж, а не Трыэстэ. Авалоданне жанчынай у марах ёсць частай тэмай у творчасці Джойса: гл. "Партрэт творцы", "Уліс", драму "Выгнаннікі". Нора — імя жонкі Джойса.

[34] Спраўна — **Янс Пітэр Суілінк** (1562–1621). Імя гэтага музыкі з Амстэрдама, на выкананні твораў якога ў Трыэстэ прысутнічаў Джойс, згадваецца таксама ў размове Блума і Стывена ва "Улісе".

[35] Фраза Беатрыс з Джойсавай п'есы "Выгнаннікі".

[36] Не гэтага, а Вараву! *(лац.)*. Варава — злачынца, вызваленне якога дамагліся ад Пілата жыхары Ерусаліма, ухваліўшы тым самым пакаранне Хрыста.

[37] Г.зв. "пасылка"; у французскай лірычнай паэзіі — апошняя страфа балады, у якой выказваецца яе галоўны сэнс.





# Алена Ніякоўская

*Памяці сяброўкі Ліды С.*

Дарога ў тры каляіны!
Як часта цябе ўспамінаю
На ростанях цёмных і страшных...
...Аброццю пабразгваў конік –
Скубаў маладзенькае жыта –
І воз шыбаваў, нібы човен,
Па жоўтых азёрах свірэпы.
Я бегла і бегла за возам –
Мо недзе ў пяску захаваўся
Адбітачак пяткі дзіцячай?..
Была ты ці не – дарога?
Я помню цябе – ці мару?
Аднак жа воз калыхаўся
У жоўта-зялёных разлівах
І конічак вупражжу бразгаў,
З абочын зрываючы жыта...

Дык цёплымі каляінамі
Спаві мне збалелыя ногі!

Ніна МАЕЎСКАЯ



# Пятро Прыходзька

## Дарога да Храма

У небе ранняя зара
З-пад цёмнай ночы выплывала...
Тады й была ў жыцці пара,
З якою сталасць наступала.

Я быў у шэрагах байцоў –
Але, ступіўшы на дарогу,
Яшчэ не знаў – куды ішоў,
І ўпотайкі маліўся Богу.

І верыў між усіх дарог,
Не змераных ніякай мерай,
Што ў кожнага ў душы свой Бог
Ёсць са сваёю чыстай верай.

І вось такой цяжкой парой,
Дзесь стоячы на раздарожжы,
Я ўкручваўся ў вайсковы строй,
На ўсё, што патрабуюць, гожы...

Не раз даводзілася быць
У крайнасці, расчараванні:
Бо я не змог свой край любіць,
Як Божы Сын на ўкрыжаванні?

Ужо ў свае сівыя дні –
Там, дзе бываць любіла мама, –
Стаю ў паднебнай вышыні –
Пад купалам святога храма...

Алесь АСТРАЎЦОЎ

*Нашы часы – часы агульнай заблутанасьці, часы паўстаньня праменных, быццам, ідэалаў і іх канечнага зьнікненьня праз недаўгі час... Тое, што раней здавалася чыстым і сьветлым, штодзённа аплятаецца жыцьцёвым брудам і пылам. Так зьнікаюць праменныя ідэалы, пакідаючы роспач і безнадзейнасьць. У такія часы адзінокая чалавечая душа шукае, пераглядаючы ўсё тое, што здавалася каштоўным, сьвятым і жаданым.*

**Ігнат Абдзіраловіч.**
**“Адвечным шляхам”**

# НЕ КАЗКА, А МІФ

Калі з пункту гледжання тыпалогіі Юнга разглядаць узятыя за эпіграф словы сп.Канчэўскага з яго экзатэрычнага (бадай адзінага ў сучаснай беларускай літаратуры) артыкула, які хутчэй па недасведчанасці памылкова называюць ці проста філасофскім, ці маральна-філасофскім нарысам, дык пад паняццем “адзінокая чалавечая душа”, здавалася б, трэба мецъ на ўвазе найперш інтуітывістаў з прадстаўнікамі пачуццёвага псіхатыпу. Тлумачыцца тое проста: заходні іудахрысціянскі свет, створаны “мыслярамі” і “сенсітывістамі” (ад англ. *sensitive* – адчувальны, успрымальны), – свет прагматыкаў, дактрынёраў і шукальнікаў фізічнае асалоды. Іншым у гэтым свеце

*(Працяг. Пачатак у часопісе “Крыніца” N 63, 64, 65)*

жыць складана і няўтульна. А самім стваральнікам грэх, як кажуць, скардзіцца. Але насамрэч енк пра "адзіноту і самоту" чуецца ў першую чаргу менавіта з вуснаў "мысляроў" і "сенсітывістаў". І ў тым, зрэшты, няма нічога абсурднага, бо ім, колькі б ні мелі, заўсёды ўсяго будзе мала – грошай, улады, славы, вядомасці, свабоды, незалежнасці і да т.п. Тлумачыцца тое проста: асноўны прынцып заходняе цывілізацыі яшчэ яе родапачынальнікі, антычныя грэкі, акрэслілі словам "агон" ("спаборніцтва").

Захад багаты, культурны, цывілізаваны, мае выразнае гістарычнае мысленне. Усход – свет людзей пачуццёвых і інтуітывістаў – бедны, барбарскі, містычны, жыве сучасным імгненнем і да ўласнай гісторыі ставіцца бадай што індыферэнтна. Менавіта паміж гэтымі двума светамі, зусім не па-геніяльнаму паўтараючы навязаны нам звонку стэрэатып, размясціў беларусаў наш "адзіны геніяльны мысляр XX стагоддзя" Ігнат Абдзіраловіч: "Калі беларускі народ не стварыў выразнай культуры, дык гэта дзеля таго, што ў гістарычнай спадчыне яго была вялікая трагедыя народнага духу, якую перажыць выпала толькі двум-тром еўрапейскім народам: Беларусь ад X веку і да гэтай пары фактычна зяўляецца полем змагання двух кірункаў еўрапейскай, пэўне – арыйскай, культуры – заходняга і ўсходняга. Граніца абодвух уплываў, падзяляючы славянства на два станы, праходзіць праз Беларусь, Украіну і хаваецца ў балканскіх краёх.

Дзесяцёхвяковае ваганне сведчыць аб тым, што беларусы, як украінцы і балканскія славяне, не маглі шчыра прылучыцца ні да аднаго, ні да другога кірунку. Мы не зрабіліся народам Усходу, але не прынялі й культуры Заходняй Еўропы. За ўвесь час нас пачалі зваць цёмным, дзікім народам".

Так і хочацца дадаць: "А мы ўзялі ды паверылі!" Справа ў тым, што сцверджанне пра заўсёднае ваганне беларусаў (а дакладней, іх продкаў) – не болей чым легенда. Насамрэч да пачатку дзевятнаццатага стагоддзя ўключна ніякага хістання не было. Гэта элементарна даказваецца ўсёй гісторыяй цалкам і гісторыяй культуры ў прыватнасці. Варта ўсяго толькі зазірнуць у гісторыю мастацтва, літаратуры, музыкі, архітэктуры і побыту, каб пераканацца, што іх развіццё на беларускіх землях дакладна паўтарала развіццё заходнееўрапейскіх узораў: пануючы ва ўсёй

без выняткаў Еўропе візантыйскі ўплыў да сярэдзіны XIII стагоддзя, затым готыка, рэнесанс, барока, ракако і класіцызм. Узорныя кшталты, натуральна, сінтэзаваліся з нашымі мясцовымі традыцыямі, што надавала артэфактам культуры нацыянальную адметнасць, якая выяўлялася, напрыклад, у так званай літоўскай модзе XVII-XVIII стагоддзяў. Але тое было характэрна для ўсіх еўрапейскіх народаў і зусім не з'яўлялася адзнакай нейкага там хістання.

Хто ж пачаў укладаць нам у вушы міф пра "недаробленасць" нашай нацыі? Тыя, хто, апраўдваючы такім чынам уласнае адвечнае імкненне да імперыялізацыі, глабалізацыі і манапалізацыі, справакавалі знішчэнне нашай краіны ў канцы XVIII стагоддзя, каб праз падзел Рэчы Паспалітай пашырыць далёка на Усход сферу ўплыву ўласных капіталаў. (У тагачасную Масковію, як вядома, ад часоў знішчэння Наўгародскай рэспублікі "капіталістаў" не пускалі. Яна атрымала іх "у нагрузку" разам з нашымі землямі.) Справакавана тое знішчэнне было дэмакратычнай канстытуцыяй і "рэвалюцыйнай заразай", супраць якой выступілі імператары Аўстрыі ды Прусіі, а таксама расійская імператрыца. (Я магу, само сабою, зразумець захапленне Агінскага, Міцкевіча, Ваньковіча, філаматаў з філарэтамі дэмакратычнай рыторыкай. Але за якую такую свабоду ды роўнасць і супраць каго паўставала польская шляхта на чале са сп.Касцюшкам да здзяйснення факта акупацыі, уласна для мяне – загадка дагэтуль.) Але не варта дужа наракаць на продкаў, бо спадарству, што рыхтавала "сусветную рэвалюцыю", удалося ў тыя дзесяцігоддзі "развесці" ўсю Еўропу (Людовік XVI, напрыклад, сем гадоў, як блазан, працягваў граць ролю "вялікага майстра" на паседжаннях ложы "падначаленых" яму масонаў, якія загадзя на агульным таемным з'ездзе ў Нямеччыне цынічна прысудзілі французскага караля да дэкапітацыі (ад лац. – "пазбаўленне галавы").

У выніку трох буйных паўстанняў на працягу сотні гадоў сацыяльная эліта нашай нацыі знікла амаль бясследна: магнатэрыя пацягнулася ў эміграцыю, а шляхту альбо знішчылі фізічна, альбо адправілі вывучаць флору і фауну Сібіры. Ураталіся адныя сяляне і плебс, у якіх да таго ж адабралі гістарычны саманазоў *Літва*. Такім чынам застаўся адзін безабаронны "мужык-беларус,

цёмны сам – белы вус", якому было нескладана сугеставаць (ад лац. *suggestio* – упушэнне) другасортнасць і барбарства ўласнага паходжання. Навошта гэта рабілася і робіцца дагэтуль? Справа ў тым, што ўсіх кшталтаў змагары за "народнае шчасце" перакананыя ў тым, што чалавецтва глыбока няшчаснае, а шчаслівым можа стаць толькі тады, калі будуць "завяваныя" свабода і незалежнасць, ці прыйдзе месія, ці адбудзецца другое прышэсце Хрыста, ці пабудуецца камунізм, ці адбудуецца храм Саламона, ці ўз'яднаюцца краіны, ці адродзіцца саюз, ці здарыцца яшчэ якая трасца. Але ўсё тое – справа, натуральна, доўгая і не аднаго пакалення. Усе ж людзі падзяляюцца на два кшталты: тыя, хто пасіўна чакае, калі настануць шчаслівыя часы (гэта, натуральна, людзі другога гатунку), і тыя, хто актыўна паскарае гэты працэс – эліта, так бы мовіць. Адсюль натуральна вынікае, што "эліта" мае поўнае маральнае права распараджацца жыццямі і – што самае для іх галоўнае – грашыма (інакш – вынікам працы) людзей другога гатунку. Прычым аніякай адказнасці за свае злачынствы, памылкі ці проста дзеянні яна не нясе, бо пры жыцці кожнага дадзенага пакалення – пра што папярэджваюць адразу – кардынальных зменаў да лепшага адбыцца не можа (таму так шмат гавараць аб клопаце пра "нашу будучыню" – дзяцей, пра Рай-Парадыз і інш.) Ну, а мільёны спыненых заўчасна жыццяў ці з'ехаўшых з глузду – гэта непазбежны "халакост" (ад грэцк. "вогнеспаленне ахвяры") дзеля дасягнення "светлае будучыні". Іншымі словамі, калі ў вас пачынаюць праваkaваць комплекс непаўнавартасці, калі вам укладаюць у вушы, што вы неталенавіты і неспрактыкаваны, што ніколі не здолееце самастойна дамагчыся творчай самаідэнтыфікацыі, свабоды, незалежнасці і элементарнае забяспечанасці, значыцца вы маеце справу з трывіяльнымі "кідаламі", якія вельмі зацікаўленыя ў выніку вашай працы, каб прыбраць усё ў свае кішэні і пасмяяцца потым у "кумпаніі" такіх жа "кідалаў" з вашае дурноты. Як пісаў Ігнат Абдзіраловіч, "Хрыстос казаў, што мы – сыны Божыя, нам кажуць, што мы дзеці нячысціка. Ён казаў, што мы павінны рабіць волю Айца нашага нябеснага, сучасныя айцы і настаўнікі, што – іхнюю, бо вольны, творчы дух не ад Бога, а нячысціка. Так адмаўляецца творчасць, імкненне да святлейшага, а жыццё ўганяецца ў форму выглядпай набожнасці".

Выбар у такой сітуацыі небагаты: альбо паверыць ім, альбо паверыць у сябе. Іншай альтэрнатывы няма – менавіта так адбываецца падзел на людзей "першага і другога гатунку". Амаль пра тое ж кажа і Ігнат Абдзіраловіч: "Не мёртвыя формы, а сам чалавек – гаспадар свайго жыцця. Ён творыць усе формы жыцця, яны залежны ад чалавека, а не чалавек мусіць заставацца пад мёртвай уладай струхлеўшых формаў: рэлігіі, маралі, законаў, агульных зданняў. Час зразумець, што жыццё кіруець формамі, а не наадварот, што сам чалавек, яго вялікая, родная сонечным косам душа, яе натуральныя імкненні да святла, хараства, праўды – зьмест жыцьця, што ў праўдзівым незалежным жыцці няма месца ні ідэалам, ні ахвярам... Справа ж, пэўне, толькі ў тым, што на зменелым грунце жыцця людзём не хапае творчай здольнасці, каб вытварыць адносна да новага грунту і ўсе дэталі. Не хапае творчай энергіі, і мімаволі драбніцы вяртаюцца да старога, абяртаючы жыццё ў дрэнную карыкатуру на новае віно ў старым мяху або труп, убраны ў балёвую вопратку... Бальзамаваць жа можна не жывых, а толькі трупы".

А наконт выбару паміж Усходам і Захадам... Ніякага выбару насамрэч не існуе. Па-першае, калі разглядаць у сукупнасці, дык і Захад, і Усход аднолькава няшчасныя. Бо Захад задыхаецца ад няспраўджаных бязмежных жаданняў, а таму знаходзіцца ў стане перманентнага пошуку чарговага "ідэалу". Усход жа быццам спіць у летаргічна-наркатычным сне, млявы і бяздзейны, а таму часта яму не хапае элементарных сродкаў для фізічнага існавання, і гэтым, зрэшты, усё сказана. Парадокс у тым, што матэрыялістычны Захад з-за сваіх містычных "ідэалаў" гатовы знішчыць усю планету, а містычны Усход, калі прачынаецца, у стане стаць матэрыяльна багацейшым за Захад. Да таго ж, не нам, уласна кажучы, выбіраць – выбар насамрэч даўно зроблены нашымі продкамі. А таму застаецца адно: як казаў амерыканскі мысляр Джордж Сантаяна, "...няхай ногі чалавека на калені ўрастуць у родную зямлю, а вочы яго хай аглядаюць увесь свет".

Амаль да той жа высновы прыходзіць і Ігнат Абдзіраловіч: "За даўгія вякі гнёту і здзеку над нашай душой мы ўцямілі, што якую скуру сілком ні накінь чалавеку, ён застанецца незадаволеным, бо заўсёды ён хоча перш-наперш быць самім сабой, чалавекам, а

не замарожаным каталіком або праваслаўным, выгаленым на адзін капыл расейцам ці палякам, прававерным буржуём ці камуністым. У гэтыя цесныя мізэрныя рамкі не ўсадзіць вялікай душы чалавека. Векавое дасведчанне кажа нам, што вольнага развіцця нашага духу не запэўняе ні заходняя, ні ўсходняя культура, бо яны абяртаюцца ў формах гвалтоўнага, людажэрнага месіянізму і розніца між імі толькі ў назовах, лозунгах, а іх аціскаючыя ланцугі – аднолькавыя для нашага духу.

Трэба шукаць на другіх шляхах...”

А каб глыбей зразумець, на якіх шляхах шукаць, варта разабрацца ў асноўных псіхалагічных рысах Захаду і Усходу. Дзеля гэтага акрэслім пануючыя рысы прадстаўнікоў розных, збольшага ўласцівых ім, псіхатыпаў згодна тэорыі Юнга.

Людзі псіхалагічнага тыпу “мысляра” вызначаюцца бясстрасным стаўленнем да жыцця. Яны абыякавыя да эмоцыяў як уласных, так і іншых людзей, імкнуцца захоўваць упарадкаванасць свету нават сярод усеагульнага хаосу. (Тып “мысляра” – ідэальны прыклад пыхлівага англічаніна: узгадайце ўласна ангельскую легенду пра тое, як падчас караблекрушэнняў, калі сярод пасажыраў распачынаецца паніка, ангельцы працягваюць спакойна сядзець на верхняй палубе ў шэзлонгах і паліць цыгары.) Мысляры культывуюць ахайнасць, упарадкаванасць і логіку. Але наколькі правілы логікі ў аснове сваёй падначальваюцца толькі двум колерам – чорнаму і беламу, “мысляры” не прызнаюць апраўданняў чалавечым слабасцям і памылкам. “Мэта апраўдвае сродкі”, – гэта прыдумалі мысляры.

У мысляроў-экстравертаў падначаленая функцыя – інтравертыўнае пачуццё. Заклапочаныя ўласнай кар’ерай, яны лічаць свае пачуцці перашкодай для набыцця “поспеху”, а таму часцей за ўсё хаваюць іх вельмі глыбока. Тыповыя прадстаўнікі – тэарэтыкі ўсемагчымых “ізмаў”.

Мысляры-інтраверты ўвогуле існуюць толькі ў свеце архетыповых ідэяў. Характэрны прыклад – літаратурны вобраз “злодзея”-прафесара (напрыклад, прафесар Марыярці), якому ўсё роўна, што прыдумляць – кібер-маніпулятар чарговага пакалення ці зброю масавага знішчэння, бо і ў тым, і ў гэтым ён бачыць адно “палёт чалавечай думкі”, “прыгажосць навукі”.

Адвечныя шукальнікі фізічнае асалоды – сенсітывісты. “Ніводны з псіхалагічных тыпаў людзей, – пісаў Юнг, – не ў стане параўнацца ў рэалізме з тыпам “сенсітыва-экстраверта”. Уся энергія такіх людзей скіраваная на “ўсмоктванне” фізічных дэталяў навакольнага асяроддзя, а таму іх “розум” рэгіструе любыя дробныя дэталі, на якія іншыя не звяртаюць увагі. Інтуіцыя для іх – поўная бязглуздзіца, яны зусім не цямяць у яе тонкасцях. Але паколькі інтравертаваная інтуіцыя – іх падначаленая функцыя, што звязвае экстравертыўнага сенсітывіста з калектыўным несвядомым, яны схільныя захапляцца ўсялякімі моднымі рэлігійнымі, містычнымі ці філасофскімі тэорыямі, накшталт тэасофіі ці саенталогіі. Не будучы ў стане глыбінна ўсвядоміць іх сэнс, яны цікавяцца ў першую чаргу містыкай і некрытычна ўспрымаюць любыя парады парамедыцыны ці парапсіхалогіі. Сярод іх мы сустракаем “прадказальнікаў”, чараўніц, строгіх вегетарыянцаў, ёгаў, “рэрыхаўцаў”і інш.

Тыповы прыклад сенсітыва-інтраверта – камп’ютэрны праграміст, што не адрывае носа ад манітора, трымае ў галаве мноства лічбаў, кодаў, аператараў, алгарытмаў, але не ў стане ахапіць розумам суцэльную карціну той маштабнай дзейнасці, дробным звяном якой ён з’яўляецца. Бо дзеля гэтага трэба “ўключыць” інтуіцыю, што выклікае ў яго няўпэўненасць і хваляванне. Падобны комплекс непаўнавартаснасці інтравертыўнага сенсітыва вымушае яго ў якасці абарончай рэакцыі са зневагай ставіцца да любога карыстальніка камп’ютэрных праграмаў (для іх існуе нават зняважлівая мянушка – “чайнікі”). А паколькі камп’ютэрызацыя грамадства няўхільна паскараецца і попыт на новыя праграмы застаецца пакуль на даволі высокім узроўні, узнікае досыць смешная сітуацыя, калі “рыдлёўку” цэняць непараўнальна болей за плён той працы, якая з дапамогай яе выконваецца.

Юнг першы сярод псіхолагаў не толькі безапеляцыйна прызнаў наяўнасць у чалавека душы. Першым жа ён паставіў малазразумелую шмат для каго функцыю інтуіцыі на адзін узровень са звыклымі мысленнем, пачуццём і адчуваннем.

“Аб’ект” вельмі мала цікавіць інтуітывістаў. Асноўны іх інтарэс – будучыя магчымасці. Яны “адчуваюць” будучыню,

здатныя прадбачыць новыя накірункі развіцця да таго, як тыя стануць відавочнымі для большасці людзей. Часта там, дзе іншыя бачаць толькі адрозненні, інтуітывісты заўважаюць агульнае падабенства. Так адбываецца таму, што здатныя да аналізу інтуітывісты ў стане разгледзець узаемасувязі паміж комплексамі фактаў настолькі, здавалася б, адрознымі адзін ад аднаго, што іншыя бачаць толькі розніцу паміж імі. Інтуітывісты мала цікавяцца мінулым, не вабіць іх і сучаснасць. Найбольшую асалоду яны атрымліваюць ад магчымасці разгадаць будучыя магчымасці, заўсёды знаходзяцца ў авангардзе інтэлектуальных і духоўных пошукаў. Адмоўная рыса інтуітывістаў у тым, што калі ніводная з дапаможных функцыяў (пачуцця ці мыслення) у іх не развітая, яны ніколі не затрымліваюцца на месцы, імгненна губляюць інтарэс да чарговага прадбачання, заўсёды знаходзяцца ў пошуку новых магчымасцяў, а таму іх інтэлектуальнымі набыткамі штораз карыстаюцца іншыя людзі. Але калі яны разаўюць хаця б адну з дапаможных функцыяў, дык будуць у стане стрымліваць сябе настолькі, каб скарыстаць уласнае прадчуванне будучыні сабе на карысць.

Тыповыя прыклады інтуітывістаў-інтравертаў – прарокі і містыкі ўсіх рэлігіяў. Сустракаюцца яны таксама сярод візіянёраў (людзей з развітым унутраным бачаннем свету) – пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў...

Вельмі складана для інтуітывістаў хоць-кольвечы развіць у сабе падначаленую функцыю – адчуванне. А таму зазвычай яны індыферэнтна ставяцца да фізічных асалодаў, пакутуюць ад побытавых праблемаў, не маюць патрэбы ў "голым" сексе без кахання, зусім, так бы мовіць, не вар'яцеюць ад грошай. Вось як кажа пра іх сп.Робін Робертсан: "Інтуітывісты-экстраверты маюць звычку растрачваць грошы так імкліва, быццам тыя хутка выйдуць з ужытку і ад іх варта як мага хутчэй пазбавіцца... Што тычыцца інтуітывістаў-інтравертаў, дык яны ўвогуле могуць забыцца на тое, што ім патрэбныя грошы. У сексе інтуітывістаў вабяць у першую чаргу яго магчымасці, а не палавы акт, які сам па сабе выклікае адно сум".

Функцыя пачуцця, як і інтуіцыі, у заходнім свеце разглядаецца выключна як падначаленая. А дарма. Бо, як адзначае

Джэймс Хілман, "функцыя пачуцця – гэта псіхалагічны працэс, які адказвае ў нас за ацэнку вартасцяў". Іншымі словамі, мысленне вызначае сэнс інфармацыі з навакольнага свету, якую мы атрымліваем альбо з дапамогай нашых сенсорных органаў, альбо з дапамогай інтуіцыі, а пачуццё дае ацэнку, наколькі тая інфармацыя значная і карысная. Бяда ў тым, што значнасць – вельмі некапкрэтная катэгорыя. Адаптавацца ж да падобнай недакладнасці з усіх псіхатыпаў у стане толькі прадстаўнікі пачуццёвага тыпу. У выніку недаацэнкі функцыі пачуцця Захад літаральна натапае ў інфармацыі, паколькі вельмі часта проста не можа вызначыцца з прыярытэтамі. Як наступства – пастаяннае разрастанне сродкаў масавай інфармацыі і чыноўніцкіх структураў, закліканых да яе перапрацоўкі.

У заходняй культуры дамінуюць чыста мужчынскія рысы – мужнасць і непахіснасць. Тонкія пачуцці спрадвеку лічыліся прэрагатывай жанчыны, асноўная задача якой на працягу тысячагоддзяў заключалася ў знаходжанні надзейнага "спадарожніка жыцця" і захаванні трываласці сямейнага агменю. Каб разгледзець загадзя, хто з мужчынаў будзе чаго варты ў будучыні, трэба вельмі тонка адчуваць. Тое ж трэба і для захавання сям'і – складанага калектыву, кожны з членаў якога патрабуе асобнага і асабістага падыходу. Праўда, за апошнія сто гадоў падобныя архаічныя ўяўленні перажылі значныя трансфармацыі: пачынаючы ад узнікнення руху ўсемагчымых феміністак і суфражыстак, жанчыны ўсё болей выхопліваюць ініцыятыву з рук мужчынаў, адваёўваючы для сябе ўсё новыя і новыя правы і пазбаўляючыся адначасова ад абавязкаў.

Але вернемся да прадстаўнікоў пачуццёвага тыпу. Экстраверты пачуваюцца ў грамадзе, што тая рыба ў вадзе. Яны палаюць энтузіязмам, пастаянна генерыруюць ідэі вандровак і паездак, бо ім цяжка ўседзець на месцы. Яны ўмеюць дамовіцца з любым і ствараюць вакол сябе камфортную для навакольных атмасферу. Для кожнага яны знаходзяць патрэбныя словы і кажуць іх настолькі пераканаўча, што часам самі пачынаюць верыць у іх слушнасць. Таму экстравертам заўсёды вельмі цяжка зрабіць выбар на карысць кагосьці аднаго, і яны схільныя да зацягвання вырашэння падобных праблемаў, спадзеючыся, што тыя неяк

вырашацца самі на сабе. Да таго ж, яны не любяць напружваць сваю падначаленую функцыю і таму мысляць даволі схематычна.

Асабістыя перажыванні інтравертаў схаваныя настолькі глыбока, што ім нават не хапае сродкаў, каб выказаць іх. "Ціхая вада берагі падмывае", – гэта пра інтравертаў пачуццёвага псіхатыпу. І тым не меней, як адзначала сп.Марыя-Луіза фон Франц, яны "вельмі часта фарміруюць этычны стрыжань грамады", і людзі пільна сочаць за іх меркаваннямі і рэакцыямі, адкрытымі ці ўскоснымі, бо лічаць іх аўтарытэтнымі для сябе.

Як бачым, асноўныя праблемы кожнага псіхатыпу палягаюць у супрацьстаянні вядучай і падначаленай функцыяў. У гэтым жа тоіцца і прычына адвечнага супрацьстаяння Захаду і Усходу. Але трэба адзначыць, што кожны чалавек мае свой уласны псіхатып, а таму любыя меркаванні на дадзеную тэму будуць у большай ці меншай ступені суб'ектыўныя, бо, як пісаў Юнг, "абмежаванасць нашага разумення і пазнання наўрад ці ў чым яшчэ выяўляецца настолькі яскрава, як менавіта ў выкладанні псіхалагічных пытанняў".

Што ж прывяло да празмернага росту (дыферэнцыяцыі) адной функцыі пры адначасовым падаўленні і калецтве іншых? "Сама культура нанесла новаму чалавецтву гэтую рану", – адказваў Фрыдрых Шылер. "Ці варта здзіўляцца знявазе, – працягваў ён, – з якой ставяцца да некаторых душэўных здольнасцяў, калі грамадства робіць пасаду крытэрыем значнасці чалавека, калі яно шануе ў адным са сваіх грамадзянаў толькі памяць, у другім – толькі розум, здатны да разлікаў, у трэцім – толькі механічны спрыт; калі яно ў адным шукае толькі ведаў і застаецца абыякавым да яго характару, другому даруе затлумленне розуму дзеля духу парадку і законнага чыну дзеянняў... – і ўсё гэта дзеля таго, каб узгадаваць толькі тую адзіную здольнасць, якую шануе і ўзнагароджвае". Шылер быў схільны ідэалізаваць антычнасць. Ён лічыў, што гэта былі часы росквіту творчых індывідуальнасцяў, якія скончыліся з надыходам хрысціянства і калектыўнай культуры, якую яно з сабой несла. Але, магчыма наўмысна, Шылер не звяртаў увагі на тое, што, як пісаў Юнг, "антычны свет апекаваўся адно вышэйшым класам, заахвочваючы ў ім індывідуальнае развіццё коштам уціску большасці простага люду (ілотаў, рабоў); наступнае

ж хрысціянскае асяроддзе дамагалася калектыўнай культуры дзякуючы таму ж працэсу, але па магчымасці ссоўваючы яго ў псіхалагічную сферу самога індывіда (ці, як мы кажам, уздымаючы яго на суб'ектыўную прыступку)... Калектыўная культура ўзнікла менавіта пад уплывам і ўздзеяннем хрысціянства, прынцып якога ёсць хрысціянская любоў (і, як наступства кантрастнай асацыяцыі, – таксама і яе супрацьвобраз, а менавіта гвалт індывідуальнасці); у такой калектыўнай культуры адзінкавая асоба рызыкуе загінуць, таму што індывідуальныя каштоўнасці ўжо прынцыпова асуджаныя на недаацэнку".

Атрымліваецца, што ў адрозненне ад антычнага падпарадкавання большасці меншасцю хрысціянская культура з'яўляецца суб'ектыўна рабскай культурай, бо ў выніку павышэння калектыўнай культуры зніжаецца культура індывідуальная. І з кожным наступным стагоддзем сітуацыя толькі пагаршаецца, бо ў чалавека застаецца ўсё менш і менш вольнага часу для развіцця ўласнай індывідуальнай культуры. А значыць, павялічваецца і адрыў паміж тым, кім чалавек ёсць, і тым, што ён сабою ўяўляе, бо яго калектыўная функцыя, якая прыносіць карысць грамадству, развіваецца, а індывідуальнасць – не. У выніку сучасны чалавек апускаецца да стану простага функцыянера, бо толькі адна дыферэнцыраваная функцыя дае магчымасць фізічнага існавання. Але такая функцыя не ў стане даць пачуццё задавальнення і радасці жыцця, бо іх можна дамагчыся толькі раскрыццём індывідуальнага псіхічнага патэнцыялу. Усё гэта, праўда, не адмаўляе магчымасцяў "прарыву" ў творчасці – максімальнае напружванне асобных духоўных сілаў можа ствараць людзей надзвычайных. Але шчаслівымі і іх не назавеш, бо, як адзначаў Юнг, "толькі раўнамерная тэмпература стварае людзей шчаслівых і дасканалых".

Такім чынам хрысціянства, што дэкларавала свабоду, насамрэч, вызваліўшы людзей ад аднаго рабства, абрынула іх у рабства іншага кшталту. І гэта не дзіўна, бо заходні свет – свет максімалістаў –заўсёды шукае выйсце ў супрацьлеглым накірунку, а не ў кропцы, дзе ўсе накірункі сыходзяцца ў нуль. "Непасрэдны перавод непаўнавартаснай функцыі ў функцыю паўнавартасную, – адзначаў Юнг, – быў бы цалкам безнадзейнай, нерэальнай задачай; людзі ўжо неаднаразова хапаліся за яе, аднак спробы іх заўсёды былі асуджаныя на паразу. З такім жа поспехам можна

працаваць над вынаходніцтвам *perpetuum mobile*. Не існуе такой непаўнавартаснай формы энергіі, якую можна было б непасрэдна і проста неравесці ў форму энергіі вышэйшага гатунку; гэта можа адбыцца толькі ў тым выпадку, калі аднпачасова з'явіцца яшчэ і крыніца энергіі вышэйшага гатунку, якая будзе спрыяць такому працэсу; іншымі словамі, ператварэнне можа адбыцца толькі за кошт паўнавартаснай вядучай функцыі; аднак мы пры гэтым ніколі і ні пры якіх умовах не даможамся першапачатковай вартасці энергіі як для непаўнавартаснай функцыі, так і для функцыі, якая валодае энергіяй вышэйшага гатунку; вынікам павінна быць і будзе выраўноўванне на сярэднім узроўні. Але для кожнага чалавека, які атаесамляецца толькі з адной дыферэнцыраванай функцыяй, такі працэс азначае сыходжанне да стану, хаця і выраўнаванага, але менш каштоўнага ў параўнанні з відавочнай каштоўнасцю пачатковага стану. Такі вынік непазбежны. З гэтым фактам павінна лічыцца кожнае выхаванне, якое імкнецца да адзінства і гармоніі чалавечай істоты". Вось чаму нельга пагадзіцца са сп.Жан-Жакам Русо, які пісаў: "Даводзіцца абіраць адно з двух – ствараць чалавека ці грамадзяніна, бо нельга ствараць аднпачасова і таго, і другога". Усё залежыць ад мэты. Калі імкнуцца да ідэалу-экстрэмума (які, як вядома, недасягальны), тады ўсё слушна. Калі ж імкнуцца да ўраўнаважанай творчай асобы з трывалым характарам, тады – цалкам магчыма. Бо праўда, як кажуць, заўсёды пасярэдзіне. А наколькі людзі дагэтуль вельмі слаба разбіраюцца ў тонкасцях псіхалогіі, яны ў пошуках эфемернага шчасця з імпэтам, вартым лепшага прыкладання, працягваюць выпрацоўваць рэсурсы сваіх дыферэнцыраваных функцыяў, што непазбежна прыводзіць да жыццёвага фіяска. Але яны не губляюць надзеі, і таму для падмацавання слушнасці ўласнай памылковай устаноўкі ў іх, як адзначаў Юнг, "з'яўляецца неабходнасць абаперціся на міраж, які паказвае нам тып чалавека, які быццам бы некалі быў дасканалы, але нейкім чынам страціў сваю вышыню. Арыентаванне назад само па сабе з'яўляецца ўжо перажыткам антычнага мыслення; вядома, што характэрнай рысай антычнага і барбарскага мыслення з'яўляецца меркаванне, быццам дрэннай сучаснасці папярэднічаў залаты век і райскі стан". "Выходзіць, – пісаў Ігнат Абдзіраловіч, – нейкі зачараваны круг: для сацыяльнай творчасці павінна быць творчая адзінка, але

ўзгадаванне гэтай адзінкі ў значнай частцы залежыць ад развіцця сацыяльнай творчасці. На жаль, усё тое, што цяпер робіцца ў грамадзянскім жыцці, якое мае свой найбольш інтэнсіўны выраз у палітычнай працы, вельмі далёкае ад дасягнення сацыяльнай творчасці, ад узгадавання творчай адзінкі". Вось менавіта чаму, як адзначаў Ігнат Абдзіраловіч, "першы беларускі Урад, што стаяў на грунце прынцыповай незалежнасці, не дасягнуў ніякіх практычных вынікаў". Бо "калі ж справа незалежнасці скіравалася на практычны шлях сучаснай палітычнай працы, яна апынулася ў шпонах палітычнага прымусу, палітычна-класавай зацікаўленасці, і ад сучаснай палітыкі мала чаго можа чакаць народ, быццам ён выкарыстае яе для свае народнае творчасці".

Так мы з дапамогай тэорый Юнга і Канчэўскага наблізіліся да ўсведамлення таго, як выканаць задачу, пастаўленую перад літаратарамі яшчэ Арыстоцелем (памятаеце словы антычнага філосафа пра тое, што кожная фабула павінна паказваць шлях героя ад шчасця да няшчасця, альбо наадварот?) Напрыклад, зарабіў чалавек шмат грошай – радасны і шчаслівы! Але яму мала радасці, мала шчасця, мала грошай. Імкнецца зарабляць усё болей і болей – вось вам і шлях героя да няшчасця. А што такое шлях да шчасця? Для мысляра гэта – аддацца сваім падаўленым пачуццям, каб ураўнаважыць іх з мысленнем. Для схільнага да пачуццяў – заняцца навукай, каб было што ўпарадкоўваць, ці пачаць зарабляць грошы, каб было што лічыць. Для сенсітыва – кінуць зарабляць грошы і задумацца над тым, да якіх наступстваў можа прывесці адвечная нажада фізічнае асалоды. Інтуітывістам варта было б азірнуцца калі не ў мінулае, дык у сучаснасць, і таксама ўсур'ёз задумацца над шляхамі самарэалізацыі і як наступстве – матэрыяльнай забяспечанасці.

Гэта зусім не азначае, што ўсе экстравертаваныя мысляры ці інтравертаваныя інтуітывісты маюць адзіны дакладна прадвызначаны шлях да набыцця шчасця-раўнавагі (інакш – творчай самаідэнтыфікацыі). На самай справе колькі людзей, столькі ж шляхоў, і кожны павінен ісці сваім асабістым шляхам, а не кіравацца ў напрамку, прадвызначаным кімсьці для яго і без ягонага ўдзелу. Усё гэта вельмі сугучна са словамі Ігната Абдзіраловіча: "Каб запэўніць нашаму народу вольную творчасць ува ўсіх галінах жыцця, трэба стварыць і адпаведныя, свае, беларускія формы

жыцця. Гэта ж зусім ясна, але ў светлым імкненні духовага адраджэння хаваецца і вялікая небяспека: каб як замест чужацкіх месіянізмаў не стварыць свайго, уласнага, каб як знойдзеныя формы новага беларускага жыцця не зрабіліся для нас саміх вялікай турмой і здзекам. Бо на прыкладзе чужацкіх месіянізмаў мы бачылі, як страшэнна сціскае жыццё атрымаўшая неакрэсленую ўладу форма. З нашага высокага парыву індывідуальнага і народнага адраджэння не створым жа гвалту і енку ні для іншых, ні для саміх сябе: не павінна быць беларускага месіянізму. І ў вялікім і малым, і для сваіх і чужых ён – прымус, зьдзек і смерць. Уласным коштам – мільёнамі смерцяў, хваробы, нуды – служылі мы чужацкім месіянізмам. Не на гэтай падставе збудуем нашу будучыню.

Трэба шукаць на другіх шляхох...

(Бо) кожны, хто ведае сучасныя адносіны, павінен прызнаць, што з учарашняга раба выходзіць найлепшы рабаўладца".

Працэс творчай самаідэнтыфікацыі асобы спадар Юнг пазначаў паняццем "індывідуацыя". Нягледзячы на тое, што шлях да яе ў кожнага свой, ён непазбежна праходзіць пэўныя архетыповыя стадыі. Згодна Юнгу, гэта: цень, аніма (анімус) і самасць.

Індывідуацыя – гэта няспынны творчы працэс, які вымагае ад асобы максімальных высілкаў і канцэнтрацыі творчай энергіі. Бо, як пісаў Ігнат Абдзіраловіч, "...чалавек павінен тварыць вялікае вечнае... ён чуе, што ён – сын "Божы", што ён частка Бога, што ён павінен тварыць волю Айца свайго... "усё існуючае – творча", гэта знача, вымагае творчасці, працы... існуючага няма ні разумнага, ні неразумнага. Пакуль яно існуе, як бы стаіць, патуль яно неразумнае і вымагае творчасці; цераз творчасць яно імкне да разумнага, але па сваім здзяйсненні зараз жа робіцца неразумным, г.зн. вымагае новае творчасці. У жывым няма ні разумнага, ні неразумнага, гэта – катэгорыі нежывога. Жыццё вечна імкне, ліецца, цячэ. Вечны творчы працэс ад неразумнага да разумнага і ніколішняе недасягненне да апошняга, вось – істота жыццёвага працэсу".

А пра тое, што адбываецца з душой чалавека на шляху да індывідуацыі, чытайце ў наступным нумары часопіса "Крыніца".

**Алесь АСТРАЎЦОЎ**

# *Post Scriptum*

**Умбэрта ЭКА пра гістарычны раман:**

"...З усіх бессэнсоўных пытанняў самае бессэнсоўнае – наконт таго, што быццам бы апавяданнем пра мінулае ратуешся ад рэчаіснасці. Ці так? – пыталіся ў мяне. Я адказваў: магчыма... Не варта тлумачыць, што ўсе праблемы сучаснай Еўропы сфарміраваны ў цяперашнім выглядзе ўсім досведам сярэднявечча: дэмакратычнае грамадства, банкаўская эканоміка, нацыянальныя манархіі, самастойныя гарады, тэхналагічнае абнаўленне, паўстанні беднаты. Сярэднявечча – гэта наша дзяцінства, да якога неабходна вяртацца ўвесь час, вяртацца за анамнезам (сродкам ад бяспамяцтва, – *А.А.*)... Але сярэднявечча можна, у прынцыпе, падаць і а-ля "Эскалібур" (маецца на ўвазе пансовая галівудская кінапастаноўка Дж. Бурмана, – *А.А.*). Таму праблема ў іншым, і яе не абмінеш. Што азначае напісаць гістарычны раман? Існуюць, я лічу, тры варыянты апавядання пра мінулае. Першы – *romance* (ад англ. – "раман, у адрозненне ад *novel*, з напружанай інтрыгай", – *А.А.*). Ад раманаў брэтонскага цыклу (заснаваныя на кельцкіх паданнях сярэднявечныя раманы пра караля Артура, Трыштана і Ізоту, пошукі святога Грааля, – *А.А.*) да Толкіна, уключна з "гатычным раманам". Тут мінулае выкарыстоўваецца ў якасці антуражу як падстава, як фантастычная перадумова: асяродак, які дае свабоду ўяўленню. Таму дзеянне *romance* неабавязкова павінна быць адсунута ў мінулае. Для такога дзеяння істотна толькі разгортвацца не "зараз" і "тут", а таксама каб пра "зараз" і "тут" зусім нічога не тычылася, нават алегарычна... *Romance* – гэта аповесць пра "дзесьці".

Другі варыянт – раман "плашча і шпагі" ў духу Дзюма. У рамане "плашча і шпагі" ілюструецца мінулае "сапраўднае", якое можна пазнаць; яго пазнавальнасць забяспечваецца наяўнасцю персанажаў, узятых з энцыклапедыі (Рышэльε, Мазарыні), што здзяйсняюць учынкі, не зафіксаваныя ў энцыклапедыі (інтрыгі з міледзі, супрацоўніцтва з нейкім Банасье), але якія не супярэчаць таму, што сказана ў энцыклапедыі. Натуральна, што такія гістарычныя персанажы павінны адпавядаць дадзеным

гістарыяграфіі і рабіць тое, што яны рабілі насамрэч: асаджаць Ля Рашэль, кахацца з Ганнай Аўстрыйскай, дамаўляцца з Фрондай. У гэтую сітуацыю так званай "сапраўднасці" змешчаны і прыдуманыя людзі. Але дзейнічаюць яны аднаведна з агульначалавечымі матывіроўкамі, натуральнымі і для людзей іншых эпохаў. Д'Артаньян, які даставіў з Лондана падвескі каралевы, мог зрабіць тое ж самае і ў XV, і ў XVIII стст. Неабавязкова жыць у семнаццатым стагоддзі, каб мець псіхалогію Д'Артаньяна.

Гістарычны раман – трэці варыянт – наадварот, неабавязкова выводзіць на сцэну постаці, вядомыя з папулярных энцыклапедыяў... Усе ўчынкі герояў неабходныя для таго, каб мы лепей зразумелі гісторыю – зразумелі тое, што адбывалася насамрэч. Падзеі і персанажы выдуманыя. Але... яны апавядаюць тое, што гістарычныя даследаванні з такой вызначанасцю да нас проста не даводзяць... Гістарычны раман... заклікаҥы... не толькі адсочваць у мінулым прычыны таго, што адбылося потым, але і пазначаць шляхі, па якіх прычыны паволына пасоўваліся да сваіх наступстваў.

Калі мае героі сутыкаюць дзве сярэднявечныя ідэі і выспоўваюць з іх трэцюю, больш сучасную, яны здзяйсняюць тое ж самае, што і было здзейснена самім развіццём культуры. І хаця, магчыма, ніхто і не пісаў таго, што яны ў мяне гавораць, я перакананы, што хто-небудзь – хай у самым няпэўным выглядзе – нешта падобнае прыдумляў (але быў не ў стане нікому пра тое казаць з прычыны самых розных сумненняў ці спалоху).

Як бы там ні было, больш за ўсё мяне замілоўвае адна акалічнасць. Сто разоў з ста, калі крытык ці чытач пішуць альбо гавораць, быццам мой герой выказвае задужа сучасныя меркаванні, – у кожным выпадку гаворка ідзе пра літаральныя цытаты з тэкстаў XIV стагоддзя.

А на іншых старонках чытачы знаходзілі "вытанчаныя сярэднявечныя" пасажы, якія я пісаў з усведамленнем таго, што да непрыстойнага мадэрнізую. Уся справа ў тым, што ў кожнага існуе ўласнае ўяўленне – зазвычай вычварнае – пра сярэднявечча. Праўда адкрытая толькі нам, тагачасным мніхам. Але за яе, здараецца, і на вогнішчы паляць".